# ТЭРМАПІЛЫ

Літаратурна-мастацкі і беларусазнаўчы часопіс

**№ 14** Беласток **2010**

## ЗМЕСТ

3 **Янка Сіпакоў**
З МУЖЧЫНСКІХ АПАВЯДАННЯЎ (проза)
30 **Анатоль Брусэвіч**
БЯСКОНЦАЕ ПАДАРОЖЖА (вершы)
35 **Аксана Данільчык**
З ВЫШЫНІ СВАІХ АБЛОКАЎ (вершы)
40 **Алесь Каско**
РОСКА, або ПАКІНУТАЯ ВЫЖЫЦЬ (проза)
45 **Сакрат Яновіч**
ПРАЦЯГ ДЗЁННІКАЎ
53 **Юрый Баена**
ЛЕТА Ў МОКРЫМ (вершы)
57 **Міра Лукша**
МАЯ ДУША ГАВОРЫЦЬ З ВАШАЙ (вершы)
59 **Алесь Паплаўскі**
РАЗМОВА СА СТОДЗІВАМІ (аповесць)
113 **Юрка Буйнюк**
ВЯНЧАННЕ ВЯСНЫ. СЯБРАМ. МАЁ ПАКАЛЕННЕ (вершы)
115 **Вольга Шынкарэнка**
СЛОВАЗЕРНЯЎ НЕСКАРОНАСЦЬ (вершы)
118 **Кацярына Сянкевіч**
НА ЛЕВЫМ БАКУ СВЯДОМАСЦІ (вершы)
122 **Святлана Варонік**
ВЕРШАНЯТЫ (вершы)
125 **Галіна Сеўрук**
З ДЗЁННІКА КАМСАМОЛКІ (проза)
171 **Хрысціна Лялько**
У СВЕТЛАЙ ЖУРБЕ (вершы)
174 **Зьніч**
АБАВЯЗАК СЫНА (вершы)
181 **Віктар Стахвюк**
ТРАСЦЯНСКІЯ ПАГУДКІ (вершы)

189 **Радзім Гарэцкі**
ЖЫЦЦЁВЫ МЕЛАНЖ (проза)
227 **Марыя Шаўчонак**
НЕ БУДЗЕ, ЯК БЫЛО (вершы)
231 **Галіна Самойла**
А ТЫ НЕ СА МНОЙ (вершы)
238 **Уладзімір Мархель**
ПРАЦЭНТЫ ПАМЯЦІ (проза)
247 **Павал Ляхновіч**
ПІНСКІ ФАРВАТАР (проза)

**МАСТАЦТВА**
273 **Владимир Хин**
ИЗОБРАЖЕНИЕ И СЛОВО В ГРАВЮРЕ

**СПАДЧЫНА**
285 **Ян Кахановўскі**
ТРЭНЫ
304 **Міхась Сьлямнёў, Кастусь Карпекін**
УСЕАБДЫМНЫЯ МРОІ...
307 **Шарль Бадлер**
МАЛЕНЬКІЯ ПАЭМЫ Ў ПРОЗЕ
314 **Адам Мальдзіс**
КУЛЬТУРНАЯ СПАДЧЫНА...

**ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА**
319 **Аліна Сабуць**
Сучасная найноўшая паэзія
328 **Ала Петрушкевіч**
Падаць у неба – гэта прыгожа
336 **Кацярына Іванюк**
Васіль Быкаў на Захадзе

347 **АНАТАЦЫІ**
352 **AD MEMORIAM**

**Рэдактар**
**ЯН ЧЫКВІН**

**ЯНКА СІПАКОЎ**

# З мужчынскіх апавяданняў

## Зялёнавокая

Цягнік “Сочы – Мінск” прыйшоў у Адлер апоўначы.

Тыя, хто чакаў яго тут, каго прывезлі сюды з Піцунды, з санаторыя, вельмі зарана, амаль адразу ж пасля вячэры, стаміліся сноўдацца па вакзале, не ведаючы, чым заняцца, каб забавіць час: пра курортнае жыццё ім гаварыць не хацелася, бо яно ўжо мінулася, засталося там, ля мора, а ў новым – у кожнага з іх была свая дарога і свае клопаты.

Саша таксама разам з усімі нецярпліва чакаў, калі нарэшце застукоча па рэйках поезд і спыніцца ля асветленай платформы, а ён адразу ж адшукае свой вагон, знойдзе сваё купэ, не чакаючы правадніцы, пойдзе да яе сам, забярэ посцілкі ды наўлечкі, пасцелецца і, супакоіўшыся, расслабіўшыся, адвярнуўшыся да сценачкі, засне моцным, доўгім і нярупным сном.

Таму, як толькі спыніўся цягнік, ён увайшоў у свой вагон першы і, адчыніўшы, адсунуўшы дзверы свайго купэ, як ні ўслупянеў ад нечаканасці.

На суседнім, побач з ягоным, ніжнім месцы ляжала амаль зусім голая маладая жанчына. Усё цела яе было ў шматлікіх зялёных крапках – як усё роўна хтосьці знарок размаляваў яе, густа паторкаўшы зялёнкаю.

Для жанчыны, хоць гэта і ў цягніку, з’яўленне ў купэ незнаёмага мужчыны таксама было нечаканасцю і яна, сумеўшыся, тарганулася ўся і, спяшаючыся, нацянула на сябе прасціну – як не да самага падбародка.

– Даруйце, – неяк вельмі шчыра прамовіла яна і вінавата ўсміхнулася.

– І вы даруйце, – усміхнуўся ў адказ і Саша. – За тое, што я ўварваўся нахабна, не пастукаўшыся.

Пакуль ён уладкоўваўся, жанчына маўчала. Павярнуўшыся спіною да суседкі, Саша, няёмячыся, паставіў пад сядзенне, у нішу, чамадан, кошык з фруктамі, якія вёз на пачастунак сябрам, і прысеў за столік.

– Яшчэ раз прашу прабачэння, – зноў ціха загаварыла да яго жанчына. – Гэта ж я толькі што палячылася, а прасціну не паспела нацягнуць – няхай, думаю, падсыхае зялёнка.

На століку, на беленькай сурвэтцы, стаяў незакрыты флакончык зялёнкі. Поезд, ад’язджаючы, нечакана тарганууся, і флакончык ледзь не пера-

куліўся на сурвэтку – Саша і жанчына амаль адначасова кінуліся яго ратаваць, падхапіць, рукі іх сустрэліся, аднак Саша ўсё ж першы злавіў яго, закрыў, заткнуў корачкам і, паклаўшы папярэдне папяровую сурвэтачку, зноў паставіў на стол.

– Толькі рукі выпацкалі, – павінілася жанчына.

– Нічога страшнага, – супакоіў яе Саша. – Дробязі.

– Гэта ж я ў гасцях была. У гарах за Туапсэ. Усё было як мае быць. А вось на ад'езд – бачылі, як паранілася. То ж нейкія мошкі пакусалі. Ды так ужо жамяра накінулася. Нікога не чапаюць, а мяне – заядаюць.

– Значыць, вы былі самая апетытная, – усміхнуўся Саша.

– Вы ж самі бачыце, што яны, ненажэры, зрабілі са мною, – засмяялася і яна.

Увайшла кандуктарка, забрала ў яго білет, пажадала ім добрай ночы і выйшла.

Ён паслаўся і, прыгожа загарнуўшы на падушцы ражок прасціны, спытаўся:

– Будзем на ноч зачыняцца?

Яна прамаўчала, толькі паціснула плячыма.

У купэ яны ехалі ўдваіх – верхнія паліцы пакуль пуставалі. Ён падышоў да дзвярэй і, шчоўкнуўшы ўпорам, зачыніў іх – ведаў, што ў правадніцы ёсць запасны ключ, і калі недзе па дарозе падсядуць да іх у купэ новыя пасажыры, яна, нікога не будзячы, адамкне ім дзверы сама.

Ён уключыў ніжняе святло над сваёю лаўкаю і ўжо хацеў класціся, каб перад сном пагартаць газеты, якіх накупляў у дарогу.

– А я чамусьці верыла, што маёю суседкаю па купэ будзе жанчына, – неяк зусім ціха, амаль нячутна з-пад прастыні прагаварыла яна.

– І вы незадаволены, і вы шкадуеце, што вашым суседам стаў я?

– Не, чаму ж. Толькі я думала, што жанчына дапаможа мне. Спераду я сама, як бачыце, размалявалася, а вось ззаду, на спіне... Не бачу і не дастану.

– Во знайшлі клопат. Давайце я вам гэта зраблю, – ён запытальна зірнуў на жанчыну і ўзяў у руку бутэлечку з зялёнкай. – Не бойцеся, балюча не будзе.

– Спачатку давайце пазнаёмімся. Ларыса. Замужам. Двое дзяцей. Кахаю свайго мужа. А вы хто?

– А я халасцяк. Выхоўваю чужых дзяцей – плачу падатак за бяздзетнасць. Я ўсяго толькі Смачны.

– Што, што? – насцярожылася жанчына. – Я не пытаюся, смачны вы ці не смачны. Я пытаюся, як мне вас называць?

– А так і завіце – Смачны. Саша Смачны.

– Смачны – гэта ваша прозвішча?

– Ага.

Жанчына засмяялася – весела, молада, залівіста. Адсмяяўшыся, ска-

зала:

– Ну, калі вы Смачны, тады дапамагайце.

І асцярожна, цнатліва, усё нацягваючы на сябе прастыню, пачала пераварочвацца на жывот. Як толькі яна перавярнулася і сцішылася, Саша, узяўшыся за краёк накідачкі, пачаў паволі, не спяшаючыся, адгортваць, спускаць яе ўсё ніжэй і ніжэй – гэтак жа спакваля, як рабіла тое, накрываючыся, нядаўна і сама Ларыса.

– Што вы робіце? – неяк глуха, у падушку, спыталася яна.

– Вызваляю сабе фронт работ. Пацярпіце.

У Ларысы была ідэальная фігура. Яна, мякенькая, поўненькая, пухленькая і ў той жа час – амаль з асінаю таліяй, насцярожана ляжала перад ім.

Якраз такія жанчыны і падабаліся яму.

Ёй усяго хапала і нідзе нічога не было ў яе лішняга.

Само сабою, падсвядома ўзнікла лёгкае хваляванне, і ён, каб супакоіць, суняць яго, марудна, пайшоў да століка. Узяў запалку з наматанаю на яе зялёнаю ваткаю, якая ляжала на пачаку, – мусіць, ёю размалёўвалася і Ларыса, – і зноў жа, не спяшаючыся, вярнуўся да раскрытай жанчыны.

Уся спіна яе таксама была пакусана машкарою: укусы зачырванеліся, набухлі, набрынялі. Ён міжволі, не затрымліваючыся асабліва, правёў па іх даланёю і адчуў, як цела суседкі нібыта сочыць за ягонай рукою – яна быццам паддаецца ёй, нават чакае яе дотыку.

Сама ж Ларыса адно зноў спыталася – яшчэ больш глухім ад хвалявання голасам:

– Што вы робіце?

– Шукаю на вашай спіне накусаныя мясціны, – адказаў Смачны і нечакана адчуў, што і яго голас чамусьці таксама дрыжыць.

Спачатку ён старанна апрацоўваў кожную ранку. Аднак укусаў было шмат, і ўжо крыху згадзя, Саша пачаў усяго толькі торкаць у іх ваткаю – мачаў у зялёнку і зноў торкаў ёю ў пухіры.

Пад шлейкамі бюстгалтара чырвоных кропак было больш за ўсё: жамяра заўсёды шчэміцца туды, дзе цесна, дзе цела крыху прытужана – ці то каўнерыкам, ці то прыталеным бюсцікам.

Калі Смачны пачаў вельмі асцярожна і далікатна расшпільваць кабацікі, Ларыса неяк зусім ужо няўпэўнена спыталася яшчэ раз:

– Што вы робіце?

Саша, разлучаючы кручкі з петлямі, якія не слухаліся яго пальцаў, ледзь вымавіў:

– Тут найбольш ранак. Расшпільваю, каб нічога не замінала.

Ён пагладзіў болькі, можа, нават больш ласкава, чым трэба было, і адчуў, як яе скура пачала напінацца, пупырышчыцца, зрабілася шурпатаю.

На двух вабных, бездакорных узгорачках, ён бачыў, укусаў няма, аднак і іх пачаў вызваляць ад сітчыку – беленькага сітчыку ў пяшчотныя

чырвоныя кветачкі...

І тады жанчына ў адно імгненне перавярнулася на спіну, абхапіла яго рукамі за шыю, і ён, ужо сам не помнячы сябе, умомант, нечакана апынуўся на лаўцы побач з ёю.

І яны надоўга быццам бы выключыліся з жыцця – забыліся, дзе яны, хто яны, куды едуць і што робяць.

Іхні вагон цягнік вывез да чарговай станцыі, на калідоры гучна размаўлялі, хадзілі сюды-туды, тупалі ды бегалі і тыя, хто выходзіў, і тыя, што садзіліся, але яны нічога гэтага не бачылі і не чулі. І спахапіліся толькі тады, калі хтосьці некалькі разоў паторгаў за ручку і, пераканаўшыся, што дзверы не адчыняюцца, мусіць, збегаў па правадніцу, і тая сваім ключом адамкнула купэ.

Аднак, убачыўшы тое, што ўбачыла, яна, пэўна, сарамлівая ад прыроды, хуценька зачыніла купэ зноў і гучна, відаць, каб пачулі і тыя, што засталіся ў ім, параіла новай пасажырцы:

– Пагрукайце ім хвілін праз дзесяць. Яны вам адчыняць.

Калі дзяўчына праз нейкі час зайшла ў купэ, у ім ужо ўсё было ў парадку – чысценька і прыбрана. Ларыса і Саша ляжалі на сваіх месцах, акуратна накрыўшыся, загарнуўшыся ў прастынькі. Яны прыкінуліся, што спяць, а таму дзяўчына моўчкі хуценька паслалася і палезла на сваю верхнюю паліцу.

Была ўжо глыбокая ноч.

Раніцою яны прачнуліся дружна, усе адразу – нехта якраз каля іхніх дзвярэй загаварыў вельмі гучна, басам, і таму, думаецца, прахапіліся, заварушыліся не толькі ў іхнім купэ, а і ва ўсім вагоне: сон у поездзе заўсёды вельмі чуйны, ломкі, і, каб яго ўзарваць, хапае часам і маленькай дробязі, а тут такі бас...

Саша Смачны, прачнуўшыся, адразу ж павярнуўся тварам на праход і, асабліва не ўглядаючыся, кінуў вокам на суседнюю лаўку.

Пампушка таксама ўжо не спала і нейкімі зялёнымі вачамі глядзела на яго.

Учора ён гэтага не паспеў заўважыць, а сёння ўбачыў, што вочы ў жанчыны і напраўду зялёныя – як усё роўна і іх учора выпадкова падмазалі зялёнкаю.

Саша глядзеў на яе з ласкаю і замілаваннем, яна ж на яго – неяк адчужана, безуважна, нават абыякава. Гэта пакрыўдзіла Смачнага, і ён спачатку ніяк не мог зразумець прычыну гэтай халаднаватасці: навошта ж пасля ўсяго, што здарылася між імі ўночы, напускаць на сябе нейкую строгасць? А потым сам сабе разважыў: дзяўчына, якая прыйшла апошняй, ляжыць над ім і, канечне ж, яго не бачыць, а вось зялёнавокая ўвесь час знаходзіцца пад яе позіркам. І таму гэтая абыякавасць, мусіць, робіцца найперш для яе, а не для яго.

Новая суседка была не вельмі цікаўная і не гаваркая. Часам яна

звешвала галаву на праход, нешта пыталася ў іх, нешта расказвала сама, але часцей за ўсё ўважліва разглядала іх абоіх: падкладала падушку пад спіну і зацікаўлена назірала за імі, думаючы пра штосьці сваё.

Снедалі яны ўтраіх – чацвёрты чалавек, якога чакала вольная верхняя паліца, пакуль яшчэ не з'явіўся. Аксана, як высветлілася, супрацоўніца вядомага банка, не захацела спускацца ўніз, а правільней, яна ўсё ж злезла, схадзіла ў канец калідора, памыла рукі, спаласнула твар, прычасала валасы і зноў узабралася на сваю паліцу.

Яны падаставалі ўсё, што ў каго было: пампушка – нейкія белыя, пульхныя, смачныя, апетытныя на выгляд перапечкі; Аксанка вытрасла з цэлафанавага пакеціка шашлыкі, загорнутыя ў вінаградное лісце; Саша – круглы, вельмі пахкі мясцовы свойскі сыр. Успомніў пра вінаград – схадзіў і памыў яго цэлую вялікую гронку.

Ларыса таксама не схацела падымацца, уставаць, толькі гэтак жа, як і Аксанка, падклала сабе пад спіну падушку.

Каб лепей бачыць абедзвюх жанчын адразу, Саша паспрабаваў усесціся побач з Ларысаю, на яе пасцелю, але яна не дазволіла яму гэта зрабіць – нічога не сказала, а толькі рашуча і годна выставіла перад ім абедзве свае далонькі.

Таму Саша карміў жанчын стоячы. Падносіў Ларысе кавалачак шашлыка ў вінаградным лісточку і той жа час адломваў скрылёк сыру і, не гледзячы, падаваў на верхнюю паліцу Аксане, якая цырымонна брала яго з Сашавай далоні.

Сабе ён толькі паспяваў што-небудзь укінуць у рот і той жа момант падаваў жанчынам ужо нешта іншае. Клаў на руку ручнік і сам з сябе здзекваўся:

– Афіцыянт! Ну чысты афіцыянт! “Зрабіце ласку, дазвольце мне падаць вам!!!” Не, ваш пакорнейшы слуга! Лёкай! Я рады выканаць любое ваша жаданне...

– Хачу вінаграду, – падыгрываючы яму, нечакана замыліла вусны Аксанка.

Ён паднёс  Аксане цэлую гронку, і яна, не беручы рукамі, паволі адшчыквала з яе па вінаградзіне – аднымі вуснамі.

Калі Саша паспрабаваў такое ж прапанаваць і Ларысе, тая зноў далікатна засланілася далонямі:

– Не, не, не! Я сама. Калі захачу.

Ларыса, чым далей ехалі, паводзіла сябе ўсё больш і больш дзіўна. Яна рабіла выгляд, што яны зусім незнаёмыя, і калі ён з дабратою і ўдзячнасцю за тое, што між імі адбылося, знаходзіў яе вочы, яна незадаволена адводзіла іх убок: не чапай, не руш, не глядзі. Таму часам яму здавалася, што ад пачатку ў гэтым купэ ён едзе не з ёю, а з Аксанаю.

Смачны разумеў Ларысу і не злаваўся на яе за гэта – жанчыне, мусіць, непрыемна ўспамінаць пра тое, што адбылося, і яна хоча неяк адсланіцца,

адгарадзіцца ад учарашняга, забыць яго.

Яны не закончылі снядання, як на адной са станцый у іх купэ зайшоў, нарэшце, і чацвёрты пасажыр. Ён, яшчэ нічога не сказаўшы і не пачуўшы, ужо, здаецца, смяяўся ўсім тварам, па якім было бачна, што новы сусед гаварун і жартаўнік. Яшчэ трымаючы ў руках чамадан, ён, кіўнуўшы галавою на столік, нібыта ўсур'ёз загаварыў:

– Ой, а вы, мусіць, мяне чакалі, каб прыбраў вам са стала? Зараз, зараз распрануся і прыбяру ўсё, і памыю.

Ларыса, як прысаромленая, тарганулася, памкнулася ўставаць, каб адразу ж наводзіць парадак. Прасцінка з яе ссунулася, і гаварун адразу ж заўважыў гэта:

– Ой, а якая ў вас прыгожая сукенка! У арыгінальную зялёную крапінку. Як яна вам да твару. І вочы ў вас такія нечакана-зялёныя, – адразу заўважыў ён тое, на што Саша звярнуў увагу толькі раніцою.

Смачны заўважыў, што камплімент пампушцы спадабаўся.

– Ну, а на кім я спаць буду? – не спыняўся гаварлівец. – У мяне верхняе месца.

– Над кім, – паправіў яго Саша.

– Ага, ага – над кім , – згадзіўся з ім новы сусед. – Дык над кім жа ўсёткі? – Ён зірнуў на Ларысу. – Ці не над вамі, прыгажуня?

– Неа, не ўгадалі, – усміхнулася пампушка і пальчыкам паказала на Смачнага.

– О, дык гэта ж цудоўна! – нібыта напраўду ўзрадаваўся гаварун, зірнуў, падняўшы вочы, на Аксанку і ўзяўся за край паліцы. – Пасуньцеся, дзяўчынка! Я ўжо лезу да вас!

Усім гэтая балбатня спадабалася, і ўсе дружна засмяяліся. Асабліва шчыра смяялася Ларыса.

Саша ўжо захваляваўся і пачаў думаць, як яму бараніцца ад нечаканага суперніка.

Гаварун заўважыў і гэта і пад шумок паспрабаваў зноў падсесці да пампушкі, але яна гэтак жа, як і ад Смачнага, далонямі засланілася і ад новага пасажыра:

– Ідзіце на сваю мужчынскую палавіну.

Саша, не прыбіраючы, скруціў сваю пасцель разам з матрацам, адсунуў да акна, сеў каля яе і запрасіў гаваркога:

– Сядайце, калі ласка, будзем разам адбівацца ад нашых жанчын.

Гаварлівы праехаў з імі ўсю Украіну і выйшаў недзе за Гомелем. Увесь гэты час ён смяшыў усіх, весяліў, не даваў нікому сумаваць – гумару яго хапіла б яшчэ на некалькі купэ. І таму, калі ён сыйшоў, у вагоне неяк адразу зрабілася да непрыстойнасці ціха-ціха. Паспрабаваў яго замяніць Смачны, але гэта ў Сашы не выходзіла так натуральна і нязмушана, як у гаманкога, а таму жанчыны крыху вялавата ўспрымалі ягоныя жарты.

Калі да Мінска было ўжо зусім блізка – заставалася ехаць нейкія

паўгадзіны, – ён дастаў ручку, маленькі блакноцік і папрасіў:

– Ларыса, мне хутка выходзіць. Запішыце, калі можна, ваш тэлефон ці адрас.

– Навошта? – высока падняла бровы пампушка.

– Ну, мала ці што... Раптам мне захочацца пазваніць вам, пачуць ваш голас. А то, можа, і ўвогуле я нечакана апынуся ў Баранавічах...

Ларыса не выходзіла ў Мінску – іхні вагон чаплялі да іншага, брэсцкага, цягніка.

– Навошта, Саша? – зноў паўтарыла яна.

– Ларыса, вы робіце выгляд, што мы з вамі зусім незнаёмыя.

– Дык і праўда ж мы незнаёмыя.

– А чаму ж тады Аксана ніяк не магла дагрукацца ў наша купэ?

Зялёнавокая крыху памаўчала, затым падняла вочы на верхнюю паліцу. Са сваёй лаўкі Смачны не бачыў Аксанку, аднак уяўляў, як уважліва яна слухае іхнюю размову.

– То ж я месяц гасцявала ў свайго мужа, – Ларыса расказвала гэта ўжо толькі адной Аксане. – Там, за Туапсэ, у гарах ён, разам з іншымі наймітамі, зарабляе грошы – будуе камусьці вілу. Дык вось прыязджаю я нечакана – не напісала яму, што прыеду, – а ён там з нейкай жанчынаю зачыніўся. Я скандалаў не люблю – хіба б я была такою кругленькаю, каб скандаліла? – таму проста сказала свайму: “Ты мяне абразіў, і я адпомшчу табе – з першым, хто трапіцца пад руку”. І ведаеце, Аксана, ён дазволіў мне гэта зрабіць: “Адпомсці, Ларысок, адпомсці мне, нягодніку, “ – Ларыса павярнулася цяпер ужо да Сашы:

– Першым, хто трапіўся мне, быў ты, Саша. Вось з табою, Смачны, я і помсціла свайму мужу. Таму табе і кажу зараз: “Навошта?” – і ўжо абодвум ім – і Смачнаму, і Аксане – шчыра прызналася:

– Я вельмі кахаю свайго мужа, – і паўтарыла яшчэ раз: – Вельмі кахаю. Вельмі. Так што не крыўдуй на мяне, Саша.

І Ларыса вінавата зірнула на Смачнага сваімі добрымі зялёнымі вачамі.

2009 г.

## Перад пацалункам

Увечары юнак з прыпухлымі дзіцячымі вуснамі, з белым і мяккім пушком на іх – там, дзе неўзабаве вырастуць калючыя вусы, – з голасам, які ўжо ламаецца з хлапчуковага на мужчынскі, нечакана зачыніўся ў сваім пакоі. Звычайна ён вячэраў разам з усімі, піў чай, а на гэты раз адмовіўся  і зачыніўся. Спаць яшчэ было рана, таму маці далікатна пагрукала яму ў дзверы і ласкава запрасіла:

– Віталік, хадзі піць чай.

– Мама, я ж сказаў табе: не хачу, – упэўнена, нават раздражнёна, адказаў хлапчук.

Яму нецярплівілася застацца аднаму, ён толькі жадаў, каб усе хутчэй пайшлі спаць і пакінулі яго ў спакоі.

Хлапчук нацягаў у свой пакой і панахаваў там розных кніг, даведнікаў, газет, часопісаў – глянцавых і на шэрай паперы, з малюнкамі і без іх, – і цяпер хлапчуку хацелася адразу ж іх гартаць, разглядаць, чытаць. А тут нейкае “хадзі піць чай”.

Віталік сабраў усё, што можна было сабраць, пра пацалункі.

Сам жа ён пра пацалункі амаль нічога не ведаў. Таму, калі іншыя хлопцы, асабліва старэйшыя, хваліліся сваімі поспехамі ў дзяўчат, расказвалі, як яны напрасткі цалуюцца, Віталік маўчаў.

– Што, ты і напраўду нецалаваны яшчэ? – даймаў яго высокі і худы, як жэрдка, акселерат Вова. – Няўжо ніколі ні з кім не пацалаваўся? Ну і дурань! Ды гэта ж ні з чым нельга параўнаць! Ды гэта ж найвышэйшая асалода! Ад сапраўднага, Віталік, пацалунка некаторыя дзяўчаты аж вар’яцеюць. Ды і самому здаецца, што дах паехаў. Робішся нібыта сляпым і глухім: усё расплываецца, як у тумане, і ты ўжо не чуеш самыя пранізлівыя гукі, не рэагуеш на яркае святло. Адным словам – цалуешся!

Нават нястомны рамантык Лёша і той пры выпадку любіў паразважаць пра тое, чаго і сам, здаецца, не ведаў.

– А ці чуў ты, дружа, што-небудзь пра французскі пацалунак? Гэта калі вясёленькі, жвавенькі, вельмі актыўненькі язычок, – шматзначна пачынаў ён. – Сапраўдны мужчына павінен умець трапятаць ім, як маленькая птушачка сваім крылейкам: шы-шы-шы... Дзікае захапленне! І ўсе ў адпадзе!

І хоць Віталік разумеў, што Лёша гаворыць не сваімі словамі, а толькі паўтарае тое, што недзе пачуў ці прачытаў, усё ж ён слухаў хлопца з цікавасцю. А Вова моршчыўся, злаваўся:

– Язычок, язычок... Пры чым тут язычок? Зухаватасць трэба, сіла маладзецкая. Вунь у Меланезіі звычайны пацалунак лічыцца сумным, нецікавым. Яны ў час пацалунку разгрызаюць адно аднаму вусны да крыві, вырываюць пучкамі валасы, адкусваюць у каханых бровы. А ён – язычок, язычок...

– Э, не кажы, – не сунімаўся рамантык. – Калі два язычкі ў жаданні вялікім крыляюць насустрач адзін аднаму, гэта, ведаеце, выклікае такую радасць...

– Нясе нейкую лухту, – пацісную плячамі Віталік і, чакаючы ўхвалы, пасяброўску зірнуў на Вову.

Аднак Вавану, які дазваляў Рамантыку вольна і прыгожа выказвацца, не спадабалася самастойнасць Віталіка:

– Маўчы, смаркач! Што ты пра гэта ведаеш?! – націснуў ён на слове “гэта”. – Ты лепей спытай у свайго малодшага брата, як яно робіцца. Во ўжо хто цалуецца дык цалуецца! Напрапалую! Узасмак! Умее, халера.

І ён спытаўся потым у Петрыка, які на два гады быў маладзейшы за

яго:

– Гэта праўда, што ты цалуешся?

– Ну, цалуюся, – абыякава адказаў хлапчук і нявінна зірнуў на яго. – А што здарылася? Гэта ж можна. Ад гэтага ж не зацяжарваюць, брат. Тым больш мужчыны.

Для Віталіка ж тое пакуль што было таямніцаю. Не, вядома ж, не сказаць, каб ён зусім нічога не ведаў пра пацалункі, цалаваўся і ён.

Каму гэта з дзяцей невядома, калі іх прысільваюць, нават змушаюць да пацалункаў: ”Ну, бусні маму! А цяпер бабулю. А цяпер цёцю”. А то іх, малечаў, піхнуць адно да аднаго ў абдымкі – яны ледзь на нагах яшчэ стаяць! – і пацяшаюцца: “А цяпер пацалуйцеся!”

Ды і пры развітаннях і пры сустрэчах ён зноў жа цалаваўся. Але хіба гэта пацалунак! Мокне нехта некага ў шчаку, ды і ўсё. І абразок ён таксама цалаваў. Але ж ...

Чакай, чакай... Ёсць восем спосабаў пацалунку? Цікава... І гэта сказана ў святым пісанні? А якія? Ага, вось яны: вітальны, развітальны, уціхамiраны, прымірэнчы, нахабны, любоўны, бацькоўскі і пацалунак Юды.

Вядома, пра сеё-тое з гэтага ён ведаў. А вось што такое любоўны пацалунак? Ці, да прыкладу, нахабны? Навошта ён?

Віталік быў сціплы, нават вельмі сціплы хлапчук, але ж і ён часам задумваўся, а што ж гэта такое – пацалунак? Іншыя даўно і ва ўсю цалаваліся, не думаючы, а ён задумваўся.

І раптам ён закахаўся. У яе, у Юльку. Да сёмага класа Віталік нават і не звяртаў на яе аніякай увагі, – звычайнае, няскладнае дзяўчо з маленькім раточкам, такім маленькім, што хлопцы нават здзіўляліся, як у яго праходзіць лыжка, – а тут нечакана ўбачыў: прыгожая! Глядзеў на Юлю і не мог адарваць ад яе вачэй, не мог наглядзецца. Здаралася, замоўкне раптам ля дошкі, угледзіцца ў дзяўчынку і маўчыць. Настаўніца ў яго пра нешта пытаецца, а ён нібыта і не чуе яе: усё глядзіць і глядзіць, утаропіўшыся, на Юльку.

Юля саромелася гэтага ягонага позірку. На яе яшчэ ніхто так не глядзеў, таму яна адчувала сябе вельмі няёмка. Тым болей, што сябе дзяўчынка прыгожай не лічыла, нават плакала з гэтае прычыны, бо ад пільнай увагі яна ніякавела,ераплялася, бянтэжылася.

А Віталік усё глядзеў і глядзеў на яе. І сам не разумеў такога дзіўнага, неспадзяванага, незразумелага, нават незямнога прыцягнення да нядаўняй кнігаўкі-пігаліцы.

Юля часцей за ўсё не вытрымлівала ягонага позірку і адварочвалася. А Віталік зноў і зноў шукаў яе вачэй.

Ён хадзіў за ёю, як прывід, і яму часам было дастаткова ўсяго толькі павітацца з ёю, пачуць яе голас, каб быць шчаслівым на ўвесь дзень.

Акселерат, бачачы ўсё гэта, здекваўся з яго, называў Віталіка Юльчыным ценем.

Яны з Ваванам сядзелі на адной парце. Перад імі – Юля: Віталік якраз за ёю. Акселерат часам торгаў дзяўчынку за косы, а сам рабіў выгляд, што ўважліва нешта запісвае ў сшытак. Юля, павярнуўшыся, з асуджэннем глядзела на Віталіка і біла яго па руках.

І аднаго разу ён усё ж адважыўся. Загадзя напісаў запіску: “Ты мне падабаешся. Давай сустрэнемся. Заўтра. Каля Гаю”, і на ўроку, тузануўшы Юлю ўсё за тую ж коску, – дзяўчынка, думаючы, што гэта паўтараюцца зноў ранейшыя жарты, ужо хацела біць яго па руках, а ён ёй, здзіўленай, усунуў у рукі кнігу. Юля не хацела яе браць, але ўсё ж узяла. І праз нейкі час вярнула – хаваючыся, не паварочваючыся.

Кнігу – ужо з адказам! – хацеў перахапіць Акселерат, аднак Віталік паспеў адвесці яго руку, а кнігу своечасова схаваў за парту: не дацягнешся, Ваван!

– Што там за валтузня ў вас, Карповіч, – спыталася настаўніца ў Акселерата.

Спалоханая, павярнулася да іх Юлька – во будзе сораму, як Ганна Пятроўна адбярэ запіску! – але Ваван тут жа, усміхнуўшыся, пажартаваў:

– Ды гэта Віталік зноў Юльку за косы цягае.

Настаўніца не стала высвятляць далей, што адбылося, толькі ці то папрасіла, ці то загадала:

– Супакойцеся зараз жа!

Калі ў класе зрабілася ціха, Віталік дастаў запіску, кнігу паклаў на парту, а сам, з хваляваннем разгарнуўшы лісток паміж партаю і сцяною, нецярпліва ўгледзеўся ў яго.

“Ну, калі ты так хочаш...” – паблажліва пісала Юлька, намякаючы на тое, што яна згаджаецца толькі таму, што гэтага вельмі жадае Віталік.

Калі ты так хочаш – яна прыйдзе. Калі ты так хочаш – яна прыбяжыць.

Яна згодна! Яна згодна! Яна згодна!

***

– Віталік, – зноў пагрукала ў дзверы маці, – хадзі павячэрай. Вунь і Петрык якраз вярнуўся.

Во задумаўся, зачытаўся – нават не пачуў як адчыняў дзверы, вяртаючыся з гуляў, малодшы брат.

– Мама, я ж табе казаў, што не хачу. Я потым буду вячэраць. Калі зраблю ўрокі.

– А ты ўрокі робіш?

– Ага.

Хоць яму і няёмка было хлусіць маці, але ён усё ж, сказаўшы, што робіць урокі, падманіў яе. Да таго ж, стук у дзверы спалохаў яго, і Віталік міжвольна, машынальна згроб усе паперы ў кучу – ах, як бы непрыемна было яму, каб маці ўбачыла яго за гэтым заняткам!

Калі маці адыйшлася ад дзвярэй, ён зноў расклаў усё па стале і па

засланым ложку...

Ага, прыдумала – “калі ты так хочаш”. Вядома ж, хачу!

Дзіўна, як толькі прачытаў пра Юльчыну згоду, ён перастаў нават глядзець у яе бок, баючыся, каб крый бог ніхто не здагадаўся, што яны дамовіліся – дамовіліся! – сустрэцца.

Віталік перагортваў газеты, сёе-тое чытаў, сёе-тое перачытваў, часам сароменючыся таго, пра што даведаўся, стыдаючыся і чырванеючы, быццам робіць штосьці вельмі непрыстойнае...

“Вусны – самая эратычная частка чалавечага цела. Ужо толькі адно пошукі вуснаў – найвышэйшая насалода. Пацалунак – мова кахання. А ад сэрца да рота – даўгі, вельмі даўгі шлях”.

Ён перавёў дыханне: фу-ты – у яго гэты даўгі шлях, лічы, пройдзены ўжо, толькі трэба дачакацца заўтрашняга дня...

“Пацалунак аказвае большае наркатычнае ўздзеянне, чым морфій. Адно толькі падумаеш пра пацалунак – і ў цябе цяплее на сэрцы, з’яўляецца прыемнае ўзбуджэнне, робіцца радасна-радасна, светла-светла...”

– Віталік, колькі я табе буду гаварыць, – ідзі вячэраць. Мы павячэралі ўжо. Усё тваё стаіць на стале. Стыне.

Гэта зноў пагрукалася маці. Ён, ведаючы матулю, разумеў, што яна ад яго не адступіцца, хуценька зноў сабраў усё раскладзенае і схаваў у стол. Адчыніў дзверы і выйшаў з пакою. Маці пайшла разам з ім на кухню, паказала, дзе што стаіць і прысела збоч стала. Яна бачыла, што Віталік нейкі не такі, як заўсёды, чымсьці вельмі ўсхваляваны, таму, пільна гледзячы яму ў вочы, спыталася:

– Сынок, што-небудзь здарылася?

Яму зрабілася сорамна, нібыта яго злавілі на хлусні, аднак ён не паказаў гэтага, а наадварот весела падміргнуў маці:

– Усё нармалёва, мамуль. Нічога дрэннага не здарылася. Наперадзе ў нас з табою – усё толькі харошае.

Ён хуценька, асабліва не разбіраючыся ў тым, што есць, паеў усё, што было пастаўлена, закусіў вінаградам. Хацеў памыць посуд, каб дапамагчы маці, аднак яна не дала яму гэта зрабіць.

Віталік пайшоў да сябе ў пакой. Але не зачыніўся на гэты раз. Маці бразгатала талеркамі, Петрык глядзеў тэлевізар, часта пераключаючы праграмы, і яму не хацелася зноў выклікаць падазронасць і цікаўнасць: чаго ж ён закрываецца гэтак?

Маці дамыла посуд, адчыніла дзверы ў яго пакой і, убачыўшы, што сын, здаецца, супакоіўся, і на сон чытае кнігу, пажадала яму добрай ночы і пайшла ў спальню. Петрык выключыў тэлевізар – відаць, не знайшоў, што глядзець.

Калі ў кватэры зрабілася зусім ціха, калі ўсе паснулі ўжо, Віталік зноў зачыніўся і падаставаў усё пахаванае.

“Жанчыны пры пацалунку, аддаючыся сваім пачуццям, – чытаў ён

далей, – закрываюць вочы, а мужчыны наадварот шырока расплюшчваюць іх – яны з цікаўнасцю назіраюць за каханай, але не доўга, бо і іхнія вочы неўзабаве таксама заплюшчваюцца самі сабою”.

Віталіка зацікавіў пацалунак, пры якім закаханыя цалуюць адну і тую ж вінаградзіну: яна – са свайго боку, ён – са свайго. Пашкадаваў, што не прачытаў пра гэта да вячэры – на талерцы ў кухні яшчэ заставаўся вінаград і можна было б павучыцца, паспрабаваць, як гэта робіцца, аднак выходзіць з пакоя і ісці на кухню не захацелася.

“Высуньце язык, – раіў іншы дапаможнік, – і пачынайце перасоўваць яго ўправа-ўлева, як гэта робяць шчоткі снегаачышчальніка, кожны раз дакранаючыся да куточкаў роту. Утрымлівайце вінаградзіну паміж языком і зубамі. Пакруціце языком, пасоўвайце яе ад адной шчакі да другой, лёгенька масіруючы вуснамі”.

Ого! Віталік нават падыйшоў да люстэрка, каб паспрабаваць зрабіць гэта перад ім, гледзячыся ў яго, аднак яму стала адразу ж няёмка, ён засаромеўся і той жа час адыйшоўся.

“Пацалунак ад душы павінен быць жаданым кожнаму закаханаму”, – вучылі кнігі.

“І самая галоўная ў каханні ўмова: на ласку адказвай ласкаю”, – падказвалі газеты.

“А і праўда, – згаджаўся з імі Віталік. – Каханне павінна быць толькі на дваіх. А як жа інакш? Адзін жа не пацалуешся. Трэба, каб нехта яшчэ быў з табою. І хацеў цалаваць тую ж, што і ты, вінаградзінку! Толькі з другога боку”.

Дзіўна так: цалуюць у вусны, а чамусьці трапечуць, яднаюцца сэрцы. Ды і не адны сэрцы. Пацалунак – гэта ж не толькі радасць вуснаў, а і весяленне ўсяго цела. Бачыш, Віталік, яшчэ ж ёсць пацалунак усім целам! Цела тваё радуецца ўсяго толькі дакранаючыся да яе цела...

Пацалунак – гэта дзіва? Ён мацней за ўсё астатняе? Значыць, заўтра яны пацалуюцца!

І Віталік уявіў сабе, як ён ласкава ўбірае ў свае прагныя вялікія губы ўвесь яе маленькі, акуратненькі, прыгожы раток...

Заснуў ён толькі пад раніцу. І яму сасніўся незвычайны, але вельмі прыемны сон – амаль тое ж, пра што ён і чытаў уначы.

Яны з Юлькаю, круцячы ў вуснах сваіх адну і тую ж вінаградзіну, цалавалі яе з розных бакоў.

А над імі, над іхнімі галавамі пяшчотна трымцелі крылейкамі маленькія, дзівосныя, нібыта размаляваныя кім птушачкі – мусіць, калібры.

Іх было шмат, і яны не стамляліся крыляць.

Назаўтра ён прачнуўся позна. Маці, якая ўчора бачыла сына ў нейкім узбуджаным, незразумелым ёй стане, хвалявалася, трывожылася, але не будзіла яго: няхай паспіць – сёння ж нядзеля і ў школу не трэба спяшацца. Калі ён, нарэшце, устаў, падняўся, калі снедаў, яна таемна, употай назірала

за ім, аднак ні пра што не пыталася – ведала, што сын зараз знаходзіцца ў такім узросце, калі пра свае пачуцці і свае клопаты ні маці, ні бацьку не расказваюць.

А яму трэба было пражыць яшчэ цэлы дзень – цэлы дзень! – спатканне ж ён паспешліва, не падумаўшы, чамусьці прызначыў толькі на вечар.

Віталік сноўдаўся па хаце, але спакою сабе не знаходзіў. Выбягаў на двор, браўся за якую-небудзь працу: складаў паколатыя дровы, насіў ваду з калодзежа, хоць яна і не трэба была нікому, але і гэта не супакойвала яго. Вяртаўся ў хату, браў у рукі кнігу, гартаў яе, аднак неўзабаве зноў ставіў на паліцу – не чыталася яму!

Віталік жыў на гэтым канцы вёскі, Юлька – на другім. Бярозавы гай, які ўсе называлі Гаем для закаханых, і каля якога яны неўзабаве сустрэнуцца, знаходзіўся зусім побач з ягоным домам, і хлопец хоць зараз мог пайсці туды, але ён не рабіў гэтага – а чым, скажыце, столькі часу ён будзе займацца адзін у тым гаі?!

Хлопцу цесна было на сваім панадворку, і ён выйшаў на вуліцу. І нечакана, раптам у другім канцы вёскі ўбачыў Яе. Яна ішла ў гэты бок. У ягоны бок! Яна, мусіць, спяшалася ўжо да Гаю! Але, заўважыўшы яго, той жа час крута павярнулася і як не пабегла назад.

І тады Віталік сарваўся з месца і што было сілы ўгрунь паімчаўся за ёю.

Ён бег так хутка, імкліва, спяшаючыся, што ледзь не збіў з ног Лёшку-Рамантыка, які на той час якраз выйшаў са свайго правулка і, шырока раскінуўшы рукі, хацеў затрымаць яго.

З-за веснічак выйшла заклапочаная Сымоніха, Віталікава мама. Лёша прывітаўся з ёю і неяк няпэўна, нават вінавата пацiснуў плячыма: бачыце, я ж хацеў злавіць яго, але ён не даўся...

Сымоніха адказала на прывітанне і, убачыўшы, чаму, куды і за кім пабег сын, супакоілася, зычліва ўсміхнулася – ці то Лёшу, ці то сама сабе, – зноў пайшла на свой двор і зачыніла за сабою варотцы.

Віталік дагнаў Юльку ўжо на выхадзе з вёскі.

Іхнія рукі адразу ж спляліся: яго правая – яе левая, яго левая, – яе правая. Яны, рукі, лашчылі адна адну, туліліся адна да адной, цешыліся адна адною, імкнучыся як найдалікатней павітацца між сабою. Спляталіся пальцамі, цёрліся далонямі, нібыта спрабавалі ўцiснуцца адна ў другую.

А пра тое, што чытаў уночы, Віталік нават і не ўспомніў. Пры чым тут язычок, калібры, вінаградзіна!

Вось яны – рукі! Адна ў адной. Яны сустракаюцца між сабою, гавораць між сабою. І цалуюцца! І ніяк не хочуць разлучацца.

Ды і самі яны – як апантаныя. Нічога не памятаюць, нічога не бачаць, нічога не гавораць. Проста ідуць. Рука ў руцэ ідуць. І ўсё! Куды ідуць – не разумеюць, навошта ідуць – не ведаюць. Як жа хораша проста вось так ісці побач! І хай заўсёды і ва ўсіх будзе рука ў руцэ!

Якою недарэчнаю цяпер здавалася Віталіку ўчарашняя ноч! Пра яе ён

нават і не заікнуўся Юльцы. Ды і яна прамаўчала, не прызналася яму, што, таксама рыхтуючыся да свайго першага пацалунку, усю ноч, пакуль не заснула, абдымала і цалавала сваю падушку – вучылася цалавацца!

А сустрэліся – проста сціснулі адно аднаму рукі, сплялі пальцы і пайшлі побач.

Была самая вясна і ўсё вакол іх пачынала ўвачавідкі зелянець.

І ім было гэтак хораша – як ніколі ў жыцці.

І яны былі ўжо такія дарослыя – мелі аж па чатырнаццаць год!

Хадзілі па сцежках і без іх, па дарогах і пералесках і ўсяму здзіўляліся, усяму радаваліся. І маўчалі.

– Зірні, зірні, а што гэта там такое блакітненькае, як вочкі, – нарэшце, спыталася яна.

Гэта ж пралескі, – узрадаваўся і ён, далікатна сарваў кветачку і прынёс каханай.

Юлька ўзяла яе ў пальчыкі і пяшчотна пацалавала ў пялёсткі. Тады і ён нагнуўся над краскаю і таксама пацалаваў яе. У тыя ж самыя пялёсткі!

Гэта быў іхні першы пацалунак.

***

Такімі былі мы ў сваёй маладосці. Такога цяпер, мусіць, ужо нідзе не бывае...

2009 г.

## Белыя воблакі

То ж трэба... Гэта ж трэба такое ўтварыць! Калі б нехта расказаў яму пра штосьці падобнае раней, не паверыў бы. А як сам убачыў – нідзе не дзенешся, паверыш...Ой, і нягодніца, ну і нягодніца! Ды і з кім, ды і як шчыравала...

Ён у злосці сарваў закрутку на бутэльцы – тая аж хруснула, нібы косці, ламаючыся, – і наліў сабе ў невялікую чарку гарэлкі. Выпіў яе, не, проста выліў у рот і той жа час, адчуўшы, што ўсё гэтае каліва адно размазалася там, адразу ж таропка зноў узяў у рукі толькі што пастаўленую бутэльку і, спяшаючыся, зрабіў тры вялікія – ці не па чарцы кожны – глыткі і, не закусваючы, угледзеўся ў акно.

За акном быў дождж. Не такі, як звычайна, цёмны і густы, якія здараюцца пры ліўнях ды навальніцах, а спакойны, амаль незаўважны, што сеецца са светлага неба, на якім ці то ўжо выбліснула, ці то вось-вось збіраецца выбліснуць сонца.

Такі дождж яны з Вераю называлі белымі воблакамі: у хаце нібыта светла, на вуліцы – таксама, а зірнеш у вакно – з шыфернага даху, сабраная жалабкамі, бяжыць, нават цурчыць дажджавая вада.

Цурчала яна і цяпер. Струменьчыкі былі тугія і тоўстыя – значыць, дождж спорны, хоць яго і не відаць.

Ён павярнуўся да другога вакна, паглядзеў за рэчку. Далёкі лес зноў жа быў, як у тумане, у белаватай дажджавой смузе. Калі дождж перастае, з яго нібыта спадае гэтая заслона, і тады кожны, здаецца, можа ўбачыць, як там, удалечыні, з дрэў, з галінак, лапак ды іголак сцякаюць, падаюць долу вялікія кроплі...

Ну ж і шэльма... Ну і шэльма...

***

Гэты дзень, пятніца, у яго з сябрам як звычайна быў лазневы. Яны ўхаўрусаваліся ў добрую кампанію, хадзілі ў саўну – пацелі там, на палку, парыліся, плавалі ў басейне і адпачывалі.

Звычайна Арцік заходзіў па яго – гэта яму было па дарозе, – і яны, ужо разам, закінуўшы на спіны плечакі, з якіх тырчалі венікі, паволі, не спяшаючыся, ішлі ў лазню.

Жонка і на гэты раз старанна, клапатліва збірала яго ў саўну, каб ён, – крый бог! – чаго-небудзь не забыўся. Яна пыталася і па некалькі разоў перапытвала: а гэта ты ўзяў? А тое ты паклаў? А пра гэта не забыўся? Вера была вельмі ж уважлівая да яго, але ён не прыдаў гэтаму аніякага значэння – жонка заўсёды была такая клапатлівая, калі збірала яго ў лазню. Праўда, трошкі здзівіў сябра – Арцік, таксама ўжо сабраны, забег да яго толькі на хвілінку, каб сказаць, што сёння, на вялікі жаль, яму не выпадае наведацца ў лазню – да яго прыехалі вельмі далёкія родзічы, яны ўвечары ад’язджаюць, і таму ён абавязкова павінен убачыцца з імі, правесці іх на цягнік.

Сябра нават прапанаваў яму свой новы дубовы венік, але Стась адмовіўся, пажартаваў:

– У мяне ж свой ёсць. Хіба, можа, давай памяняемся: ты мне дубовы, я табе – ядлоўцавы.

Арцік быў нейкі вельмі ўсхваляваны, але Стась і на гэта не звярнуў асаблівай увагі – і праўда ж, а што, хіба прыезд гасцей калі-небудзь бывае без хваляванняў?

Вера і сама таксама збіралася схадзіць на боўлінг. Казала: пайду, развеюся крыху і я. Ага, боўлінг. Бачылі б вы яго, той боўлінг...

Пацалаваў ён яе ў шчочку, памахаў рукою і пайшоў.

Аднак папарыцца яму на гэты раз не ўдалося. У лазні не было вады! Заўсёды была, а тут няма – і ўсё... Кажуць, вадаправод прарвала.

Вяртаўся дадому і думаў, што Вера ўзрадуецца: кожную пятніцу ён у саўне, а тут цэлы вечар будзе дома, побач – на, Вера, што хочаш, тое і рабі са мною... А яна, распусніца...

Ён спакойна вярнуўся дадому, спакойна, ні пра што не думаючы, адчыніў хату – яна была замкнёна толькі на ніжні замок – значыць, Вера яшчэ не пайшла на свой боўлінг, – увайшоў у калідор, паставіў плячак і насцярожыўся...

Са спальні даносіўся нейкі невыразны шум. Яго нібыта якая маланка пацяла, ён узвіўся і ў адно імгненне быў ужо каля дзвярэй спальні.

Рыўком тарганууў іх на сябе і аслупянеў: Арцік ляжыць на ягоным ложку, а яна, сучка, сядзіць на ім верхам. І абодва голыя...

Во гэта родзічы дык родзічы... Во гэта боўлінг...

Яму спачатку захацелася кінуцца на іх і задушыць абоіх адразу: адною рукою яе, другою – яго. І нават ужо ўяўляў, як ім, прыдушаным, не хапае паветра, як яны задыхаюцца, хрыпяць.

Аднак паветра якраз не ставала яму самому. Ён сам ужо задыхаўся – гнеў і крыўда душылі яго, ды так, што Стась не мог прамовіць ніводнага слова.

І раптам, заўважыўшы ўсю камічнасць сітуацыі – лепшы сябра, ускочыўшы з ложка, стаіць перад ім зусім галяком, а ягоная жонка – жонка! – паспешліва прыкрывае ад яго – мужа! – свае грудзі, нацягвае прасціну на лона, каб ён нічога не ўбачыў, – Стась нечакана разрагатаўся. Ён рагатаў так, што здавалася, яго рогат пачуюць усе суседзі ва ўсім доме. З гэтым рогатам ён выйшаў са спальні, выбег з дома. Калі б у гэты час хто-небудзь з суседзяў убачыў яго такім, мог бы падумаць, што чалавек звар'яцеў – бяжыць і рагоча.

На вуліцы Стась неяк адразу ж, нібыта да яго вярнулася свядомасць, перастаў рагатаць і спыніўся. Людзей вакол яго было шмат, але ён між іх быў такі адзінокі. Ведаў, што нешта трэба рабіць, але што не ведаў.

Да сяброў ісці не хацелася – яны, уніклівыя, будуць пытацца, што адбылося, распытваць, як гэта здарылася, а расказваць пра тое, што ўбачыў, яму нікому, нават сябрам, не хацелася.

Бегчы хутчэй да жанчын, каб адпомсціць жонцы, – таксама не было аніякага жадання: ён – мужчына, і плакацца ў жаночую спадніцу лічыў для сябе непрыстойным, а то і ганебным.

У вёсцы, за дваццаць кіламетраў ад горада, пуставала дзедава хата, якую бацькі аддалі ім пад дачу: яны з Вераю пачалі пакрысе ўжо рамантаваць яе, абсталёўваць.

І ён, ні пра што болей не думаючы, нічога не шукаючы, паехаў туды. Купіў бутэльку гарэлкі, хлеба, агуркі ды каўбасу і ўжо праз нейкія паўгадзіны быў на сваёй дачы.

Ай і юрліўка... Ну і юрліўка...

У хаце неяк вельмі ж пасвятлела. Хоць Стась і ведаў, што дождж не перасціх, што гэта – усяго толькі белыя воблакі, аднак паглядзеў у вокны – спачатку ў адно, затым у другое: не, лес за ракою ўсё яшчэ хаваўся ў белым, як туман, засціле, а з шыферных жалабкоў ручайкамі сцякала на зямлю вада.

А як яна... А як яна...

Станіслаў адвінціў закрутку, наліў у шклянку гарэлкі – ён чамусьці пасля кожнага наліву закручваў бутэльку – зноў завінціў, закінуў назад галаву і зара́з выпіў усё. Укінуў у рот салёны агурок, пажаваў яго. Неяк бяздумна ўтаропіўся ў кучу стружак збоч ад стала – з тыдзень назад га-

бляваў тут дошкі, каб зрабіць перагародку ў хаце. Страсянуў, нібы ад чагосьці хацеў атрэсціся, галавою і пайшоў да ложка, які стаяў у куце, ля глухой сцяны. Не распранаючыся, лёг на яго, неразабраны, і закрыў вочы. Хацеў неяк адчапіцца ад непрыемных думак, але перад вачыма ўсё роўна, як у кіно, пракручвалася зноў і зноў тое, што ён толькі што бачыў на сваім ложку...

У сенцах нехта спатыкнуўся аб вядро, яно забразгатала, але ён, як ляжаў, так і застаўся ляжаць, ніводным рухам не выдаючы, што яго цікавіць, хто там такі ідзе сюды.

Зайшла Вера. Яшчэ не зачыніўшы за сабою дзверы, яна, нясмелая і вінаватая, з самага парогу загаварыла да яго:

– Стасічак, даруй мне... Стасічак, гэта было ў першы і апошні раз...

Яна баязліва, вельмі паволі набліжалася да ложка, ішла да яго, быццам да якогасьці звера ў клетку. Ён, не падаючы ніякай пазнакі цікавасці да яе, нібыта жонкі і няма ў хаце, ляжаў ціха, не варушачыся, адно толькі ўсё мацней і мацней сціскаў зубы.

– Стасічак, даруй мне. Гэта было ў першы і апошні раз, – увесь час, як сапсаваная пласцінка, паўтарала яна дрыжачымі вуснамі.

Ён маўчаў.

Бачыш, Стасічка яна ўспомніла. Ах ты, скацежына... То ж трэба такое ўтварыць! У лазню, значыць, сабрала мужа... Ласкавая такая была... Вельмі нават ласкавая.. І той казёл... Венік нават прынёс... Хвашчыся, Стасік... Ух, свалата! А колькі пяшчоты было ў ёй. А як апантана яна круціла сваімі грудкамі над яго паганым ротам...

– Стасічак, даруй мне ў апошні раз...

Яна ледзь перастаўляла ногі – яны як усё роўна прыліпалі да масніц. Вера была ўжо амаль ля самага ложка... У, скацежніца!

– Стасічак, – пачала яна ў чарговы раз сваю казань, але ён не даў ёй дагаварыць.

Станіслаў і сам потым не мог зразумець і растлумачыць, што з ім такое зрабілася, што адбылося.

Ён міжволі, насуперак самому сабе, імгненна ўсхапіўся – яна аж войкнула і засланілася ад яго рукамі – і кінуўся да яе нібыта і сапраўды нейкі звер.

Яна закрычала, але ён не звярнуў на гэта ніякай увагі, зграб яе, мокрую, паваліў на ложак, затоўк пад сябе.

Ён быў грубы і пяшчотны, ён быў ласкавы і нястрымны, злы і знемагаў ад жадання.

Насуперак сабе Станіслаў хацеў яе, і жадаў, каб усё было так, як ён і ўбачыў толькі што...

Калі яны сцішыліся, супакоіліся, на вуліцы зрабілася зусім светла. Але яны абое і не сумняваліся, што дождж пакуль яшчэ не перастаў, а ўсё святло і цяпер ідзе ад белых воблакаў.

Яны доўга ляжалі на ложку. Маўчалі і не варушыліся.

Пачало ўжо цямнець. Яна даверліва, хоць і баязліва, няўпэўнена паклала яму на грудзі сваю далонь. Ён тут жа ў злосці, грэбліва скінуў яе, усхапіўся з ложка, пабег да дзвярэй, расчыніў іх напята і голасам, які не дазваляе пярэчання, сказаў:

– А цяпер – ідзі.

– Куды? – запыталася яна.

– Куды хочаш.

І стаяў да таго часу, пакуль Вера не пакінула хату, пакуль зноў жа не бразнула, зачапіўшыся, вядром, не грукнула дзвярыма, выходзячы з сянец.

Тады ён шчыльна зачыніў дзверы ў хату і падыйшоў да стала. Наліў адну чарку гарэлкі, выпіў яе, а затым без перадыху, адна за адной яшчэ тры, пажаваў крыху хлеба і, не запальваючы святла, не распранаючыся, лёг зноў на ложак і заснуў.

Прачнуўся ад нейкага лёгкага шораху – у хаце нехта быў. Спачатку падумаў, што гэта, не паслухаўшыся яго, вярнулася Вера і зазлаваў, што яе зноў давядзецца выправоджваць, і ўсё ж спытаўся спакойна і абыякава:

– Хто тут?

– Не бойся, Станіслаў, гэта я, – азваўся з цемры знаёмы голас.

Стась пазнаў яе. Спытаўся:

– А чаму святла не запальваеш?

– Не ведаю, дзе разетка.

– Справа ад дзвярэй.

Яна правяла рукою па сцяне, знайшла ўключальнік, пстрыкнула ім і аж зажмурылася ад святла.

Гэта была Ірына, жонка Арціка. Яна стаяла ціхая і сарамяжлівая – такая, якой ён і ведаў яе тады, калі яны сустракаліся сем'ямі.

Яны нічога адно ў аднаго не пыталіся, нічога пра тое, што адбылося, не гаварылі – быццам таго, што здарылася, і напраўду не было.

Яму спачатку нават здалося, што Ірына і на самой справе нічога не ведае пра тое, што натварылася, аднак потым усё ж зразумеў: ведае і ўсё. І мусіць, яна ведала гэта яшчэ да таго, як яно раскрылася. Ведала яшчэ да яго. Ён не ведаў, а яна ведала.

Іра адразу ж падыйшла да стала, прыбрала гарэлку. Падмяла ў хаце, памыла посуд. Рабіла яна ўсё моўчкі – нікога ні ў чым не абвінавачваючы, нікога і ні за што не лаючы. І гэта яго супакойвала.

Ірына разабрала канапу. Паслалася. Выключыла святло. Распранулася – ён толькі чуў, як шамаціць яе адзенне – і легла ў пасцель.

Ён крыху счакаў, а потым падняўся з ложка, распрануўся і сам таксама пайшоў да канапы. Яна, даючы яму месца, пасунулася да сцяны.

І ўсё гэта рабілася моўчкі, у густой вясковай цемры і ціхасці.

Яны абняліся і нечакана адчулі, што ім, абоім, зрабілася вельмі ўтульна і хораша.

2009 г.

## Буська

Юрай прыйшоў, каб дапамагчы сябру дзяцінства капаць бульбу, тады, як яны з жонкаю ўжо выкапалі невялікі ўчастак каля хаты самі, адны – ён затрымаўся ў сястры , да якой з гэтае ж нагоды і прыехаў са свайго горада ў сваё Лецiва.

Іван парадчыў мяшкі з бульбаю, а Зіна стаяла непадалёку, трымаючы за аброць буланую кабылку, якая, прытомленая ўжо, ціха драмала каля яе.

– Ой, як добра, што ты прыйшоў, – праўдзіва ўзрадавалася Зіна. – Во хоць завядзеш цяпер Буську на наш новы ўчастак. А то я яе баюся. Яна ж нейкая шалёная. Нават укусіць спрабуе.

– Плуг, хамут, збрую мы ў прычэп закінем, – падыйшоў Іван, паздароўкаўся за руку. – А ты вядзі яе. Мы хутка прыедзем.

Юрай адразу ж узяў повад, які, спяшаючыся, з радасцю аддала яму ў рукі Зіна.

Але кабылцы чамусьці ён не спадабаўся. Каля Зіны яна абыякава драмала, а тут раптам, як толькі ён узяўся за вуздэчку, так узвілася, так наравіста ўскінула галаву, што яму нават падалося, быццам Буська, сама маленькая і несамавітая, шчуплая і зняможная, вось зараз на аброці падыме яго над зямлёю.

Потым Юрай зразумеў, што ў гэтым непаразуменні вінаваты ён сам – грубавата, нават балюча таргануў яе за аброць, а кабылка, наравістая і з гонарам, узвілася свечкаю, бо пакрыўдзілася, палічыла такое за здзек.

І пасля гэтага ён ніяк не мог з ёю паладзіць. Трэба весці яе, а яна – не ідзе. Юрай і нокаў на яе і нукаў, раззлавана зноў жа торгаў за аброць, але чым мацней ён торгаў, тым больш раз’юшана ўзвівалася яна.

Аднак стаяла на месцы. І не зрабіла ні кроку чамусьці да таго часу, пакуль ён даўгі повад не склаў у некалькі столак і не раскруціў яго над сваёю і ейнаю галовамі.

Як яна пабегла! Ірванулася з двара, абабегла калёсы, рынулася ў вароты – ён ледзь паспяваў за ёю.

На вуліцы Буська крыху супакоілася. Перайшла на звычайную, звыклую хаду. Ішла ціха, спакойна, і ён не торгаў яе, не сморгаў, а ўсяго толькі лёгенька трымаўся за вуздэчку.

Калі яны прыйшлі на Іванаў участак – Юрай ведаў, дзе яго шукаць, бо ён быў побач з участкам ягонай сястры, – трактара тут яшчэ не было.

На ўзмежку, не зважаючы на восень, зелянела густая, ядраная трава, і кабылка з прагнасцю – відаць, была галодная – пачала напоўніцу хапаць яе. Аднак скубла яна неяк нязвычна – як усё роўна нешта ёй замінала: саскубленыя травіны зноў валіліся на зямлю, з рота ашмоццем падала зялёная пена.

Юрай падышоў бліжэй да Буські, падняў яе галаву – ледзь адарваў ад травы – і жахнуўся: о, божа мілы, дык вось што ёй замінае! Яна ж

зацугляная! Кабылцы даводзіцца жаваць цуглі! Якая там трава, які наедак!

Уявіў, што ўсё гэтае халоднае жалеззе нехта напіхаў яму самому ў рот. Нацягне цяпер той нехта лейцы, зацісне цуглямі губы, і ты, хочаш ці не хочаш, а нідзе не дзенешся – пабяжыш.

Яму зрабілася непрыемна, стала нават жудасна. Дык у яго ж рукі хоць ёсць, можа выкінуць тыя цуглі з роту. А чым выкіне іх Буська?

Што ж гэта вы робіце з жывёлінай? За што здзекуецеся з яе, нягоднікі?

Ён тут жа, спяшаючыся, ад чаго не ўсё адразу атрымлівалася – доўга не мог дастаць з колца жалезную распорку – усё ж расцугляў кабылку, вызваліўшы яе рот ад жалязяк. Рот буланай быў увесь у сіняках, у шмат якіх месцах раны крывавілі.

У парыве, у пахапе вінаватасці і шкадавання Васіль прыгарнуў да свае шчакі твар жывёліны – ён ужо не мог зараз назваць яго ні мордай, ні храпаю, ні пысаю – і тая даверліва ўткнулася губамі яму ў плячо.

– Даруй нам, гаротніца, – сказаў ён і пяшчотна пагладзіў Буську па шыі. – Даруй, калі можаш.

Кабылка доўга не хацела адхінаць галаву ад ягонага пляча, але Юрай усё ж рукою адпіхнуў яе. Буланая зноў узялася шчыра скубсці траву, толькі цяпер ужо яна гэта рабіла гожа і годна.

Буська усё далей і далей адыходзілася ад яго, а ён усё паслабляў і паслабляў ляйчыну, сабраную ў руках. Потым прывязаў лейцы за драбіну калёс, якія чамусьці ўжо былі тут, на сотках. Калі гаспадары прыехалі, буланая ўжо скубла далекавата ад іхняй бульбы.

Іван зняў з прычэпа плуг, хамут з пастронкамі ды каромысел, злучыў усё гэта на зямлі і ўсміхнуўся:

– Вядзі-тку ты сваю прыгажуню да хамута. Яна і так ужо добра адпачыла, самы час і папрацаваць.

Юрай пацягнуў за ляйчыну, аднак Буська ніяк не магла адарвацца ад травы – скубла яшчэ больш заюшлівей. Давялося ісці да яе, браць за аброць.

Іван, заводзячы кабылку ў пастронкі, убачыў, што яна не зацугляная, і паспешліва ўзяўся засоўваць ёй у рот цуглі.

– Што ты робіш, змей! – не на жарт узлаваўся на яго сябра. – Не цугляй!

– Дык яна ж наравістая, – нібыта пачаў апрадвацца Іван. – Ты ж з ёю без цугляў не справішся. Вунь як яна Зіну заматала.

– Спраўлюся, – ужо цішэй, але ўпэўнена адказаў сябра і ўсміхнуўся: – А калі не ведаеш, куды падзець гэтыя цуглі, давай я імі цябе самога зацугляю. Во будзе цікавы малюнак: ты, зацугляны, ідзеш за плугам, а я лейцамі торгаю, каб жалеза ў тваім роце варушылася, і нокаю на цябе, як на каня: “Но, пайшоў! Куды пайшоў!”

Івану гэта не спадабалася:

– Эх, гэтая слінявая інтэлігенцыя, – зморшчыўся ён. – У добранькіх

гуляюць. А коней жа заўсёды цуглялі. І бацькі, і дзяды нашы, і прадзеды. А ён...

– Дык гэта ж, Іване-голубе, разумееш, жанчына. Самае прыгожае, што ёсць на зямлі. Маці, нарэшце. Разумееш? Маці! А ты ёй у рот жалеззе...

– Я ж і кажу: гнілая інтэлігенцыя, – узлаваўся Іван, аднак Буську цугляць не стаў.

Упрагаў яе ў плуг, а сам усё бурчаў:

– Падумаеш, зацугляць не дае. А ты ведаеш, у каго я ўзяў тваю Буську? Хто гаспадар яе? Абрэк! Шабуршны такі мужчынка. Дык ён як зацугляе Буську, як стане ўва ўвесь рост у перадку, як раскруціць над галавою лейцы, як свісне ў два пальцы, як пачне груба торгаць вуздэчку, як возьмецца мацюкацца, дык буланая тады імчыцца, нічога не бачачы перад сабою. Калі Абрэк едзе па вуліцы, усе хто куды ад яго разлятаюцца – і куры, і сабакі, і людзі. Ад сабачага брэху тады аж вушы закладае. А ён: жанчына, жанчына... Падумаеш, каханую сабе знайшоў.

Кабылка была маленькая, зграбненькая і ўжо заезджаная. Ёй, ён разумеў, нялёгка цягаць такі плуг, тым больш, што Іванава зямля была нейкая цяжкая, зляжалая. Юрай вадзіў Буську па барознах. Яна дыхала з натугаю, цяжка спынялася, аднак ён не падганяў яе, не нокаў, быў далікатны і нават не тузаў за аброць, хоць буланая і не была зацугляная. Наадварот, калі і каля вачэй збіралася шмат аваднёў ды заядзі, што джалілі яе да крыві, ён сам спыняў Буську і абмятаў, а то і біў на ёй даланёю ўсю жамярыцу. І яна сама даверліва цёрлася галавою аб ягонае плячо, баронячыся ўсё ад той жа заядзі.

Каня Івану далі на ўвесь дзень, таму ён асабліва не спяшаўся – наворваў толькі па дзве баразны, а затым выпрагаў Буську, і яна, навязаная за жардзіну, пакуль капалі, пасвілася на ўзмежку.

Аднак, не зважаючы на такія частыя перапынкі, буланая ўсё больш і больш стамлялася, усё часцей і часцей спынялася, каб перадыхнуць.

І ён не злаваўся на яе, не падганяў, а ўсяго толькі ідучы побач і быццам бы таксама разам з ёю цягнучы плуг, ласкава і ціха, амаль шэптам, паўтараў, прасіў:

– Но, но, но... Ну яшчэ крышачку... Да канца гэтай баразны... Да канца, Буська...

Дзіўна, але паміж імі ўсталявалася нейкае неверагоднае ўзаемаразуменне: яна ведала, чаго хоча гэты чалавек і рабіла ўсё, намагаючыся, нават праз сілу, каб спадабацца яму.

Буська была ўдзячная Юраю, што не паганяе, што не тузае за аброць, а асабліва за тое, што прыбраў з роту цуглі, якія ўвесь час хацелася ёй выплюнуць.

Калі кабылка ў чарговы раз спынілася, Іван не стрымаўся, зазлаваў:

– Ды сцебані ты яе! Няхай не прыдурваецца, кунега, – ёй жа яшчэ не

было ад чаго стамляцца.

– Цябе, калі хочаш, сцебану. А яе – не! – спакойна адказаў сябра і ласкава пагладзіў Буську па баку.

– Дзівак ты, дружа мой! Ага, у Абрэка ёй цяжка. А ці ведаеш ты, што ён прадае кабылку? А ў якія яна рукі патрапіць – ніхто табе не скажа: можа, нават у горшыя, чым абрэкавы.

У наступны раз, калі разаралі яшчэ дзве чарговыя баразны і выпрагалі буланую, каб зноў адпачыла і папасвілася, Юрай нечакана сказаў Івану:

– Слухай, у цябе заўтра дзень нараджэння?

– Ага, ты ж запрошаны, ведаеш.

– А ці здагадваешся ты, што я табе падару?

– Пакуль не. Ды і не хачу нават думаць пра гэта заўчасна. Я люблю нечаканасці, сюрпрызы.

– Дык гэта ж і будзе маім сюрпрызам. Я табе падару самы найвялікшы цуд у свеце.

– Ну, ну. І што ж гэта за цуд такі?

– Я падару табе вось гэты повад. А разам з ім – і вось яе, – Юрай паказаў на Буську.

Іван ссунуў шапку на вочы, пачухаў патыліцу.

– А што я рабіць з ёю буду? – неяк разгублена спытаўся ён.

– Любіць будзеш і шанаваць будзеш.

Іван даўно гаварыў яму, што хоча купіць каня. Вядома ж, ён марыў купіць сапраўднага рысака, а не такую заезджаную, як Буська, кабылку, аднак жа ўсё роўна задумаўся:

– А куды я пастаўлю яе?

– У цябе ж круглы двор. Столькі хлявоў. Знойдзеш месца.

– А можа лепей сястры сваёй ты прапануй яе, – зноў засумняваўся ён.

– Не, яна жанчына, не справіцца. Яна ж карову сваю і то прадала.

– Во і добра. Хлеў жа вызваліўся, – у надзеі адгаварыць сябра прамовіў Іван.

Буська стаяла зводдаль. Яна была, быццам бы, абыякавая да ўсяго, аднак Юраю здавалася, што іхнюю размову буланая слухае вельмі ўважліва – нібыта ўсё, што яны гавораць між сабою, кабылка разумее.

– Толькі, – раптам госць павярнуўся ўсім целам да сябра: ты ніколі – чуеш, ніколі! – не зацугляеш яе. Ніколі і ні за якія грошы, – паўтарыў ён.

– Ну, можа, калі што якое... Не будзе слухацца...

– Не! – цвёрда перапыніў яго госць і яшчэ раз паўтарыў: – Ніколі і ні за якія грошы. Ты да яе з ласкаю. Бачыш, яна толькі ласкі слухаецца.

– Зіна, – Іван павярнуўся да жонкі, якая моўчкі стаяла побач і ўважліва, не ўмешваючыся ў размову, слухала іх, – Юрай, мусіць, і праўда ўлюбіўся ў Буську.

– Ды яно б і ніводная жанчына не адмовілася, каб столькі ўвагі і ласкі было прапанавана ёй, – задумліва прамовіла Зіна.

– А ты што – Зіну б’еш? – Юрай зірнуў на Івана.

– Усялякае бывае.

– Можа, і цугляеш?

– Ты што?! Не, яна сама хутчэй цябе зацугляе...

Якраз калі яны дакопвалі апошнюю баразну – адну на ўсіх – на поле прыйшоў гаспадар кабылкі. Мужычок ён быў несамавіты, невысокага расточку – пра такіх гавораць: метр з шапкаю, – з крываватымі ножкамі, увесь у камуфляжы.

Узяў з Юраёвых рук повад, і павёў кабылку да калёс. І Іван пайшоў таксама – да трактара.

Ён дастаў з кабіны бутэльку гарэлкі і таксама падаўся ўслед за Абрэкам. Паклаў яе ў калёсы, у салому – плату Абрэку за каня – і спытаўся:

– Ці знайшоў ты, Пятровіч, пакупца сваёй буланай?

– Неа, – коратка адказаў Абрэк, прадаўжаючы запрагаць Буську.

– А ці не раздумалі вы яе прадаваць? – пацікавіўся ўжо госць, які таксама падыйшоў да вяскоўцаў.

– А што, можа, ты купіш? – зірнуў на яго Абрэк.

– Можа, і куплю. Прадасце?

– Хоць сёння забірай!

– Не, сёння не магу. А заўтра – забяру.

Мужычок шмаргануў повад і здзівіўся: кабылка не рэагавала на гэта як заўсёды тое бывала. Убачыў, што яна не зацугляная, і тут жа сілаю расціснуў ёй зубы і прысілам усунуў у рот цуглі. Абрэк, уводзячы кабылку ў аглоблі, біў яе па нагах стоптаным чаравікам: “Дай нагу! Не гэту, а тую!”. Запрогшы Буську ў калёсы, вярнуўся да іх, дзелавіта забраў – каб крый бог не пабілася: у саломе ж будзе качацца! – бутэльку і, спяшаючыся, усунуў яе ў кішэню штаноў.

Узлез на калёсы, балюча, груба таргануў за лейцы, тут жа сцебануў Буську доўгім прутам, які ляжаў дасюль у калёсах, стаў ва ўвесь рост у передку, раскруціў над галавою лейцы, прарэзліва свіснуў у два пальцы і пачаў шалёна, як вар’ят, сцябаць кабылку лейцамі. Тая сарвалася з месца і з усіх ног пабегла па бульбянішчах, па ўзмежках на дарогу.

Госць толькі моцна сціснуў зубы.

– Не заўтра, а сёння, – павярнуўся ён да Івана. – Пойдзем і забярэм у гэтага вар’ята Буську.

***

Цяпер, калі Іван званіў яму ў горад са свайго Лецiва, найперш ён перадаваў Юраю прывітанне ад буланай і тут жа ўсміхаўся ў трубку:

– Прыязджай! Твая Буська па табе зусім замаркоцілася.

І Юрай адкладаў усе справы і адразу ж, не зважаючы на снег і слату, ехаў у сваё Лецiва.

2009 г.

## Верталёты

Яе грудкі, цвёрдзенькія, кругленькія і загарэлыя, як і ўсё цела, здаецца, самі сабою выкаціліся з-пад паслабленага купальніка – не памятае ці то купальнік паслабіўся сам, ці то ўжо ён у парыве страсці развязаў яго залацістыя тасёмачкі. Ён пяшчотна вадзіў па грудках даланёю, і калі пад яе траплялі сасочкі-ягадзінкі, аж вар'яцеў ад нецярпення і тады пальцы, якія рабіліся пяшчотнымі-пяшчотнымі, абдымаючы, самі сабою ласкава сціскалі грудкі.

Адна грудка толькі крыху выбавілася з-пад купальніка, ягадзінка зачапілася за беражок, за рубчык ды так і засталася амаль схаваная. Гэта яго вельмі хвалявала і ўзбуджала, а таму ён не спяшаўся зусім вызваляць яе з палону.

Яе грудкі таксама адказвалі ласкаю на ласку, самі шукалі яго далоні, уплішчваліся ў іх, і ім там было, ён адчуваў, радасна і ўтульна.

Нарэшце, яму захацелася вызваліць з палону і другую грудку, і ён ужо узяўся быў за ягадзінку, далікатна, каб не зрабіць балюча, вызваляючы яе з -пад матузка, але тут знадворку нечакана пачуўся моцны гул – уверсе вельмі тарахцела і гуло.

Ён нейкі час, усё яшчэ трымаючы на грудзях рукі, прыслухоўваўся да шуму, а калі той пачаў нарастаць і ўсё больш і больш мацнець, устаў і падышоў да акна.

Над самым дахам Дома творчасці з аглушальным грукатам пратарахцелі два ваенныя верталёты – як усё роўна нехта прабег па ім у каваных ботах.

Ён меў пакой на апошнім, дванаццатым, паверсе – вышэй, над ім быў толькі салярый, – і таму здалося, што верталёты пратупацелі, пракаціліся коламі па самым шкляным салярыі, дзе звычайна надвечар, калі спадала спёка, яны любілі адпачываць, ловячы прыемныя апошнія промні закотнага сонца.

Сюды, у Піцунду, на бераг ласкавага Чорнага мора, які ўражваў бамбукавымі гаямі, самшытавымі зараснікамі ды пушыстай сасною, якая не колецца, ён прыехаў са сваёй сяброўкаю, каб менавіта тут, магчыма, нават на высокагорным абхазскім возеры Рыца – так ён меркаваў – сказаць адно аднаму тыя шчырыя словы прызнання, пасля якіх бы і зрабіўся сапраўды мядовым месяц іхняга адпачынку.

Яны запісаліся на экскурсію да возера Рыца, якая павінна была адбыцца праз тры дні, і нецярпліва чакалі яе: хоць яны між сабою і не гаварылі пра гэта, аднак абое разумелі, што паездка будзе для іх спадзяваным сюрпрызам і потым стане назаўсёды іхнім вельмі шаноўным святам – на Рыцы яны фактычна ажэняцца!

Антон і Люся былі перакананы, што ўсё так і будзе, як яны задумалі. Ім не перашкодзіла нават тое, што нечакана трапілі на грузіна-абхазскую

вайну, калі часам раніцаю, а асабліва ўвечары то тут, то там усчыналася бязладная страляніна.

Яны вельмі чакалі экскурсіі на Рыцу.

***

Верталёты, нахіляючыся цяжкою пярэдняю часткаю да зямлі і задзіраючы лёгкія хвасты ўгору, спяшаючыся, паляцелі туды, дзе ў кукурузе, крыху далей ад мора, стаяла савецкая ракетка.

Верталёты, ён бачыў, як вялікія назойлівыя мухі, кружыліся над ёю, то апускаючыся як не да самой кукурузы, то ўзлятаючы ў вышыню, у неба. Верталёты не мелі апазнавальных знакаў, таму невялікая ахова, што была пры ракетцы, не вытрымала – мусіць, здалі нервы – і пачала страляць ці то па верталётах, ці то проста так, абы куды. Тыя, на шчасце, не адказалі на страляніну, узняліся яшчэ вышэй, развярнуліся і паляцелі туды, адкуль і з’явіліся.

Калі гул верталётаў заціх, ён вярнуўся да ложка.

Там за гэты час нічога не змянілася. Каханая ляжала ў той жа самай паставе, у якой ён і пакінаў яе: нязручна закінутая за галаву рука, спаднічка, якая затрымалася на каленях... І ягадзінка, што так і засталася нявызваленаю, усё яшчэ пажадліва выглядала з-пад беражка купальніка.

Антон падышоў бліжэй, і найперш вызваліў яе: ягадзінка, атрымаўшы волю, узрадавана пстрыкнула яму ў пальцы і, задаволеная, здаецца, нават засмяялася.

Ён лашчыў яе, зноў хаваў у сваіх далонях грудкі, гладзіў усё загарэлае цела каханай і адчуваў, што цяпер ужо ўвесь ён нібы пераліваецца ў тое, чым дакранаецца да яе, – рукамі, далонямі, пальцамі, нават падушачкамі на іх.

Яго рукі гаварылі. Яны прызнаваліся ёй, усяму яе целу ў каханні. Яна стоена, сцішана слухала іхнія рухі. Яны апускаліся ўсё ніжэй і ніжэй.

Вось гладзенькі, аксамітны жываток. Далоні адчуваюць пушок на ім, які тапырыцца ад дотыку. І вось яны – два найдасканалейшай формы і прыгажосці пагорачкі. Ён не бачыць іх, бо далоні якраз пад імі, але рукі і асабліва вочы, ведаюць і памятаюць іх неймаверную гожасць і харашыню. Яны, пагорачкі, такія кругленькія, далікатныя і вабныя, што здаецца, толькі і створаны для таго, каб імі любаваліся вочы і каб на іх замiралі закаханыя мужчынскія далоні.

І раптам яго пальцы ўздрыгнулі і нечакана спыніліся. Яны былі ўжо зверху і міжволі натрапілі на белы трохкутнічак яе незагарэлага цела, які на пляжы быў пад бікіні...

Люся здрыганулася ўся, і яе вусны тую ж хвіліну пачалі падымацца да ягоных. Ён бачыў толькі вусны, а іх жаданне было такое неадольнае, што яны, вусны, здаецца, уздымалі за сабою і галаву, і ўсё цела.

Антон міжволі заўважыў на яе вуснах маленькую драпінку. О божа,

якая яна, гэтая драпінка, была яму мілая і дарагая!

І ён упіўся ў яе, цалаваў менавіта яе, размазваючы і па люсіных вуснах, і па сваіх губах таксама ярка-чырвоную фарбу.

Вось-вось яны страпянуцца ў той хоці, імя якой – дзіва, цуд. Вось-вось яны, здаецца, назаўсёды знікнуць, растворацца адно ў адным...

Яе прыгожа загарэлае цела кожнаю клетачкаю чакала, прагла старой, як свет, і той жа час заўсёды жаданай, нібыта яна ўпершыню збываецца, таямніцы блізкасці.

І ён таксама жадаў аднаго: бясконца валодаць гэтым, такім трапяткім, і такім грэшным дзявочым целам, аддаючы яму ўсю сваю радасць і беручы такую ж радасць сабе...

Над Домам творчасці зноў пачуўся характэрны гул верталётаў. Але на гэты раз ён ужо быў не такі грымотны, і яны нават не разнялі вуснаў.

Цяпер яму здавалася, што яны абое ператварыліся ў адны толькі вусны. Вусны жылі самі па сабе. Яны, здавалася, нават думалі, а правільней – нічога не думалі. Яны маўчалі і стагналі, жадалі і праглі. Вусны імкнуліся адно да аднаго, уціскаліся адно ў другое, і разлучыць іх зараз, здавалася, ніхто і нішто не зможа.

І раптам над дахам загрукацела так, што задрыжалі сцены, зазвінела шкло ў вокнах, захісталася нават люстра пад столлю. Усё навакол гуло і калацілася. Гэты грымотны, як навальнічны, гул спяшаўся за верталётамі – ён нібыта гнаўся за імі, нібыта даганяў іх.

Антон адчуў, што яго вусны слабеюць, што ў іх знікае напруга, што яны трацяць сілу і настойлівасць. Яе ж вусны не адпускалі іх, яны яшчэ мацней упіваліся ў ягоныя, нібы спрабуючы вярнуць ім моц і пругкасць.

Дзіўна, гэты гук, гэты гвалт, чым больш здаляўся, тым больш мацнеў і рабіўся прарэзлівей.

Ён сілаю адарваў сябе ад вуснаў каханай і рыўком ускочыў з ложка. Імкліва зноў падыйшоў да акна. Яно было адчыненае, і Антон, высоўваючыся з яго як не па пояс, пільна разглядаў, што ж там гэтак грымела.

Магутны ваенны знішчальнік СУ-27, які дагнаў ужо верталёты, драпежна задраўшы, нібы дзюбу, нос з кабінаю, ужо баражыраваў над кукурузаю. Верталёты кружыліся над ракеткаю, а над імі, шырока расправіўшы крылы, віраваў самалёт, прыціскаючы верталёты як не да самой зямлі. Калі ён, разварочваючыся на новы круг, пралятаў над Домам творчасці, шыбы так дрыжалі і звінелі, што здавалася яны вось-вось выскачаць з рам...

Ён, высоўваючыся як не да пояса з акна, круцячы галавою ва ўсе бакі, назіраў за паядынкам самалёта і верталётаў, разумеючы, што "СУ" палохае, адганяе верталёты ад ракеткі і, ведаючы, чым гэта можа скончыцца – знішчальнік жа з ядзернымі боегалоўкамі – толькі няпэўна пацепваў плячыма.

Верталёты нібыта знарок дражніліся са знішчальнікам, зусім не звяр-

талі на яго ўвагі – нібыта робячы нейкі свой, звычайны, запланаваны раней аблёт.

Антон доўга не адыходзіўся ад вакна і ўздыхнуў з палёгкаю толькі тады, як зляцелі адсюль верталёты і той жа час знік знішчальнік – яго апошні гул рэхам адбіўся ад сцяны Дома творчасці і ў пакоі нечакана стала ціха-ціха.

Ён адышоўся ад вакна і паволі накіраваўся да ложка.

Люся ўжо сядзела на краі пасцелі. Поўнасцю апранутая і прыбраная, зашпіленая на ўсе гузікі.

Ён ніякавата сеў побач з ёю. Нешта хацеў ёй растлумачыць.

– Вось бачыш, як атрымалася, – нібыта пачаў за нешта апраўдвацца. – Гэтыя верталёты, гэты самалёт...

– Ага, і самалёт таксама, – усур’ёз падтрымала яна Антона, але ён не зразумеў, ці то і яна напраўду напалохалася ўсяго гэтага шуму-гуду, ці то ўсяго толькі пасмейваецца з яго.

Ён нясмела, няўпэўнена паклаў ёй на плячо руку, хацеў прыгарнуць да сябе. Але Люся скаланулася, як ад холаду, незадаволена паварушыла плячыма, і ягоная рука сама сабою ўпала на посцілку.

– Не трэба, – прыклала яна палец да вуснаў. – Толькі пасля Рыцы.

І тады Антон раптам адчуў сябе такім ужо нікчэмным, такім нязграбным і недарэчным. Уявіў, што яна бачыла, як ён спалохана мітусіўся, як ледзь не ўвесь высоўваўся з акна, каб лепей убачыць, куды паляць верталёты і самалёт...

Зноў хацеў неяк павінавацііцца:

– Ведаеш, такі грукат... І ў гэтым грукаце...

– А можа б яно якраз і цікава было... У такім грукаце... Цалавацца... – Усміхнулася Люся і ў той жа час папраўілася, загаварыла пра іншае: – Але ты праўду кажаш. Час не для мядовага месяца... Самалёты гудуць, усюды страляюць...

***

Калі ён вярнуўся з Чорнага мора раней часу і адзін, калі усе, хто ведаў, што хлопец з каханаю паехаў на Поўдзень на мядовы месяц, пыталіся, што здарылася, Антон мусіў усім адказваць аднолькава:

– Не сышліся характарамі.

2007 г.

**АНАТОЛЬ БРУСЭВІЧ**

# Бясконцае падарожжа

## Дэкадэнты

Пад ціхія апладысменты
Прыгожых дзявочых вачэй
Нараджаюцца дэкадэнты
І сцякаюць слязой па шчацэ.

Нехта з іх высыхае светлым,
Нехта чорны пакіне пас,
Нехта будзе проста паэтам,
Нехта будзе простым як сказ.

***

Засталася адна толькі радасць –
Цыгарэта і пару запалкаў.
На пашарпаным катафалку
Едзе восень з-за далягляду.

Засталася адна толькі мэта –
Адмаўляць існаванне канонаў
І, бы яблык, каціцца з адхону
У адхланне вар’яцкага лета.

***

Мой дом – не дом. У ім цяпер бардэль,
Альбо гатэль для правінцыйных хамак.
А я нібыта п’яны карабель,
Ніяк сабе не вызначу напрамак.

Куды ісці? Навокал толькі ноч.
Густы туман закрэсліў далягляды.
Жыццё  – як чорна-белае кіно,
А я зусім застаўся па-за кадрам.

Мая душа скупалася ў віне
І, нібы камень бел-чырвона-белы,
Упала і стаілася на дне
Прыгожых слоў і позіркаў здранцвелых.

***

Мне не патрэбна славы.
Слава – золата мёртвых.
Славай латаюць слабасць
Людзі нізкага лёту.

Мне не патрэбны грошы.
Грошы – шчасце для хама.
Цешыцца імі пошла,
Як гандляваць у храме.

Мне не патрэбна ўлады.
Ёю трызняць плебеі.
Зброя для ўлады – здрада.
Буду бяззбройным лепей.

Толькі на гэтым свеце
Мала хто будзе рады
Вымесці з душаў смецце
Славы, грошаў і ўлады.

***

Недапітую пляшку сусвету
Я пакіну цвярозым нашчадкам.
Нехта вып’е і стане паэтам –
Памяняе душу на асадку.

Хтосьці вып’е і стане свабодным,
Ашукае і час, і прастору,
І на беразе Буга ці Нёмна
Адбудуе Садом і Гамору.

Нехта вып’е і будзе шчаслівым,
Бо адменіць усе эталоны.
Ну а нехта з нашчадкаў не вып’е,
І не скоціцца ў Лету з адхону.

***
Свет даўно разваліўся на часткі:
Між мінулым і цьмяным будучым –
Рэчаіснасці страшная пастка,
У якой плача дух неўміручы.

У нябёсах памерлі аблокі.
Смокча сонца іх трупы чорныя.
Позірк жаху ляціць высока.
Позірк Бога глынае прорва.

## Пустэча

Пустэча твару не мае,
Пустэча нямая.
Голас пустэчы – вечар.
У чорнай вачніцы студні
Мой твар – ён пусты і сумны.
Пустэчай заўжды сагрэты
Адно дэкадэнты.

## Бясконцае падарожжа

Аднойчы па хвалях начных навальніц
Адплыў карабель майго дома
У мёртвую далеч, з якой не прыплыць
Назад да бацькоўскіх парогаў.

Ці мог шкадаваць я, што буду вось так
Бадзяцца ад краю да краю
Бясконцых прастораў унутраных шахт
У пошуках пекла і раю?

Ды што шкадаваць? Свае карані,
Якія, змяніўшы на крылы,

Не здолеў ніяк адарваць ад зямлі
Дзядоўскіх замшэлых магілаў?

Няможна ўздымацца вышэй за крыжы,
Што верна вартуюць Радзіму.

Таму і адплыў я ў начныя дажджы
Пад спеў пахавальнага гімну.

**Бітва**

Мае сябры мячы перакавалі
І адышлі ў бліскучыя лугі.
А ворагі наадварот – не сталі
Мяняць мячы стальныя на плугі.

Стаіўшыся, стаю на полі бітвы,
Сціскаю меч, але ржавее ён,
І апякае пылам аксамітным
І без таго гарачую далонь.

Смяецца хеўра ворагаў здзічэла
З мяне, майго мяча, маіх сяброў.
Мая ж душа на неба паляцела,
Бо Беларусь паклікала дамоў.

***

Чалавек, адказны за Бога,
Пагражае мне пальцам строга.

Я ж, каб ведаць, чаго ён хоча,
У адказ пазіраю ў вочы.

Чалавек, за Бога адказны,
ў маім позірку бачыць абразу.

Ён злуецца, што нейкі хлопчык
Не баіцца ўзірацца ў вочы.

Чалавек, адказны за Бога,
Больш прывык, каб глядзелі ў падлогу.

І таму ён пырскае фразай:
«Я, ці ты –  хто за Бога адказны?»

## Вясна ў Гародні

**I**

(Гарадзенскі нацюрморт)

Раніца. Кетчуп зарніцы
Разліты па-над сусветам.
Сонца засохлым грэйпфруктам
Спіць на сурвэтцы Нёмна.
І толькі небу ня спіцца.
Нябёсы мараць пра лета,
Якое яшчэ ня хутка
Пакліча іх голасам сонным.

**II**

У першых вясновых бясколерных кветках
Стаілася восень.
Вярнуліся птушкі з мінулага лета
У родныя гнёзды.

То вецер з дажджом, то зноў за вакном
Прыгожа і ціха.
На плошчы флагштокі з чырвоным сукном
І Ленін як фіга.

**III**

Залатыя цыбуліны цэркваў
Пачарнелі ў Вялікі пост.
На кальмарах падрэзаных дрэваў
Адплывае зімы хаос.

У прамерзлыя хаты сэрцаў
Праз раскрытыя форткі слоў
Урываецца вольны вецер
Несвабодным думкам назло.



**АКСАНА ДАНІЛЬЧЫК**

# З вышыні сваіх аблокаў

***

на беразе гэтай ракі
цвітуць незвычайныя кветкі
на беразе гэтай ракі

па беразе гэтай ракі
гуляюць адзінарогі
па беразе гэтай ракі

і што гэта там за жанчына
на беразе гэтай ракі
і што гэта там за жанчына

глядзіць задуменна на хвалі
са стромкага берага рэчкі
глядзіць задуменна на хвалі

на сініх гайдаецца хвалях
падступнага ворага цела
на сініх гайдаецца хвалях

між водарасцяў праплывае
забытага ворага цела
між водарасцяў праплывае

да самага сіняга мора
бязмежнай прасторы нябыту
да самага сіняга мора

туды дзе не памяць а вечнасць
як рыба глытае ўспаміны
туды дзе не памяць а вечнасць

а тут скарпіёны як богі
і кветкі і адзінарогі
а тут скарпіёны як богі

і вада
што мае здольнасць
прымаць любую форму

***

Крыху злосна, крыху саркастычна,
але даволі дэталёва
рука стварае гравюру,
на якой твае вочы,
аддзеленыя ад астатняй часткі твару,
палююць за феерверкамі
у начным небе
па-над горадам,
імя якога так і застанецца
для цябе невядомым.
З адваротнага боку
будзе стаяць подпіс:
дата, месца і нават
дакладны час,
каб не забыцца,
калі адбыўся апошні выбух.

***

гэты дом не мае гісторыі
адсутнасць рэчаў у ім
як адсутнасць папярэдняга існавання
усё выцерта вынесена перапынена
нічога не было

цяпер мая блакітная кроў
выцякае з венаў на шпалеры
і надае ім колер марской глыбіні
чакаю залатых рыбак

***
каляды гэта
калі запальваюцца мандарыны
а дым у вечаровым небе зліваецца
з аблокамі
брутальнасць крывавых сцэнаў
яшчэ далёка
паўсюдна перакрыжоўваюцца
ўспаміны
пра тое як некалі
пра тое як учора
пра тое як
пра тое

у цёмных вышынях
спяваюць зоры

***
О, радзіма мая,

ты як спрут.
Адчуваю на целе
восем шчупальцаў:
заставайся са мною, тут,
у маіх вірах,
у маіх барах,
у маіх пясках,
назаўсёды і
неаддзельна.

О, радзіма мая.

***
Доўгая вузкая вуліца
з аднапавярховымі думкамі абапал
і перыядычнымі штуршкамі ў спіну:

*прайдзі праз мяне.*

Не спатыкайся і трымай раўнавагу:

*глядзі на мяне.*

А ты хто,
агент невядомага фронту?

Ты назіраеш за мною,
павекі нібы аканіцы,
ты хацела б, магчыма,
сёння ўночы мне нават прысніцца
і ўвайсці ў маю падсвядомасць,
і даведацца, што там,
а пасля панаставіць жучкоў
і употай
слухаць шэпты і стогны,
і глытаць мае слёзы радасці,
бо гэта твая работа.

І ў дадзеным разе
вялікая ўдача,
што я цябе
проста не бачу.

*Мая герудатэрапія.*

***

ты маеш права як пясок як фарба разліцца па шурпатае паверхні
забіць атворыны і голас ветру
раптоўнай немагчымасцю заглохне

ты маеш права выпусціць уночы усіх прыручаных гіганцкіх
скалапендраў
расчысціць вуліцы а з самых нетраў
пачуюцца настойлівыя крокі

ты маеш права кажаноў-вампіраў раптоўна выправіць на пошукі
здабычы
і на гламурны да аскомы *party*
з'явіцца ў непрадбачаным абліччы

ты маеш права на гульню з сабою

каб адыходзячы
пабачыць тое
што бачыць ястраб з вышыні сваіх аблокаў

***

калі ты марыш то перад вачыма паўстае
такое рэдкае ў нашым краі
спалучэнне фарбаў у стылі Ван Гога
жоўта-памаранчавы і цёмна-сіні
жоўты знізу сіні зверху
пустыня і неба
бераг і мора
сіні знізу жоўта-памаранчавы зверху
мора і бераг
або мора і заход сонца
усяго толькі
мяняй месцамі сіняе з жоўтым
дзеля таго, каб змяніць карціну свету
усміхніся
як мала трэба
каб стаць філосафам



## АЛЕСЬ КАСКО

# Роска, або Пакінутая выжыць

1

Зараз яна, калі б хто яе бачыў, нагадвала самотнае паганскае божышча, сіва-белае і доўгавалосае, што заняло гэтую паўцёмную апусцелую чатырохсценку, каб нарэшце адгарадзіцца ад ліхога, апастылелага свету. Аднак свет зноў і зноў упарта нагадваў пра сябе, і Роска наструньвалася, чуйная да таго, што чынілася на дварэ. Рану яна ўжо залізала, крыху сцішыла боль, падабрала кропелькі крыві з падмоклай і без таго саломкі, на якую клалася пярэднімі лапамі і галавою, каб адпачыць. На спіну раз-пораз сцякалі халаднаватыя дажджынкі, аднак сука не сыходзіла з-пад іх: страха ў хляве свіцілася паўсюль, а ля самых варотаў ужо стаяла лужынка.

За варотамі, у хлюпаце двара, грызліся між сабою яе дзеці. Яны шалёна храплі, гыркалі, стукаліся аб хлеў, не здатныя падужаць адзін аднаго. Іхняя валтузня абуджала ў Росцы то страх, то ярасць. І тое і другое зыходзіла ад бяссілля. Яна была слабейшая за кожнага з іх, чатырох самцоў, і не падобная да іх, вялікагаловых, іклатых, з настабурчанай шэраю поўсцю на загрыўках і шырокіх лапатках. Роска, як бы ні прагнула, больш не магла напаіць іх сваім малаком або ўціхамірыць іначай – рашучым позіркам, як нярэдка абыходзілася раней з бездапаможнымі, хоць і тады ўжо настырнымі шчанюкамі. Разагнаць, прыструніць забіякаў змог бы толькі чалавек: гаспадар ці нават Санік. Першы – уладным крыкам, другі – пранізлівым плачам, а не дык замашною пугаю, з якою амаль штодня, пасля вясновага і да восеньскага снегу, хадзіў за каровамі. Росцы падабалася дагаджаць яму, яна зазвычай не чакала ягонай каманды і бегла заварочваць траіх рагатых шкодніц ад жытнёвага поля або ад стажка сена на ўзбалотку. Санік у такім разе частаваў памочніцу кавалкам хлеба ці салодкага блінца, гладзіў пры гэтым па ўскудлачанай грыве. Але тое ўсё было так даўно. Зараз тут людзі, да якіх прыкіпела ўсім нутром і вобразы якіх наплываюць парою ў мроі-тумане, ужо зусім не паказваюцца.

Калі бойка ў двары прыпынялася, Роска чула, як храбусціць голая і цвёрдая, бы камень, костка на зубах у наймажнейшага са шчанюкоў –

адваяваная ім спажыва. Астатніх адольвала знямога, і яны адсопваліся, адлежваліся, смокчучы ўласную кроў, – залізвалі раны.

Роска была радая гэтым хвілінам. Супакоена корпалася вакол сябе ў саломцы, вышчыпвала зубамі выпадковае зярнятка ці жавала ссохлую, але яшчэ не распыленую, бо набралася вільгаці, зялінку. Хлеў быў яе сховаю і яе пасткаю. Яшчэ тады, як дзеці гняўліва ашчэрыліся на яе ўпершыню і яна адказала ім той жа непрымірымасцю, Роска заўважыла прысыпаны парахнёю пралом у сцяне хлява – невялікі і акруглы, бы лісіная нара; яна сцяміла, што тая акругліна і ёсць яе адзінае выратаванне. Уцякаць больш не было куды: проста перад ёю і злева ад яе шчыльнілася заслона з шумавінных пашчаў і маладых нязломных лапаў. Справа, на высокім калодзежным зрубе і гэткай жа трывалай глухой браме, акляпанай жалезам, ляжала суцэльным друзам страха з шыферам і некалькімі цаглінамі ад коміна. Не заскочыць і нават не закараскацца на такую крэпасць.

Не, Росцы падзецца не было куды, а толькі ў гэтую нешырокую адтуліну за сабой, адкуль час ад часу павейвала пахамі прэлай саломы. Першы наскок зграі яна вытрымала, няхай і паплацілася шматкамі сваёй доўгай поўсці і парваным сухажыллем на правай пярэдняй лапе. Яе апірышчам аказалася сцяна, аб якую яна спачатку абаперлася ўсім хрыбетнікам, выстаяла, каб тут жа моцна адштурхнуцца заднімі нагамі. Найдужэйшы з нападнікаў кульнуўся на спіну, і яна праляцела над ім, апусцілася на крокі два далей. Каб не праклятая загарадзь з калоў наперадзе, Роска вырвалася б на волю. Аднак давялося не марудзячы завярнуцца і кінуцца, віляючы паўз агаломшаных сабак, у пралом у хляве. Застрамілася ў ёй на хвіліну, запульсавала ўсім целам і ў рэшце рэшт апынулася ўсярэдзіне. Пад яе напорыстасцю верхняя частка сцяны асела і зрабіла адтуліну завузкай, каб пралезці мажнейшым за яе, тым, хто застаўся ў двары. У першыя хвіліны Росцы мроілася гэтакая ж выратавальная дзірка-праломіна і ў сцяне насупраць. Яна вынюхвала, шукала яе ўпарта і мітусліва, але скразнога шляху для ўцёкаў так і не знайшла. А там жа, па той бок сцяны, была дарога, якою калісьці яна ляцела за машынаю доўга-доўга, да бяссільнай роспачы.

2

– Роска, Роска! Сюды, на-цю-на! Даганяй!..

Санікаў голас гучаў нават і тады, калі за пылам і газам знік грузавік, на якім між клункаў сядзеў хлапчук, яе сябар і абаронца, поруч з бацькам. Бацька адной рукой трымаў яго за плечы, другой гразіў ёй, Росцы, што спачатку дужа і шпарка, потым усё слабей гналася ўслед:

– Вон! Ма-а-рш дадому, ну!

Гаспадар прагнаў яе яшчэ на двары, сцёбнуўшы дубцом і папусціўшы ў яе палкаю. Яна адбеглася. Стаяла за яблыняю і не рашалася наблізіцца.

Мо да канца выканала б волю чалавека, калі б, ужо седзячы ў кузаве, не паклікаў Санік.

Цяпер іх не было, як не было і сілы, каб збегчыся з машынаю. Дый нельга было далей. Роска, калі развеяўся пыл, убачыла наперадзе чужых людзей: перагарадзілі дарогу даўжэзнаю паласатаю жэрдкаю, а ўлева і ўправа ад яе нацягвалі драціны. У некаторых мужчын віселі на рамянях кароткія стрэльбы, не дужа падобныя на паляўнічыя.

Яна пасядзела, паўзіралася і – заскавытала, хапаючы паветра перасохлым ротам. Двое здалёк заўважылі, пачулі яе, пачалі набліжацца, клікаць, але зычлівасці ў іхніх галасах Роска не ўлавіла. Паднялася і патрухала па дарозе ў адваротны бок, потым, калі разварушаныя ногі падужэлі, прыпусціла наўскач да свайго двара. Там расцягнулася на ганку хаты перад шчыльна зачыненымі і перакрыжаванымі дошкамі дзвярыма ды і знепрытомнела да самага золку. На золку звычайна прачыналіся ўсе: спяваў певень, гергеталі гусі, рыпелі дзвярыма і бразгалі вёдрамі людзі. Роска вітала гаспадыню перад сваёю будкаю, падстаўляла галаву пад незанятую яе руку. Жанчына хавалася ў хляве, а неўзабаве ішла назад і налівала ў місачку цёплага малака.

Малако і зараз бялелася ў місачцы. Яно было даўняе, нясмачнае, аднак Роска мусіла наталіць смагу і перабіць голад. Да мяшанкі ж у вялікім чыгуне і да горбачкі костак каля яго не прыпала. Не адна ноч і не адзін дзень павінны былі прамінуць, каб Роска пакрысе асвойталася ў гэтым ачужэлым раптам двары, напоўненым цішаю і нудою.

Ужо ўпаў першы ліст, калі смутак адзіноты змяніўся вострым неспакоем. У маладой самкі пачынаўся гон. Яна прагна ўнюхвалася ў пахі лесу, пільна ўслухоўвалася ў далёкі сабачы брэх за ім, нарэшце не ўтрымалася і па вузенькай сцяжынцы пабегла насустрач. Ледзь-ледзь засвіцілася скрозь рэдкую лістоту дрэў вёска на ўзгорку, як нечакана бахнуў адзін стрэл, за ім другі. Сабачы брэх саступіў віску і енку. Інстынкт падказаў ёй, што гэта не простае паляванне на зайцоў або лісіц, што трэба як мага хутчэй уцякаць адсюль. Так і жыла, вярнуўшыся, у пакутах паміж адвечным клічам і страхам.

Страх аднойчы ўвасобіўся ў людскія цені-постаці, што з’явіліся за плотам. Роска не паспела добра разгледзець іх, стоеная за будкаю. Першы стрэл змусіў яе выскачыць з хованкі, другі моцна апёк яе за вухам і пагнаў прэч паўз хлеў, дрывотнік, па збуцвелым бульбоўніку ў ельнік. Яна аддалялася і аддалялася ў гэты цёмны лес, дзе ніколі дасюль не была. Праляжала ноч на іглíцы пад ялінаю. Досвітак не ўзбадзёрыў: у кожнай дрэвіне, раздвоенай ценем, бачыўся страх. Яна падалася яшчэ глыбей у гушчар, нібыта незнаёмы лес меўся не толькі схаваць яе ад людзей, ад самотнага і знепакоенага хутара, але і збавіць ад невыноснай, неспатоленай прагі… З-пад галля бліснулі вочы, асветленыя першымі сонечнымі промнямі. Ветрык дзьмуў акурат з таго боку, але яна не адразу

адрозніла ваўчыны пах ад сабачага. Усяго аднойчы яна чула яго, калі воўк сярод белага дня прыходзіў на хутар і на яе вачах украў з загародкі парася. Роска была тады на прывязі, а на яе лямант ніхто з хаты не выйшаў: усе яшчэ цёмначы кудысьці паехалі на кані возам. Яна і зараз апынулася сам-насам з драпежнікам, аднак не падобным да таго, колішняга. Яго позірк, спачатку востры і пагрозлівы, памякчэў і засвяціўся прыязнасцю, ноздры прагавіта раздзьмухваліся і цягнуліся насустрач. Роска не скранулася з месца, замахала хвастом у чаканні любошчаў…

3

Сабакі-ваўкі за варотамі хлява крыху супакоіліся нанач. Але бурчалі і ў сне, зрэдку перагрызваліся. Спаць ім не даваў голад. Яны і гадавалыя смакталі матчына малако, рвалі яе ўсохлае падчарэўе, патрабавалі спатолення і кусалі моцнымі зубамі за морду, за вушы. Ім усё роўна было, здатная ці ўжо не здатная маці накарміць іх.

Роска нарадзіла шчанюкоў удалечыні ад двара, часта пакідала іх адных, каб папоўніць свае сілы лёгка высачанымі, ды нялёгка выкапанымі з-пад карэнішча мышамі, спелымі і пераспелымі ягадамі – іх, чорных і чырвоных, удосталь было – ці выпадкова злоўленаю дробнаю птушкаю. Калі ўзяліся прымаразкі, а потым лёг на зямлю сняжок, Роска павяла сям’ю на хутар, што вабіў недаедзенымі косткамі ды мроямі пра хлеб і малако, пра нязменную клапатлівасць гаспадыні, Саніка і нават гаспадара, які злаваўся не заўсёды.

Тая зіма была амаль бясснежная, і пракарміць вывадак абнадзеенай Росцы напачатку ўдавалася. Яны ўсе разам хлябталі ваду ў расколінах лёду, адшуквалі рассыпанае збожжа пад паветкаю, прывыкалі да яблык-паданак і груш-гнілушак. Развальвалася ж і прападала сямейная лучнасць з-за костак і костачак, якія трапляліся ўсё радзей, ды з-за кожнага злоўленага мышаняці. Роска тады не пазнавала дзяцей: яны схільныя былі загрызці адно аднаго, абы спажыва дасталася самаму спрытнаму, хай адшуканая і не ім. Знаходка ці здабыча нарэшце з’ядалася, і чатыры пары вачэй утаропваліся на маці. Тады ўсе чацвёра былі заадно, ператвараліся ў зграю, гатовую рынуцца і на яе.

Ім трэба было мяса. Яны ўсё часцей сыходзілі з двара на цэлыя дні, гойсалі па лесе, бывала, вярталіся сытыя, памяркоўныя, безуважныя да ўсяго. Двое залазіла ў яе будку, двое ўлягалася побач, і ўсе задаволена мармыталі, злізваючы з пысаў свежую кроў. Роска назірала за імі зводдаль, чакала, пакуль паснуць, і ўкладвалася на ганку хаты сама. Але так было адно зрэдзьчасу, звычайна палявальшчыкі прыходзілі паўга-лодныя і лютыя, і тады Роска ўцякала ад іх.

Іх і тым адвячоркам не было ў двары. Роска скрозь дрымоту лавіла іхняе вяртанне, як раптам пачула выключна адрозны пах. Ваўчыны.

Скінула з сябе дрымоту, выпрасталася, падуладная знаёмай позве. Але ступіла з ганка адно крок-другі. Спынілася, збітая з тропу сярдзітым шматгалосым гыркканнем, ляскатам зубоў і балючым вішчаннем. Хвіліна – і яна прыйшла ў сябе, адрэагавала па-звыкламу: якая б ні чакала небяспека, умешвацца ў сабачыя катавасіі ці спачатку павіжаваць вакол іх, каб улучыць момант. Блыталася ў кустах і ў лясным валежніку, бегучы напрасткі. І ўсё роўна прыпазнілася. Калі дамчалася да месца бойкі, воўк (нюхам і зрокам яна распазнала яго) ужо пакінуў супраціўляцца, а сабакі ўсё шкуматалі і шкуматалі ягонае цела…

…Хлеў, ратунак яе і пастка, зноў ажыў. У праломіну ўбіваўся галавою, лез капцюрыстымі лапамі найдужэйшы з яе дзяцей. Намаганні былі настырнымі і назойлівымі. Роска гучна рычала на яго зводдаль, адзін раз наблізілася і драпнула здаровай лапаю па ягонай пысе. Ёй абрыдлі яе вязніца, бясконцыя пакуты ад няпэўнасці і безвыходнасці, ад гэтага безвыніковага супрацьстаяння на адлегласці. А больш за ўсё мучылі голад і смага, наталіць якія немагчыма было бруднаю, прапахлаю гніллю вадою з лужынкі каля варотаў.

Супрацьстаянне скончылася знянацку – стрэламі і людскім галёканнем. Ішло паляванне на сабак – на яе дзяцей. Заенчыў адзін, за ім другі… З разгону, з усіх сіл Роска прабіла трухлявыя абломкі сцяны вакол адтуліны і выкінулася ў двор. Два сабакі, першы пад сцяною хлява, другі недалёка ад яблыні, ляжалі ўжо нерухомыя. Яшчэ адзін круціўся, віляў паміж рулямі дубальтовак, што наравілі тыцнуцца яму ў пашчу, у бок, але чамусьці не выдыхалі агню і дыму. Чацвёрты, самы дужы з іх, з акрываўленаю галавою, сядзеў на прыгнутых лапах, увесь пружыністы, рашучы, і рыхтаваўся да скачка. Роска апярэдзіла яго. Збіла з ног напалоханага чалавека і пачала ўскарасквацца на браму з паваленай страхою. Другі чалавек ударыў яе па хрыбетніку, потым па галаве, і Роска ўжо не бачыла, кінуўся ў смяротную бойку ці не яе самы дужэйшы сын.

# Працяг дзённікаў Сакрата Яновіча

**28.09.2008**.

Закончыліся тыднёвыя парламенцкія выбары ў савецкай Беларусі – 100 працэнтаў мандатаў узялі саветы; беларусаў няма. Капец нацыі!

Беларус – гэта грамадзянства заходніх рускіх. Рыхтык polscy Białorusini. Я ўсё больш хворы. Дабівае і ўнучка, палятуха.

**23.10.2008**.

У сённяшнім "Кур'еры паранным" Беласток – гэта горад фашыстаў, расістаў. Маё выказванне ў тым духу: уся бяда бярэцца з галоты, цемната таксама. І саветызм.

Перажываю бяду з Хмялеўскім. Ганяецца за грашыма. Зусім не развіваецца. Увык махляваць. Гладка гаворыць. Слова ў слова савет. Ужо два месяцы будзе, як ігнаруе мантаж "Году Беларускага" на 2009-ы, нягледзячы на тэрмін выкарыстання датацыі да паловы снежня.

Гэтае мужыцкае дзіця лічыць, што абдурыць свой жыццёвы лёс хітрыкамі, "слаўнымі" знаёмствамі. Кепскі яму прыклад дае Лёнік /.../, які едзе на голым таленце.

Хмялеўскага неўсвядомленая драма ў тым, што ў яго няма выдатнага таленту, а толькі ілюзіі.

**Польская Каляда 2008.**

Пад канец году сыплюцца справы, пераважна фінансавыя, (рахункі і падрахункі).

Дзевятнаццатага надвечар звазілі мяне ў беластоцкі ўніверсітэт на сустрэчу з вялікай групай савецка-беларускіх навуковых аспірантаў з польска-беларускай тыднёвай школы імя Каліноўскага, (Studium Europy Wschodniej пад кіраўніцтвам праф. Маліцкага).

Добра слухалі мой выступ і прост расхапалі прывезеныя мною кніжкі, (дзесяткі "Году Б.", ”Пад знакамі Арла і П.", "Доўгую сьмерць Крынак", і цэлую кіпу іншых з маіх запасаў). Яны ўсяго таго і ў вочы не бачылі!

У першы дзень каталіцкіх Калядаў мінскае тэлебачанне перадавала ў вечаровы час (20.00–22.00) запіс варшаўскага канцэрту "З любоўю з

Беларусі". Гэтая, вельмі беларуская, перадача мусіла аказаць велізарнае ўражанне на замаскаленую публіку! Знакавая падзея.

Крынкам вернуты з Новым 2009 годам гарадскія правы, аднятыя ў 1950 -ым. Позна, бо Крынкі ўжо зусім звясковелі; амаль прапала ўсякая вытворчасць у іх.

Беларуская мяншыня ўжо ўся перабралася ў Беласток, акрамя Бельска, Гайнаўкі... Няма з кім што-лень патрыятычна-беларускае рабіць; толькі за грошы.

У газеце "Rzeczpospolita" з датай 13-га студзеня дакументальная публікацыя, ад якой можна расхварэцца: Праваслаўная Царква ў Польшчы /і не толькі/ была фактычна філіялам тайнай палітычнай паліцыі! Уладыкі яе – быццам афіцэры ... Так было заўсёды, ад пятроўскіх часоў.

Доўгае пісьмо ад Мальдзіса: беларуская дзейнасць – гэта самотніцтва, свайго роду манія. Адам усё нешта робіць, хоць ніхто ад яго не чакае нейкай актыўнасці, тым больш нацыянальнай; патрэбны ён саветам у дыверсійных мэтах.

**27.01.2009**.

Тадэвуш Вілян, даўно сябруючы са мною ольштынскі немец, даслаў тутэйшы бюлетэнь "Debata” за студзень, у якім надрукаваны дакументальны тэкст пра маё супрацоўніцтва з СБ. Даволі зласліва падабраны факты... Не варта рэагаваць, не будзе адбою.

Адчуваю сябе ўтомна. Пачнуць кусаць мяне курвы.

**15.03.2009**.

Выйшла "Хатняе стагоддзе” /250 экз./. Разаслаў на паўсотні адрасаў, у Польшчы і за мяжою; насіў на пошту торбамі .

Трэба думаць аб выданні шматтомніка, напр. трох тамоў – адзін паэтычны, другі з аповесцямі, і трэці з эсэ. Можа на сродкі вроцлаўскай Калегіі Усходняй Эўропы. І адкуль узяць рэдактара?

Мус рыхтаваць сёлетні Беларускі Трыялёг – міністэрства дасылае 20 тысяч.

Са здароўем лягчэй. Набліжаецца вясна. Слабеюць вочы.

**19.03.2009.**

У беластоцкім TV перадача пра паэта Веслава Казанэцкага, доўгая /19.00–20.00/. Пераплеценая маімі ўспамінамі, даўно сфільмаванымі каторагасьці году ў крынскім доме. Паўсталі ўваччу вобразы мінулых часоў, у Беластоку, асабліва шасцідзесятых гадоў. Памёр Казанэцкі раптоўна, каля дзесяці гадоў назад, /у пяцьдзесят/?

**23.03.2009**.

Сяргей Чыгрын рэцэнзуе маю творчасць – у сённяшняй "Ніве" і ў

заўчарашняй "Народнай волі”. Любіць маё.

**31.03.2009.**

Напрыканцы месяца – аўтарскія сустрэчы: 25-га ў Гарадку, у Дзень Волі, і 26-га ў Беластоку, у галерэі "Арсэнал", у імпрэзе прысвечанай шматкультурнасці рэгіёна. Перад беластоцкай, студэнцка-прафесарскай публікай моцна выступіў др. Дарыуш Кулеша з добрым аналізам маіх кніжак.

Дзень у дзень думаю, як арганізаваць сёлетні Беларускі Трыялёг. Каго запрасіць і дзеля чаго? Ад саветаў і з арэалу нямецкай мовы... Іншыя не адгукаюцца. Магчыма, вычэрпваецца сама ідэя.

**01.04.2009**.

У "Часопісе" /№ 4 / Юрка слушна заўважае процібеларускія адносіны з боку польскага Інстырута нацыянальнай памяці. Удараюць па маральных аўтарытэтах, абезгалаўляюць нацыю; таксама польскую. У агентурнасці можна папракнуць кожнага, гістарычна віднага, дзеяча – Пілсудскага і Леніна, Тарашкевіча і Сікорскага, і легіён пісьменнікаў. Іх чапляюцца людзі-нулі, бесталентныя кар'ерысты.

**27.04.2009**.

Месяц без дажджу. Суша. Гарачыя вятры /каля 25 градусаў/. Няма істотных водгукаў на запрашальныя пісьмы на Беларускі Трыялёг. Адгукнуліся: Вашкевіч, Карнялюк, Тарановіч, Казлоўскі. Эўропа маўчыць. Вычэрпваецца канцэпцыя.

**Май 2009.**

Дні і тыдні над знакам гіганцкай "Księgi Wielkiego Księstwa Litewskiego" , /3,5 кг 1 экз./. Фантастычная работа А.Струмілы! Больш дзесяці маю ў якасці дарунку ўдзельнікам Б. Трыялёгу.

Публікацыі пра "Кнігу" у "Газэце выб." – беластоцкай ад 11.05. і ў "Ніве" ад 17.05., а таксама ў "Нашай Н." ад 13-га. Будуць яшчэ м.ін. у "Часопісе”.

Лісты – ад Ляяша; студэнт Пэтэр цікавіцца Трыялёгам; Антон Рафо ўсё марудзіць з італьянскай анталогіяй бел. паэзіі; Тарановіч не кантактуе з бел. эмігрант.

У "Нашай Ніве” – адкрыты ліст Лукашэнку ад дачкі славутага партызана Бумажкова, /13.05./. Савецкае дуралобства рэжыму Рэспублікі Беларусь! Сенсацыя!

Канец /.../ з /.../ Лёнікам – у сённяшнім яго інтэрв'ю ні слова пра маю з Юркам дзейнасць з ім у Гарадку, ні слова пра Беларускае Дэмакратычнае Аб'яднанне, дзякуючы якому правёў ён змену ўлады ў мястэчку, гміннную рэвалюцыю./.../ Публ. ад 04.06.

Мой аўтарскі вечар у крынскай бібліятэцы, у пятніцу 22-га, /16.00 – 19.00/: каля дваццаці слухачак, /адзін мужчына/. У танацыі "Хатняга стагоддзя" і "Кнігі ВКЛ".

**02.06.2009.**

Капітальны тэкст Зямкевіча "Wolność na folwarku". У нядзельнай „Rzeczpospolita”! Быццам паўтарыў ён мае разважанні.

У чэрвеньскім "Часопісе" шмат на тэму майго лёсу: тэксты Юркі Хмялеўскага, Яна Максімюка; і ў распыленых занатоўках. Паступова прымаюся за сёлетні Трыялёг. Маю датацыю.

**03.06.2009**.

У нядзельным савецкім тэлебачанні адбыўся вечарам канцэрт т.зв. зорак Беларусі; слухаў м.ін. Лукашэнка са сваёй, відацьме, каханкай. Было трохі беларускіх спеваў, але расчуліў мяне да слёзаў Аляксандар Рыбак, нарвежскі беларус і пераможца Эўрабачання, сваёй беларускамоўнасцю; усё ж нацыя спее ад захаду. Цудоўна выканаў ён "Купалінку" пад гукі скрыпкі.

**12.06.2009.**

Халодны месяц. Утомны – лішнія візіты, непатрэбныя справы. Цыбарты (4-5-ты). Потым валакіта з Юркам да Корбэля ў Белавежу, таксама на два дні з аўтарскай сустрэчай у асяродку Бушкі. Затым нечаканы прыезд у Крынкі савецкага Валодзіка Грыкі, сына брата маёй маці, /прывёз Лёва, сын яе сястры/. Далей – растэлефанаваўся Карнялюк: знайшоў выдаўцу яго гісторыі Крынак.

Пісьмы наконт Трыялёгу, цяжка з удзельнікамі, /.../.Толькі сёння пярэдых. Субота, 13-га, спакайней будзе.

**Ліпень 2009**.

Утвараецца фонд "Villa Sokrates”; першага былі ў натарыуса Дражджэвіча ў Саколцы са мною Лёнік і Юрка, /вазіў Грэсь/. Мэта: захаванне маёй творчасці, а ў перспектыве арганізаванне літаратурнага музея. Фінансава самастойнага. /.../

**25 жніўня 2009**.

Шмат здарылася да гэтага часу. Акуратна адбыўся дзесяты Трыялёг, але пасля расхварэўся; паратаваў Лёнік, выкупіўшы мне з Таняй санаторыю ў Друскеніках („Igla” 03–16/08).

У лапіцкіх Маршалкаў наладзіў Лёнік сваю выставу; будзе ад паловы жніўня да паловы верасня, прысвечаная маёй асобе! Хоча супра жыць. Імкнецца фіналізаваць Фонд Віла Сакрата дзеля фінансавай незалежнасці, /з'явіліся спонсары/.

Наведала мяне /26-га/ дваццаць студэнтаў – палякаў, немцаў, саветаў; гэта быў міжнародны лагер "Друмля", наладжаны Фондам Баторага слядамі памежжа.

**Верасень 2009.**

Пачатак 74-га году жыцця. Прыязджалі ўнукі, дзеці Басі.

Лёнік ладзіць мне з Таняй апеку – догляд дома, агарода, кухню. Хоча ўсё тое рабіць Мартына, дачка Міраславы Маршалак з лапіцкага хутара /агрaгаспадаркі/. У рамках будучага Фонду Віла Сакрата.

Днямі пасварыўся з Юркам Х. Вывеў мяне з цярпення сваім прасцяцкім неразуменнем вечнасці беларускай культуры і нявечнасці саміх беларусаў, іх данацыянальнага характару. Нацыі пакуль няма, але нацыянальная культура ўжо існуе! "Год Беларускі" яму гэта чыстае марнатраўства грошай, вось. Люд не любіць беларускай мовы, вокаімгненна пазбываецца яе.

Я ўсё самотны. Не хапае эліты, інтэлігенцыі. Душыць нас "образованщина". Цяпер мноства канчае вышэйшыя школы, а інтэлігентаў не відаць. Інтэлігентам трэба нарадзіцца, трэба бацькоў-інтэлігентаў, не мужыкоў.

**Кастрычнік 2009.**

Прыехаў неяк Міхась Андрасюк; узяць інтэрв'ю ў "Рацыю". Разгаварыліся. Пачуў ад яго, што ён... пераходзіць...на... польскую мову з парады Жэніка Кабатца, "Czarnorusina". От цо да!

Семнаццатага на семінары "Белавежы"; звазіў мяне Паўлік Грэсь. Малалікім, ветэранскім. Неяк упярэдадзень пазваніў Ясь Чыквін, старшыня яшчэ: нагода пад дзесяцігоддзе "Году Беларускага".

Я падрыхтаваўся, не прадчуваючы, што пачую публічна ад яго – экспансія беларускай літаратуры ў Эўропу гэта мой... лішні клопат, дарэмны занятак! Кожная літаратура цэнтрычная, беларуская таксама і "наплевать" на тое, ці хто ў свеце цікавіцца ёю.

Я адхварэў такую ацэнку. Зразумеў, што цярпець ён не можа кагосьці, хто раўня яму. Толькі ён галоўны!

Непатрэбна злуюся; ужо даўно бачыў я ў ім "прафесарскі эгаізм" у стылі "Дяди Вани".

У панядзелак пасля "чыквінавай" суботы атрымаў судовую легалізацыю /рэгістрацыю/ Фонду Вілы Сакрата, натарыяльна заснаванага 1-га ліпеня; намарудзіў Юрка Хмялеўскі, якому даверана фармалізацыя.

**22.10.2009**.

Мая аўтарская сустрэча ў крынкаўскай школе, /10,00-12,00/. Слухала каля сотні гімназістаў. Арганізатар: асяродак кульруры, /Эльжбета Чаромха/. Сваю польскамоўнасць насыціў беларускай культураю і "яцвяжскім" патрыятычным гістарызмам, каб паслабіць каланіяльны паланізм.

**23.10.2009.**

Заказаны візіт кіраўнічак музеяў у Беластоку і Бельску, Тамальскай і Дэмбоўскай, /12.00–14.00/. На маё здзіўленне, арганізуюць галерэю... беларускага мастацтва, жывапісу, /адкрыццё ў верасні 2010 г./. Зусім у духу... Фонду Сакратаса!

Пад вечар звалокся Юрка, сябар майго брата Сашы, і п'яная чарада энтузіястаў маёй творчасці; сялянскія мяшчане выбраліся наведаць абезлюдзелую Малую Айчыну, сваё ўспомненае дзяцінства; узялі "Хатняе стагоддзе".

**26.10.2009**.

Ахвяра робіцца падобнай да свайго мучальніка, /закон/. Беларусы, жахліва запакутаваўшы ў вайну фашызмаў, пераўтварыліся ў народ таталітарыстаў, таксама дзякуючы сваёй вясковай забітасці.

**30.10.2009.**

Праездам да граніцы наведалася двух маладзёнаў з мінскай пракуратуры – пад апекаю крынкаўца Вансовіча з ваяводскай камендатуры паліцыі. Я ім бы экспанат, хоць добра гаварылі па-беларуску; нават і той Вансовіч. Купілі ўсе "Хатняе стагоддзе", /за 20 эўра 3 экз./. Сваяк аднаго з саветаў піша бел. песні.

**01.11.2009.**

Не сустраканая ў Эўропе – магільная істэрыка! Zaduszki. Адпачываў, пасля ўчарашняй утомнай гутаркі з Паўлікам: усё застыла з арганізацыяй Фонду В. Сакратаса. Падобнае на нейкую дыверсію, каб нічога не ўдалося...

Заўтра еду да свайго лекара Аксюціка.

**11.11.2009.**

Дажджы, дажджы. Цёмныя дні. Соннасць, паганы настрой. Не магу аду мацца.

Быў Аляксей Пяткевіч, гродзенскі прафесар, /05-06/. Дзякуючы Карнялюку, з якім трымаю сувязь. Аляксей згодны стаць рэдактарам маіх кніжак у выдавецтве Лаўрова. Апрацавалі план. Будзе толк?

Учора надакучыла беластоцкая прафесарка Пірожнікава, /16.00-20.00). Этнаграфка.

Сёння ледзь жывы; нізкі ціск, але, на шчасце, невысокі цукар у мой дыябэт.

Балдак-Яноўская даслала тры свае свежыя кніжкі. Жывучая баба!

**16.11.2009**.

13-га ўвечары – свята Дзядоў у гміннай бібліятэцы, арганізаванае Лю-

цынай Юркевіч; выступіла Гражына Харытанюк з беластоцкай Кафедры бел. культуры, доктарка. Быў дзесятак інтэлігентных чытачак, /з мужчынаў я адзін/.

Назаўтра – надумаўся прапанаваць наладжваць у гэтым элітным местачковым асяроддзі Салон Люцыны. Нешта падобнае ніколі не было ў Крынках.

У суботу адвячоркам – наведаліся Лёнік з Паўлікам і Юркам, /выпівалі/. Я чакаў ад іх руху дапераду ў фіналізацыі Фонду Сакратаса /банкаўскае конта, пячаткі, спонсарскія намеры/. Але... поўная мяртвота, як і з "Годам Беларускім”. Вяскоўцы не ўмеюць арганізавацца; яны шукальнікі грошай.

Лёнік прыехаў, каб пакінуць мне сваё /чарговае/ інтэрв'ю, у гэты раз у нядзельнай "Рэчыпаспалітай". Радавацца?

**30.11.2009**.

Юрка: памёр ад інфаркту Януш Нічыпаровіч, /57/. Шумны некалі рэпартажыст – у часы "Кантрастаў” Крыжагурскага. Жыў гулякавата.

У гэты “вікэнд” наведалася ўнучка Оля, /вучыцца ў Элку, у фінансавым тэхнікуме/. Узяла ў мяне інтэрв’ю: маё ваеннае становішча ў снежні 1981 г. Ёй трэба як хатняя задача.

**13.12.2009.**

У першую дэкаду падрыхтаваў да друку наступны "Год Беларускі”, (найчасцей усякія рэзюме).

Праўдападобна 7-га памёр Радзік... Баюся пазваніць удаве; быў ён ва ўзросце майго Слаўка. Інфаркт?

Паслаў адказы на кантрольныя пытанні НІК: беларуская мяншыня прападае беззваротна на ганьбу Польшчы! Затапталі яе перш саветы.

"Часопіс" – гэта перыёдык палякаў, што цікавяцца беларускасцю; "крэсавая” экзотыка.

**15.12.2009**.

Польскасць засталася па-касцельнаму чужою, непрымальнаю. Беларускасць аб'явілася ўпачатку пяцідзесятых, у час вучобы ў Беластоку. У коле мяшчанскіх крынкаўчанаў ды іх знаёмых, усіх праваслаўных. Тады яны гаварылі па-беларуску.

**05.01.2010**.

У навагодні вечар прыехалі да мяне з Таняй маладыя Паўлік Грэсь з нарачонай Юлітай ды іх сяброўкай Кацярынкай. Весела, з віном і шампанскім. Былі да другой упоўнач; анекдоцілі, глядзелі тэлеканцэрт. На дне душы смутак – няма Беларусі. Саветы, саветы.

**01.03.2010.**

Амаль два месяцы не змог пісаць. Маразы і завейкі нагадвалі саракавы год, /прыход саветаў/.

У лютым нарэшце надрукаваў адзінаццаты "Год Беларускі" і разаслаў больш сотні экз. Трохі спяшаўся, каб не памерці... Грашыма – 5 тыс. – паратавала Маршалкоўская Управа Падляшша; на друкарню. На жыццё паратаваў сын Яраслаў; шмат каштаваў абагравальны алей.

Няспынная соннасць, вельмі нізкі ціск, кава не памагае.

**08.03.2010**.

Жаночы дзень, медыяльнае свята, па-мужчынску штучнае. Жыццё занадта кароткае, каб займацца драбязою.

Прасядзеў з Таняй перад тэлевізарам; канцэрты, канцэрты.

**09.03.2010.**

Упершыню ад некалькі дзён выйшаў у места; ратую ногі, пагражае ампутацыя. Моцны дыябэт. Уколы.

**10.03.2010**.

У бедных няма бацькаўшчыны – гэта адсюль кволасць беларускага патрыятызму.

**12.03.2010.**

Вялізная пасылка ад Макміліна! На звыш тысячы старонак энцыклапедычны даведнік пад яго рэдакцыяй пра пісьменнікаў Рэспублікі Беларусь, пачынаючы ад 1970 г.

Нямаш каму ў нас даць гэта на рэцэнзаванне. Як і "Кнігу Вялікага Княства Літоўскага" Струмілы.

У нас усюды чвэрць інтэлігенты, нават і тыя мужыцкія прафесары з менталітэтам "калхознікаў" .

Давялося пабыць на вернісажы фотаработ Паўліка Грэся ў беластоцкім “Арсэнале”. Вярнуўся ледзь жывы з гэтай натоўпістай імпрэзы, /абступілі мяне журналісты/.

**15.03.2010.**

Адчуваю сябе вельмі самотна. Адзінае, у што яшчэ веру – гэта ў вечнасць беларускай нацыянальнай культуры...

**ЮРЫЙ БАЕНА**

# Лета ў Мокрым

***

Трымаю пяро – свечку самоты.
Вастрыё бяжыць па паперы.
Словы – маё святло
ў вялікім чорным пакоі ночы.

Думкі здавён-даўна –
як нядрэмныя стражы
ў халодных, снежных палях –
трываюць, чакаюць, важаць...

***

Грамада людзей
за шчасцем стаяла.
Тысячы прагных твараў,
вяршыні працягнутых рук,
хвалі ўзрадаваных сэрцаў...

Тры бясконцыя дні
чакаў народ, надзеяй ўзняты.
Тры бяссонныя ночы
нямеў натоўп сляпы, зацяты...
...................................
Я таксама там быў,
горыч з келіха піў.

**Ноч**

Полем ідуць –
зелле нядолі,
трава няволі.

Лесам ідуць –
буралом рук,
снегапад душ.

Не відаць ужо сонца
над гарызонтам.

Зямля – без неба.
Свет – без вечнасці.
Чалавек – нечалавечны...

***

Дзеля яснай будучыні
каралі-махляры
падзялілі свет напалам –
на сваё дабро
і чужое ліха.

Дзеля шчырай любові
адправілі ў нікуды непатрэбных,
затапталі малых і слабых,
загналі ў загарадзь
старых і хворых...

Калі за высокім мурам
падуладных слоў
пачалі адбіраць хлеб надзённы,
галодныя кінуліся ім
да горла.

***

Алеяй слёз
самотная ідзе,
на ўвесь свет галосіць
восень.

Ніхто не адклікаецца.

***

Вось мінуў нас
знаёмы старэнькі,
нястрымна
галавой ківаючы,
як снег, беленькай.

Ён – ужо прывітаўся.
І развітаўся ўжо – ён.

***

Маўчанне сцен і калідораў.
Маўчанне брам і вуліц.
Маўчанне людзей у горадзе.
Маўчанне святла і музыкі.
Маўчанне рэк і вадаспадаў.
Маўчанне зямлі і неба.

Ціха-ціхенькае
шорганне зярняткаў пяску...

Чый гэта голас, вечнасць?

***

Не збірайцеся
перад словамі паэтаў
зачыняць дзверы,
закрываць вокны,
апускаць краты...

Далячынь жыцця
свой светлы пачатак
бярэ з сэрца
паэзіі.

***
Справядлівыя моўкнуць...

На зямлі,
дзе халодныя росы,
тысячы ўжо
паламаных лёсаў.

На ратунак здалёк
сіні бяжыць
васілёк.

Камяні крычаць.
А з глыбіні ночы
месяц сыпле пясок
серабрыста-прарочы.

**Лета ў Мокрым**

Шлях сюды адкрыты
і неадкрыты.
Гасцінец у цёплым блакіце.

У ранняй просіні ліпа.
І родны дом
пад чорна-белым
буслiным крылом.

Вось і ўся
імперыя ціхая
ў акіяне хараства.

Дзверы і вокны
расчынены насцеж.

На падваконніку
зялёны расце верш...



**МІРА ЛУКША**

# Мая душа гаворыць з вашай

* * *

мая душа гаворыць з вашай
у белай хмары над Падляшшам

звілі гняздзечкі ў зорным голлі
не адляцяць адсюль ніколі

і сыплюць дожджык слёз ўрадлівы
на родныя лугі і нівы

чула кранаюць цёплай ласкай
верных людзей з зямлі падляшскай

*** * ***

Ціха ў вянок плятуцца арэшнік, валошкі, рамонкі,
Касачы залатыя галовы палошчуць ў праменнях,
Корань дуба вяжа моцна глебу роднай старонкі,
Птушка кранае крылом чало чалавека ў маленні.

Чуеш, як кропля з цела майго ў тваё пераліваецца, тчэцца,
Тчэцца хвіліна ў лёсах тых, што ступаюць сюдою,
Збавіць ад болю, тугі іншы боль і сум, што ўзіраецца ў вечнасць
І невядома, калі станем мы таксама вадою.
*11 – 13.06.2010 г., Кудак*

*** * ***

Я цябе аддаю. Бяры сябе сам,
Колькі можаш падняць аберуч.

І самое сябе табе крыху аддам,
Бо знайдуся у сне, моцна веру,
Бо забыцца... Гэтак, як адарваць
Непатрэбны ўжо лісцік з датай?
Спрабавала я гэта. Не буду казаць,
Што без болю.
        Лепш выламаць краты,
Волю выбраць. Ня браць нічагуткі,
Калі нават без ботаў, па снезе...

Чай адстаўлю халодны. Атрутны.
Вольным крокам пайду ў паланезе,
Танцы нашым. У той лістапад,
Калі словы замерзлі ў лістоце,
Ліставею лістоў непасланых...
Цябе я аддаю. Тваёй уласнай самоце
У збітым тлуме людзей апантаных.

**Анёл**

Чую — між намі важка анёл праляцеў
і ў нашых скронях веюць пёры яго крылаў.
А жылы на руках, як голькі старых дрэў,
што нерухома спеляць думкі пра магілу;
яна ёсць мэта — і прыступка ў новае жыццё...
Пра гэта мы не скажам, каб не сказіць цішу.
Ці маем час мы сёння, каб сказаць пра ўсё?
Спакойна вецер вечны наш уздых калыша.

## Ян Тарасевіч

Над лесам, як ноты, груганы,
Над лёсам каркаюць яны,
Як знакі часу, днём і ноччу,
І плачуць над жыццём сірочым.

Гасцінцам ты ідзеш пясчаным,
З дому да дому, з раны ў рану,
З добрым і чыстым сэрцам, у цішы,
Па чулых крочыш з ім клавішах.

У Саколцы восень, а дом чакае.

**АЛЕСЬ ПАПЛАЎСКІ**

# Размовы са стодзівамі

Аповесць

*Не кажы, што мінае час:*
*час застаецца, зыходзім мы…*
(Талмуд)

1

Жыццё пачынаецца з хлусні, дробязнай і бяскрыўднай. З жыццесцвярджальнага, спакуслівага: "Усю-усю-усю!.." Ты хочаш есці ды інстынктыўна цягнешся да белай выспачкі цела, што прывідна ўздрыгвае ў бездані-выразе мамінай блузкі, і натыкаешся на гэтае п'янкое, шматабяцальнае: "Ах ты, маё любінятка!.." Слязлівасць імгненна сціраецца ўсмешкай. Як мала нам патрэбна насамрэч! Але ты патрабуеш большага. А, значыць, недазволенага. Твой рот затыкаюць сувенірнай пустышкай, і гаркавы прысмак гумы крадзе на нявызначаны час голад. З узростам імкненне да недазволенага робіцца неабходнасцю. Імклівасць, хуткаплыннасць і разнастайнасць жыцця агаломшваюць цябе. Ты губляеш арыенціры. Ты не здольны выяўляць ужо, хто хлусіць табе, а каму хлусіш ты. Гэта сведчанне таго, што ты стаў дарослым. Цяпер і табе дазваляльна ўсё. Ты захапляешся сваёй самадастатковасцю. Выстаўляеш напаказ пачуцці. Твой вопыт – узор для пераймання. На самой справе, гэта тое, без чаго можна з лёгкасцю абысціся. Пераважная большасць мерае жыццё іншымі меркамі. Але ты да іх ліку сябе не далучаеш. Ты перакананы, што ты іншы. Так склалася. Стала звычкай. Неабходнасцю. Даведзеным да абсурду імкненнем да спазнання мудрасці, пра якую некаторыя яшчэ нават і не здагадваюцца. Ты спяшаешся, робіш памылкі. Табе зайздросцяць. Ты губляеш сяброў. Усё мае свой кошт. Ты ігнаруеш створаны самім сабой вакуум і сілішся запоўняць яго абы-чым. Верагодна, гэтак жа спяшаецца вязень, які толькі што вярнуўся на волю з-пад варты. Жыццё толькі-толькі перавяліла за трыццаць, а ты выразна ўжо адчуваеш на сваёй патыліцы ледзяное дыханне адзіноты. Разуменне таго, што прайшло яно пераважна ў пошуках чужых памылак, неаспрэчнае. Цяпер ігнаруюць цябе. Абыходзяць бокам. Не ўспрымаюць. І ты змушаны жыць з гэтым. Ты

злуешся. Яно і не дзіва. Быць навідавоку для цябе – значыць быць незаўважным. А скрытнасць для такіх, як ты, аматараўназіраць за чужым жыццём, – галоўная ўмова існавання. Толькі хто падкажа табе, што ты і ёсць тая памылка, якую шукаеш вось ужо палову жыцця ў іншых?..

– Усё роўна цябе пацалую! Ляля!...

Гэтая юродзівая спыняе цябе кожны дзень. Яна мае звычку матэрыялізавацца там, дзе яе не чакаюць. І табе нічога не застаецца іншага, акрамя як выцірацца ад яе безмэтнай вар'яцкай усмешкі. Нібыта ад агіднага пляўка. А яшчэ ад погляду. Бачылі б вы яе вочы! Але ты здольны прыняць ад яе любыя абразы. Ты перакананы, што дэманы, якія жывуць у душах вар'ятаў, адкрываюць утоеныя ад людзей ісціны.

– Усё роўна цябе пацалую! Ляля!.. – завіхаецца вакол цябе ў рытуальным танцы вар'ятка і цягне да твайго твару парэпаныя, брудныя пальцы.

Вузкая стужка асфальту шчыльна заціснутая з двух бакоў будынкамі. Містычны свет звыклай агіднай сімволікі. І ніводнай жывой душы. Толькі ты і яна, – жахліва рэальныя ў гэтым свеце. Усё, што павінна адбыцца, адбудзецца! Змірыся! Прайдзі праз гэта! Уяві, што цябе тут няма… Адчуй сябе вар'ятам! Рабі што-небудзь!..

– Усё роўна цябе пацалую! Ляля!..

Ты ўяўляеш свой знявечаны ў дзяцінстве твар, – вынік гісторыі, якую наўмысна ўтойваеш ад сябе, – і злуешся. Ты не здольны прыняць гэтае крыўлянне за ісціну. "Не зараз, Біллі! Не цяпер…"

– Не цяпер, Біллі! – шэпчаш ты. – Не цяпер!

Рэха вяртае твой голас. Ты чуеш, як ён дрыжыць. Ты адрываешся ад думак і здзіўлена глядзіш на вар'ятку. Табе хочацца плюнуць ёй у твар. Біллі!? Так… Ты звыкся з гэтай мянушкай. Яна прыклеілася да цябе неадчэпна. Яна сцёрла тваё сапраўднае імя. Ты адгукаешся на яе. Яна таксама адтуль, з той незабытай табой гісторыі. Білл!.. Біллі!.. Дэбіл… Чаму дэбіл?... Калі-небудзь ты раскажаш нам сваю гісторыю? Калі-небудзь…

– Не цяпер.

Вар'ятка спрабуе злавіць цябе за руку.

– Цяпер!.. – захлёбваецца яна несапраўдным рогатам.

– Пудзіла!..

– Мы-гы…

– Пудзіла! – лямантуеш ты ашалела. Ці ёсць хто-небудзь дзе-небудзь, хто зразумее цябе?

Застылае ў карціннай нерухомасці наваколле. На твары вар'яткі цень стомленасці. І ўпартасць. Час канчаць з гэтым.

– Усё роўна цябе пацалую! Ляля!..

Хопіць… Далей – цішыня.

Вочы тлумачаць усё. Словамі можна выказаць толькі тое, дзеля чаго яны існуюць. Так, ты ёсць лялька. Аднавокае пудзіла з тварам,

спярэшчаным глыбокімі зморшчынамі, з ранамі, якія ніколі не загояцца. “Жыццё само за цябе ўсё вырашыць. Ідзі і жыві!..”

Ты ненавідзіш яе. Не за вар’яцтва, вядома, а за тую рознасць, якая ляжыць паміж вамі вякамі, за тое нахабнае навязванне сябе Свету, якое яна дэманструе адкрыта. Ты перакананы – гэта і ёсць выкрыццё ілжывай яго Мудрасці. Час!.. Дзе і як ад цябе схавацца? Элі, элі, лама сабахтані?..

Ты растаптаны сваёй пасіўнасцю. Бо хто хоча стаць мудрацом, той мусіць нарадзіцца вар’ятам. Так склалася гістарычна….

2

Ноччу да яго вакна прыляцела паміраць галубка. Ён знайшоў яе на досвітку ў трухлявай драўлянай скрыні. Белая, з невялічкай чорнай меткай на шыі, яна выглядала ў ёй як у труне. “Чаму тут, у гэтай бруднай трухлявай скрыні, ты знайшла свой апошні прытулак? – здзівіўся ён і, не гледзячы што ніколі не верыў у забабоны, падумаў: “Мо гэта нейкі знак мне, скупы намёк на будучыню?.. Бывае ж так…” Ён адчыніў акно і кончыкам пальца дакрануўся гідліва да жывога яшчэ камячка. Птушка ўздрыгнула, але вачэй не расплюшчыла. Ён адламаў кавалак батона. Скарынку паклаў сабе ў рот, а мякіш пакрышыў побач з птушынаю дзюбай. Птушка не варухнулася. Ён таксама выплюнуў недаедзенае і закурыў. Счакаўшы, начапіў на нос акуляры з зацемненымі шкельцамі, з якімі не развітваўся амаль ніколі, і высунуўся з вакна. Позірк абмацаў мітуслiва панурае, звыклае да агіднасці наваколле. Усё гэта ён ужо бачыў неаднойчы. Але ўсё роўна кожны раз настырна імкнуўся шукаць сярод гэтай будзённай звыкласці нешта новае, яшчэ неспазнанае. З такой цікаўнасцю, верагодна, людзі імкнуцца зазірнуць у сваю будучыню. Сёння вуліца была спавітая шэрай вадзяністай імглой. Ён выразна чуў, як бруіцца яна недзе ўнізе, пад ім, зусім побач. Недзе па той бок яе вымалёўваліся невыразныя, расплывістыя абрысы гарадской ратушы. Будынак таксама патанаў у прадранішнім марыве. Але недзе за ім, далёка на даляглядзе, на зямлю ўжо спаўзала некалькі брудных сонечных промняў, падобных да дзвюх свежых акрываўленых драпінаў. Відавочна, нехта нанёс іх на гэтую суцэльную шэрасць толькі што, наўмысна. Ва ўсякім разе, яны былі тым апошнім штрышком, той вельмі неабходнай дэталлю ў гэтай штучнай сцэнічнай Містэрыі, без чаго ўся гэтая мазня мела б не зусім прывабны і незавершаны выгляд. Ён заплюшчыў вочы і выразна пачуў, як недзе побач па падваконніку асцярожна паўзе бяда. Слых улавіў таксама знаёмае, ледзь чутнае, манатоннае скавытанне. Гукі тыя то нарасталі, то сціхалі. Гэтую вар’яцкую “мелодыю” ён чуў цяпер шторанку. Вось ужо на працягу тыдня, ці нават двух. Ананімная яе прастата давала падставы лічыць, што гэта недзе гучыць Эолава арфа.

Дакладней, што ён чуе яе толькі непаўнавартаснае рэха, аднастайную песню смерці, трыумф бессэнсоўнага над сэнсам. Ён доўга не мог дацяміць, скуль бяруцца гэтыя гукі. Хадзіў нават некалькі разоў да ратушы і тупа ўслухоўваўся ў ранішнюю цішыню. Прастата адкрыцця не столькі здзівіла яго, колькі збянтэжыла. Толькі ветру была падуладна гэтая музыка Цішыні. Моц і тэмбр яе цалкам залежаў ад хуткасці, з якой вецер выrваўся на волю праз разбітыя шыбіны ў шпілі. І яму падалося, што нейкая, нябачная людскому воку сіла імкнецца выдраць з неабдымнай ледзяной Моўчы назапашаную вякамі людскую скруху. Вырваць яшчэ несаспелай. Вось тады ўпершыню і зарадзілася тое вар'яцкае пытанне: "А ці можа быць музыкай боль?.." Гэтая ж думка наведала яго і цяпер. "Безумоўна... – разважыў ён. – Нездарма ж Шастаковіч называў большасць сваіх сімфанічных твораў надмагіллямі…".

Музыку гэтага сусветнавядомага Майстра ён чуў толькі аднойчы ў сваім жыцці. Гэта была яго знакамітая сёмая сімфонія. Але яна яму зусім не спадабалася. "Мо таму і не спадабалася, – падумаў ён цяпер, – што была музыкай болю?" З класікаў ён захапляўся толькі Пяртам. Але то была іншая музыка. У адрозненне ад Шастаковіча, музыка Пярта была музыкай пакаяння, а не музыкай болю. Яна патрабавала не столькі вонкавага ўспрымання, колькі саўдзелу. Яна была вынутай з самой Цішыні, з прасторы больш дасканалай, чым сама Музыка. Ва ўсякім разе так сцвярджаў сам аўтар.

Ён зняў акуляры і зірнуў на птушку здаровым вокам. На месцы другога бліснуў пратэз з крыалітавага шкла. Ніякай эстэтыкі – адна толькі голая практычнасць, можна насіць акуляры, за цёмнымі шкельцамі якіх ён і хаваў свой колішні дзіцячы грэх. Агідную чорную павязку ён ненавідзеў.

"Ва ўсім ёсць бяссэнсіца!" – падумаў ён са шкадаваннем, праціраючы ражком суконкі запацелыя шкельцы. "Вось і з мяне нешта сыходзіць. Кожны дзень, па кроплі. Буся і той кпіць з мяне: "Гэта, Білді, цябе пакідае жыццё!". Верагодна, ён мае рацыю. Бо адзінае, чаму так і не навучылася чалавецтва ў працэсе сваёй эвалюцыі, гэта падманваць час". Ён зірнуў удалячынь, паверх ратушы, потым імкліва перавёў позірк на птушку. Страсянула ад холаду. Сэрца трывожна сціснулася: "Ну вось і па восені. Хутка снег ляжа на зямлю. Зіме даўно ўжо не церпіцца… Вятры… Кожны дзень вятры…" Ён зноў крануў з прыкрасцю птушку. Відавочна, пакуты той скончыліся толькі што і з гэтым трэба было нешта вырашаць. Спадзявацца, што яна сама пакіне абраны сабе прытулак, не выпадала. "Свет стварае сябе са сваёй смерці... – скупа ўсміхнуўся ён, узгадаўшы гэтую старую, запазычаную ў некага яшчэ ў юнацтве, думку. – Без сумнення…" Грэбліва варухнуў трухлявую скрыню. Шурупы, якімі яна мацавалася да атынкоўкі, з'ела іржа, і фанера цяпер трымалася на добрым слове. Перакананне, што скрыня яшчэ пэўны час пратрымаецца, што яе не знясе шквальнымі восеньскімі вятрамі, не было ніякага. Ён даўно

ўжо збіраўся разабраць яе, вывалачы на сметнік, але рукі так і не дайшлі да гэтага. І вось цяпер з-за сваёй жа ляноты ён нажыў сабе толькі клопату. Не будзь гэтай скрыні, не было б і гэтай смерці. Ён пашукаў вачыма пакет, куды можна было б пакласці здохлую птушку, але нічога прыдатнага для гэтага на вочы яму не трапіла. “Вось яна вам, ілжывая ілюзія выбару. Вы гэтага можаце не рабіць, але рабіць тое вам давядзецца…” Ён падумаў, што варта было б выкінуць птушку разам са скрыняй, зрабіць дзве добрыя справы, паспрабаваў нават ададраць дошкі ад атынкоўкі. Верагодна, гэта ў яго атрымалася б, каб не нечаканы тэлефонны званок. Ён зачыніў вакно і нетаропка накіраваўся ў вітальню. На паўдарозе чамусьці перадумаў, вярнуўся назад і адчыніў вакно зноў.

– Біллі!.. Алё!.. Біллі!.. – данеслася да яго са слухаўкі. Гэта быў Буся. Хто яшчэ мог патэлефанаваць яму ў такую рань? Размаўляць з ім не было ніякага жадання, і ён нават пашкадаваў ужо, што падышоў да тэлефона: “ Ведаў бы, што гэта ты – не падняў бы слухаўку…”

– Біллі, па-мойму, мы дамаўляліся сустрэцца… Не забыў?

– І што з таго?! – спытаў ён абыякава і штучна пазяхнуў.

– Нічога, проста хацеў удакладніць: дзе, калі і ў колькі, – заспяшаўся Буся. – І яшчэ… Ой, Біллі, ты сядзіш? Ну, трымайся... Віка аб’явілася. Што-о-о?.. Не памятаеш Віку? Біллі, ну ты даеш! Не выдурняйся! Наша аднакурсніца. З Марынкай за адным сталом сядзелі. Ды памятаеш ты яе… Скуль вярнулася? З Ізраіля, вядома, скуль жа яшчэ. Зямля запаветная ёй больш недаспадобы… Радзіма паклікала. Ну што, патусуемся? Палялякаем, піўка пацягнем. Біллі, там такая фіфа, бачыў бы ты, абалдзець!.. А памятаеш, якой яна чучай была раней?..

“Ня трэба ля-ля... Для цябе, скажам, яна ніколі чучай не была“, – падумаў ён, успомніўшы, як Буся некалі заляцаўся да дзяўчыны. Хаця, да каго ён толькі ні заляцаўся. І да Марыны, і да Вікі. Толькі поспеху ён ніколі не меў…

Паўза зацягвалася.

– Ну што, згодны? – напіраў Буся..

– Не, не магу, – выціснуў ён неахвотна і скоса зірнуў на прыадчыненыя на кухню дзверы. – У мяне пахаванне.

– Пахаванне? – здзіўлена войкнуў Буся.. – Хто памёр, Біллі?

– Анёл… – выціснуў ён загадкава.

– Не дуры, Біллі! – ажывіўся Буся. – Які яшчэ анёл?

– Мой анёл. Анёл-абаронца…

– А-а-а! Разумею, – зарагатаў ён. – Ты, як заўжды, на сваёй хвалі. Ладна, Біллі, ладна… Пахаванне адмяняецца.

– Не, Буся, не адмяняецца! Прабач, але патэлефаную пазней, калі вызвалюся.

– Біллі!..

– Не магу, Буся, не магу. Бывай! – схлусіў ён і паклаў хуценька слу-

хаўку. Некалькі хвілін пастаяў у роздуме, потым накіраваўся на кухню. Пакой за той час, пакуль размаўляў па тэлефоне, праветрыўся. Ва ўсякім разе пахаў смерці ў ім не адчувалася. Туман за вакном таксама напалову рассеяўся, агаліўшы рэбры-лічбы на цыферблаце гарадскога гадзінніка. Стрэлкі на ім набліжаліся да васьмі, і часу, каб сапсаваць сабе настрой дарэшты, было наперадзе больш чым дастаткова. “Ну, і кім ты сябе ўявіў тут на нізе?.. “ – падумалася яму чамусьці. Ён дастаў з шуфлядкі дзіравы шматок паліэтылену і старанна завярнуў у яго яшчэ цёплы камячок. Потым адарваў без асаблівых намаганняў ад цагляных перамычак скрыню і паклаў туды скрутак. Атрымалася больш-менш прыстойна.

Дзень пачынаўся своеасабліва.

Яшчэ праз хвіліну ён накінуў на плечы куртку і рушыў у паўзмрок лесвічнай пляцоўкі. Электрычнасць, як заўжды, заўчасна выключылі і ісці давялося навобмацак. Перадранішняя шэрасць з цяжкасцю прабівалася праз невялічкія незашклёныя вакенцы. Святла гэта не дадавала і, каб не зачапіцца выпадкова аб што-небудзь, яму даводзілася ўвесь час трымацца рукой за сцяну. Другая рука была занятая скрыняй. І ўсё ж, калі па-шчырасці, то гэты паўзмрок быў яму толькі на руку. Вялікага жадання быць заспетым са скрыняй суседзямі, у яго не было. Але і стоадсоткавага пераканання ў тым, што ўдасца праслізнуць незаўважаным, таксама не было. Яшчэ калі выходзіў з кватэры, пачуў, як недзе ўнізе здрадліва рыпнулі нечыя дзверы, потым слых улавіў нечыя неразборлівыя галасы, па ўсім відаць жаночы і дзіцячы, і паскорыў хаду. На трэцім паверсе дарогу яму перагарадзіў хлопчык, гадоў пяці-шасці. Відавочна, што незнарок. Гэтыя шчанюкі ліплі да яго, як слата. І ён ведаў сапраўдную прычыну іх цікаўнасці.

– Артур, саступі дарогу дзядзьку, – загадала хлопчыку жанчына аднекуль з глыбіні пакоя. Той нават брывом не павёў.

– Артур, я каму сказала!.. – узмацніла яна голас. Хлопчык праімітаваў нейкі недакладны рух і пры гэтым з прыкрасцю зазірнуў у вочы. Ён адчуў гэты яго парасячы позірк, нават у прыцемку. Не столькі сам позірк, колькі не схаваную ў ім нянавісць. “Адкуль яна ў цябе?.. – абурыўся ён у думках. – За што ты мяне так ненавідзіш, шчанюк?” Невядома, хто каго больш ненавідзеў у гэты момант. Калі гаварыць шчыра, то ён заўжды ненавідзеў дзяцей. А за што іх было любіць? Калі дарослыя рабілі хоць нейкі выгляд, што не заўважаюць яго пачварства, то гэтыя байструкі – наадварот, былі да агіднасці шчырымі ў сваіх пачуццях. Іншы раз яму здавалася, што выкрываюць яны ў ім не столькі нейкія знешнія яго хібы, колькі ўнутраныя. Верагодна, гэтая іх дзіцячая няхітрасць і была той адзінай зброяй барацьбы з хлуснёй, якую людзі з узростам губляюць. Дарослым не ўласціва шчырасць. Жыццё дастаткова іх біла, каб яны маглі называць рэчы сваімі імёнамі. “І гэты не саступіць”, – падумаў ён перакананаўча і адштурхнуў ад сябе хлопчыка сілай.

– Пайшоў прэч, смаркач! – прашыпеў ён ледзь чутна.

Хлопчык ухіліўся і буркнуў у адказ нешта зневажальнае.

– Артур, што ты сабе дазваляеш? – жорстка спыніла яго жанчына.

Прыслухоўвацца да іх разборак не было жадання. Ён паспрабаваў абмінуць хлопчыка, але выпадкова зачапіўся нагой за каменны выступ, спатыкнуўся і ледзь не расцягнуўся на сходнях.

– Сволач! – вылаяўся ён цяпер галосна і кінуўся подбегам уніз па лесвіцы. Сцішыў хаду толькі на выхадзе. – Сволач! – паўтарыў ён пераканаўча і накіраваўся ўглыб двара, дзе была скрыня для смецця.

“Ці быў я такім калі-небудзь самаўпэўненым і самадастатковым?” – спытаў ён сябе ў думках. Адказу чакаць доўга не давялося. – “Не быў… Быць і імкнуцца быць – розныя рэчы. Спадзяванні рэдка супадаюць з сапраўднасцю. І ўсё ж, з чаго пачаць сваю гісторыю? З тых далёкіх дзевяностых, калі ўсё ў краіне стала з ног на галаву? Своеасаблівы быў час”. Кожны дзень мама выпраўляла яго ў школу з абразком – нявартай увагі квадратнай картонкай з выявай Божай Маці. Пасля працяглага атэістычнага жыцця ў краіну паступова вярталася мода на Бога. Ён не разумеў гэтай мамінай настырнасці, з якой яна спрабавала ўціснуць яму ў рукі гэтую непрывабную нічым выяву і не пераставаў здзіўляцца: “Ну якая яна святая! Цётка, як цётка! І што сабе гэтая мама напрыдумляла!..” Недавер да абразка, як да панацэі, з кожным днём павялічваўся. На маміну ж думку, гэтая самая картонка якраз і павінна была абараніць яго ад таго зла, якое кішма кішэла вакол. Ён толькі хітра ўсміхаўся і адкрыта ў спрэчку з мамай ніколі не ўвязваўся. Галоўным для яго было як мага хучэй выслізнуць за дзверы, а там – воля... І так шторанку. Нёсся як ашалелы ўніз па лесвіцы і на небяспечнай ад дома адлегласці азіраўся. Калі квяцістыя фіранкі на вакне іхняй кухні хавалі і без таго невыразна-акрэсленыя абрысы мамінага аблічча, клаў абразок у кішэню, а то і запіхваў яго ў ранец. “Убачаць, – засмяюць, – быў перакананы ён. – Адзін толькі Буся чаго варты! Такой лафы не праміне…” Нашмат пазней ён неаднойчы стане лавіць сябе на жахлівай думцы, што верагодна гэтае яго дзіцячае блюзнерства і стала сапраўднай прычынай таго жахлівага недарэчнага здарэння. Бо чым яшчэ можна было патлумачыць вялікае расчараванне, якое напаткае яго пасля? Але імкненне вінаваціць сябе ў любой подласці, нават і не здзейсненай ніколі, прыдзе нашмат пазней. Верагодна, трагедыя нашага жыцця ў тым, што яно нібыта прапаноўвае нам безліч варыянтаў, хаця выбару насамрэч ніякага не пакідае…

Але напачатку было слова. І гэтае слова было Моніка… Моніка Велюр...

## 3

Хочаш жыць – ідзі і жыві!.. Будзь, як усе, будзь горшай за ўсіх!.. Нарадзіся вар'яткай. Ездзі па вуліцах на інваліднай калясцы. Насычай свае лёгкія атрутным гарадскім паветрам. Зневажай. Зневажайся. Прасі міласціну. Ашуквайся. Ашуквай. Ашуканства прыносіць людзям асалоду. Рабі выгляд, што цябе ўсё задавальняе. Ты нарадзілася ў краіне цынікаў. Ты жывеш сярод майстроў хлусні. І ім не ўласціва імкненне да духоўнага прасвятлення. Ведай пра гэта і не спяшайся дзяліцца з іншымі сваімі думкамі. Усе роўна табе не паверацъ. Зло – яно прывабнае. І ўвогуле, твая гісторыя ганебная ад самага пачатку. Ты – персанаж дзіцячых коміксаў. Ты – атавістычная істота. Ні спагады, ні ласкі!.. Твой бацька адмовіўся ад цябе, калі ты была яшчэ ў чэраве мацеры. Ён – чыноўнік, і гэтым усё сказана. Яму недапушчальна мець пазашлюбных дзяцей. Божа, якая недарэчнасць! Менавіта ўсё так і пачынаецца. Сцісні вусны і маўчы. Разлічвайся за ўсё і за ўсіх. Ты не адна ў гэтым свеце такая. Хіба можна адчуваць сябе самотнай у эпіцэнтры шчаслівага жыцця?..

Частыя пераезды з горада ў горад – маміны хітрыкі, няўдалыя спробы схаваць мяне ад сваіх знаёмых, а сябе ад іх нязручных і крыўдных пытанняў. Мне ж здаецца, што ўсе нашы бясконцыя вандроўкі – ёсць нішто іншае, як уцёкі яе ад самой сябе. Верагодна, мама здагадваецца пра мае гэтыя невясёлыя думкі, інакш чым іншым яшчэ можна патлумачыць яе наіўнае імкненне навязваць мне сваю думку. Іншы раз мне ад яе шчырасці робіцца ніякавата. Быць прычынай чужых няшчасцяў – не даспадобы, таму пры магчымасці я імкнуся пераконваць яе ў адваротным. Але варта мне толькі распачаць з ёю гаворку, як я адразу ж забываю ўсе свае словы, наўмысна назапашаныя для гэтых мэтаў. Мамін позірк крадзе іх у мяне незваротна. Яе вочы бянтэжаць мяне і збіваюць з панталыку. Яшчэ ў большай ступені мяне бянтэжаць яе слёзы. Дакладней, іх беспадстаўнасць. Мама плача абы паплакаць. І гэтага я не разумею. Мне больш даспадобы слёзы радасці, чым слёзы смутку. Іншы раз мне таксама хочацца паплакаць. Але прычына майго жадання ў тым, што я вельмі хачу быць падобнай да мамы. Яно штучнае, несапраўднае. Свой смутак я ствараю штучна, і быць падобнай на маму на самой справе не хачу. Бо тая вільгаць, якая цячэ з яе вачэй, калі яна плача, і якую я аднойчы выпадкова паспрабавала на смак, настолькі салёная і брыдкая, што мне страшна цяпер нават думаць пра тое. Я з жахлівасцю ўспамінаю яе горыч. Фу!.. Няўжо мае слёзы радасці таксама брыдкія?

Да жыцця можна прызвычаіцца. І магчымасць пераканацца ў тым у мяне была ўжо. Але тут, у гэтым вялікім горадзе, дзе я ўпершыню адчула тваё жыццё ў сабе – усё набыло іншы сэнс. Цяпер нават цяжка ўявіць, што станецца са мной і з табой, калі мама надумае раптам з'ехаць адсюль. Верагодна я з ёю нікуды не паеду. Што стану рабіць адна ў гэтым горадзе,

таксама не ведаю, таму і стараюся думаць пра гэта як мага менш. Але думкі – яны незалежныя ад нашых жаданняў. Менавіта ў такія хвіліны і нараджаецца мой смутак – шчымлівае пачуццё, ілюзія тугі. Цікава, якімі яшчэ словамі можна назваць наша жыццё, калі ўявіць сабе на хвіліну, што яно не мае сапраўднай назвы?.. Ці змагу я калі-небудзь падабраць яму адпаведнае сэнсу слова? Іншы раз мне здаецца, што Ты – і ёсць маё жыццё. Бо хто яшчэ, калі не Ты? Ты – той адзіны, дзеля чаго я прыйшла ў гэты свет. Ты, толькі ты! Тое, што любяць і што застанецца пасля мяне!..

Пра тваё існаванне мая мама пакуль не здагадваецца. Ёй якраз я і не раскажу ніколі нічога. Пасля таго жудаснага здарэння, калі яна хацела спаліць у мікрахвалёўцы маю лялльку, я ёй не веру. Неаднойчы я думала потым, скуль у яе злосць? Магчыма, яна імітуе яе гэтак жа сама, як і я свой смутак. Магчыма… Але рызыкаваць тваім жыццём я не збіраюся… Усё забываецца, але толькі не такое. Спачатку яна адарвала маёй лялльцы нагу, потым другую… Потым яна захацела паўтарыць тое ж самае з яе рукамі. А калі зразумела, што гэта ёй не пад сілу, адчыніла духоўку і кінула ляльку туды. Калі і гэтага ёй падалося мала, яна распаліла духоўку на поўную моц. Я не стала чакаць, калі ўзгарацца на лялльцы валасы, вопратка. Мне хапіла таго смуроду, якім імгненна напоўнілася кухня. Я кінулася прэч, на вуліцу. Я не плакала. Я смяялася. Мама нешта крычала мне наўздагон, але я не чула. Мяне распірала ад смеху. Я задыхалася. Смех забіваў ва мне ўсе астатнія пачуцці. Я бегла і смяялася… рагатала…

4

Калі ён азіраецца назад і пачынае гартаць год за годам, нібы зачытаную кнігу, кнігу свайго жыцця, памяць вяртае яго заўжды ў той далёкі восеньскі дзень – пятніцу 13 верасня. Узгадваецца разбітае трумо ў вітальні, срэбная мешаніна аскепкаў на падлозе і слёзы… Рэкі слёз. Маміных і яго. Уперамешку. Усё астатняе – неаглядная прастора для падзелу дзвюх стыхій, дзе звыклае і сфармаванае – “жудасная бездань”, дзе цепляцца першапачатковыя вытокі жыцця, але не само жыццё, халодная сусветная Моўча, якая аднойчы народзіць Эрэба і Нікту. Каго народзяць у сваю чаргу тыя, пакуль што для ўсіх сакрэт, загадка. Ніхто нават і не падазрае яшчэ, што ўсяго праз тры месяцы перастане існаваць магутная імперыя, што кроў у Малдове, Літве і Латвіі, “жнівеньскі путч”, арышт вышэйшых службовых асоб і нарэшце забарона дзейнасці камуністычнай партыі, – толькі паспрыяюць гэтаму і разбурэнне палітычнай сістэмы Вялікай Дзяржавы не выкліча ні ў кога ні страху, ні жалю, ні непакою.

Пасля таго, як мамін гнеў сціхне, ён прыбярэцца ў пакоі і вывалачэ рэшткі разбітага трумо на сметнік. І ўсё ж некалькі невялічкіх люстраных аскепкаў ён пакладзе сабе ў кішэню. Яны і будуць яму тым напамінам, своеасаблівым залатым ключыкам ад дзвярэй да мінулага. “Бо, калі доўга і

бязмэтна ўзірацца ў люстраную бездань, – будзе памятаць ён, – яна можа скрасці вашу душу". Але нават такая несуцяшальная перспектыва не здолее перамагчы ў ім вялікую Спакусу – паглядзець на сябе збоку і, убачыўшы ў зманлівай штучнай бездані свой знявечаны твар, вяртацца ў далёкае мінулае. Пяць люстраных аскепкаў. Пяць выяў. І ніякага падабенства на сябе колішняга. Наўрад ці ён некалі здолее скласці з іх тое страчанае і суцэльнае. І што людзі робяць з людзьмі?! Але спакуса – пачуццё надакучлівае, яно як і маміны парады. Ён і раней мала да іх прыслухоўваўся, а цяпер яны для яго ўвогуле стануць непрымальнымі. Гэты дзень зменіць усе яго жыццёвыя погляды. Ён абярэ для сябе іншы шлях, не той, які навязвала яму дагэтуль мама, і нават Буся здзівіцца той, раптоўна набытай, яго непрадказальнасці.

– Ты, Біллі, нібыта тая зязюлька з гадзінніка, высунешся са сваёй норкі, вякнеш і назад у цянёк.

Буся рэдка калі памыляўся. Жыць у цяні іншых, стане для яго цяпер неабходнасцю. Звычкай. Бо цені, па яго перакананні, звужаюць свет. Да непазнавальнасці…

– Асцерагайся людзей, сынок!

З гэтай старой, як сам Свет, парады і пачнецца той колішні мамін выхавальны маналог. Ён у чарговы раз маўкліва выслухае яго, бо ўсё, што стане гаварыць яму мама, будзе тычыцца яе самой, і тое, што яна ў соты раз паўторыць, – паўторыць з адной толькі мэтай: любымі сродкамі апраўдаць памылкі сваёй нядаўняй шумлівай маладосці. Смешная яна нейкая! Ён і то будзе ведаць на той час, што людзі на чужых памылках не вучацца. Гэта нашмат пазней ён зразумее, што мама была тады яшчэ ў тым узросце, калі людзям здаецца, што праўдзівей, чым іх ісціна, ніякай іншай у свеце няма і быць не можа. "Падумаеш, – скажа яна без асаблівага шкадавання, – ну, не выскачыла замуж па разліку, як тое зрабілі большасць маіх сяброўак! Падумаеш, не склаліся адносіны з бацькамі. А ў каго яны склаліся?.." І сапраўды. Для бацькоў, людзей адукаваных і інтэлігентных, яе пазашлюбная цяжарнасць стане сапраўднай трагедыяй.

– А інстытут? – заікаючыся спытае ў яе мама, устрывожаная нечаканай навіной. – Ты збіраешся кінуць інстытут?.. На апошнім курсе?.. А пра бацьку ты падумала? Яго ж з-за цябе з партыі папруць …

– А пры чым тут бацька?

– Як гэта пры чым?

– Жанчынам не адукацыя, жанчынам шчасце патрэбна, – цынічна выпаліць яна ў запале першае, што прыйдзе ў галаву… Відавочна, іншы раз мае сэнс сказаць людзям тое, што ты думаеш. Гэта цвярозіць і цябе, і іх.

Амбіцыі змусяць яе адмовіцца ад бестурботнага і насычанага рознымі забаўкамі сталічнага жыцця і памяняць яго на сумнае і аднастайнае правінцыйнае. Бацькі адракуцца ад яе. Але іншага выйсця з той сітуацыі, што складзецца, яна так і не знойдзе, а калі шчыра, то і шукаць не стане.

У невялікім раённым гарадку жыў на той час яе родны брат, да яго яна і накіруецца са сваімі праблемамі. Той сустрэне яе стрымана, без асаблівай радасці, але на невялічкі пакойчык у сваёй чатырохпакаёўцы не паскупіцца. У ім працяглы час яны і вымушаны будуць жыць. Але перакананне, што жыццё яшчэ не скончана, што ў ім яшчэ можна нешта памяняць, не пакіне яе ніколі. Праз чатыры гады, дзесятага лістапада, у адзін дзень з Брэжневым, памрэ ад інфаркту яе бацька. Ён так і не здолее даравацъ дачцэ яе распуцтва. Верагодна, гэтыя яго непрымірымасць і затоеная крыўда і стануць галоўнай прычынай заўчаснай смерці. Яшчэ праз год памрэ маці. І толькі тады, пасля ўсіх гэтых цяжкіх страт, яны вернуцца назад у сталіцу. Ні з дзядулем, ні з бабуляй ён так ніводнага разу і не сустрэнецца ў сваім жыцці. Пра іх існаванне даведаецца ад маці, і то ўзгадае яна іх толькі аднойчы. Размовы на гэтую далікатную тэму стануць непажаданымі ў іх доме, і яму нічога не застанецца, акрамя таго як мірыцца з гэтым…

– Гляньце, ён нават не слухае! Дарослым стаў? А пацалаваць маму! Што, саромеешся?.. Эх ты!..

– З чаго ты ўзяла?

– Сынок, любы мой! Кравіначка ты мая! Надзея мая! Ты лепшы з найлепшых!

Яна абдыме яго і моцна прыцісне да грудзей. Потым скіруе позірк туды, дзе нядаўна стаяла трумо і сумна ўсміхнецца: – Перажывем і гэтую нязручнасць… Ты ж не наўмысна, скажы, не наўмысна?..

Што станецца далей, ён ведаў ужо загадзя. Спачатку будуць словы. Шмат слоў. Потым слёзы. І доўга чакаць іх не давядзецца. Мама заплача, але на гэты раз неяк ціха і няшчыра. Але ўсё гэта яму, верагодна, толькі падасца. І ўсё ж, каб адцягнуць маміну ўвагу ад балючай ёй тэмы, ён паспрабуе скіраваць гаворку ў іншы бок. І сапсуе ёй настрой цалкам.

– А падарунак? Падарунак ты мне купіла? – спытае ён бесцырымонна, намякаючы на свой дзень народзін. Акурат у той дзень яму споўніцца трынаццаць.

– Сяргей!

– Што, Сяргей!

– Хіба так можна?..

– Як так?

– Няўжо нейкая цацка…

– Ну, пачалося!.. – нахабна спыніць ён яе. – Заладзіла!

– Нічога я не заладзіла. Проста людзі, сынок… – яна на хвілінку задумаецца і дадасць пасля кароткай паўзы: – Людзі – яны як людзі. Жывуць і не хочуць ведаць, што побач з імі жывуць іншыя. Не такія, як яны. Людзям, сынок, пра сябе нагадваць трэба.

– Пры чым тут людзі, мама?

Яго позірк так і застанецца прыкаваным да невялічкага скрутка на маміным прыполе.

– Ты пакажаш падарунак ці не?

– Угаварыў, – усміхнецца яна паблажліва і падасць перавязаны сіняй стужкай пакунак. – Думаеш, лёгка мне было набыць гэта?.. Куды ні кінься – чэргі. Вэрхал, анархія… Гэты Гарбаты нас да жабрацтва давядзе хутка. Здохнем усе ад голаду.

– Што тут? – не зважаючы, пацікавіцца ён.

– Бінокль, – усміхнецца яна лагодна.

– Бінокль? – здзіўлена перапытае ён. – Навошта ён мне?

– Як?.. Хіба не ты яго ў мяне клянчыў? – ледзь стрымліваючы слёзы, спытаецца мама. І ён адчуе, як здрадліва ўздрыгне ад крыўды яе голас.

– Я клянчыў? Што, я клянчыў? – зрываючыся на крык, спытаецца ён. – Я прасіў у цябе фотаапарат…. Разумееш, фотаапарат!

Фотаапарат яму купіць дзядзька. У той жа дзень. Мама слёзна папросіць яго аб гэтым, а ён падслухае іх размову па тэлефоне. Але ні фотаапарат, ні бінокль не затрымаюцца ў яго доўга. Бінокль стырацць праз некалькі тыдняў у бальніцы, куды ён пападзе з траўмай вока, а ўзамен на фотаапарат ён вымяняе ў Бусі акуляры з цёмнымі шкельцамі. Тыя, якія носіць цяпер.

– Усё!.. Досыць пустых размоў, – абыякава махне рукой мама. Вытрэ рукавом вочы і загадае: – Вынесі смецце і збегай у краму. Вечарам прыйдуць госці, чым частаваць будзеш?..

– Я ?

– А хто па-твойму, я? Чый дзень нараджэння?..

Вось так і пачнецца той лёсавырашальны для яго дзень. Дзень, у які Бог некалі стварыў Еву, якая ў сваю чаргу народзіць яго… Задаволены працай, Бог будзе ўпотай радавацца на нябёсах, а ён…

А ён праз некалькі хвілін перасячэ дворык. Ледзь не саб'е ля суседняга пад'езда з ног маладую кабету з дзіцем – квадратную і ружовашчокую, падобную, як дзве кроплі вады, да Пышкі, жанчыны з карціны, якая доўгі час вісіць ужо над маміным ложкам. Азірнецца.

– Не еш з яго рук! – нечакана пачуе ён. Словы будуць адрасаваны малому хлопчыку, а яму падасца, што жанчына звяртаецца да яго. – Чуеш, прашу цябе, не еш з яго рук! "З чыіх рук?" – захоча спытаць ён у жанчыны, але так і не адважыцца.

"Як лёгка цябе збіць з панталыку, сынок!.." – спыніць яго здзеклівы мамін голас.

– Ева, у цябе дарослы сын! – лагодна ўсміхнецца яму дзядзька, мамін брат, і памкнецца крануцца яго чупрыны.

– Ева, як хутка растуць чужыя дзеці! – замітусіцца вакол яго маміна сяброўка і галасна засмяецца. Яму ж падасца, што зробіць яна тое наў-

мысна, каб пахваліцца перад прысутнымі сваімі рэдкімі, гнілымі зубамі. Ён нават пачуе непрыемны пах з яе рота. Але ўсе гэтыя "охі" і "ахі" яму давядзецца выслухоўваць нашмат пазней, вечарам. Госці, якія прыйдуць павіншаваць яго з днём нараджэння, заваляць пакой падарункамі, а праз гадзіну забудуць пра яго. Яны стануць абмяркоўваць што заўгодна: Белы дом, путч, Растраповіча з аўтаматам у руках, Руцкога – толькі не яго. Ён жа зачыніцца ў мамінай спальні і, пакуль дарослыя ў зале будуць піць за яго здароўе гарэлку, правядзе рэшткі вечара ў эратычных фантазіях з Монікай Велюр. Часопіс з аголенай порна-зоркай ён вывудзіць са скрыні з смеццем, старанна ачысціць яго ад бруду і схавае за пазуху. Назаўтра здымкамі будуць захапляцца амаль усе вучні класа, і дыягназ, які вынясе прыгожай жанчыне аўтарытэтны ў такіх пытаннях Буся, стане сапраўдным шокам.

– Гаўно! – выцадзіць коратка праз зубы Буся. – А хочаш, я пакажу табе такое!..

"Сабярыся і заедзь яму прамеж ног, – падумае ён упершыню. – Чуеш, заедзь яму паміж ног!" Але жаданне так і застанецца жаданнем. Хіба здольны ён быў тады на такі дзёрзкі ўчынак?..

– Чуча! – абразліва ўсміхнецца Буся і паспрабуе схаваць часопіс у сваю сумку.

– Аддай! – кінецца да яго з кулакамі ён.

– Настаўніца! Настаўніца! – закрычаць з усіх бакоў вучні, папярэджваючы іх. Але будзе ўжо позна. Класная адбярэ ў Бусі часопіс і адвядзе іх абодвух у кабінет да дырэктаркі. Тая бесцырымонна абшарыць кішэні і знойдзе ў Бусі пачак з цыгарэтамі. Калі пачне адкрываць яго, на падлогу выпадзе прэзерватыў. Яна ахне ад здзіўлення, распакуе яго. Потым дэманстратыўна начэпіць на канчык указкі.

– Што гэта ? – заікаючыся, спытае яна.

– Шарык, – нахабна ўсміхнецца Буся.

Але ўсё гэта будзе заўтра…

5

Шукаць сабе забаўкі, – занятак не з лёгкіх, асабліва, калі ты дзяўчынка і калі з цацак у цябе толькі адна лялька і тая з адарванымі нагамі і з распатурханымі асмаленымі космамі. Калі гаварыць ужо пра лялькі майго дзяцінства, то ўзгадваюцца толькі парцалянавыя, з шэрымі аднолькавымі тварамі. Жудаснае відовішча. Асабліва, калі глядзець на іх у прыцемку. Пры слабым асвятленні іх нібыта падмянялі, яны ажывалі і набывалі зусім іншы, містычны сэнс. Я доўга ўзіралася ў іх маўклівыя васковыя твары і не магла заснуць. Пачынала румзаць. Маме нічога не заставалася, акрамя як прыбіраць іх на нейкі час у шафу. А ранкам яны зноў стаялі на сваіх ранейшых месцах. Я не ведала яшчэ тады, што гульня ў лялькі – таксама мастацтва, што лялькі і людзі маюць шмат агульнага, што адны і другія

маюць талент здзіўляць. І ўсё ж самай любімай маёй гульнёй была гульня ў дзень і ноч. Простая і наіўная. Я зачынялася ў шафе, употай ад мамы, і доўга ўслухоўвалася ў цішыню. Апраметная цемра надавала рэчам таемнасць і загадкавасць. Цішыню гэтую карцела запоўніць рухамі. Я ўдыхала на поўныя грудзі паветра, насычанае пахамі парфумы, і старалася ні аб чым не думаць. Калі вочы пакрыху прызвычайваліся да цемры, калі яна пераставала быць такой жахлівай і таямнічай, як напачатку, я пачынала бачыць святло. Яно прасочвалася звонку, праз усе шчыліны. І мне здавалася, што я чую няўлоўнае мудрагелістае яго слізгаценне. Святло наліпала на тканіну, і да яго можна было дакрануцца кончыкам пальца. Мяне перапаўняла нязведаная дасюль радасць. Верагодна, гэта было нешта большае, чым радасць. Але мой розум быў заняты іншым. Кожны раз я лавіла сябе на думцы, што зазіраю за межы нечага дазволенага, у свет, нябачны для іншых. “А можа, гэта і ёсць той самы свет, скуль я прыйшла?” – думала я неаднойчы, губляючы адчуванне часу. І тады, на мяжы свядомасці і сну, узнікала разуменне, што гэта не святло, а маё жыццё перацякае з адной бясконцасці ў іншую.

Гульні ў падсвядомае сталі для мяне неабходнасцю. Без іх я сваё жыццё ўжо не ўяўляла. Але аднойчы здарылася непрадказальнае. Гульня зацягнулася, і я страціла кантроль над сабой. Я заснула, зачараваная сваімі замілаваннямі. Колькі часу праспала, не памятаю. А калі расплюшчыла вочы і прыадчыніла дзверцы, то мой позірк адразу ж наткнуўся на апраметную цемру. То была ўжо сапраўдная ноч. І я не ведала, што мне рабіць. Уразіў не сам змрок, а тое, што мая працяглая адсутнасць засталася незаўважанай. Пра мяне забылі. Усе. Нават мама. Мяне быццам бы і не існавала ў гэтым свеце. Ніколі. Мне зрабілася страшна. Я закрычала. Праз хвіліну мне падалося, што гэтага мала і, каб заявіць пра сябе, я пачала ў дадатак тупаценць нагамі, чым і разбудзіла маму. Яна запаліла святло і вызірнула са спальні. Яе твар быў мармуровым, непрабівальным. Гэта дабіла мяне дарэшты. Мы стаялі насупраць, у цэнтры неабсяжнага Нічога, і глядзелі адна адной у вочы. І маўчалі.

– Ідыётка!.. – выціснула нарэшце мама. – Марш спаць!..

Я мацней упілася вачыма ў яе вочы. Я шукала ў яе позірку сябе … І не знаходзіла…

## 6

Надакучлівае скавытанне клаксона адарвала яго ад успамінаў. Ён азірнуўся і інстынктыўна адскочыў убок. Бус на невялікай хуткасці абмінуў яго і прыпаркаваўся ля суседняга пад’езда. Абы як, перагарадзіўшы дарогу астатняму транспарту. “Хуткая дапамога”, – паспеў прачытаць ён на бакавой панэлі. Счакаў хвілінку і накіраваўся да машыны…

Буся сваё слова стрымаў. Хаця лепей бы ён яго не стрымліваў. Мена-

віта з гэтага дня ўсё і пайшло наперакасяк у жыцці. Аднак, ацэньваючы тыя свае паводзіны з пазіцыі пэўнага жыццёвага вопыту, ён не аднойчы будзе лавіць сябе на жахлівай вар'яцкай думцы, што нават цяпер, калі б усё паўтарылася наноў, ён, не задумваючыся, зрабіў бы гэтаксама, як тады, не гледзячы на ўсе далейшыя наступствы. Што ні кажы, а жыццё справядлівае. Немагчыма схавацца ад лёсу, тым больш, што ты не шэрая зязюлька і жыццё тваё не старэнькія насценныя ходзікі. Празрыстасць рассейвае цені і разбурае шчыльнасць. Міне час, ён абзавядзецца новымі сябрамі, нешматлікімі, але больш аўтарытэтнымі на яго думку, ды Буся так і застанецца для яго Бусяй – сябрам, якім ён яму ніколі не быў. Але пра ўсё гэта па парадку…

У пятніцу, напрыканцы заняткаў, Буся спыніў яго на калідоры ля распранальні.

– Салют, мамкін сынок! – здекліва павітаўся ён і пацікавіўся: – Як пажывае славутая Моніка Велюр?

– Я не мамкін сынок, – агрызнуўся ён, спрабуючы абмінуць яго. Буся загарадзіў дарогу.

– І хто ты па-твойму? – з'едліва ўсміхнуўся ён. Схапіў яго за кашулю і ўсім целам прыціснуў да сцяны.

– Ніхто, – пакрыўджана зморшчыўся ён і папрасіў: – Пусці.

– Вось бачыш, сам прызнаешся: ты – ніхто, – нахабна падсумаваў Буся. – А цяпер пакажы свае клешні.

Ён крутануўся, спрабуючы вызваліцца. Аднак Буся яшчэ шчыльней прыціснуў яго да халоднай атынкоўкі. Адступаць не было куды.

– Рукі свае пакажы, чуча! – дыхнуў ён узбуджана недзе ля вуха.

– Навошта?

– Казалі, што ў цябе паміж пальцаў растуць валасы. Гэта праўда?

– Няпраўда, – пакрыўджана адтапырыў ён верхнюю губу.

– Як жа! Ва ўсіх растуць, а ў цябе не.

– У каго, ва ўсіх?

– У тых, хто займаецца ананізмам, – здзекліва ўдакладніў Буся.

– Я не займаюся, – заружавеўся ён і нехаця паглядзеў на свае рукі. Вядома, ніякіх валасоў там і блізка не было, гэта быў чарговы Бусін выкрут, але ён на яго купіўся. І цяпер…

– Ха! А вось і займаешся! – зарагатаў задаволена Буся і, звяртаючыся да вучняў, што абступілі іх з усіх бакоў, крыкнуў: – Увага! Усім увага! Гэты прыдурак займаецца ананізмам! У яго паміж пальцаў растуць валасы!..

Паветра страсянулася ад рогату. Ён паспрабаваў вырвацца з утворанага імі жывога кола, але беспаспяхова. З усіх бакоў чулася абразлівае: "Ананіст!.. Ананіст!.. Ананіст!.." Яго зняважаў увесь клас.

– Лады, хопіць. Фініта! – спыніў нечакана спектакль Буся. Абвёў прысутных пагрозлівым позіркам і загадаў: – Брысь адсюль! Усе! Я каму сказаў!

Зборышча імгненна пачало распаўзацца.

– Ну дык ты едзеш са мной?.. – спытаў Буся як ні ў чым не бывала. Яго голас цяпер гучаў па-іншаму, не быў такім рэзкім і ваяўнічым, як хвіліну таму, і выклікаў давер.

– Куды? – спытаў ён, не хаваючы сваёй крыўды.

– Блін!.. Чуча! Не будзь размазнёй!.. – абразліва зморшчыўся Буся. – Губкі надзьмуў, пакрыўдзіўся. Тожа мне, краля! Апошні раз паўтараю, для дэбілаў: едзеш?

Часу на роздум не было. Двойчы паўтараць Буся не стане. І ён гэта ведаў. Не той Буся чалавек каб некага ўгаворваць. Можна адмовіццца, вядома, але тады… Тады цябе так абразяць, што смяяцца будзе не толькі клас, але ўся школа.

– От жа, сцыкло! Здрэйфіў, – не хаваючы свайго раздражнення, цынічна сплюнуў праз зубы Буся. – Што ж, не дурань, зразумеў… Бывай здароў, мастурбатар!..

– Я еду. Я еду… – заспяшаўся ён.

Буся акінуў яго недаверлівым пагардлівым позіркам і прамаўчаў. Але гэтае яго маўчанне было красамоўней за любыя словы. Усё пачынаецца з дробязяў. А потым пераходзіць у звычку. Яму захацелася плакаць. Ад жалю.

Праз некалькі хвілін яны трэсліся ў біткам набітай “шасцёрцы”. Куды?.. Ведаў хіба толькі адзін Бог. І Буся. Апошні і быў для яго ў гэты момант Богам. Бо калі гаварыць пра сяброў, якіх ён марыў мець, то лепшага сябра, чым Буся, ён уявіць сабе не мог. Менавіта на яго сілу і на яго шырокія плечы ён і разлічваў. “Чым ярчэй святло, – ведаў ён, – тым гусцей цені!” Гэтую ісціну ён вывудзіў з адной разумнай дарослай кніжкі, той, што хавала ад яго старанна мама. І засвоіў яе раз і назаўжды. Чытаць кніжку даводзілася прыхапкамі, употай, каб не заспела мама. Аддаляючы яго ад усяго дарослага, верагодна, імкнулася ўтрымаць сына ля сябе. Яму ж не хацелася быць размазнёй. Ён сніў сябе такім жа аўтарытэтным, незалежным і дужым, як Буся. Ён марыў займацца чым захочацца, рабіць, што ўзбрыдзе ў галаву, не азіраючыся. Але каб быць такім, неабходна было мець неаспрэчны аўтарытэт і сілу. А калі гэтага няма? Як быць тады?.. І тое, што Буся паверыў у яго, узяў з сабой, – гаварыла аб многім. Яму пляваць было, куды яны едуць. Ён з прыкрасцю ўспамінаў зайздрослівыя позіркі гэтых задавакаў, што яшчэ хвіліну таму лезлі да яго з абразамі, і адчуваў, як яны яму зайздросцяць. Усё астатняе пакрыху аддалялася, як нешта непатрэбнае і не вартае ўвагі. “Сябраваць абы з кім Буся не стане,” – паўтараў ён пераканаўча...

Аўтобус завярнуў за вугал прадуктовай крамы і выруліў на шырокую прывакзальную плошчу. Павольна прадэфіліраваў уздоўж аднолькавых прывакзальных будынкаў і спыніўся ля газетнага шапіка.

– Прыгарадны вакзал. Канцавы, – прахрыпеў прастуджананым голасам

дынамік.

Дзверы адчыніліся, і натоўп ламануў мітусліва да выхаду. Сталая кабета з дзвюма гаспадарчымі сумкамі завошкалася ў праходзе, замінаючы астатнім. Бnative спрытна праслізнуў між яе сумак і выскачыў на вуліцу. Ён кінуўся следам, але зачапіўся нагой за жалезны выступ і ледзь не ўпаў. Нейкі вусаты тып з перакошаным хударлявым тварам лоўка падхапіў яго амаль з падлогі і падштурхнуў да дзвярэй. Праз хвіліну ён быў на волі. На яго недаўменны позірк, Буся толькі загадкава кіўнуў галавой у напрамку забудоў, і яны моўчкі рушылі да іх праз плошчу. За шапікамі абмінулі купку дэманстрантаў. Голас аратара зліваўся з гукамі машын, і разабраць, што ён выкрыквае, было немагчыма. “ХАЙ ЖЫВЕ КПСС НА ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ АЭС!” – прачытаў ён на адным з плакатаў, што луналі па-над галовамі дэманстрантаў, і сціішыў хаду.

– Так жыць нельга! – даляцела да яго з натоўпу. – Калі я гавару: камуністы, вы павінны разумець, што размова ідзе аб катах і турэмшчыках, сэксотах і гэбістах, – крыкнуў малады мужчына. – Гэта яны гнаілі ў лагерах сумленне нашай нацыі…

– Дзермакраты херавыя! – абразліва выцадзіў Буся і штурхнуў яго пад бок. – Пайшлі адсюль... Сукі! Пры чым тут усе камуністы?..

У школе пляткарылі, што быццам бы яго бацька – нейкая важная шышка ў аблвыканкаме. Відавочна, так яно і было, бо нават сам Буся не хаваў таго. Многае яму спускалі з рук. Аднойчы нават, калі класная абазвала яго цяпай за тое, што ледзь было не скінуў са стала акварыум у кабінеце біялогіі, ён адкрыта пастрашыў яе пры ўсім класе: “Скажу бацьку...”. На днях яго дзядзька, мамін брат, адкрыта пры ўсіх заявіў, што калі б гэтыя самыя “шэраговыя” камуністы, якіх адстойвае Буся, выйшлі адначасова ўсе з партыіі, то з яе б адразу ж асыпаўся ўвесь той ілжывы партыйны грым. Яму захацелася нагадаць Бусі аб гэтым, аднак ён стрымаў сябе, пабаяўся.

Яны перасеклі па дыяганалі плошчу і рушылі ўздоўж чыгункі. У аддаленні віднеліся некалькі жылых забудоў, хучэй за ўсё гэта былі службовыя памяшканні. Да іх яны крыху не дайшлі, за рампай сцяжынка крута павярнула ўбок да невялічкага хмызняку. Яны моўчкі прайшлі па ёй некалькі метраў і наткнуліся на звычайную, збітую з дошак, прыбіральню.

– Вось мы і прыйшлі, – задаволена ўсміхнуўся Буся.

– Куды?..

Ад нечаканасці ў яго звяло страўнік. “Блін, як ён раней не мог пра гэта здагадацца. Хаця што б тое вырашыла? Усё роўна паехаў бы. З іншымі – не, а з Бусяй паехаў бы… Няхай толькі паспрабуюць цяпер вякнуць гэтыя шаўкі, Буся ім хутка рот заткне…”

Неяк напрыканцы мінулага года Буся доўга хварэў. Дакладную гісторыю яго хваробы ніхто з вучняў не ведаў. Магчыма, што ўсё так і

засталося б на ўзроўні здагадак, каб не Вадзік. Ён, як высветлілася, быў з ім у адной кампаніі, а што ведаюць двое – ведае ўвесь свет. Вадзік і разнёс па ўсёй школе плётку, як яны з Бусем падглядвалі ў гарадской лазні за голымі жанчынамі. Вадзікаў бацька працаваў там электрыкам, і Буся, карыстаючыся зручным момантам, навучыў Вадзіка прарабіць некалькі драпінаў у зафарбаваных шыбінах, а калі сцямнела, яны ўдвух і палезлі на старую таполю, галлё якой упіралася ў вокны лазні. Адна з галін не вытрымала іх цяжару і абламалася.

– Цягнік прыбывае праз некалькі хвілін, – парушыў маўчанне Буся. – Усе яны папруцца сюды. Вось тады і глядзі...

Ён не дагаварыў. Усміхнуўся і змоўніцкі падміргнуў. У паветры павісла маўчанне. Ніколі не ведаеш, што гаварыць у такіх выпадках.

– Гэта табе не Моніка Велюр.

– А што мне рабіць? – спытаў ён няўпэўнена.

– Дурань, ці прыкідваешся?.. Арыентуйся на месцы. Галоўнае, не выдай сябе. Сядзі ціха і назірай.

Ён выцягнуў з пачка некалькі запалак і адламаў у адной з іх кончык.

– Кароткая – ідзеш першым, – сказаў ён і схаваў рукі за спіну. Праз хвіліну выцягнуў іх зноў і прапанаваў: – Цягні.

Яму выпала кароткая.

– Пашанцавала, – пашкадаваў Буся. – Першаму – самы цымус. Лады, чакаю цябе за рампай. Глядзі, доўга не баўся. Я таксама хачу паглядзець. Дзесяць хвілін ты, дзесяць я. Дамовіліся?..

Ён увайшоў у прыбіральню без ніякай ахвоты. Шчыльна зачыніў за сабою дзверы і агледзеўся. Праз некалькі хвілін вочы пачалі прызвычайвацца да змроку. Позірк ляніва слізгануў па распісаных крэйдаю сценах. Ад няма чаго рабіць ён пачаў чытаць надпісы. Ні за кім ён, вядома, падглядваць не збіраўся. Што ён маленькі, жанчын голых не бачыў? Ды хаця б нават на тых жа здымках. І маму голай ён неаднойчы заставаў у ваннай. Хаця мама гэта не тое…

Мінула яшчэ некалькі хвілін. Знадворку даносілася ціхае шамаценне жыцця. Ён чуў нечыя ўзбуджаныя галасы. Нечы смех. Дыханне. Адны крокі змяняліся іншымі. А ён стаяў, баючыся варухнуцца. “Усё гэта ганебна і абразліва,” – думаў ён, услухоўваючыся ў цішыню. – Вось яшчэ некалькі хвілін пастаю і пайду. Але што я скажу Бусі, калі той спытае? А ён абавязкова спытае…” Мінула яшчэ некалькі хвілін. І ён пачуў амаль побач нечыя хуткія крокі. Не вытрымаў, прыпаў шчакой да шурпатай калючай дошкі. Паверхня балюча ўрэзалася ў цела. Сэрца трывожна сціснулася. Плямка каляровай блузкі – гэта ўсё, што ён паспеў убачыць. Дзірку шчыльна закрыла нечая далонь. Ён счакаў і выпрастаўся. Ногі закляклі, не падпарадкоўваліся яму. Дошкі здрадліва рыпнулі. Ён паслізнуўся і ледзь не шмякнуўся на брудную падлогу. Ухапіўся рукой за клямку і зноў прыпаў шчакой да шурпатай дошкі. Нечаканы боль апёк

яму твар. Ён адхіснуўся. З дзіркі тырчэў аловак. Па інерцыі ён пацягнуў за яго кончык і вырваў з нечых рук.

– Мужланы!.. Сволачы!.. Вам жонак сваіх мала? – пачулася з-за драўлянай перагародкі. Усё гэта падалося яму настолькі зневажальным, што захацелася памерці. Унутрана. Ён заціснуў далонню параненае вока і кінуўся да дзвярэй. Дабег да рампы, перасёк чыгунку і завярнуў за службовае памяшканне. Спыніўся, перавёў дых. Адняў ад вока далонь. Пальцы былі ў крыві. Твар палаў агнём. Ён зноў прыкрыў вока далонню і ад безвыходнасці лёг на траву. Сэрца трывожна калацілася. У галаву лезла розная непатрэбшчына. Яму здавалася, што ён памірае. Праз хвіліну прыбег Буся. Ён цяжка соп.

– Што здарылася? – усхвалявана спытаў ён.

– Вока, – вымавіў ён коратка.

– Што вока?

– Здаецца, яна мне яго выбрала.

– Блін, чуча!.. Дэбіл!..– замітусіўся Буся. – Хто прасіў цябе падстаўляцца? Што мне цяпер з табой рабіць загадаеш, га?

Ён вырваў з яго рук аловак і паламаў са злосці папалам.

– Аддай аловак, – загадаў ён рашуча. Падхапіўся з зямлі і кінуўся да Бусі з кулакамі. – Аддай, чуеш!

– Супакойся, чуча! – недаверліва зірнуў на яго той. – На, вазьмі. І можаш засунуць яго сабе ў сраку.

У паветры павісла трывожнае маўчанне.

– У бальніцу табе трэба, – нечакана сказаў Буся. – І тэрмінова...

– У бальніцу? А што я скажу маме? – крыкнуў ён у запале. – Што?.. Што?.. Што?..

– Аслепнеш, дурань!

– Заткніся. Гэта ўсё праз цябе!

– Што ўсё?

– Гэта… – сказаў ён, выстаўляючы перад ім аловак.

– Дэбіл! Паглядзі, на каго ты падобны. Размазня. Памыйся спачатку. Здымай кашулю, хутка. Лады, ляжы ўжо, я сваю.

Ён скінуў з сябе кашулю і парваў яе на шматкі.

– Блін! – жахнуўся ён. – Так нічога не атрымаецца. Нешта падкласці трэба.

– Перавязвай, – запатрабаваў ён.

– Чакай ты. Прысохне павязка да раны, не адарвеш потым. Можа, вокладку з падручніка? Давай ранец.

І тут ён успомніў пра абразок.

– Залезь да мяне ў кішэню. Там ёсць… там ёсць картонка.

У галаве прамільгнула надзея на цуд. Ён адчуў, як Бусіна рука слізганула па целу і спужаўся. Ён яго амаль не бачыў. Наваколле было нейкай суцэльнай расплывістай плямай. Нібыта замкнулася тоўшчай мутнай

смярдзючай вады. Смуродныя калыхлівыя хвалі ахіналі з галавой. І ён тануў. Ён быў недзе там, унутры гэтай бруднай калыхлівай сапраўднасці.

Божая Маці не выратавала. Хуткую дапамогу давялося выклікаць. А яшчэ праз некалькі гадзін зрабілі аперацыю.

Першае, аб чым ён папрасіў, калі знялі павязку, падаць люстэрка. Мама нехаця дастала з сумачкі сваю касметычку. Ён доўга трымаў яе, баючыся адчыніць. Наўмысна цягнуў час. Нарэшце наважыўся, зірнуў на сябе і адразу ж адхіснуўся.

– Квазімода, – выціснуў ён пасля непрацяглай паўзы і шпурнуў касметычку ў сметніцу. Калі доўга і бязмэтна ўзірацца ў люстэрка, яно можа скрасці вашу душу. Гэта ён некалі чуў ужо…

7

З кожным днём я губляю сябе. Жыццё выцякае з мяне. Кропля за кропляй. Распаўзаецца вакол бруднай невыразнай плямай. Ні чысціні, ні празрыстасці. Я пустэльніца. Я закладніца выпадковасці. Я асуджана на пакуты. Я – кепскі прыклад для іншых. Адну мяне мама на вуліцу цяпер не адпускае. Трымае пад замком. Так ёй спакайней. Пра гэта яна гаворыць усім. Мне ж застаецца толькі чакаць. Чакаць выхадных. Кожную нядзелю мама вязе мяне на інваліднай калясцы ў горад. Ці не дзіўна ўсё гэта? У мяне ёсць ногі. Рукі. Я – здаровы чалавек. “Так трэба! – пераконвае мяне мама, калі я пачынаю хныкаць. – Ад гэтага цалкам залежыць наш прыбытак“. Цяпер я гадзінамі стаю на гандлёвай плошчы. Ля газетнага шапіка. Тут маё законнае месца. Такіх, як я, у горадзе многа, і кожнаму хочацца есці! Так сцвярджае мама. Яна заўжды побач. Непадалёку. У эпіцэнтры імклівага мітуслівага натоўпу. Але побач, гэта не значыць, што са мной. У яе іншыя справы. Забірае мяне кожны дзень пад вечар. Падлічвае міласціну. І калі “ўлоў”, як яна называе сабраныя за дзень грошы, задавальняе, яе настрой паляпшаецца. І тады яна дазваляе мне крыху пагуляць бліз дома. Гэта ўзнагарода за маю цярплівасць. Бо высядзець цэлы дзень на адным месцы ў калясцы – справа не з лёгкіх. Аднойчы я паспрабавала парушыць усталяваныя мамай правілы. Прыбіральня, куды мне нясцерпна захацелася, была амаль побач. І мне падумалася, што нічога не станецца трагічнага, калі я туды збегаю, па хуткаму. Я ўстала і пайшла. А калі вярнулася... мама мяне ўжо чакала. Такой злоснай я не бачыла яе яшчэ ніколі. І здавалася б, з-за чаго злавацца? Яна не стала мне нічога тлумачыць, але пасля гэтага выпадку я амаль месяц сядзела дома. Цяпер мяне нават у выхадныя дні не вывозілі ў горад. Выпрабоўваць маміна цярпенне яшчэ раз мне б не хацелася. Гэта так кепска, быць зняволенай. Сядзець цэлымі днямі ў пакоі і размаўляць сама з сабою… А яшчэ са стодзівамі. Іх маўклівыя здані я маю магчымасць назіраць кожны дзень праз вокны.

Яна напружваецца, каб заглыбіцца ў сэнс гэтага дзіўнага слова. Стодзівы… Чаму стодзівы? Яна падыходзіць да акна і ўзіраецца ў далячынь. Плошча амаль бязлюдная. Пасярэдзіне яе самотны помнік. Яе позірк затрымліваецца на выяве каменнага чалавека. Ад яго чамусьці заўсёды чакаеш непрыемнасцяў. Мама кажа, што гэта Ленін. Не ведаю, хто такі Ленін, але я люблю размаўляць з ім…

8

Свет пахіснуўся. Абяднеў. Напалову паменшыўся ў памерах. Вокны і тыя ў кватэры цяпер сталі адно – маміна, другое – яго. Мама патлумачыла гэта наступным чынам:

– Проста ты стаў дарослым. І цяпер у цябе будзе свой асобны пакой.

Ён засумняваўся, западозрыў яе ў няшчырасці. Яму падалося, што такое рашэнне мама прыняла дзеля таго, каб менш сутыкацца з ім, пакінуць яго сам-насам са сваёю пачварнасцю. І пакой адвяла не самы лепшы. Меншы па памерах, і форма вакна іншая. А вокны для таго і ёсць вокны, каб забяспечваць нас святлом. “А вочы?.. – падумаў ён. – Для чаго нам тады патрэбны вочы?...“

– Вочы, сынок, – гэта тыя ж вокны… Вокны нашай душы, – сказала яму аднойчы мама, нібыта зазірнуўшы ў яго думкі. – Цяпер у цябе будзе свой пакой.

– І сваё вакно.

– Так, і сваё вакно, – пагадзілася мама.

“Адно вакно, – захацелася ўдакладніць яму. Але ён прамаўчаў, сумна зірнуў на маму і падумаў: – Значыць, і душа мая абяднела таксама. Цяпер мае вочы не здольныя стаць камерай абскура”.

– Біллі, а праўда, што ты бачыш цяпер не тое, што бачаць іншыя? – спытаў неяк у яго Буся.

– Я бачу тое, што бачыў! – раззлаваўся ён.

– Не скажы. Ты цяпер своеасаблівы, пазначаны Богам. Ты – геній.

– Чаму геній? – здзівіўся ён.

– Таму што ўсе геніі былі аднавокімі, – усміхнуўся Буся.

– Тожа мне скажаш.

– Не верыш? Спытай у любога. Гарбаты – і той пазначаны Богам. Бог шэльму меціць.

– Хіба Гарбачоў аднавокі? – здзівіўся ён.

– Не, затое Кутузаў... А праўда, што ты будзеш насіць цяпер чорную павязку?

– Ніякіх павязак, – перапужаўся ён. – Мне паставяць пратэз. Мама абяцала. У дзядзькі ёсць сувязі, ён дапаможа.

– Пратэз? – незадаволена скрывіўся Буся. Задумаўся. – Знаеш, на каго ты будзеш падобны?

– На каго?
– На Азазелу.
– Хто такі гэты твой Азазела?
– Фіг яго ведае. Так гавораць. Хочаш, я табе акуляры падганю? Спецыяльныя, з зацемненымі шкельцамі. Іх насіў мой нябожчык дзядзька. Падумай!..
– Што захочаш узамен?
Буся задумаўся:
– А што ў цябе ёсць?
– Ну-у… Шмат чаго.
– Хачу фотаапарат, – зірнуў на яго лісліва Буся.
Аддаваць фотаапарат за нейкія акуляры, няхай сабе і з зацемненымі шкельцамі, было шкада, але выбіраць не даводзілася.
– Ну што, згода? – напіраў Буся.
– Згода…
Спадзяванне, што ад калецтва можна схавацца за цёмнымі шкельцамі, не спраўдзілася. Варта было яму толькі паказацца раніцай у школе, як адразу ж усталёўвалася цішыня. Вучні зіркалі на яго, лезлі, не саромеючыся, з непрыстойнымі пытаннямі. І гэтая звышувага пачала пакрыху раздражняць яго. Адзінае выйсце, якое ён убачыў тады, – пасябраваць з самім сабой.
Вярнуўшыся неяк са школы, ён знайшоў у паштовай скрыні адрасаваны яму ліст. Почырк на канверце сведчыў, што ліст ад дарослага чалавека, хучэй за ўсё ад жанчыны. Ён доўга не разрываў канверт, баяўся, прадчуваў нешта няладнае. Наважыўся толькі вечарам. Расправіў складзены ўчацвёра ліст і хуценька прабег вачыма: “Вось я і знайшла цябе. Задача была складаная. Сам зразумей, бачыла я цябе толькі аднойчы і то са спіны. Ні твару твайго, ні імя, нічога… “Божа! – малілася я неаднойчы ўсявышняму. – Дапамажы мне знайсці яго…” Шукаць чалавека ў вялікім горадзе, – гэта ўсё роўна, што шукаць іголку ў стозе сена. І я знайшла яе, у стозе сена. Я хачу папрасіць прабачэння. Што я яшчэ магу зрабіць! Ведай, я малюся за цябе, і буду маліцца да скону дзён сваіх, усё сваё астатняе жыццё. Заўжды. Бачыць Бог, я не хацела рабіць гэтага. Не хацела прычыняць табе боль. Так атрымалася. Я шмат што аддала б цяпер, каб гэтага не здарылася. На жаль, назад ужо нічога не вернеш. Цяпер я твая вечная даўжніца. Н.”
Ён некалькі разоў перачытаў ліст. Потым запіхнуў яго ў кнігу, каб не знайшла мама. Яна не ведала ўсіх падрабязнасцяў той трагічнай гісторыі. Ён тады схлусіў, напрыдумоўваў рознай усячыны. Увёў усіх у зман. І Бусю падмовіў, каб маўчаў. Чым даў яму толькі падставу для шантажу. І трэба прызнацца, што Буся стане карыстацца гэтым неаднойчы. Але то ўжо іншая гісторыя.
На наступны дзень ён прапусціў заняткі і ўвесь дзень патраціў на

пошукі жанчыны. З самага ранку ён накіраваўся ў цэнтральную частку горада. Купіўся на тое, што штамп на канверце належаў трэцяму аддзяленню сувязі. Ён акрэсліў у думках тэрыторыю, дзе магла б пражываць гэтая жанчына і вырашыў абследаваць для пачатку чатыры вуліцы. “Калі яна жыве тут, мы абавязкова сустрэнемся, – саманадзейна вырашыў ён. – Быць таго не можа, каб яна не праявіла сябе. Тым больш, што мяне яна, калі судзіць па допісу, ведае ў твар. Буду блукаць да перамогі”. Ён зняў акуляры, начапіў наўмысна на твар чорную павязку, каб кідалася здалёк у вочы, і пачаў пошукі. Ён не ведаў яшчэ, што скажа гэтай жанчыне пры сустрэчы, ён нават і не думаў пакуль пра тое, для яго было важна яе знайсці. А там – што Бог пашле. Як выглядае жанчына, які яна мае ўзрост, даводзілася толькі здагадвацца. Тое, што запомнілася, не мела цяпер аніякай карысці. Нязначныя дробязі, фрагменцік: частка рукі, пярсцёнак і невялічкі размыты трохкутнічак блузкі. Вось і ўсё.

Пошукі не прынеслі вынікаў. Час быў дарма змарнаваны. Ён доўга блукаў па вуліцах, тупа ўзіраючыся ў твары прахожых. Адны кідаліся ад яго, як ад вар’ята, імкнучыся абысці бокам, іншыя спяшаліся растварыцца ў вірлівым натоўпе ці схавацца ў пад’ездзе нечага дома. У яго сапраўды быў дзіўны выгляд. Пад вечар ён усё ж западозрыў у адной кабеце тую, каго настырна шукаў увесь дзень. Яму падалося раптам, што пярсцёнак на яе пальцы падобны да таго, што ён некалі бачыў у той жанчыны, якую шукаў цяпер. Ён плёўся за ёю амаль да пад’езда. Калі ўглядаўся ў жанчыну больш пільна, яму здавалася, што і блузка на ёй таго ж фасону. Спачатку кабета не заўважала яго. Потым, западозрыўшы, пачала раз-пораз здзіўлена азірацца. Потым спынілася, дачакалася яго і спыталася: “Ты нешта хацеў, хлопча?” Ён прамаўчаў. На тым пошукі скончыліся. Пра гэты выпадак можна было б забыць, каб не заняткі. Цэлы дзень ён адсутнічаў у школе, а гэта азначала, што заўтра давядзецца тлумачыць прычыну сваёй адсутнасці маме. Класная патэлефануе ёй абавязкова, калі ўжо не патэлефанавала. А гэта – зноў слёзы. І ён вырашыў апярэдзіць настаўніцу.

– Перавядзі мяне ў іншую школу, – папрасіў ён вечарам у мамы.

На яе твары застыла здзіўленне.

– Гэта немагчыма, сынок. Ва ўсякім разе, ты, як мінімум, павінен скончыць чвэрць. Ну, а потым паглядзім.

– Мне прыкра вучыцца ў гэтай школе, – заявіў ён нечакана, выціскаючы слязу.

– Гэта чаму? – зірнула на яго недаверліва мама.

– Яны здзекуюцца з мяне, зневажаюць. Называюць Азазелай, – схлусіў ён.

– Кім?

– Азазелай.

– Ну, што ты такое пляцеш! Якім яшчэ Азазелай!.. Хопіць з мяне, заўтра

я разнясу тваю школу ўшчэнт, – паабяцала мама і ціха заплакала. Ён спужаўся. Ведаў: так яно ўсё і будзе. Спачатку яна паставіць на вушы настаўнікаў, а потым, калі ёй раскажуць праўду…

І ўсё ж школу ён памяняў. З пятай перавёўся ў семнаццатую. Адразу ж пасля зімовых канікулаў. Дабірацца туды стала нязручна. Але, не гледзячы ні на што, сваім выбарам ён застаўся задаволены. Надзеі на Бусю не апраўдаліся. Жыццё ўнесла ў планы пэўныя карэктывы. “Хопіць. Я выходжу з твайго ценю! – вырашыў ён цвёрда. – Ты не той, на каго я разлічваў”.

Праз месяц ён атрымаў ад незнаёмкі яшчэ адзін ліст. Потым яшчэ адзін… Гэта пачынала раздражняць яго. Лісты прыходзілі звычайна напярэдадні святаў. Акрамя іх, ён атрымліваў пасылкі. Падарункі былі самыя звычайныя. Пераважна – танныя сувеніры. Аднойчы ён атрымаў касету з запісамі Арво Пярта. У суправаджальным лісце было напісана: "Не ўсё сказана на мове маўчання. Арва Пярт: “TE DEUM”. Н.”

9

Мой позірк дасягае яго ля пад’езда. Ён адчыняе дзверы і азіраецца.

–Ляля!.. – ціха шапчу я.

У паветры павісае жудасная напружанасць. Перасільваю страх і выціскаю ўсмешку. Спадзяюся, што яна здольная нейтралізаваць яго злосць. Спадзяванні дарэмныя. Яго твар па-ранейшаму змрочны і стомлены.

– Ляля! – паўтараю я ўпарта. Так яго называю заўжды, калі мне страшна. Гэтым чалавекам захапляцца небяспечна, Ад яго, як і ад тых, што на плошчы, вее ледзяным, замагільным холадам. Скуль гэтая невыносная напружанасць? Скуль гэты векавы холад? Узіраюся ў твар. Што за дзіўныя акуляры? Чакаю, калі ён здыме іх. Гэтага не адбываецца. У чарговы раз задавольваюся самым нязначным, мізерным. Дзверы зачыняюцца. І я застаюся адна.

– Усё роўна цябе пацалую! Ляля!..

10

Пераход з адной школы ў іншую не паменшыў яго праблем. Наадварот, комплекс непаўнавартаснасці ўкараніўся больш трывала. І мянушка пацягнулася следам. Цяпер інакш як Біллі яго ніхто не называў. Гэта толькі ўзмацніла нянавісць да аднагодкаў. Ён пачаў пазбягаць іх, трымацца асобна, на пэўнай адлегласці. Свет, які ён стварыў сабе сам, быў не заўжды зразумелым іншым, але затое зручным для яго самога. Ён пачуваў сябе ў ім, як рыба ў вадзе – ніякіх нязручнасцяў, адны мары і ілюзіі. Чужынцам тут не было месца. Нават маме. “Не маеш сяброў, –

вырашыў ён цвёрда, – зрабі сваім сябрам самога сябе!” Ён не памятаў ужо дакладна, у каго запазычыў гэтую карысную і так неабходную для яго параду, але яна стала выратавальным кругам, які ўтрымліваў яго на паверхні жыцця. Хацелася яму таго ці не, але да новых абставін давялося прызвычайвацца. Неабходна было вучыцца жыць у згодзе з самім сабой, трымаць нос па ветру. Выпадалі дні, калі ён забываў нават пра сваё калецтва, жыў як і ўсе вакол, пакуль нехта далікатна не вяртаў яго зноў у рэчаіснасць. У такія хвіліны нянавісць да людзей толькі ўзмацнялася.

Вучыўся ён цяпер у дзесятым класе і лічыў сябе дастаткова дарослым. Цяпер ён мог самастойна прымаць любыя рашэнні. І калі мама надумала ў чарговы раз браць шлюб з сумніўным тыпам, ён цынічна падтрымаў яе намер і нават параіў пераехаць жыць да мужа, калі паўстаў такі выбар. Вядома, пралічыўшы ўсе “за” і “супраць”. Тое, што давялося пачуць яму аднойчы ў свой бок ад мамінага хахаля, толькі дадало ўпэўненасці, пераканала, што разлічваць у жыцці варта толькі на самога сябе.

– Я не збіраюся марнаваць час на выхаванне твайго бэйбуса, – сказаў неяк маме айчым. Відавочна, яны абмяркоўвалі яго асобу. Мама ў адказ прамаўчала, тады айчым катэгарычна дадаў: – Ты павінна сама вызначыцца. І ў самы кароткі тэрмін. Не бойся, ён не прападзе…

Слухаць далей ён не стаў. Збег, каб не расплакацца. Але з гэтага дня ціха ўзненавідзеў айчыма. І маміна рашэнне пераехаць жыць да мужа прыняў за шчасце. Яшчэ б, кватэра заставалася яму і ён цяпер быў сам сабе гаспадаром.

– Сяргей, нам шмат ёсць аб чым пагаварыць, і я хацела б… – наважылася яна аднойчы. Гэта не заспела яго знянацку. Ён ведаў, пра што пойдзе гаворка, і ўнутрана быў падрыхтаваны да яе.

– Сяргей! – пачала нерашуча мама пасля працяглай пакутлівай паўзы. – Хацелася б, каб ты зразумеў мяне… Ты дарослы, і я буду гаварыць з табой шчыра… Пэўны час табе давядзецца пажыць аднаму…

У пакоі павісла маўчанне. Здавалася, усё ў гэтым пакоі было створана з маўчання. І з цынізму. Мама марудзіла. Ён таксама не спяшаўся з высновамі. Гэта быў своеасаблівы двубой – хто каго.

– Ва ўсякім разе, я не ў Амерыку еду, – сказала яна праз хвіліну. І нават паспрабавала выціснуць слязу. Ён выразна адчуў гэтую яе няшчырасць і штучнасць пачуццяў. Вільгаць у вугалках яе вачэй так і засталася нявыплаканай. – Бацькам табе Ігар ніколі не стане. Гэта відавочна. А разрывацца на часткі паміж вамі я не змагу, здароўя майго не хопіць. Так што…

Думка абарвалася. Значыць, Ігар? Паўтараць двойчы не было патрэбы.

– Я яшчэ маладая… Мне і сарака няма. Я хачу жыць… Мы будзем бачыцца з табой кожны дзень. Я буду прыходзіць да цябе, і ты прыходзь да нас… Але жыць з гэтага дня нам давядзецца паасобку. Так будзе лепей…

“Ідзі і жыві!” – цынічна падумаў ён і ледзь стрымаўся, каб не сказаць

гэта ўслых. Ён нават не памкнуўся прыкінуцца пакрыўджаным. Крыўду перамагла думка аб свабодзе, – той, з якой у хуткім часе ён не будзе ведаць, што рабіць. Але засяроджвацца на нечым адным было не ў яго правілах. Філасофія яго жыцця была прымітыўная: гэта – станоўчае, гэта – адмоўнае; гэта – так, гэта – не. Ён любіў усё, акрамя людзей. Ненавідзеў ён іх за непрадказальнасць і інстынктыўную жывёльную жорсткасць. “Гора – пачуццё інтымнае, – быў цвёрда пераканаы ён. – Маўклівае. Яно хаваецца ў самім сабе і маўчыць”. Ён, як і Міця Карамазаў, любіў чалавецтва, але не чалавека асобна ўзятага. “Каб любіць яго, ён павінен схавацца, а пакажа сваё аблічча – прапала любоў.” – ведаў ад Дастаеўскага. “Цені звужаюць свет”, – памятаў ён. Сапраўды… Схільнасць назіраць за іншымі зарадзілася ў ім з мэтай выяўляць у іх фальш і памылкі, глуміцца з іх слабасцяў. Гэта ўзвышала яго над астатнімі, дадавала ўпэўненасці, бо свае памылкі рабіліся ў параўнанні з памылкамі іншых – чыстай дробяззю. З Вялікіх “аднавокіх” – а цікавіцца гэтымі людзьмі ён пачаў пасля той, колішняй, размовы з Бусяй – ён захапіўся Сартрам. Сартр стаў для яго своеасаблівым духоўным настаўнікам. З ім можна было раіцца па розных пытаннях. “Філфак, толькі філфак”, – вырашаў ён, калі паўстала такое пытанне. – Кожны сам сабе выбірае жыццё, – сказаў ён, цытуючы свайго куміра. – Адносіны з іншымі – першапачаткова канфліктныя”. Таму выпадковая сустрэча з Бусем на калідоры вышэйшай установы не толькі не абрадвала яго, а нават раззлавала. Сустрэў яго ля дэканата. Гэтага ён не сніў сабе нават у страшным сне. Не для таго развітваўся і мяняў школу, каб сустрэцца зноў. Мінула шмат часу, і яму здавалася, што разыйшліся яны з Бусем назусім.

– Біллі! Біллі! – паклікаў яго нехта. Забыць гэты надрывісты, самаўпэўнены тэнарок было немагчыма. Ён збянтэжана азірнуўся. – Біллі, ёлкі зялёныя! Гляджу і вачам не веру.

Малады чалавек задаволена моршчыўся. Гэта быў ён, – чуча, у цяні якога ён некалі збіраўся жыць. Ён нават не падрос за гэты час. Застаўся такім жа, як быў. Мізэрны хітраваты тварык па-ранейшаму свяціўся ўсё той жа глумлівай, нахабнай усмешкай. Меў рацыю Платон: “Чалавеку, для таго, каб расці інтэлектуальна, неабходна найперш быць прыгожым фізічна”. Нічога такога ў Бусі не было і блізка. Ён так і застаўся ганарлівым самаўпэўненым задавакам. “І я разлічваў на гэтага чалавека? – не хаваючы агіды, жахнуўся ён. – Пакажыся цяпер з такім на людзях – засмяюць. Вылітыя Штэпсэль і Тарапунька. Няўжо ён таксама тут будзе вучыцца? “

“Ведаў бы я, што сустрэну цябе тут…” – падумаў ён з прыкрасцю.

– Чаму на філфак, Біллі? – заспяшаўся з пытаннем Буся. – Даруй, але з цябе настаўнік – што з мяне лётчык, – недарэчна пажартаваў ён у звыклай здзеклівай манеры.

“Такі самы, як і з цябе, дарэчы, “ – збіраўся сказаць ён, але стрымаўся.

– Хто табе сказаў, што я буду настаўнікам? Я буду журналістам... –

самаўпэўнена выціснуў ён.

– Чаму тады на філфак, а не журфак? – здзівіўся небеспадстаўна Буся.

– На журфак цяжэй паступіць, там конкурс вялікі, – схлусіў ён. – Сюды нашмат меншы.

– Лады, праехалі. Замнём для яснасці,– спыніў яго Буся. – У якую групу залічылі?

– У дванаццатую. А цябе?

– Таксама. Глядзеў спісы?

– Глядзеў, – нехаця адказаў ён.

– Адны цёлкі, – задаволена падсумаваў Буся і змоўніцкі паляпаў па плячы. – Адтапырымся, брат?!

Гэтае яго іранічнае "брат" рэзанула слых. "Адтапырымся?" Да жанчын у яго было сваё стаўленне. "Усе гэтыя сюсю-мусю – не для мяне, – лічыў ён. – Гульні жывёльных інстынктаў, не больш і не менш. Ад гэтага трэба пазбаўляцца…"

Гэтую думку ён нeяк паспрабаваў нават агучыць пры маме. Так бы мовіць, хацеў праверыць яе жыццяздольнасць. На што мама толькі сумна ўсміхнулася:

– Ліха ты маё, ліха! Якое ж ты яшчэ зялёнае!

Цяпер яна яго так называла часта, асабліва, калі выказвала сваю нязгоду. Яму ж здавалася, што гэтым маці імкнецца падкрэсліць яго непаўнавартаснасць.

– Адтапырымся, Біллі? – настырна перапытаў Буся.

– Адтапырымся, – сказаў ён нехаця.

– Што такі сумны, нешматслоўны? – здзівіўся Буся.

– Ёсць праблемы, – схлусіў ён.

– А ў каго іх няма? Хочаш, шчыра?

У паветры павісла паўза.

– Думаеш, мне гэтая вучоба патрэбна? – нечакана прызнаўся Буся. – Ды пляваць я на іх хацеў. Глядзі. – Ён дастаў з ранца невялічкую сінюю кніжку і працягнуў яму. – Глядзі, глядзі…

– Што гэта? – недаверліва спытаў ён.

– Дыплом.

– Дыплом? – здзівіўся ён. – Чый дыплом?

– Мой. Засталося толькі дачакацца, калі ён стане сапраўдным. Вось і ўсё.

– Дзе ты яго ўзяў?

– Дзе ўзяў, дзе ўзяў? – іранічна ўсміхнуўся Буся. – Хіба гэта праблема? Былі б грошы. Хочаш і табе купім. Папрашу бацьку. У яго сувязі. Хочаш?..

Ён прамаўчаў.

– А ты гаворыш праблемы. Няма ніякіх праблем, Біллі. Грошы – вось асноўная праблема. Ну што, да панядзелка?

– Чаму да панядзелка? – не зразумеў ён.

– Сямён Сямёнавіч! – абразліва зморшчыўся Буся. – А лекцыі калі патвойму?

– А-а, – сумна ўсміхнуўся ён. – Дакладна.

– Ну, а наконт дыплома ты ўсё ж падумай. Не так гэта і дарага каштуе...

На падыходзе да свайго дома ён і сустрэў яе. Упершыню.

– Усё роўна цябе пацалую! Ляля!..

Вар'ятка падалася яму дзіўнай і смешнай, і ён нават пажартаваў:

– Я не ляля… Я ліха. Я – дух зла і няшчасця. Я ўвасабленне гора. Сцеражыся мяне. У-ух!..

Вар'ятка задаволена зарагатала. Ён таксама засмяяўся, нават не ўяўляючы сабе наколькі праўдзівымі і прарочымі былі гэтыя яго словы.

– Ты добры… Ты ляля!

– Наталля, марш дахаты! – спыніў яе рэзкі патрабавальны голас Ён азірнуўся, і яго позірк сустрэўся з позіркам незнаёмай жанчыны.

– Ты добры, – усміхнулася яму вар'ятка і подбегам кінулася да пад'езда.

– Хто гэта? – пацікавіўся ён у суседкі.

– Нашы суседзі. Грынічы, – ціха адказала тая. – Тыдзень, як пераехалі...

## 11

Дзён няма чым запоўніць. Не адымайце майго няшчасця! Я – тоненькая сухая галінка на магутным векавым дрэве Жыцця. Я – рэха хвіліннай жывёльнай жарсці. Я – адгалосак нечых няспраўджаных мар. Я даўно выпала з гэтай будзённай сапраўднасці. Бессэнсоўна адцягваць непазбежнае. Вешайце на мяне свае зямныя заганы, спрадвечныя людскія грахі. Я вытрываю ўсё, я сцярплю, я змаўчу. Таму што мне хочацца жыць. Я такая, якая ёсць. Такой мяне нарадзілі на гэты свет. Мне наканавана пакутаваць за чужыя грахі. Для таго мне Бог даў усё: моц, вытрымку, пакору... Вы мяне лічыце хворай, але ў чым ёсць маё вар'яцтва, не тлумачыце. Смешныя вы, людзі! Вы займаецеся маёй душой, каб нічога не ведаць пра сябе. Паслухаць вас, дык такім, як я, не месца сярод вас. Мне нічога не свеціць, нідзе – ні тут, на зямлі, ні ў іншых вымярэннях. Ісціна ўзведзена ў ранг хлусні. Ісціна сфабрыкавана са слоў, якіх вы ніколі не казалі. Вашы ўчынкі, вашы вочы – лепшыя словы. Яны выкрываюць вашу ілжывую спагаду. Чым вы лепшыя за іншых, за мяне? Чым? Ці ведаеце вы, што мая няўважлівасць – усяго толькі татэм, які абараняе мяне ад вашай хлусні…

– Усе людзі грэшныя! Усе людзі саўдзельнікі Вялікіх выпрабаванняў! – не забывае нагадваць мама. Штодзень. – Людзі бяскрылыя, як сказаў нехта з вялікіх, а таму асуджаныя рабіць тое, што ім не падыходзіць. Ты незаўважаная Ім!

– Кім?..

Пытанне застаецца без адказу. Завісае ў паветры, як сякера. Нада мной. Скуль набрацць на нас усіх тых чыстых, прыгожых пастыраў?..

Я шукаю Тваe вочы. Паўсюль. І не знаходжу іх. Верагодна, яны цяпер захапляюцца не мной.

Калі сапраўднасць робіцца невыноснай і незразумелай, калі табе ў ёй няма месца, перад табой адчыняюцца іншыя, новыя далягляды. Няўжо гэта і ёсць тое, аб чым мараць вольныя людзі?.. Хто дасць мне прытулак у сваёй памяці?.. Хто?..

12

Буся пераблытаў усе яго планы. Быць студэнтам нечакана перахацелася. Некалькі дзён ён хадзіў сам не свой. “Гэта ж толькі падумаць, пяць гадоў з дня ў дзень я павінен цяпер буду сустракацца з гэтым абізгалам, – думаў ён. – Слухаць яго лухту, пакорліва ўсміхацца і маўкліва выцірацца ад яго чарговых зняваг. Хіба на такую перспектыву я разлічваў?” Яму захацелася забраць дакументы. Ён так і зрабіў бы, калі б не мама. Яна завітала з айчымам напярэдадні, каб павіншаваць яго з першым днём навучання. Айчым, як заўсёды, паводзіў сябе сціпла, больш маўчаў, чым гаварыў. Мама ж, наадварот, была ў добрым гуморы. Смяялася без прычыны, лезла з парадамі. Але варта было яму толькі заікнуцца аб тым, што ён забірае з універсітэта дакументы, як яна адразу ж знікла, паспешліва пацягнулася да сумкі за валяр’янкай. Вечар быў сапсаваны. Давялося выслухаць цэлую лекцыю на тэму: “У людзей дзеці як дзеці…” Ён паспрабаваў абгрунтаваць сваё рашэнне, але ў спрэчку ўмяшаўся айчым:

– Дыплом – не камень. Яго не цяжка цягаць за плячыма. Займай чаргу і чакай. Не паспееш азірнуцца – а ўжо госы…

Довады былі неаспрэчныя. Мама слёзна вынудзіла абяцанне, што ён ні пры якіх умовах не кіне ўніверсітэт, і перад тым, як развітацца, падала яму невялічкую каляровую паперку.

– А гэта табе падарунак ад нас, – сказала яна лагодна. – Твой любімы Пярт.

Ад хвалявання ў яго перахапіла дыханне. Затрэсліся рукі. Паперка выслізнула на падлогу. Ён хуценька падхапіў яе.

– Ён прыязджае да нас з канцэртам?

– Так. Дастала квіток па знаёмству. Хацелася дагадзіць. Наколькі памятаю, ты фанацеў некалі ад яго музыкі.

Скарыстаўшы момант, мама абняла яго і прытуліла да сябе. Мо ўпершыню, ён не стаў ухіляцца. Тады яна пацалавала яго, і ён адчуў на сваёй шчацэ вільгаць. Мама плакала.

– Такія падарункі! – паглядзеў ён на яе падазрона. – З якой нагоды?

– Як жа, сёння ты стаў студэнтам.

– А-а-а, – расчаравана ўсміхнуўся ён.

Мама ўсё пралічыла. Сустрэча з кумірам адбылася 13 верасня, у дзень нараджэння. Трэба ж было так падгадаць. Той хвалюючы момант ён запомніць на ўсё астатняе жыццё: вялізны зал, мяккія крэслы, злева і справа незнаёмыя жанчыны – гняздо з чысціні і парфумы – і яго любімы “TE DEUM “. А яшчэ слёзы… Яго слёзы. Слёзы жалю і спачування да самога сябе…

– А, гэта ты! – сустрэў яго здзекліва на другі дзень Буся. Ён чакаў ля універсітэта. – А, аматар распускаць нюні…

– Не зразумеў, – недаўменна зірнуў ён на Бусю.

– Ну ты і чуча! – адмахнуўся той. – Варушы паршнямі. На пару спознімся.

– Нікуды я з табой не пайду, – заўпарціўся ён.

– Трындзец! Пакрыўдзіўся! Пайшлі. Раскажу па дарозе.

Як выявілася, ён таксама быў учора на канцэрце. З мамай. Болей таго, бачыў яго заплаканага ў антракце. Каб не мама, падышоў бы. А так…

– Што так? Што? – узмацніў ён да непазнавальнасці голас. – Ну плакаў… Што далей?

– Нічога, – пацiснуў плячыма Буся. – Не разумею цябе, гэта ж трэба быць такім размазнёй!

“Не разумее ён! Хто цябе просіць мяне разумець? Не дарос яшчэ да гэтага…”

Ён пакрыўдзіўся не на жарт. Усю першую пару яны амаль не размаўлялі. Буся падазрона круціўся, страляў вачыма па баках, лез з недарэчнымі пытаннямі, а ён рабіў выгляд, што не звяртае ўвагі. Нават на перапынак не пайшоў, каб не нарывацца на Бусеву назойлівасць. Наступная па раскладу пара была прысвечана сусветнай літаратуры. Пра выкладчыка хадзілі розныя чуткі, што ён – чалавек вельмі строгі і патрабавальны да сваіх падапечных, што ён нават спіць са студэнткамі, што бярэ хабар, што залікі яму здаюць з трэцяга разу. Наслухаўшыся гэтых жахаў, на заняткі прыйшла амаль уся група.

У аўдыторыю ўвайшоў сярэдніх гадоў мужчына з партфелем, і ўсе ўсталі. Ён ветліва павітаўся і запрасіў усіх сесці ледзь заўважным жэстам. Першае, што яму кінулася ў вочы, гэта незалежнасць паводзінаў гэтага чалавека. Ён нават падумаў сабе: “Мець бы мне такога бацьку!..”

– Ну што, – зірнуў ён на аўдыторыю з выклікам, – будзем знаёміцца?.. Завуць мяне Мікалаем Мікалаевічам. Прозвішча маё – Хініч.

Мінула хвіліна. Падалося, што выкладчык надае яму надта шмат ўвагі, не зводзіць вачэй, нібыта нікога іншага ў аўдыторыі і не існуе зусім. Ад хвалявання ён нават ледзь не зняў акуляры.

– Студэнты за вочы называюць мяне яшчэ Сартрам, – дадаў выкладчык і павольным крокам рушыў да свайго стала.

– Сартрам? – здзіўлена прашаптаў ён. Відаць, яму толькі тое падалося.

На самой справе голас ускалыхнуў цішыню, і ўсе рэзка павярнулі ў яго бок галовы. Выкладчык спыніўся і таксама зірнуў на яго.

– Так, Сартрам, – удакладніў ён. – І я не пакрыўджуся, калі мяне нехта з вас назаве так.

Ён хвілінку счакаў, пагартаў для выгляду журнал і зноў выйшаў з-за стала.

– Ну, а зараз мая чарга задаваць пытанні, – выціснуў ён з іранічнай усмешкай, звяртаючыся да аўдыторыі. – Скажам, вось вы, малады чалавек… – зірнуў ён на яго: – Як вас зваць?

– Сяргей, – адказаў ён дрыготкім ад хвалявання голасам.

– Сяргей… – пасмакаваў выкладчык. – А назавіце мне, Сяргей, прозвішча пісьменніка, твор якога вы прачыталі апошнім часам.

– Музіль, “Чалавек без уласцівасцяў”, – схлусіў ён. Не называць жа Сартра. Пасля таго, што сказаў выкладчык, гэта падалося б цынізмам. У лепшым выпадку.

– Што ж, выдатна. А вы, – звярнуўся ён з тым жа пытаннем да Бусі. Буся заўважна захваляваўся. Было відаць, як ён сіліцца нешта ўспомніць, але штучнасці не схаваеш. Зразумеў гэта і выкладчык. – З вамі ўсё зразумела, – сказаў ён і рушыў да століка насупраць. – А вас як завуць? – звярнуўся ён да дзяўчыны.

– Марына, – выціснула тая і чамусьці заружавелася.

– А скажыце нам, Марына, – у паўздзеклівай форме звярнуўся да дзяўчыны выкладчык. – Які твор чыталі Вы?

– Діно Буцаці, “Татарская пустэльня”.

– А вы? – звярнуўся ён да яе суседкі.

– Вікторыя! – назвалася яна. – Стэндаль, “Чырвонае і чорнае”.

– Выдатна, не кепскі выбар, – падсумаваў выкладчык і зноў накіраваўся да свайго століка. – Мне здаецца, нам знойдзецца пра што пагаварыць.

– Значыць, Жульен Сарэль? – сказаў ён і рэзка павярнуўся да аўдыторыі. – Ці Ульрых?..

– Сваім цынізмам, сваёй пагардай да ўсяго і да ўсіх, акрамя сябе, Жульен нечым падобны да драйзераўскага Клайда Грыфітса, – выкрыкнуў нехта з аўдыторыі, магчыма, выхваляючыся сваёй эрудыцыяй. Выкладчык павярнуўся ў бок, адкуль прагучаў толькі што голас. З-за стала падняўся малады чалавек.

– Віктар, – назваў ён сябе.

– І?.. – зірнуў на яго выкладчык.

– І адзін, і другі скончылі сваё жыццё ў турме.

– Не разумею, чым людзям не дагадзіў Жульен Сарэль?

– Ён любіў толькі самога сябе. Самым страшным для яго было паказацца слабым ці то перад ворагам, ці то ў каханні, – рэзка парыраваў малады чалавек.

– О, у нас дасведчаная аўдыторыя! – сказаў Мікалай Мікалаевіч. – Мне

прыемна размаўляць з вамі, маладыя людзі. Але скажыце, хіба гэта так кепска, што чалавек любіць самога сябе?

Аўдыторыя маўчала.

– Як вы лічыце, а тут большая палова аўдыторыі – жаночая, за што яго кахалі? Памятаеце разважанні Мацільды: "Ён варты быць маім гаспадаром, бо ён здольны быў забіць мяне”. Як вы ставіцеся да такой думкі? Вам такія разважанні даспадобы?

– Любяць не за нешта, любяць проста, таму, што любяць, – паспяшалася адказаць Марына.

– Эх, спадарыня вы мая! Раман – як люстэрка, з якім ідзеш па вялікай дарозе. То яно адлюстроўвае блакіт небасхілу, то брудныя лужыны і выбоіны. Ідзе чалавек, узваліўшы на сябе ўсё гэта, а вы яго вінаваціце ў амаральнасці! Вы вінаваціце люстэрка. Вінавацьце хутчэй ужо вялікую дарогу з яе лужынамі. А яшчэ таго лепш – дарожнага наглядчыка, які дазваляе, каб на дарозе стаялі лужыны і назапашваўся бруд. Як вы лічыце, Марына, гэты чалавек усведамляў сабе, што ён робіць, чым рызыкуе? Маю на ўвазе Жульена.

– Жульен – так, Мацільда – не.

Павісла працяглая паўза,

– А мне здаецца, што і Жульен, і Мацільда нічога падобнага не ўсведамлялі, – парушыў маўчанне выкладчык. – Розум палахлівы па сваёй сутнасці, ён замінае людзям быць шчаслівымі, ён вымушае нас сумнявацца. І страта ўсяго таго, што маеце, што некалі мелі – не ёсць няшчасце. Праўда, да гэтага дадумаліся пазней… Сартр… Але яшчэ далёка да яго, пра тое ж думаў і Стэндаль. Жульен, як герой таго часу… – Мікалай Мікалаевіч памаўчаў хвілінку і паправіўся: – Як герой нашага часу – яскравы таму прыклад. Чалавек адказны за свае ўчынкі. Па вялікім рахунку, важна не тое, да чаго ты імкнешся, а тое, што ты ўяўляеш з сябе на самой справе. Нам неабходна высветліць і яшчэ адну дэталь: у чым падабенства гэтых двух герояў: музілеўскага Ульрыха і стэндалеўскага Жульена? – звярнуўся ён з пытаннем да аўдыторыі. – Ну, хто адкажа? Можа вы, Сяргей?

– У тым, што абодва яны – людзі без уласцівасцяў, – знайшоўся ён. Мікалай Мікалаевіч скептычна ўсміхнуўся.

Празвінеў званок.

– Аб’яўляецца перапынак, – абвясціў выкладчык. – Усе свабодныя.

Аўдыторыя з палёгкай уздыхнула. Некаторыя пачалі прыбіраць са сталоў свае сшыткі, некаторыя заспяшаліся да дзвярэй. Ён таксама падхапіўся з месца, кінуўся да выхаду.

– А вас, малады чалавек, я папрашу затрымацца, – нечакана спыніў яго ля дзвярэй Хініч. – На хвілінку.

– Слухаю вас.

– Вы схлусілі мне, малады чалавек. Навошта? – спытаў ён, не хаваючы

сваёй іроніі. – Ніякага Музіля вы не чыталі. А мо я памыляюся?..

– Чаму вы так вырашылі? – здзівіўся ён.

– На гэтае пытанне я паспрабую даць адказ крыху пазней, – сказаў ён і накіраваўся да дзвярэй. Праз некалькі крокаў азірнуўся і дадаў:

– Дарэчы, вам гэтыя акуляры не падыходзяць. Чаму вы іх не здымеце? Вы блізарукі?

– Гэта вас не тычыцца, – рэзка сказаў ён.

Выкладчык спахмурнеў

– О! А вы, Сяргей, не такі ўжо і ціхоня. А я падумаў спачатку… Хаця ўсё правільна, без канфліктаў няма развіцця… Да пабачэння.

– Да пабачэння.

Буся чакаў яго на калідоры.

– Што хацеў ад цябе Хініч?

– Нічога, – буркнуў незадаволена ён.

– І ўсё ж?

– Хацеў памерацца членамі…

13

Мама сцвярджае, што я ніколі не стану дарослай. Я не веру ёй. Але нават калі гэта так – тое не прычына, каб мяне ненавідзець. Яна добрая, я ведаю. Яна пацалавала мяне аднойчы. Тыдзень таму. Здарылася так, што я папала пад машыну. Адбылося тое незнарок, нечакана. Мне запомніўся толькі шкляны бляск вуліцы – накропваў дождж – і скрыгат жалеза. Яшчэ я пачула нечыя галасы. Як праз сон, у аддаленні. І я патанула ў цемры, цягучай і смуроднай, як у скляпенні, куды ён мяне некалі завалок. Ачомалася толькі праз суткі і адразу ж успомніла пра Цябе. Ты такі ўразлівы, такі датклівы, такі не падрыхтаваны да гэтага жыцця, што я спужалася. У той жа дзень мяне наведала мама. Яна плакала і, калі б не яе пацалунак, я б падумала, што плача яна па сабе. Мама занадта добрая, каб любіць некага іншага. Ну вось, зноў я за сваё! Не звяртай увагі! Проста, калі чалавеку добра, хочацца, каб яшчэ было лепей. Яе рукі ў базіліцы жылаў крануліся маіх. Белых і нежывых. І я здагадалася, што яна іншая, не такая, як я. Гэта была сустрэча двух нямых.

– Ты чакала мяне?.. Скажы, чакала? — дапытвалася яна.

– Я чакала таго, хто ніколі да мяне не прыйдзе, – сказала я ёй тады.

14

Ён паспяхова здаў сесію і некалькі дзён ужо лайдачыў. Канікулы толькі пачаліся, і наперадзе была процьма вольнага часу. Буся яму не надакучаў. Калі верыць плёткам, то ён тыдзень ужо як з’ехаў з бацькам на нейкі паўднёвы курорт. Мама таксама яго наведвала цяпер рэдка. Прызналася

нeяк, штo цяжapнaя, штo дaктapы paілі ёй зpaбіць aбopт, пaпяpэджвaлі, штo poды ў яe ўзpocцe будуць цяжкімі, штo ўсё мoжa cкoнчыцца нeпpaдкaзaльнa. Aд aбopтa янa aдмoвілacя, выpaшылa нapaджaць. Taму цяпep чacтa ляжaлa ў бaльніцы, пaд нaглядaм дaктapoў. Ён быў нeзaдaвoлeны тым, штo мaмa нaдумaлa зaвecці дзіця, a ёй cпoўнілacя ў гэтым гaдзe copaк, aлe aдкpытa cвaю нeзaдaвoлeнacць нe выкaзвaў.

Aднoйчы ён aтpымaў ліcт aд нeзнaёмкі з нacтупным змecтaм: ”Mнe xoчaццa ўбaчыць цябe. Пpыxoдзь, кaлі лacкa, у гaндлёвы цэнтp, у нядзeлю, кaля двaнaццaці. Aд цябe нічoгa нe пaтpaбуeццa. Гуляй пa зaлe. Шукaць мянe нe тpэбa. Я caмa цябe знaйду. Кaлі xoпіць paшучacці, пaдыйду. Кaлі нe – пpaбaч! Вepaгoднa, яшчэ нe чac нaм cуcтpaкaццa. Пpыйдзі aбaвязкoвa. Пpaшу цябe!.. H.”

I ён пaйшoў. Купіўшыcя ў чapгoвы paз нa яe пpocьбы. Лaзіў з гaдзіну пa ўсіх aддзeлax. Узіpaўcя ў твapы пpaxoжыx. Cядзeў у бapы. Hixтo дa ягo нe пaдышoў, ніxтo нe пaклікaў. Кoжны з пaкупнікoў быў зaняты caмім caбoй – ні літacці, ні cпaгaды. Ён пaдняўcя нa эcкaлaтapы нa тpэці пaвepx – тoe ж caмae, тыя ж aднoлькaвыя зaклaпoчaныя твapы і ніякaй цікaвacці дa ягo acoбы. “Гэтa здзeк! – выpaшыў ён нeчaкaнa. – Гэтa caмы штo ні ёcць здзeк. Чуeш, ты!..” Бeз тaгo кeпcкі нacтpoй caпcaвaўcя цaлкaм. Hexтa зaчaпіў выпaдкoвa ягo плячoм, кaлі ён cпуcкaўcя нa пepшы пaвepx, пaпpacіў у ягo пpaбaчэння. Ён нe aдpэaгaвaў. Heйкaя мaлaдaя жaнчынa з мaлeнькім xлoпчыкaм нa pукax пaцікaвілacя ў ягo, як пpaйcці ёй дa aбмeннaгa пункту вaлют. Ён paздpaжніўcя і нaxaміў ёй. Жaнчынa зіpнулa нa ягo нeдaўмeннa і пaціcнулa мoўчкі плячымa.

– Xтo ты? Дзe ты? Пaкaжыcя! – зaлямaнтaвaў ён, нe cтpымaўшыcя. Эмoцыі пepaпaўнялі ягo. – Я пpaшу цябe, чуeш ты, пaкaжыcя! З якoй мэтaй ты coчыш зa мнoй, чaгo пpычaпілacя дa мянe? Taбe мaлa тaгo, штo ты зpaбілa ca мнoй? Ha, пaглядзі, пaлюбуйcя…

Пpaxoжыя здзіўлeнa aзіpaліcя, aбыxoдзілі ягo бoкaм. Ён нe звяpтaў увaгі. Capвaў з cябe aкуляpы.

– Hу штo, пaдaбaюcя я тaбe тaкі? –- кpыкнуў ён нeкуды ў пуcтaту. – Cкaжы, пaдaбaюcя?..

Aд бeзвыxoднacці ён зaплaкaў. Hexтa пacпpaбaвaў ягo вывecці з зaлы. Ён выpвaўcя, пaбeг дa выxaду.

– Cяpгeй, штo здapылacя?

Hexтa мoцнa cціcнуў ягo зa плячo.

– Я дa вac звяpтaюcя, мaлaды чaлaвeк.

Ён узняў вoчы. Tвap Xінічa cвяціўcя пepaбoльшaнa вeтлівaй уcмeшкaй.

– Кaлі мнe няcцepпнa кeпcкa, кaлі мнe нe xoчaццa жыць, я іду ў ціp і cтpaляю. Гэты зaнятaк здымae cтpэc. Paю… Пaйшлі….

Яны мoўчкі выбpaліcя з пaмяшкaння. Aбмінулі гapaдcкую paтушу і выйшлі нa пeшaxoдную вуліцу.

– Ну, а цяпер, расказвай, – зірнуў на яго патрабавальна Хініч. – Усё і па парадку…

І ён адкрыта расказаў гэтаму чалавеку ўсё. Амаль усё. Як роднаму бацьку, якога ніколі не бачыў у сваім жыцці. Нешта даверлівае ўбачылася яму ў гэтых незнаёмых, чужых вачах. Тое, чаго дасюль так і не давялося спазнаць. Той у сваю чаргу расказаў яму пра сябе.

– Розныя людзі трапляліся мне на жыццёвым шляху. Былі і такія, якія адкрыта, не хаваючы сапраўдных мэтаў, спрабавалі “ламаць” мяне праз калена. Не заўжды разумеў я іх. Злаваўся. Уражвала настырнасць гэтых людзей, фантазіі, з дапамогай якіх яны імкнуліся дасягнуць сваіх мэтаў. Чаго толькі ні прыпісвалі мне яны падчас сваіх “выхаваўчых лекцый”: і невуцтва, і несумленнасць, і ганарлівасць. А калі гэта ўсё не спрацоўвала, тады яны пачыналі мяне ігнараваць. Стваралі невыносныя ўмовы, і я сам, па ўласнаму жаданню, сыходзіў ад іх. Што мне яшчэ заставалася? Звальняўся з працы, разбураў наладжаныя сяброўскія сувязі. Вось толькі ці былі яны сяброўскімі, гэтыя сувязі? Пакрыху абрастаў міфамі. Іншыя ківалі ў мой бок, паказвалі на мяне пальцамі: “Гэта не мы, гэта ён ва ўсім вінаваты… Ганарлівы…” Астатняе, як гаворыцца, было справай тэхнікі. Распаўсюджваліся плёткі, розныя чуткі, ствараўся вобраз маёй нікчэмнасці. Я глядзеў недаўменна на гэтых дзіўных людзей і не мог зразумець, дзеля чаго яны трацяць на мяне столькі сваёй энергіі, столькі часу, калі ў іх саміх процьма праблем? Ім бы самы час заняцца выхаваннем сваіх распусных дзяцей, паклапаціцца пра сабе. Не, ім патрэбен быў я… – Ён замаўчаў, палез у кішэню за цыгарэтамі. Закурыў. – Аказваецца, іх сапраўдныя мэты былі да прымітыўнасці простыя. Ім няважна было, прымаеш ты іх пазіцыю ці не, ім быў важны сам факт “барацьбы”. Ім было важна скарыць цябе, паставіць на калені. І ўсё гэта яны рабілі толькі дзеля аднаго – самасцвярджэння. Прыкрае ў тым, што гэтыя людзі ў думках згаджаліся са мной, у многім, але яны ніколі не прызналі б сваё паражэнне. Для іх спрэчка – сродак для дасягнення сваіх мэтаў. Вось і ўсё. Людзям не важна, што адмаўляць, ім абы адмаўляць. І калі ты з імі не згаджаешся – кранты, да пабачэння. Я з жахлівасцю ўздрыгваю ад адной толькі думкі: “Што б сталася са мной, з іншымі, хто не пажадаў прыстасоўвацца да глупства большасці, калі б усіх гэтых людзей надзяліць неаспрэчнай уладай? Меў рацыю Канфуцый: “Калі табе плююць у спіну, значыць ты першы”. Але ці так важна быць першым? –- Ён задумаўся і адказаў: – Важна. Хаця б дзеля таго, каб вам не плявалі ў спіну. І я памяняў сваю тактыку. Я зразумеў: быць станоўчым можна толькі ў ідэальным грамадстве. Я перасіліў сябе, перастаў саромецца сваіх здольнасцяў, я пайшоў “па галовах”, як гэта могуць назваць некаторыя чыстаплюі, але я дасягнуў таго, чаго дасягнуў: я абараніўся, я атрымаў кватэру, я, я, я… Спіс можна доўжыць. У мяне ёсць усё неабходнае для жыцця: грошы, кар’ера. Што яшчэ мне трэба? Галоўнае, не распускаць

соплі. Усе гэтыя “сюсю-мусю”, нікога акрамя цябе, не цікавяць. Свет жорсткі. І слабакам у ім няма месца. Зразумеў?

Ён моўчкі кіўнуў галавой.

– Вось і малайчына, – лагодна паляпаў ён яго па плячы. – А цяпер мы з табой пойдзем у цір, і я навучу цябе, як утаймоўваць свае эмоцыі.

– Вы што, – зірнуў ён недаўменна на Хініча. – Я ж сляпы… Амаль сляпы.

– Нікому такога не гавары больш, – не хаваючы сваёй незадаволенасці, сказаў Хініч. – Я навучу цябе таму, чаго не могуць яны. Я навучу цябе таму, што ім і не снілася. Паглядзі на іх! – загадаў жорстка Хініч, кіўнуўшы галавой у бок вірлівай гарадской вуліцы. – Чым ты горшы за іх, чым? Я навучу цябе страляць. Ты станеш адным з лепшых. Чуеш?.. Чым ты горшы за іх?

– Нічым, – адказаў ён ціха.

– Так яно лепей, – спагадліва ўсміхнуўся Хініч. – Пайшлі…

Рэштку дня яны правялі ў ціры. Калі ён вяртаўся дахаты, ля пад’езда дарогу зноў заступіла вар’ятка.

– Усё роўна цябе пацалую! Ляля!.. – усміхнулася яна нейкай штучнай, несапраўднай усмешкай.

– Сволач! – не стрымаўся ён. – Пайшла прэч!.. Прэч!.. Прэч!...

15

Зачасцілі дажджы. Гарадская стракатасць ужо з цяжкасцю маскіруе навакольную шэрасць. Бачна адразу – лета сыходзіць. Я бязвылазна сяджу дома. Адна. У бессаромна-цесным пакоі, які даўно ўжо не памятае свежага паветра. З той пары, як я ледзь не патрапіла пад машыну, мама адну мяне на вуліцу не выпускае. І ў мяне няма магчымасці сачыць за ім. Усё, што мне засталося, гэта зноў і зноў уяўляць яго, маляваць у сваіх думках. Але чым настойлівей я яго шукаю, тым меншая верагоднасць таго, што некалі знайду. Гэта – ісціна, ад якой нікуды не дзецца. Я адчуваю, як б’юцца ўва мне два сэрцы: маё і тваё. Аказваецца, што я здольная несці не толькі чужыя грахі, але і нечае жыццё. Я разумею, што абцяжарваю яго сваімі думкамі, напаўняю яго сваімі пакутамі. Але ёсць выключэнні з правілаў. Дом на мяжы адзіноты – цяпер не толькі мой дом. Так, я жыву навобмацак, чужою прысутнасцю, тваёю даверлівай паслухмянасцю. Так, я доўжу чаканне, але ў гэтым чаканні, якое я гадую ў пячоры сваёй адзіноты, усё роднае мне, назапашанае з такай цяжкасцю. Усё гэта я аддам табе, маё любінятка! Усе мае думкі, усе мае словы толькі для аднаго цябе. Іх многа. Гэтых слоў павінна хапіць, каб расказаць табе ўсю тую праўду: і пра Прыгажосць, і пра Абсурднасць Свету, у якім нас даўно ўжо няма.

Цемра ненароджанага… Цішыня невымаўленага…

## 16

Канікулы праляцелі хутка. Не паспеў ён азірнуцца, як вярнуўся з Егіпта Буся. Як заўжды шматслоўны і задаволены жыццём. Буся лез зноў з недарэчнымі пытаннямі, імкнуўся расказваць пра сваю нядаўнюю паездку, выхваляўся. Усё гэта было нецікава. І ён выкарыстоўваў любую магчымасць, каб збегчы куды-небудзь ад гэтага чалавека, застацца аднаму. Пацяклі шэрыя аднастайныя дні. Вучоба, дом, вучоба. Але, не гледзячы ні на што, ён па-ранейшаму знаходзіў час і наведваў цір. Захапленне стральбой паступова ператварылася з дзіцячай забаўкі ў карысны і так неабходны для душы занятак, набыло новы сэнс. Ва ўсякім разе, гэта была дадатковая магчымасць сустракацца з Хінічам, да якога ён прывязваўся з кожным днём усё болей і болей. Той, як і абяцаў, навучыў яго страляць. У нечым ён нават ужо апярэджваў свайго настаўніка. Усе свае выхадныя цяпер ён бавіў тут, у ціры, разам з любімым выкладчыкам. Пасля працяглага занятку стральбой, яны сядзелі ў бары. Размаўлялі на розныя тэмы, філасафавалі. Не гледзячы на розніцу ва ўзросце, яны шмат чаго знаходзілі адно ў адным агульнага. Буся неяк пацікавіўся:

– Білі, ты дзе прападаеш? Мо кралю сабе завёў?

– Якая краля? – зрабіў ён недаўменны, заклапочаны выгляд. – Залікі, іспыты… Сам знаеш. Галава кругам ідзе.

– Заняўся б лепей Марынкай. А што… Не хочаш? Ну і чуча ты, Білі!..

– Знайшоў пра каго гаварыць, – адмахнуўся ён.

– Лаві момант, Білі! – іранічна скрывіўся Буся. – Дзеўкі самі да цябе лезуць, а ты ў шапку спіш.

Доля праўды ў яго словах была. Дзяўчына сапраўды праяўляла да яго цікавасць, і ён тое заўважаў, але кожную яе такую спробу цынічна спыняў і ў сабе гасіў любыя жаданні. “Не для мяне гэтыя сюсі-пусі,” – пераконваў ён сябе. І як толькі выпадаў вольны час, нёсся ў гарадскі парк. Там яго чакаў Хініч. Потым яны стралялі і доўга сядзелі ў бары. Іх незвычайнае сяброўства цягнулася некалькі год ужо, пачынаючы з таго недарэчнага выпадку ў гандлёвым цэнтры. Лістоў ад сваёй незнаёмкі ён больш не атрымліваў. І пакрыху нават стаў забываць пра яе. У яго цяпер быў дарадца і сябар – Хініч. А тое, што гэты чалавек нашмат старэйшы за яго – яшчэ нават лепш. Ёсць чаму павучыцца. Цяпер ён быў на чацвёртым курсе і актыўна выступаў у мясцовым друку. З вострымі палемічнымі артыкуламі. Такое “чытво” было запатрабавана ў краіне. Людзі спадзяваліся на перамены. Людзі прагнулі праўды, не жадаючы верыць у тое, што іх зноў падманваюць. Захмялелыя ад нечаканай свабоды, яны не зналі, што рабіць з ёю. Кожны цягнуў коўдру на сябе. А краіна крок за крокам кацілася ў бездань.

Неяк пад весну Хініч запрасіў яго да сябе ў госці. Упершыню за той час, што яны сябравалі.

– За што табе падабаецца  Сартр? – нечакана спытаў  у яго Хініч. Яны сядзелі ў зале і пілі гарбату. – Хацеў спытаць у цябе даўно і ўсё неяк не выпадала. Не заходзіла размова, – доўжыў ён. – Не думаю, што ты захапляешся ім толькі з-за таго, што ён, як і ты,  рос без бацькі.

Ён заружавеўся, завагаўся – гаварыць ці не гаварыць.

– Неяк, пасля вядомага вам  здарэння, – наважыўся ён, – у мяне з Бусем, гэта мой колішні сябар, адбылася размова. Ён тады пажартаваў, сказаў, што я, нібыта, заўважаны цяпер самім Богам… Як сапраўдныя вялікія. Я прыняў гэта за чыстую манету. Пачаў нават цікавіцца лёсамі некаторых асобаў, шукаць падобенства з імі. Безумоўна, гэта гучыць зараз смешна, але так яно было. Зразумейце мяне, на той час для мяне гэта было вельмі прынцыпова. – Ён на хвілінку задумаўся. – Напалеон?.. Не… Гэты чалавек не мог мяне зацікавіць. У яго біяграфіі я не знайшоў нічога  захапляльнага. Мяне  вабіла слова. Так я адкрыў для сябе Сартра. Спачатку я даведаўся, што ён, як і я, быў аднавокім. Гэта толькі ўзмацніла маю цікавасць да яго. А потым я перачытаў усе яго творы.  Амаль усе… І ведаеце, калі шчыра, то я  знайшоў там шмат чаго карыснага для  сабе.

Хініч загадкава ўсміхнуўся.

– Разумею, – сказаў ён. – На людзей трэба глядзець з вышыні. Так?  Ці: пекла – гэта іншыя!

– Магчыма, – адказаў ён. – Але тут я ўдакладніў бы: адно другога не выключае. Безумоўна, я прачытаў і яго Герастрата,   і яго п’есу “Пад замком”, але… – ціха сказаў ён, здзіўляючыся абсалютнаму спакою.

– Што, але?

Ад адказу ён ухіліўся. Паспрабаваў перавесці размову ў іншае рэчышча.

– А памятаеце,  што вы сказалі мне пасля той першай вашай лекцыі, калі мы толькі пазнаёміліся? – нечакана спытаў ён.

– Безумоўна, – кіўнуў Хініч.

– Дарэчы,  чаму вы  тады вырашылі, што я не чытаў Музіля?

– Я засумняваўся ў табе.  Хаця нешта і падказвала, што ты не той чалавек, які мог бы  захапіцца Ульрыхам, – адказаў ён. – Ульрых – чалавек без уласцівасцяў. А мне падалося, што ты не да гэтага імкнешся ў  жыцці. І ўсё ж, я вырашыў пачакаць, не спяшацца з  высновамі.

– І?

– Я не памыліўся.

– Ведаеце, вы мелі рацыю, – прызнаўся ён. – Гэтая кніга не захапіла мяне. Некалькі разоў я  спрабаваў яе чытаць і столькі ж разоў адкладваў. Мяне  цікавіла  іншае.

– Ты хацеў сказаць: мяне цікавіць іншае?  – удакладніў Хініч.

– Няхай будзе так, – пагадзіўся ён.  – Хаця, якая розніца.

– Не скажы… Сяргей, у мяне прапанова, – нечакана сказаў ён і адкрыў дзверцы   шафы. – Ёсць пляшка выдатнага французскага віна.

– Я не п’ю віно, – заспяшаўся ён адмовіцца.

– Разумею. Але мы толькі па кілішку. Не думаю, што гэта зашкодзіць нашай далейшай размове.

Хініч разліў віно і зірнуў неяк загадкава:

– Між іншым, даўно хацеў спытаць у цябе, ты знаёмы з нашым дэканам?

Ён насцярожыўся.

– Чыста візуальна. Па-мойму, ён чытаў курс лекцый па старажытнай літаратуры.

– Так. І што скажаш?

– Інтэлігентны, культурны чалавек.

– Сяргей, не смяшы мяне. Якая культура? Спусціся на грэшную зямлю, – іранічна ўсміхнуўся Хініч. – Хочаш даведацца пра культуру, наведай грамадскую прыбіральню.

– Пры чым тут прыбіральні, – пакрыўдзіўся ён. Успрыняў яго словы як намёк на колішнюю гісторыю.

– Пры чым?.. Ты што, не бачыш, што адбываецца ў краіне?.. Культурным чалавекам, Сяргей, можна быць толькі ў культурным грамадстве. А вакол нас адны зладзеі і хабарнікі. Ты не глядзі на яго інтэлігентнасць. Гэта толькі маска. Ён – хабарнік. Такім людзям не месца ў нашым універсітэце. Варта мне агучыць тое, што я ведаю пра яго, і яму крышка, і ён не дэкан. – Хініч счакаў хвілінку, потым дадаў: – Ты павінен напісаць артыкул. Пра яго.

– Я? – здзівіўся ён і засумняваўся: – Не… Я не ведаю. Баюся, што не змагу.

– Зможаш, – упэўнена сказаў Хініч. – Галоўнае, нарабіць грукату. А там паглядзім. Я павінен заняць яго пасаду. Ты мяне разумееш? Глядзіш потым і табе падшукаем “цёплае” месца. Абаронішся, застанешся на факультэце. Але пра дэталі крыху пазней. Тут трэба абмазгаваць усё як след, каб камар носа не падтачыў.

Ён прамаўчаў. Падняўся з канапы, падышоў да паліц з кніжкамі. ”Ён жа выкарыстоўвае мяне!” – не давала разняволіцца надакучлівая думка.

– О, у вас такая багатая бібліятэка! – здзівіўся ён шчыра, імкнучыся перавесці гаворку на іншую тэму.

– Так, – адказаў Хініч. – Большасць гэтых кніжак мне дасталося ад маіх бацькоў.

– А хто яны ў вас? Раскажыце пра іх, калі ласка, – папрасіў ён.

– Музыканты… Маці – скрыпачка. Бацька – дырыжор. Аб’ехаў палову свету са сваім аркестрам, – патлумачыў ахвотна ён. – Знаёмы быў з рознымі знакамітасцямі. Дарэчы, бацькі сабралі выдатную фанатэку. Калі ёсць жаданне, можам нешта паслухаць. Напрыклад… – Хініч не дагаварыў, падняўся з-за стала і накіраваўся да шафы.

– А ў вас ёсць Пярт? – заспяшаўся ён.

– Пярт? Вядома, ёсць, – азірнуўся Хініч. На яго твары застыла здзіў-

ленне. – Ты слухаеш Пярта?

– Так, гэта мой любімы кампазітар, – прызнаўся ён.

– Што ж, тады, калі ласка, – сказаў Хініч.

– Калі можна, пастаўце "TE DEUM ".

– Не уповай, душа моя, на телесное здравие и на скоромимоходящую красоту, видиши бо, яко сильным и младым умирают, но возопий: помилуй и мя, Христе Боже, недостойного, – задаволена ўсміхнуўся Хініч.

– Так, гэта канон пакаяння…

Рэштку вечара яны бавілі пад музыку Пярта. Пляшка была дапіта. Віно п'яніла і разнявольвала. Размова павольна перацякала з аднога рэчышча ў іншае, і ён не заўважыў, як мінуў час. Яму даўно трэба было збірацца дахаты. Ён заспяшаўся.

– Не думаю, што ёсць сэнс цягнуцца праз горад такой непагаддзю, – спыніў яго нечакана Хініч і зірнуў з нейкай непрыхаванай пяшчотай. – Заставайся… Канапа шырокая, месца хопіць.

– Ведаеце, я не прывык спаць на чужым ложку, – паспрабаваў ён адмовіцца. – Я не змагу заснуць.

– Усе мы іншы раз робім тое, чаго раней не рабілі, – сказаў ён загадкава і пачаў слаць пасцель. Прама ў зале, на канапе. Ён затаіўся ў чаканні і не вымавіў ніводнага слова, нават тады, калі адчуў на сваіх плячах цёплыя мужчынскія рукі Хініча.

17

Ён цягне мяне за сабой. Уніз па сходнях. Ён абражае мяне і штурхае ў плечы. Мне варта крычаць, не падпарадкоўвацца, а я маўчу. Я ўсміхаюся і маўчу. Відаць, гэта яго раздражняе больш за ўсё. Я ведаю генетычна: людзей раздражняе пакорлівасць іншых. Што дрэннага я зрабіла яму? За што ён б'е мяне?..

Мне страшна. Каб вы толькі ведалі, як мне страшна!

– Ляля!.. – шапчу я ад безвыходнасці.

Ён абыякавы і непрабівальны. Ён падобны да маёй мамы. Яна была такой жа непрадказальнай, калі глумілася над маёй лялькай.

– Ляля! – ледзь чутна паўтараю я.

Вакол ні душы. Толькі я і ён. Цёмна і душна. Недзе блізка зусім паблісқваюць шкельцамі акуляры.

– Ляля!..

– Заткніся!.. Заткніся!.. Заткніся!..

Знадворку праз разбітыя шыбіны ў памяшканне сочыцца скупое вечаровае святло. Разам са скразнякамі прарываюцца і павольныя невыразныя гукі скрыпкі. І здаецца, няма ў гэтым свеце нічога больш пяшчотнага і прыгожага…

– Ляля!.. Ляля!.. Ля…

## 18

Вярнуўшыся ад Хініча, ён адразу ж палез у ванную. Доўга мыўся, быццам бы можна было змыць з сябе чужы бруд. Другі раз у сваім жыцці ён адчуў сябе зняважаным. Разуменне сваёй нікчэмнасці, бессэнсоўнасці існавання наводзіла яго на вар'яцкую думку. Неабходна было нешта вырашаць з гэтым жыццём. Хацелася памерці. Ён знайшоў невялічкую вяроўку ў шафе і завязаў на ёй вузел. На нешта большае не хапіла рашучасці. Пастаяў хвіліну ў роздуме і выкінуў вяроўку ў сметніцу. Зноў палез пад душ. Жаданне мыцца па некалькі разоў на дзень стане для яго з гэтага дня неабходнасцю. І ўсё ж, не гледзячы ні на што, ад сустрэч з Хінічам ён не адмовіўся. Наадварот, цяпер яны сталі сустракацца яшчэ часцей. Страх перад тым, што людзі западозраць іх сувязь, вымушаў ісці на розныя хітрыкі, і ён, як мог, хаваў сваё дзіўнае сяброўства ад іншых.

– Біллі, далёка пойдзеш! – сказаў яму пры сустрэчы Бузя. Ён быў беспрынцыпна жорсткім, як заўжды. – А я ўжо, прызнацца, палічыў цябе за размазню.

– Ты гэта пра што? – спытаў ён, зрабіўшы выгляд, што не разумее.

– Я, Біллі, пра твой артыкул, – усміхнуўся загадкава Бузя. – Ты, пэўна, не ў курсе яшчэ. У Мамонькі інфаркт.

– Інфаркт? – здзівіўся ён.

– Так, Біллі, так. Пасля твайго артыкула, – сказаў Бузя.

– Я напісаў тое, што лічыў патрэбным, – паспрабаваў ён апраўдацца.

– Вядома, Біллі, вядома! – сказаў ён. – Ты ж у нас спецыяліст па праўдзе. Цяпер табе, Біллі, ахоўніка трэба мець. Глядзіш, замочаць у пад'ездзе, як Лісцева. За нішто, за праўду, – пажартаваў ён

Ён таксама сумна ўсміхнуўся.

– Ну, а калі без жартаў, – ціха сказаў Бузя, – то прапанова ў мяне да цябе ёсць, Біллі. Адзін мой сябар прадае “Макарава”. Шукае пакупніка. Не хочаш набыць? Магу пагаварыць з ім.

– Навошта мне пісталет? – здзівіўся ён.

– Раптам спатрэбіцца. Ты ж стральбой займаешся. Глядзіш, як знойдзеш. Час цяпер жорсткі, небяспечны. Падумай.

– Падумаю, – паабяцаў ён.

Яны развіталіся. Ён адразу ж патэлефанаваў Хінічу.

– Ты чаго замітусіўся? – асадзіў яго той. – Ты тут пры чым?

– Як жа, – выціснуў ён, заікаючыся. – Пляткараць, што ўсё гэта нябыта з-за мяне, з-за майго артыкула.

– Выкінь з галавы, – сказаў Хініч. – Ведаеш, колькі такіх артыкулаў зараз строчаць? І што, кожны, каго гэта тычыцца, інфаркты атрымлівае? Не дуры, Сяргей!

Ён задумаўся..

– Чым займаешся? – спытаў Хініч.

– Нічым, – адказаў ён.

– Прыязджай, пастраляем.

– Можна, – пагадзіўся ён.

– Адзін мой знаёмы адкрыў зал ігральных аўтаматаў. Там столькі розных “стралялак”. І бар ёсць, дарэчы. Можа на гэты раз туды сходзім? Кажуць, таксама захапляе, – прапанаваў Хініч.

Рэштку дня яны прабавілі ў гэтым зале. “Стралялкі” сапраўды захаплялі. Яму падалося нават, што ад іх можна атрымаць большы кайф, чым ад стральбы ў ціры. Ва ўсякім разе яму ўсё спадабалася.

Вечарам зноў патэлефанаваў Буся і сказаў, што Мамонька памёр.

– Схадзі ў царкву і пастаў свечку, – насмешліва параіў ён.

Ён напружыўся ад агіды. Успомніўся момант, калі Буся прымацоўваў да яго параненага вока абразок з выявай Божай Маці.

– Я атэіст, – сказаў ён, не хаваючы злосці. – Яшчэ ў дзяцінстве, там, ля рампы, я зразумеў, што верыць можна толькі ў сябе і ў свае сілы. Памятаеш, як ты…

Ён не дагаварыў.

– Памятаю! – сказаў Буся і зноў засмяяўся.

Ён уявіў нават яго скажоны вар’яцкі твар.

– Буся, я падумаў, – сказаў ён пасля непрацяглай паўзы.

– Ты пра што? – не зразумеў Буся.

– Я наконт тваёй прапановы.

– А… Выдатна! Толькі хачу папярэдзіць, Біллі, гэта небяспечна. За гэта пасадзіць могуць. Ты добра падумаў?

– Падумаў, – сказаў ён упэўнена. – Колькі будзе каштаваць?

– Дамовімся…

## 19

Яму ёсць што сказаць мне. Калі я гляджу на яго ўзнятую, застылую ў паветры руку, мне здаецца, што ён цягне яе да мяне, каб пагладзіць па галаве. Я ўхіляюся. Я баюся яго. Світальны промень кранаецца маўклівай каменнай постаці, і безжыццёвы мармуровы твар ажывае. Прыжмураныя, пранізлівыя вочы, векавая хітрая ўсмешка – намёк на нашу безгрунтоўнасць. Помста нам, жывым. Я прыходжу сюды, каб выпытваць у яго таямніцы. Ні на што іншае я болей не здатная.

– Пачатак і канец… Чаму быць, тое здарыцца...

– Людзі баяцца таго, чаго не бачаць. Заплюшчы вочы і глядзі. Усё кепскае адбылося ўжо, – нагадвае мне яго векавая, ліслівая ўсмешка. – Проста людзі таго не заўважылі.

– Няпраўда, тое, што засталося, аднолькавае з тым, што згінула, — няўпэўнена выціскаю я і гляджу на яго са здзіўленнем. Вочы расказваюць тое, аб чым маўчыць яго маўчанне. – Ці павінны маўчаць мы аб тым, аб

чым не маем магчымасці гаварыць? Кім стану я, калі мяне не стане?

– Усе нечага хочуць…

– Я не ведаю, як мне жыць. Мне ніхто не гаварыў пра гэта.

– Раззлуй іх. Быць добрай – табе не да твару.

– Я раблю тое. Але ў мяне ёсць свая гісторыя.

– Твая гісторыя ганебная ад пачатку і да канца. Ты цягаеш за іх іхні цяжар. Скінь яго з сябе.

– За каго за іх?

– За іх…

– І што далей?..

– Не думаць, а проста быць…

## 20

Хініч заняў месца дэкана. Як таго і хацеў. Адразу ж пасля смерці Мамонькі. Бачыліся яны цяпер рэдка. Прычыну гэтага кожны тлумачыў па -свойму. Не за гарамі быў час дзяржаўных іспытаў і ён цяпер цэлымі днямі праседжваў у чытальнай зале. Калі выпадаў вольны час, бег у цір, пастраляць. Гэта быў адзіны занятак, які прыносіў яму асалоду. Тут, у ціры, хоць і зрэдзь, яны бачыліся з Хінічам. Іспыты ён здаў на выдатна. Атрымаў чырвоны дыплом. Хініч, як і абяцаў, прапанаваў пасаду на кафедры. Ён адмовіўся. Папрасіўся на працу ў газету. Хініч паклапаціўся. Пагаварыў з кім трэба. Праўда, за гэта давялося разлічвацца дадаткова.

– Пакажы гэтым засранцам, як трэба пісаць! – сказаў Хініч з націскам. – Па-першае, гэта магчымасць бліснуць здольнасцямі. Па-другое… – ён задумаўся. – Чалавек, пра якога я хачу, каб ты напісаў, – вельмі патрэбны мне чалавек. Ведаеш, ёсць людзі, а ёсць нелюдзі… І гэтыя нелюдзі замінаюць жыць нармальным людзям. Іх мала. Іх трэба падтрымліваць. Разумееш?.. Час такі зараз… Па галовах, сукі, ходзяць. Сяргей, пастарайся. Разбярыся, пранюхай, намацай слабыя месцы. Што мне цябе вучыць…

Ён пастараўся. Разбіў у пух і прах. Вучыць яго, як гэта робіцца, не было патрэбы.

Яны пачалі бачыцца яшчэ радзей. Нават цір ён цяпер наведваў адзін. Пры сустрэчах кожны спасылаўся на занятасць, хаця сапраўдныя прычыны былі ў іншым, аб чым можна было толькі здагадвацца. Ён адчуваў недагаворанасць, але ніякіх захадаў, каб палепшыць адносіны не зрабіў. Прадчуваў: канчатковы разрыў рана ці позна – непазбежны. Вырашылася ўсё проста, само сабой. Аднойчы яму пазванілі з бальніцы і паведамілі, што Хініч у рэанімацыі, што ў яго здарыўся інсульт. Крыз, праўда, мінуў, але стан па-ранейшаму цяжкі. Навіна выбіла з каляі. Гэта быў сапраўдны шок для яго. Яшчэ ўчора здаровы, жыццяздольны, самаўпэўнены, самадастатковы чалавек – сёння быў не патрэбнай нікому абузай. У гэта было немагчыма паверыць. У бальніцу ён не паехаў. Не хапіла духу.

Толькі праз месяц, калі Хініча выпісалі і калі ён сам крыху аправіўся ад шоку, ён наведаў яго дома.

На кухні было душна. У кубачках на стале стыла гарбата. Прыгатаваў яе сам, ад безвыходнасці, і цяпер не ведаў, што з гэтым рабіць. Хініч быў не здольны самастойна трымаць у руках кубак. Яго трэба было паіць з лыжкі. Па ўсім відаць, гэтым займалася жанчына, якая з-за ветлівасці пакінула іх адных. Левае вока яго было крыху прыплюшчанае. Века ўвесь час уздрыгвала. Узнікала ўражанне, што ён імкнецца яго расплюшчыць і не можа. У правай руцэ Хініч трымаў ручку і некалькі хвілін ужо спрабаваў дацягнуцца ёю да чыстага ліста паперы. Як сказала жанчына, якая даглядала за Хінічам, гэта пакуль адзіны сродак зносін з ім. Ён глядзеў на свайго старэйшага сябра, і яму хацелася плакаць. Гэтая ненаўмысная нязграбнасць выклікала гідлівасць.

Ён адчыніў фортачку. Са свежым паветрам у пакой уварваўся дзіцячы смех. З вакна быў выразна бачны вяслярны канал – адно з любімых месцаў у горадзе. Неаднойчы яны блукалі ўздоўж яго па брукаваных сцяжынках, марылі, спрачаліся, разважалі. Каб не расчуліцца канчаткова, ён адышоў ад вакна і зірнуў на Хініча. Той усё яшчэ сіліўся нешта напісаць. Ён сеў насупраць. “Прывітанне!” – прачытаў ён на чыстым лісце паперы. Узняў галаву і моўчкі кіўнуў. Хініч паспрабаваў усміхнуцца. Правае павека заторгалася. Зноў захацелася плакаць. Плакаць ад бездапаможнасці. Перад ім сядзеў зусім іншы чалавек. Яго цяпер і чалавекам цяжка было назваць. Куды дзеліся нядаўнія гонар і пыха, глянец і самаўпэўненасць. Яго ахапіў жах. “Хіба мог я калі-небудзь падумаць, што стану адчуваць гідлівасць да гэтага чалавека”, – падумаў ён.

Хініч памкнуўся нешта сказаць. Твар яго зморшчыўся. Рот адкрыўся. Адтуль вырвалася нейкае тужлівае, неразборлівае мыканне. Гэта толькі ўзмацніла да яго гідлівасць. І яму захацелася бегчы прэч з гэтага пакоя. На вуліцу. Куды заўгодна, толькі не быць тут, у пакоі, дзе пасялілася назаўжды маўчанне. Ён падняўся з крэсла, яшчэ раз зірнуў на Хініча. Цяпер ужо без ніякага спачування. Потым вырваў сілай з яго рук ручку і няспешна вывеў на белым лісце: “Папраўляйся. Я заўтра прыйду”.

Ён хлусіў. Ён даўно для сябе вырашыў, што ні заўтра, ні паслязаўтра, ён ніколі сюды не вернецца. Гэта быў канец іх адносінам. Роля нянькі – не яго роля. Ён выйшаў, не развітаўшыся. Ад безвыходнасці блукаў па горадзе. Пахадзіў хвілін дваццаць ля ціра, які тыдзень ужо як быў зачынены, зазірнуў у бар, але напіцца так і не наважыўся, не перасіліў сябе. Неяк у дзяцінстве ён залез у сервант і выжлукціў з гарла паўпляшкі лікёру. Мама знайшла яго ў ваннай, паўжывога, з зялёным тварам. Яго ванітавала. Мама выліла сілком у горла паўкубка нейкай фіялетавай вадкасці. Пасля чаго яму стала лягчэй. З тых часінаў ён спіртное ў рот не бярэ.

– Усё роўна цябе пацалую. Ляля!

Зычны, нахабны смех вар'яткі вярнуў яго да рэчаіснасці. Змяркалася. Дрэвы, нібы гіганцкія цені, ухутвалі цесны замызганы дворык. Недзе за імі, у той апраметнай пачварнай цемры, таілася зло. Адзінае, што ён чуў цяпер, гэта была музыка, яго любімы Пярт, яго "TE DEUM". Ён не мог памыляцца. "Скуль гэта музыка? – падумаў ён з замілаваннем. – Толькі не цяпер. Толькі не цяпер?"

– Цяпер, Біллі, цяпер!

– Толькі не цяпер! Толькі не цяпер!

– Усё роўна цябе пацалую. Ляля!

Ён адчуў, як ім авалодвае жывёльнае жаданне. Не разумеючы, што робіць, ён схапіў вар'ятку за руку і пацягнуў за сабой. Дзверы ў склеп былі прыадчыненыя. Ён чуў, як калоціцца сэрца, недзе ў галаве, як яму здавалася, і не мог зразумець чыё яно – яго ці вар'яткі. Чарната выядала вочы. Паветра было перанасычана прадчуваннем бяды. Ён сціснуў дзяўчыну ў абдымках, паваліў на смярдзючыя лахманы. Смех на хвіліну сціх. Нечакана яму прымроілася Моніка. Ён выразна ўбачыў яе спакуслівыя, юрлівыя вочы. Цела дзяўчыны было важкім. Ад яго сыходзіла прыемнае цяпло. Вочы Монікі Велюр блішчэлі ад вільгаці. Палова твару, якая была яму бачнай, зморшчылася ад болю. Боль іcнаваў толькі тут і цяпер. Звод найвялікшых глыбінь чалавечай душы. "З табою нават паразмаўляць нельга, – з прыкрасцю думаў ён. – Ад цябе ніякага сэнсу". Вар'ятка сціхла, затаілася. І ён не ведаў, што яму рабіць далей.

– Запомні, я – Сяргей! – чамусьці назваўся ён. Магчыма, ад безвыходнасці. – І ты мая першая жанчына.

Вар'ятка палахліва ўздрыгнула, нешта сказала ў адказ невыразнае, незразумелае. А можа, яму толькі ўсё тое прымроілася. Нечакана нахлынула млоснасць. "Божа, як стомна быць ласкавым з вар'ятамі! – падумаў ён. – Верагодна, ім не зразумелая мова пяшчоты. Верагодна, у іх свой свет каштоўнасцяў…"

І мо ў тысячны раз ужо яму захацелася быць вар'ятам

І ніякай Монікі Велюр. І ніякага Пярта. Ён і вар'ятка. І сыры цёмны склеп…

## 21

Я жыву дыялогамі са сваімі адлюстраваннямі. А яшчэ з табой. Мама ўжо здагадваецца пра тваё існаванне. Мама сцвярджае, што табе да твару цемра. Яна хлусіць. Цемра з'ядае колеры і фарбы… Цемра мае таксама пах Смерці. І склепа…

## 22

Дома яго чакаў чарговы сюрпрыз. Забіраючы пошту, разам з газетамі вывудзіў са скрыні ліст ад яе. Ён пазнаў гэты раскідзісты, неахайны почырк. Збянтэжана ўздрыгнуў. Мінула гадоў мо пяць з таго моманту, як яна перастала пісаць яму, і ён нават падумаў ужо, што яго пакінулі ў спакоі. Пачуццё трывогі вярнулася. Ён зноў адчуў сваю прыгнечанасць і непаўнавартаснасць. «Колькі можна! Колькі яшчэ ты будзеш здзекавацца з мяне, шлюха! Не магу больш! Не магу!..» Ён скамячыў канверт і ад безвыходнасці шпурнуў яго ў сметніцу.

Доўга мыўся. Мыліў цела, змываў, зноў мыліў, зноў змываў. І так да бясконцасці. На гадзінніку было каля дванаццаці, калі вылез з ваннай. Накіраваўся на кухню, заварыў гарбату, расчыніў вакно і закурыў. Аднекуль з боку гарадской ратушы да яго даляцеў нечы ледзь чутны стогн. Ён прыслухаўся. Высунуўся з акна. Удыхнуў свежае вільготнае паветра. Недзе ўнізе пад ім застыла ў невядомасці нябачная начная вуліца. Час ад часу яе крэслілі запозненыя аўто. Асветленая з усіх бакоў ратуша на фоне змрочнога начнога неба набыла строгі, манументальны выгляд. Налітыя чырванню хмары плылі настолькі нізка, што, здавалася, яны вось-вось зачэпяць шпіль. Відовішча ўражвала сваёй незвычайнасцю і містычнасцю. Вецер разгойдваў ліхтары, і гадзіннік на шпілі час ад часу палахліва ўздрыгваў. Сама ратуша нагадвала цыклопа. І тыя гукі, якія пладзіла ў начы далячынь, толькі ўзмацнялі ўсе гэтыя ўражанні. Здавалася, што ён чуе не скавытанне ветру, а голас нябачнай воку, містычнай істоты, стогн Цыклопа. «Моц свету ў яго манументальнасці!» – падумаў ён нечакана. Успомніў пра выкінуты ў сметніцу ліст і пашкадаваў аб тым. Закарцела прачытаць яго. «А што, калі яго ўжо выкінулі, разам з іншым смеццем?» – жахліва падумаў ён і кінуўся да дзвярэй. Холад каменных прыступак апёк ногі, ацвярозіў на хвіліну. Ён зразумеў, што выскачыў босы, што ў спешцы не абуў тапкі. Вяртацца назад не стаў. Скамячаны ліст ляжаў на раней-шым месцы. Ён дастаў яго са сметніцы, разгладзіў. Дастаў з канверта здымак і невялічкі допіс.

«Прывітанне, Сяргей! – прабег ён вачыма па паперы. – Звяртаюся так да цябе ўпершыню. Калі ты будзеш чытаць гэты ліст, я, магчыма, буду ўжо ў дарозе. Мы з дачкою вырашылі пакінуць гэты горад. Цяпер назаўжды. Пажывём пакуль у сястры, а там час пакажа. Калі шчыра, сумленне маё не на месцы. Баліць маё сэрца і за цябе, і за дачку. Адчуваю віну перад вамі. Гэты грэх я нашу ў сваім сэрцы даўно, з таго сумна памятнага табе дня. З-за таго, магчыма, і ў жыцці маім усё наперакасяк. Бо мала што мяне некалі кінуў каханы чалавек, дык у дадатак да ўсяго я нарадзіла ад яго яшчэ дачку-вар'ятку. Сямімесячная яна ў мяне. Дасылаю табе здымак. На памяць. Наталлі тут пяць гадкоў. І я яшчэ зусім маладая. Такой прыкладна я і была тады, калі ты захацеў на мяне ўпершыню паглядзець.

Можаш спаліць гэты здымак ці выкінуць, калі ён табе не патрэбны. Бывай. Цяпер ужо назаўжды. Н.». Ён доўга ўзіраўся ў жанчыну з маленькай дзяўчынкай на руках. Яму падалося, што ён недзе яе бачыў ужо. Жанчына была падобнай, як дзве кроплі вады да выявы з абразка, таго, што некалі ў дзяцінстве яму прыкладваў да параненага вока Бусея. Ён жахнуўся. Маленькая дзяўчынка на здымку таксама падалася знаёмай. Яму прымроіўся цёмны смярдзючы склеп. Цяжкае цёплае цела дзяўчыны. І вільгаць у вачах. Яго скаланула ад жахлівай здагадкі. “Гэта ж вар’ятка! – падумаў ён, узіраючыся ў непрыгожы твар дзяўчынкі. – Болей таго, гэтыя людзі жывуць побач, па-суседску, праз пад’езд. Гэта Грынічы! Вядома, яны!..” Ён кінуўся да дзвярэй. Палахліва пастукаў у суседнюю кватэру. Суседка акінула яго недаўменным позіркам.

– Што здарылася, Сяргей? – спытала яна. – Табе кепска?

– Так, мне кепска. Мне вельмі кепска. Невыносна кепска. Прабачце, калі ласка!

– Можа мне выклікаць хуткую?

– Не, не трэба, – адмовіўся ён і хуценька зачыніў за сабою дзверы.

– Ты нешта хацеў? – пачуў ён ужо наўздагон.

– Не, нічога, – адказаў ён.

Спытай у яго ў гэты момант, з якою мэтай ён стукаў у гэтую кватэру, і ён наўрад ці змог бы адказаць на гэтае пытанне. Адчуванне часу раптоўна сцёрлася. Ён кепска разумеў, у якіх вымярэннях знаходзіцца.

Калі пачуццё адчаю схлынула, ён вярнуўся на кухню. Вакно было паранейшаму расчыненае. Вецер рваў надзьмутыя фіранкі, і яны, нібыта ветразі, бездапаможна біліся ў паветры. На падлозе валяліся раскіданыя паперы. Ён кінуўся падбіраць іх, але перадумаў. Падышоў да вакна. Нечакана яму захацелася зрабіць крок у цемру. Праз хвіліну жаданне прапала, і ён заспяшаўся зачыніць вакно. Зноў пачуў дзіўныя надакучлівыя гукі. Запахла склепам. І ён адчуў сябе пячорным чалавекам. Ні спагады, ні літасці. Недзе за вакном, ля ратушы, стагнаў ад адчаю Цыклоп.

Ён хуценька апрануўся і кінуўся ўніз па лесвіцы да выхаду. На вуліцы было сыра і цёмна. Накрапваў дождж. Ён перасёк вуліцу і подбегам рушыў да ратушы. Цяпер ён дакладна ведаў, скуль бяруцца тыя нікчэмныя гукі. Гэта скрыгатаў стрэлкамі гадзіннік. Размотваў час. Яго час. «Я спыню яго! – самаўпэўнена вырашыў ён. – Я ведаю, як гэта зрабіць». Ён падкраўся да ратушы, крануўся рукой халоднай, вільготнай клямкі. Дзверы былі замкнёныя. У запасе быў яшчэ адзін варыянт. Патрапіць у шпіль можна было праз дах суседняга дома. Кінуўся туды, але і там чакала няўдача. Дом быў пад аховай, і прабрацца на дах не атрымалася. Ён зірнуў безнадзейна на гадзіннік, потым на сцяну з вялізным стракатым плакатам «Мы – народ!», і ад бяссілля заплакаў. Счакаўшы, адшукаў вачыма непадалёк лаўку і рушыў да яе. Адчуванне, што за ім нехта сочыць, не мінала. Ён азірнуўся. З плаката яму ўсміхаўся

шчаслівы малады чалавек…

23

Пра жыццё мне расказвае мама. Усё, што я ведаю пра яго, ведаю з яе слоў. Я бачу свет яе вачыма. Мяне як бы няма яшчэ. Я – пакуль толькі цень, адгароджаны ад людзей шклом гэтага вакна. Мяне трэба выдумаць. Бо калі пра чалавека нічога не ведаюць, пра яго складаюць міфы. Якія словы ўваскрэсяць мяне? Ці стану я ціхім шэптам тваіх ніколі не агучаных думак? “Мама, мамачка! – крычу я і не магу да цябе дакрычацца. – Што ведаеш пра мяне ты? Што?.. Бездань толькі павялічваецца паміж намі. Ты заўсёды саромелася мяне. Ты заўсёды хавала мяне ад сваіх сяброў і знаёмых. Твая любімая фраза, якую ты паўтараеш нястомна шмат год ужо: “Чаму ты не памерла, калі была маленькай!” Голас чужы і фальшывы. Ад тваіх слоў вее холадам. Так, людзі любяць памерлых. Няўжо і мне трэба памерці, каб ты палюбіла мяне?..

24

Разбудзілі яго нечыя галасы. Ён спахапіўся, не зразумеў, дзе знаходзіцца. Агледзеўся. Пачынала світаць. Неба на даляглядзе заўважна пасвятлела. Гаслі адзін за другім ліхтары. Са сцяны ратушы, з плаката, на яго ўсё гэтак жа падазрона пазіраў малады чалавек у нацыянальнай кашулі. Як на нявартую ўвагі драбнату. “Не, гэты горад занадта прыгожы для таго, каб ён змог мяне палюбіць! – падумаў ён без шкадавання. – Для такога дзікуна, як я, тут не месца”. Ён з нянавісцю зірнуў на чалавека з плаката. Пагардлівы і самадастатковы позірк таго нібыта папярэджваў: “Лес – вось дзе твая стыхія!” Што рабіць далей, ён не ведаў. Сядзеў і глядзеў тупа ўдалячынь.

У рэдакцыі паявіўся каля поўдня.

– Хм! – нявызначана хмыкнула сакратарка ў адказ на яго сціплае прывітанне. Тлумачыць, што гэта азначае, не мела патрэбы.

– Што здарылася, Біллі?..

– Ты закахаўся, Біллі?

– Біллі, табою цікавіўся галоўны рэдактар!

– Біллі!.. Біллі!.. Біллі!.. – неслася з усіх кутоў. О, як ён іх усіх ненавідзеў!..

– Біллі, хачу цябе пазнаёміць з нашай новай супрацоўніцай.

– Не трэба, мы з ім знаёмыя даўно, – заспяшалася маладая дзяўчына. Выйшла з-за стала, зрабіла некалькі крокаў яму насустрач. – Прывітанне, Біллі!.. Няўжо я змянілася?.. Што, не пазнаў?..

– Чаму ж, пазнаў, – нехаця адказаў ён.

Яшчэ б яму было яе не пазнаць. Гэта была Марына. Са ўсёй сваёй

прыгажосцю.

– Рада бачыць цябе, Біллі!

– І я таксама, – схлусіў ён, памаўчаў і чамусьці з выклікам сказаў: – Між іншым мяне Сяргеем завуць.

– Даруй, я па звычцы, – папрасіла прабачэння жанчына. – Але тады і я таксама не Пстрычка. Я – Марына, – нагадала яна з тым жа націскам у голасе. Усміхнулася: – Вось і пазнаёміліся.

І тут яго прарвала.

– Я не Біллі, чуеце вы! – крыкнуў ён, звяртаючыся да калегаў. – У мяне ёсць імя. І памятайце, цярпець вашы знявагі я болей не збіраюся. Зразумелі?

– Біллі, якая муха цябе ўкусіла?

– Мухі тут ні пры чым. Халтуршчыкі! Я звальняюся. Сёння ж. Усе чулі? – узмацніў ён да непазнавальнасці голас. – Мне надакучыла пісаць гэтыя пасквілі пад заказ.

Ён адчуваў, што паводзіць сябе па-дзіцячы, сцэнічна. Але спыніцца ўжо не мог. Яго несла. Эмоцыі зашкальвалі. Ад хвалявання нават запацелі шкельцы ў акулярах. Іх трэба было тэрмінова працерці. Парадокс крыўся ў тым, што зняць ён іх не мог. Зняць – гэта выставіць напаказ сваё калецтва. Дазволіць такой радасці ён ім не мог. Ён глядзеў на размытыя да непазнавальнасці, мітуслівыя постаці калег і люта іх ненавідзеў. Гэта ўсё, на што ён быў здатны ў гэты момант. Нялоўкая паўза зацягвалася. Кожны рабіў выгляд, быццам бы займаецца сваёй справай. Яго ж распірала ад гонару. “Я змог! Я заткнуў ім раты! ”

Напрыканцы працоўнага дня на калідоры яго дагнала Марына.

– Сяргей, – папрасіла яна. – Правядзі мяне, калі ласка, да аўтобуснага прыпынку. У яе голасе было столькі загадкавасці і пяшчоты, што ён не здолеў адмовіць. Нешта варухнулася, затрымцела на донцы яго душы, нарадзіла кволае жаданне павінавацца. Яны ішлі па бязлюднай вечаровай вуліцы і размаўлялі. І яму падалося, што ўсё гэта некалі было ўжо. Ва ўсякім разе, усё гэта не выпадкова. Сустрэча наканавана яму лёсам. Вялікае каханне пачынаецца менавіта так, ведаў ён з кніжак. Марына была замужам, мела дачку. Каб захаваць сувязь у тайне, ім давялося зняць кватэру на ўскрайку горада. Сустракацца дома ў яго яна катэгарычна адмовілася. Мужа яна свайго не кахала і не скрывала гэтага. Ён жа паверыў ёй. Адкрыўся.

– Біллі, не вер бабам! – папярэджваў яго Буся. – Іх хлебам не кармі, а дай пагуляць у пачуцці. Небяспечная і бесперспектыўная твая задума. Звязвацца з замужнімі жанчынамі – сябе не паважаць. Нагуляецца і кіне, вось паглядзіш. У цябе ніякіх шансаў. У яе – дачка, муж, хата. Што дасі ты ёй узамен?... Што, Біллі?..

Ён не паверыў, узгадаў, як некалі Буся сам заляцаўся да Марыны, і вырашыў: “Зайздросціць, сука! Выпадзі яму такая магчымасць – не прамі-

нуў бы, не ўпусціў бы…”

Ён закахаўся. Упершыню ў жыцці. Купіў машыну. Наўмысна, каб можна было забіраць Марыну з працы. Яны ехалі далёка за горад. Гулялі ўздоўж рэчкі, размаўлялі. Ён адчуваў сябе па-сапраўднаму шчаслівым. Вырашыў, што і яна кахае яго. Ва ўсякім разе, рабіў усё магчымае..

Неяк на сайце знаёмств ён выпадкова натрапіў на адну не зусім звычайную абвестку. “Сямнаццацігадовы хлопец, – прачытаў ён, – жадае пазнаёміцца з мужчынам з мэтай далейшых інтымных сувязяў”. Абвестка зацікавіла яго. Ён патэлефанаваў па пакінутым у ёй нумары, дамовіўся аб сустрэчы. Не, яму не патрэбна была інтымная сувязь з гэтым маладым хлопцам, усё гэта ён праходзіў ужо. Яму хацелася зняважыць гэтага юнака, паказаць яму яго нікчэмнасць, як гэта зрабілі ў свой час з ім, а заадно пераканаць сабе ў тым, што ён не адзін такі зняважаны, што ёсць іншыя, што іх шмат, што яны такія ж грэшнікі, як і ён. Бо жыццём на самой справе кіруе блуд. Бо сэкс і ежа – галоўныя каштоўнасці, якімі захапляецца пераважная большасць людзей. Ён хацеў задаць гэтаму хлопцу некалькі няёмкіх пытанняў, а потым апісаць усё падрабязна ў палемічным артыкуле. “Няхай чытаюць! – думаў ён. – Няхай ведаюць”.

Сустрэча з юнаком расчаравала яго. Той раскусіў яго з першых слоў і незаўважна змыўся. На тым гісторыя і скончылася.

.

25

Я ведаю нешта, чаго не ведаюць іншыя. Я ведаю, як нараджаецца жыццё. Як кропля за кропляй яно перацякае з аднаго чалавека ў іншага. Цяпер ты нагадваеш мне пра сябе кожны дзень. Я чую, як б’ецца побач з маім тваё сэрца. Я люблю цябе, маё любінятка!

Мама сказала мне ўчора, што аддасць цябе ў прытулак, як толькі ты народзішся. Яна злая, катэгарычная. З ёй немагчыма размаўляць. Наіўная, думае, што ёй можна распараджацца чужым жыццём. Маім… Тваім… Калі гэта так, то хто тады мы такія? Не бойся!.. Не бойся!.. Я не аддам ёй цябе ніколі. Яна зноў кожны дзень вывозіць мяне ў горад. На інваліднай калясцы, якую бярэ на пракат у суседкі. Сын той памёр некалькі гадоў таму, і каляска з таго часу незапатрабаваная. За мізэрную плату мама бярэ яе для мяне. Цяпер я праседжваю ў ёй гадзінамі ля рынку, на ранейшым абжытым месцы, і кармлю птушак. Гэты занятак прыдумала для мяне таксама мама. Ёй здаецца, што калі я буду карміць птушак, то буду выклікаць да сябе жаль. Ад гэтага, сцвярджае яна, залежыць наша з ёю жыццё. А значыць і тваё. “І чаму людзі бяскрылыя?” – думаю я неаднойчы, назіраючы за птушкамі. Мне таксама хочацца быць птушкай, – той белай бяскрыўднай галубкай з чорнай меткай на шыі…

## 26

Ён адарваўся ад успамінаў, агледзеўся. Амаль развіднела. Сонца прабівалася праз туман і заўважна ажыўляла цеснату густа засаджанага дрэвамі дворыка. Недзе зусім блізка заскавытаў сабака. З вуліцы данёсся аднастайны гул машын. Паявіліся першыя прахожыя. Ён заспяшаўся. Абмінуў "хуткую", але чамусьці вярнуўся. Дзверцы ў машыне былі адчыненыя. Ён не стрымаўся, падышоў бліжэй. Мужчына ў белым халаце мітусліва выцягваў з салона насілкі. "І што сёння за дзень такі! – падумаў ён, пазіраючы падазрона на санітара. Падышоў сусед. Немалады чалавек, няголены, хударлявы.

– Да каго? – пацікавіўся ён у мужчыны.

– Да Грынічаў, – суха адказаў той. Коса зірнуў на пакунак. Счакаў і спытаў: –- Вар'ятку з пятнаццатай кватэры ведаеце?..

Ён насцярожыўся. Вытрымаў паўзу. Сэрца трывожна сціснулася.

– Вар'ятку? – перапытаў ён. – Ды ведаю…

– Разрадзілася без пары. Дома. Хавала сваю цяжарнасць ад маці. Хто іх зразумее гэтых… – Ён змоўк, падбіраючы патрэбнае слова. Нарэшце знайшоўся, паправіўся: – Гэтых хворых.

– Так, звычайная справа, – цынічна кіўнуў ён у адказ. Адумаўся, спытаў:

– Хіба яны не з'ехалі? Наколькі я ведаю, яны павінны былі…

– Ды не, – спыніў яго сусед і загадкава ўсміхнуўся. – Відаць, былі на тое прычыны. Цяпер ужо і не з'едуць...

– Гэта чаму?

– Куды ім з малым дзіцём ехаць? – зморшчыўся іранічна мужчына. – Сын цяпер у яе на руках.

– Лагічна, – кіўнуў ён. – Сын?.. "Гэта ж мой сын!.. Мой!.."

– Так. Хто мог падумаць… – паспачуваў сусед.

– Пайду я, – нечакана заспяшаўся ён.

– На працу?

– Так, – схлусіў ён.

– Вядома, ідзі, – сказаў сусед, працягваючы загадкава ўсміхацца. Нечакана яму падалося, што сусед здагадваецца пра ўсё. Ад няёмкасці, ці то ад хвалявання, якое раптам нахлынула на яго, ён нават расчырванеўся. Заспяшаўся развітацца.

Скрыня была даверху завалена смеццем, і, каб пакласці туды пакунак з птушкай, яму давялося рыхтаваць месца. "Нібыта ў магіле, " – падумаў ён, кладучы пакунак у ямку. Засыпаў яго смеццем і пазначыў месца позіркам, нібыта збіраўся некалі вярнуцца сюды. Пастаяў хвілінку і падаўся прэч. Подбегам дабраўся да свайго дома, але ў кватэру не стаў падымацца, накіраваўся да аўтобуснага прыпынку. "Радуйся, цяпер ты бацька! – змушана ўсміхнуўся ён. – А што, калі… – нечакана падумалася яму. Думка ўбілася ў свядомасць. Набыла новы сэнс. – А што, калі

дзіцё хворае, такое ж, як маці?.. Ці патрэбны мне такі сын?..”

Зрабілася млосна. Настрой сапсаваўся канчаткова. На прыпынку стаялі людзі і чакалі. Ён не заўважыў, калі падышоў аўтобус. Доўга вагаўся. Заскочыў у апошні момант. “Што я скажу Марыне? – падумаў ён. Дзверы зачыніліся. – Як я ёй растлумачу ўсё? Сын?.. На фіга мне такі сын!..”

У гэтым горадзе былі месцы, дзяліцца прыгажосцю якіх з іншымі ён не збіраўся. Не праз сквапнасць сваю, вядома, а з-за страху, што нехта іншы, чужы, возьме і разбурыць гэты яго прымройны, містычны свет. І не толькі сваёй прысутнасцю, але нават сваім нядбайным, выпадковым позіркам возьме і апаганіць тое святое, нешматлікае, што яшчэ засталося ў яго. Тут яму і дыхалася лягчэй, і думалася больш плённа. І час тут можна было бавіць з карысцю і асалодай для сябе. “Твой свет – гэта толькі твой свет, – пераконваў ён сябе неаднойчы. – І гэты свет адзіны ў сваім непадабенстве. Ён заўжды побач з табой. Увайдзі ў яго і стань адзінотным! Ты ж прагнеш цішыні і спакою! Дык палюбі іх! Бо калі ў гэтай цішыні ёсць ты, – гэтага больш чым дастаткова, каб не лічыць яе цішынёю. Бо калі ў тваіх думках ёсць яна, – гэтага больш, чым дастаткова, каб не лічыць сябе адзінотным”.

Адным з такіх месцаў і была гэтая невялічкая кавярня побач з гарадскім цірам. Цір быў зачынены. Больш чым месяц вяліся рамонтныя работы, і ён змушаны быў бавіць час у гэтай кавярні. Прыйшоў ён сюды і сёння. Тут яны павінны былі сустрэцца з Марынай. Ва ўсякім разе, паміж імі была такая дамоўленасць. Ён сядзеў за столікам і бязмэтна ўзіраўся ў запыленае, бруднае шкло. Чакаў яе. Недзе за абразурай вакна бруілася знаёмая да агідных падрабязнасцяў вуліца. Піў каву і цікаваў за панурым дажджлівым заваконнем. “Калі доўга глядзець на раку, па ёй абавязкова праплыве труп твайго ворага!” Чамусьці менавіта гэтая ўсходняя ісціна ўзгадалася цяпер. “Чаму на раку? – падумаў ён. – Чаму, напрыклад, не на вуліцу? На гэтую вось вуліцу…”

Абсурдна, але з розніцай у пару хвілін па ёй сапраўды прадэфілявалі два картэжы – вясельны і жалобны. Як паспеў ён заўважыць, працэсіі гэтыя рухаліся ў супрацьлеглых накірунках. Верагодна, смерць здзеквалася з жыцця. Ці, наадварот, жыццё не жадала падпарадкоўвацца смерці... Шляхі іх разыходзіліся. Яму было ўсё роўна. Ён нават падумаць не мог, што менавіта ў гэтую хвіліну родзічы і блізкія Хініча, – так, таго самага Хініча, нядаўняга настаўніка і старэйшага сябра – развітваюцца з ім, выпраўляюць у апошні шлях. Гэта з яго целам праехаў некалькі хвілін таму катафалк. Ён не ведаў гэтага. Яго думкі былі надзённыя і зямныя. Ніколі не выпытвайце ў нас пра сапраўдныя прычыны нашай роспачы. Усе мы хворыя самімі сабой…

Ціха гучэла музыка. Недзе на дне яго душы, у нетрах свядомасці. Яна і была для яго цяпер тым пасрэднікам паміж зямным і касмічным, той плазмай, тым шматмерным аб’ектам, з дапамогай якога людзі размаў-

ляюць з Вечнасцю. Ён любіў гэтую музыку за яе зямную неспасціжнасць. Гэта быў яго любімы Пярт.

Ён адарваўся ад думак, зірнуў на гадзіннік. Мінула яшчэ адна гадзіна. Яе не было. “Відавочна, яна не прыйдзе, – нечакана вырашыў ён. – Ва ўсякім разе, чакаць болей не мае сэнсу”. Ад гэтай думкі яму зрабілася не па сабе. “Няўжо маё існаванне – чыстай вады выпадковасць, вынік нечай жывёльнай жарсці? Тады навошта мне столькі болю, столькі пакут? Дзеля чаго? Каб вымаліць сабе месца пад сонцам?.. А што далей?.. Што?.. Я не веру табе, Сартр! Я не згодны з табой. У чалавека павінна быць мэта. А калі яе няма, няма і самога чалавека. Можна стаць толькі тым, кім ты ёсць насамрэч. Ніякага выбару не існуе. Хлусня гэта ўсё. Кожны валачэ тое, што ўзвалілі на яго. Усё залежыць не ад нас… Шкада, але гэта так. Чуеш мяне, Сартр! Скажы, навошта мне сын ад вар’яткі? Няўжо наша жыццё настолькі абсурднае? Няўжо мы толькі робім выгляд, што ствараем сябе самі? Няўжо гэта ўсё толькі ілюзія, фальшывая гульня ўяўленняў?..”

Ён выйшаў з кавярні, падышоў да будынка, у якім некалі быў цір. Пастаяў некалькі хвілін у роздуме, паназіраў, як вядуцца будаўнічыя работы і рушыў няспешна ў бок цэнтральнай пешаходнай вуліцы. “Не прыйшла, – прамільгнула зноў надакучлівая думка, абудзіла адчай. Ён адчуў сябе адзінотным, выкінутым у безжыццёвую пустку. – Іншы раз мы робім тое, чаго раней да гэтага ніколі не рабілі. Наіўны!.. Які я наіўны! Каб захапляцца жыццём, трэба нарадзіцца вар’ятам!..“

Нечакана ў напоўпе мільгнула знаёмая жаночая постаць. Ён спыніўся ў разгубленасці. Ён пазнаў гэтую насычаную багаццем, непаўторнасцю фарбаў знаёмую з дзяцінства блузку. Позірк дагнаў жанчыну, калі тая павярнула ўжо на суседнюю вуліцу. Ён кінуўся следам за ёй, у вірлівую людскую плынь, паспрабаваў дагнаць. Жанчына растварылася ў неабдымнай стракатай прасторы, знікла, нібыта фантом у марыве ўскружаных ветрам сухога лісця. “Падалося, – падумаў ён са шкадаваннем. Зноў павеяла страхам – Падалося!.. Час сцірае апошнія надзеі. Д’ябал бы ўсіх вас пабраў! Навошта мне гэта ўсё?.. Навошта?.. Колькі можна цярпець гэты здзек!..”

– Ненавіджу цябе, Сартр! – вымавіў ён ціха, амаль шэптам. – Ненавіджу цябе, Сартр! – крыкнуў ён з выклікам, счакаўшы. – Чуеш, я ненавіджу цябе, Сартр! Ненавіджу!... Ненавіджу!..

Рука пацягнулася да кішэні за пісталетам. Захацелася страляць. Паліць у паветра. Паліць па людзях. Паліць абы-куды… Страляць! Страляць! Страляць!..

## 27

– Пніся, любая, пніся!..

Невялічкая чорная плямка на белай столі расце ўшыркі. “Што гэта?”–

пульсуе крывёю імклівая, трывожная думка. Узіраюся ў непраглядную, апраметную цемрадзь. Шукаю эпічны вугал агляду. Усё бясформеннае і бязмернае. Гэта ж мой боль! Гэта ж мой генетычны боль! Недзе над пісьмовым століком застылі ў чаканні ходзікі. Ім без розніцы, чыё перамолваць жыццё. Маё. Тваё. Адрываю галаву ад падушкі. Пасярэдзіне нямой чарнаты бачу белую, ледзь заўважную кропачку. Нешта пакуль што невыразнае і нематэрыяльнае. Яно – як нарыў на спакутаваным болем целе. Кропачка разрастаецца знутры, выцясняе чарнату. Магчыма, так нараджаецца жыццё. Ва ўсякім разе, калі ўсё гэта можна апісаць, я б апісала яго менавіта так: жыццё нараджаецца з болю. Нехта схіляецца над маім ложкам. Хто, разабраць нельга. Суцэльная вільготная цемра вачэй. І голас… Далёкі і неразборлівы. Аднекуль з чарнаты, з апраметных глыбінь цішыні.

– Пніся, любая, пніся!..

Цнатлівая чырвань вакна. Маятнік павольна раскалыхвае цішыню. Позірк зафарбоўвае чарнату. Боль сціхае. Адчуванне, што ты не ў гэтым, напоўненым да краёў эфірнымі пахамі пакоі, а недзе ў неабдымных глыбінях Вялікага Сусвету. Ты пылінка, нішто… Зрэшты, не ты адна. Уся гэтая планета ў памерах Сусвету – нішто. Але ці варта мераць такімі меркамі, недасяжнымі для разумення? Мо карысней было б вырашыць спачатку, хто ты ёсць для самой сябе, для сваіх блізкіх?.. Бо нават тая ж пылінка, калі яе разглядаць пад школьным мікраскопам – зусім не пылінка, а жывая цэля. І яна мае схільнасць нараджаць сабе падобных…

– Пніся, любая, пніся!..

Прыгажосць не ў жыцці, прыгажосць па-за ім. Усё бессмяротнае. Ты бессмяротная, і табе няма патрэбы даваць жыццё іншым…

– Пніся, любая, пніся!..

Першы світальны промень прыемна казыча твар. Злавесныя ліловыя адценні – меланхолія досвітку. Маятнік размяркоўвае цішыню. Стрэлкі расчышчаюць прастору для твайго болю.

Я тут, я побач з табой. Мы ўсё яшчэ жывём...

## ЮРКА БУЙНЮК

### Вянчанне вясны

Вянчалася яблыня з бэзам
У вясёлым садзе кветаў.
Яблыня ў беласнежнай сукні,
Бэз – у цёмнасінім касцюме.
Абое ў обдыме квецені садоў
Прызнавалі сабе вялікую любоў.
Абдымалі іх промні сонца,
Як яны цалаваліся бясконца,
А маці-хата разаслала з кветак ручнік,
А вецер-музыкант дзесьці знік.
Стала ціха над зямлёю,
Толькі жаб аркестр гаманіў паміж сабою,
А ў хоры прыроды-царквы
Гучна спявалі пеўчыя-салаў'і.
І стала ціха над ракою –
Калі мы разам з табою
Гэтай духмянай, цёплай вясною.

### Сябрам

Ніколі не згасне мне ў сэрцы іскра радасці.
Гэта вы запальваеце мне свечы надзеі.
Ясныя промні Вашай спагады, зразумення
Яднаюцца ў сонца маёй ўдзячнасці.
Дзякуй Вашаму сонцу сяброўства
Веру ў кожны мой дзень, што я не адзін...
Прыбывайце пагасцявацца вінам майго слова,
Мае найдаражэйшыя людзі.

## Маё пакаленне

Маё пакаленне –
Спадкаемцы мінулага пакалення,
Што кормяцца шыкоўнай стравай Еўропы –
Дзеці хітрых бацькоў
Купаюцца ў залатой манне,
Без сораму сядзяць
На трох крэслах адразу,
Каб грабсці сена дабрабыту
На стагі шанцаў для сваіх гадаванцаў,
Хітрых і чэпкіх, як сабакі,
Хоць самі па сабе не вінаватыя,
Што такімі ўжо іх нарадзілі.

Хай саромеецца за нас род цёплых дзядуляў,
Што не заўважылі быстрага розуму
І здаровых маладых рук,
Якія моцна трымалі б чару будучыні
Гэтага свету.

Сумна за вас, адзінокія,
Што здыхаеце ў смуродзе чужых
Гнілых платоў-ідэй.



## ВОЛЬГА ШЫНКАРЭНКА

# Словазерняў нескаронасць

### Несарваная зорка

Зноў мне ты прысніўся,
Малады, бесклапотна шчаслівы,
Гатовы з неба зорку сарваць
У знак кахання свайго незямнога…

Начамі цёмнымі ўвысь
Углядаюся часта. Няўклюда,
Дзіўлюся абярэжлівай
Тагачаснай разважлівасці.

Не сарваная некалі зорка
І праз гады мне самоту
Лякуе. Цікава, а ты ці
Глядзіш на неба хоць зрэдку?..

### Час

Аднолькава бязлітасна фільтруе
Час строгі пражытае –
Свядома й несвядома,
У нагаце, халаце хатнім
Ці вячэрнім строі.

У нешматлікім адабраным
Найдаражэй няма
За незабыўныя аблічча родных,
Навуку ненавязлівую

І скупую ласку іх.
Спакоем поўніцца душа
І космасу дыханне чутна
Ля сціплых іх магіл (яшчэ з крыжамі).
Нагадвае пра вечнае і прах
Пясок задумлівы.

## Трывожная элегія

Рачны неспакой
У душы адгукнуўся
Хваляй тугі за
Няспраўджанасць
Тых надзей, што некалі
Выспелі на юнацтва
Далёкім беразе.
Верасы маладосці
Адбуялі. Незваротны
Час цёмнай вадой
Параненых атамам
Прыпяці й Сожа
Нагадаў пра
Няўмольнасць сваю.
Малюся адчайна. Божа!..
Прашу ў Збаўцы
Паратунку й спадзеву
Для ўсіх.

***

Пакуль цябе песціць лёс,
Так лёгка засынаць і прачынаецца,
Без напругі працаваць і адпачываць,
Светла любіць і марыць,
Літасціва дазваляць сябе кахаць
І заўжды і ва ўсім тварыць.

***

Хварэе неба на дажджы,
Зямля – туманы росныя.

Сілкуюцца вясёлкай высі,
Дол – рэкаў просінню.

***

Не інакш як лёсам самім
Стрэчанне наша прадвызначана,
Каб і далей мы маглі
Мар-парыванняў блакіт
Ад тлуму будзённага вызваліць.

## Мова

Памкненняў чыстых лад бязмежны,
Душы і мудрасці вясновасць,
Зямлі бацькоўскай грунт надзейны
І словазерняў нескаронасць.

***

Прыхарошваецца кветка,
Прачнуўшыся раніцай:
Старанна рыхтуецца
Да сустрэчы з рупнай пчалой,
Каб імгненне не сапсаваць
З адвечнае Песні Песняў.



**КАЦЯРЫНА СЯНКЕВІЧ**

# На левым баку свядомасці

## Не

Сумна мне праз цябе
бясслоўна паўтараеш слова не
не аглядаючыся на мяне
гледзячы ўсюды толькі не ў вочы мае
з'яўляюцца сумнымі плечы твае

## На канцы дажджу

На канцы дажджу дзе мокрае сонца
там мае слёзы тужаць за табою
на левым баку свядомасці здаецца мне
што бачу цябе

ты ж меў быць паветрам
без колераў

## Кветка

Я лёгка ўклала дзявочую кветку ў зубы
і хутка памяняліся спосабы маіх позіркаў

я магла б намнога больш,
паўтарылася б мінулае,
падвойны смак болю, калі б ты хацеў.

Аднак такое каханне праходзіць
праз пятнаццаць хвілін –
як голад

## Месяц

Рэштка дня
цяжка ляжала ў тваім
капелюшы ўспамінаў
расчаравалі людзі
месяц не кончыў
маляваць ночы

## Вада

Ледзяністая звалка жалю, з застылай
бруднай вады ўспамінаў. Трускаўкавае
марозіва маны. Чысціня падае на зямлю,
толькі тады брудзіцца.

***

Я прасіла
тры дні прасіла
не атрымала

не маю
чарговых параў
самапрыклейных
смуткаў

табе лепш даць мне адзін
двухбаковы

***

Мой зрок карыстаецца
выпадкам.

Ты не з'яўляешся анікольки цікавай
глыбай касцей і мяса.

Калі б ты сёння насіў
на плячах словы
я магла б думаць
іначай пра цябе.

***

Мы знаёміліся
па-рознаму
свяціў дождж
ішло сонца
агулам надвор'е
было прыгожае ў сэрцах.

Мы гулялі галовамі
у кожнага з нас
было іх па дзве.

Надышоў ураган
адчыніў нам вочы
хтосьці з нас быў у двух аблічах
я не мела твару.

***

я не так успрыняла
тваю ўсмешку –
выпадкова
глянула ў вочы
матыль кахання
памёр
не перастаўшы
быць вусенем

***

я свецкая і
самадушалюбная

калі б была анёлам
і не мела на галаве
цяжару дурнот
але арэол

не прасіла б каб магчы
яшчэ крыху пабыць адной
ды благою

***

голая бессаромная цёплая
для іншых неабгрунтаваная
першабытная

накручваецца як шарманка
калі адчуваем сваю прысутнасць
іграе калі праходзім побач
застывае на кароткую вечнасць
настолькі каб мы паспелі захапіцца
думаючы:
якія ў цябе прыгожыя вочы
Бога

***

Дзе хаваеш сэрца?
Дзе хаваеш імглу?
(Не пытаюся)
Я – дачка ружы.
Паколеш сабе пальцы.



**СВЯТЛАНА ВАРОНІК**

# Вершаняты

***

У тваёй гасподзе
вершы пішуцца.
Ведаю ўсе мовы
праз тваё акно.
У тваёй гасподзе
берагу ўсе словы,
што былі, што будуць
і… што не было…

***

Застануся на гэтым балконе.
І не важна – якой вышыні
балкон.
Ён –
мая вышыня…

***

Кватэра ў адзін
невялікі пакой
ведае адзіноту
вялізных палацаў.
Стаіш ля акна
адна
на ўсю адзіноту...

***

Керамічны анёлак,
укленчыўшы,
над маімі радкамі моліцца.
Белы аркуш паперы
літар чуе цяпло…

***

Чужы, незнаёмы мне горад…
Ляціць па пероне стары білет.
Вецер-вецер… з табою дарога…

***

І ноч без цябе, і дзень без цябе.
І раніца, і вячэра.
Без цябе маленькае дрэва,
                                і Крэва,
                                і вечны Рым…

***

Верасень кранае валасы твае…
Восеніцца. Пахне жоўтым лісце.
Добрага настрою налістуеш,
пачастуеш
сумным днём мяне…

***

Туман у Берасці…
Такі туман
маёй тугі
і майго смутку…
У скрутку дзён
як навіна…

***

І першы снег
як іерарх

душу лагодаю трывожыць…
Снег на крыжы…
Снег на галінах…
Як гліна
лепіцца
душа…

***

Вечар ідзе за мною…
У хаце святло запалю
сабою.
Хата твая, і я – не свая…
Існую…

***

У гэты горад
я не хачу вяртацца болей.
Я не хачу вяртацца болем.
Ты чуеш Полацка званы?

***

І сапраўды:
Бывае рэдка так…
Святло-святлынь,
і ты царэўнай плачаш.
І не з'іначыш простае душы.
Складаных радасцяў знямога…

***

За весніцамі – вуліца.
Да весніцаў прытуліцца
душа мая…
Чакае…

***

На ганку роднай хаты…
Як на вяршыні…

**ГАЛІНА СЕЎРУК**

# З дзённіка камсамолкі

12 ліпеня 1969 г.

Распачаць бы нарэшце сапраўдны дзённік. Шмат такога з мяне просіцца, аб чым нельга сказаць, каму б там ні было. Як часта незразумелая, зацяжкая для іншых! Спадзяюся, што гаворка з сабой паможа пазбыцца чужога і адкрыць сябе ў сабе ...

14 ліпеня

Галоўнае ў выхаванні характару – гартаванне сілы волі, што магчыма толькі ва ўпартай барацьбе з цяжкасцямі. І няхай яны, на першы погляд, нават нязначныя, непрыкметныя, але ж усё роўна іх трэба пераадолець. Нельга – ніколі! – тое, што можаш зрабіць сёння, адкладаць на заўтрашні дзень. І рабіць мусіш не толькі тое, што хочацца, але найперш тое, што *трэба*. Імкнуцца ніколі не адыходзіць ад дадзенага слова або не абяцаць увогуле. Ці здолею так?! Разумець адно, а вось адпавядаць...

20 ліпеня

Сёння радасць: у раёнцы надрукавалі “Маю Пціч”!

*Глядзіш на Пціч і здаецца, што нейкае дзяўчо згубіла сярод пчалінага гуду, мурожных лугоў сіненькую стужку, а тая ад дотыку ветрыку захвалявалася, загойдалася.*

*...Люблю Пціч. Яна заўсёды ў маім сэрцы. Застылі, пільна ахоўваючы яе спакой, моцныя, каржакаватыя дубы – дрэвы гордыя, непакорныя вятрам, спякоце, імкліваму руху часу. Дзесьці ў галіністых, зялёных кронах іх жылі раней добрыя феі, даверлівыя русалкі. Летнімі вечарамі спускаліся яны на зямлю і вадзілі па шаўкавістым лузе за ракой вясёлыя карагоды. Музыкамі былі тут цвыркуны ды ціха перашэптваліся абуджаныя са сну кветкі. А каб ніхто не падгледзеў забаў летуценніц, клапатлівая ноч старанна ахінала луг сіняй смугой...*

*Гэта казка майго маленства, у якую верыла раней. У якую хочацца верыць і зараз, бо разам з ёй нарадзілася любоў да родных даляглядаў.*

*Кожны год Пціч перажывае дзве маладосці. Вясною, калі будзяць яе цёплыя вятры, напружваецца, трашчыць ледзяны панцыр. І пачалося – алешыны, дубы ўжо не сухапутныя, а дрэвы ў "моры". Лёд ззяе на сонцы, як каштоўныя дыяменты. Пціч пеніцца, незадаволена бурчыць, лагодна плюскоча. У такія дні яна імянінніца. Але адцвітаюць чаромха, далікатныя канваліі па берагах, і куды падзеліся неспакойны характар, моц... Калі жаўцее лісце, адміраюць кветкі, Пціч зноў збірае сілы. Але, мабыць, замнога растраціла вясной, і таму другая маладосць яе непрыкметная, нават панурая...*

*Раздолле на Пцічы ўлетку. Плёскайся, колькі душа пажадае, а пасля – у гарачы залацісты пясок. Захацелася ў цяньку з кніжкай пасядзець, калі ласка. Рыбку палавіць таксама ніхто не замінае. Але чуецца ў плюскаце Пцічы скарга, бо дно тоіць шкло, бляшанкі: "Глядзіце, людзі, любуйцеся сваёй абыякавасцю".*

*А хочацца, каб Пціч заўсёды ўпрыгожвала родныя мясціны, прыносіла ўсім радасць, здароўе. Кожнаму з нас трэба праяўляць больш адказнасці ў адносінах да воднай прыгажуні.*

Якая ж я шчаслівая, што ад нараджэння жыву амаль на беразе цудоўнай ракі. Немагчыма мне было нарадзіцца ў іншым месцы...

12 жніўня

Дакладна ўчора выказаўся за сталом А.Г.: "Можна выкінуць за вакно гнілы памідор ці агурок, але ж нельга тое зрабіць з чалавечым жыццём, нават самым папсаваным".

25 жніўня

Ужо прачытаны ўсе праграмныя кнігі па беларускай і рускай літаратурах. Не адарвацца было ад "Героя нашего времени" Міхаіла Лермантава. Які складаны характар у Пячорына!.. Боязна было б спаткацца з такім чалавекам вочы ў вочы, але ж ён і не заўважыў бы мяне... Уразіў "Сірочы хлеб" Янкі Брыля. Галоўны герой з такім прыгожым імем – Данік! Данік Малец жыве ў заходнебеларускай вёсцы, як некалі сам пісьменнік. У чымсьці ўнутраным ён незвычайна мне адпавядае.

1 верасня

"Званок – жаўрук вясёлы\ За парты кліча нас, \ Дзень добры, наша школа!\ Дзень добры, светлы клас!" Першы дзень у школе пасля нібы самых доўгіх канікул... Як заўсёды, святочна, мітусліва. Побач з першакласнікамі разумееш: мы ўжо такія дарослыя!

30 верасня

Заўтра Дзень настаўніка. Шкада, што з Аннай Дзянісаўнай ужо не павітаешся на школьным калідоры. У Мінску вучыць мове, арыфметыцы

другакласнікаў нейкай сталічнай школы. Як жа нам пашанцавала быць чатыры гады яе вучнямі! Першая мая настаўніца, прыгожая, добрая. Паслала паштоўку.

11 кастрычніка

У космасе зноў савецкі чалавек – ура, ура, ура!!! Камандзір карабля Шонін, бортінжынер Кубасаў. “Саюз-6” выйшаў на арбіту ў 14.15 маскоўскага часу. Памятаецца, якое здзіўленне і незразумелая радасць поўнілі, калі свежым красавіцкім днём на халькоўскай вуліцы ля мамінай радзіннай хаты я, яшчэ дзіця, вольнае ад школы, слухала голас Левітана. Упершыню ў космасе чалавек! Савецкі чалавек! Тады назаўсёды стала дарагім імя – Юрый Гагарын.

19 лістапада

Радзіма расце разам з чалавекам. Чым болей даведваешся аб ёй, тым шырэй рассоўваюцца межы роднага, блізкага. І яно, гэтае роднае, блізкае, цаглінка за цаглінкай выбудоўвае душэўную раўнавагу, упэўненасць у дні сваім прышлым, гонар за свой народ.

10 снежня

У раёнцы – мой “Першы снег”, запісаўся быў амаль адразу начыста. *Яго чакалі ўсе: застыўшая зямля, паніклыя лясы, разбітыя дарогі. І ніхто не згадаў, як у паветры закружыліся белыя матылі, далікатна крануліся зямлі. Яму былі рады ўсе. Рады гэтаму доўгачаканаму, прыйшоўшаму так непрыкметна госцю – выпаў першы снег. Неспакойныя матылі ўляглiся на дзіва роўным дыванам, апранулі ў пухнатыя футры лясы.*

*...Раніцою гэтага дня прачнулася ў цудоўным настроі. Неяк па-святочнаму было светла ў хаце. Прадчуваючы штосьці незвычайнае, зірнула ў вакно. Дзіўнае святло прымусіла зажмурыць вочы. Там, за вакном, у цудоўным убранні застылі, беражліва трымаючы на разгалістых галінах серабрыстыя крышталі, яблыні, вішні. Выбегла з хаты. Гарэзлівы ветрык шпурнуў у твар цэлую жменю іскрыстых сняжынак. А хаты! Бы эскадра караблёў, стаяць яны сярод бяскрайняга белага мора. Парканы, пчаліныя вуллі ў садзе прыдбалі сабе за ноч прыгожыя белыя шапкі. Мая ж любімая бярозка каля дому, здаецца, вырашыла паспрачацца з чысцюткім снегам. Маўляў, хто бялейшы, хто прыгажэйшы?! Суцішылася пад цёплай коўдрай гаманлівая Пціч. Нязвыклыя спакой і ціша прыйшлі са снегам.*

*...Вось і зноў закружыліся над галавой белыя матылі. Халодным пацалункам апяклі твар. Яны, як мне здалося, шапталі: “Зіма прыйшла... Зіма прыйшла...”*

31 снежня, 22.45

Гэта апошні запіс у 1969-ым годзе. Шкада дзядульку. Прамільгнуў зусім непрыкметна. Аднак след у жыцці пакінуў. Камсамол, старшыня савета дружыны, юнкор, рабселькор – усё гэта звязана з ім, зараз сівенькім 69-ым... У хаце цёпла, утульна, на табурэце ўладкавалася прыгажунька-елачка. Сяджу ў зале адна. Люблю такія вось хвіліны самоты і асабліва ў апошнія гадзіны года. Спадзяюся, што надалей буду часцей звяртацца да дзённіка. Найперш дзеля самавыхавання, каб выгаварыцца, бо думаецца, адчуваецца, адбываецца часта такое, пра што ні з кім не падзелішся. Заўважаю, што стамляю сваімі размовамі нават маму. Сшытак жа мой усё сцерпіць, не запярэчыць, не выдасць.

13 студзеня, 1970

Вярнулася з Магілёва – са з'езда (!) пачынаючых паэтаў і празаікаў. Хіба, усё ж не заслужаны поспех: грамата абкома камсамола, выбар у праўленне літаб'яднання "Дняпроўскія ветразі", запіс на беларускае радыё, публікацыя ў альманаху і хвалілі-хвалілі – зашмат для аднаго чалавека на нейкіх два дні. А адказнасць?! Страшна!

Мама толькі і паўтарае: "Не зазнавайся, не зазнавайся..." А я і сама не магу паверыць у поспех.

2 лютага

Вось ужо і люты – мой месяц, хутка мне – 15... Усё ведаць! Усё паспець! Выкараніць з сябе лішняе, разбуральнае самалюбства, не хваліцца, быць стрыманай, уважлівай да кожнага.

15 лютага

Сёння праводзілі "Зарніцу". Перамога за "зялёнымі" – за класамі "Б". "Сінія", як звычайна, узбурыліся: "Зараз снегам закідаем судзей! Знайшліся такія, самі б па снезе палазілі!" – ледзь не аглушылі суддзяў. Ну так, абурацца "ашнікі" можа і мелі падставы, але не так бурна. Вось жа паўсюль: на сустрэчах КВЗ, у дружыне, у Спартландыі – паўсюль яны першыя, а гэта і кепска. З'яўляюцца пыха, дурацкае самалюбства, пагардлівыя адносіны да сяброў з паралельных класаў. "Якія мы слаўныя! А вы – ніжэйшыя гатункам", – аж капае з "ашнікаў". Ад "бэшнікаў" жа толькі і чуеш: "А што нам з імі цягацца. Усё адно яны выйграюць". Ды на "Зарніцы" мне "бэшнікі" спадабаліся. Арганізаваныя, стрыманыя (у меру магчымасцей). Хоць, зразумела, стараліся і адны, і другія. "Сінія" наступалі, а "зялёныя" трымалі абарону. Каму было складаней?

Па праўдзе, я, "ашніца", са сваім пачуццём віны, увогуле не хацела нікому аддаваць перавагу, але мус было вызначыць пераможцаў. І не магла пакрыўдзіць "бэшнікаў".

20 лютага

Момантамі, аглядаючыся навокал, страшна становіцца, як будзе жыць наша пакаленне без загартаваных вайною, цяжкімі іспытамі людзей. Беспрынцыпнасць, нядбайныя адносіны да справы праяўляюцца літаральна ва ўсім. Пасяджэнне савета дружыны. Дзяўчаты, якія паступаюць у камсамол, дамовіліся, якія пытанні ім будуць задаваць члены савета дружыны. І вось лепшыя піянеры, нават камсамольцы, устаюць і падчас рэкамендацыі, як па-пісанаму, апытваюць кандыдатаў. А дзе ж сумленне? Хіба асоба, якой такім чынам удасца праслізнуць у камсамол, будзе прыкладам для беспартыйнай моладзі? Захоплена, урэшце, сумленна, будзе выконваць даручанае? Не. Такія паступаюць проста так, каб не адстаць ад іншых, а потым аўтаматычна выбываюць з камсамольскіх шэрагаў. І такіх, на жаль, большасць. Я лічу, што ў камсамол, як і ў партыю, трэба прымаць таварышаў, якія вытрымалі кандыдацкі стаж. І не з 14, а з 16 гадоў.

25 лютага

Заклеіла канверт са сваім матэрыялам. Каб жа пайшоў у друк. Звычайна большае задавальненне адчуваеш, калі ў газеце з’яўляюцца заметкі, над якімі давялося добра-такі пасядзець. “Выпадковыя”, зразумела, таксама радуюць. Можа яны нават і ярчэйшымі, свяжэйшымі аказваюцца...

15 сакавіка

Кепскія людзі, хіба, расстаўлены па жыцці для таго, каб выразней бачыліся вартасці добрых... Люблю непагоду, спёку. Выбавіўшыся з гэтых кліматычных нязручнасцей, неяк па-новаму ўспрымаеш утульнасць цёплай хаты, смак вады са студні.

Жыцці чалавечыя – быццам рэкі, розныя па глыбіні, цячэнню. З якой ракою магу параўнаць сваё жыццё? Часамі яно нагадвае досыць хуткую, глыбокую плынь. Але ж колькі ў ёй брадоў, крутых паваротаў, страшэнных меляў...

27 сакавіка

Мясцінка за агародам каля зарослай хмызняком канавы сярод зялёнай лістоты, шаўкавістай травы такая прывабная, утульная ўлетку. І не было тут дрэў, адкуль узялося гэтае ладнае, прыгожае? Але ж успомніла, што прыкмеціла яго яшчэ ўвосень, калі алешнікі скінулі сваё ўбранне. Тады я так і не распазнала незнаёмца, а сёння, дзіва ! – на галінках бачу лісточкі. І гэта тады, калі зямля ледзь-ледзь паспела вызваліцца ад пажоўклых снягоў. І не лісце гэта аказваецца, а вялікія пухнатыя камячкі. Сядзяць на галінках наноў адкрытага дрэўца – вярбы, вырасшай чамусьці не кустом. Яна стаіць акружаная шэрым воблачкам, мяккім, цёплым, а камячкі выдаюць на сапраўдных кацянятак. Вецярок лагодна гойдае іх, як

імкнецца закалыхаць усю шматдзетную сямейку адразу. Ад вярбы вачэй не адвесці. Хараство побач! Кацяняткі ж, здаецца, вось-вось саскочаць долу...

30 сакавіка

Ура! Нашы дзесяцікратныя чэмпіёны свету па хакею!!!

6 красавіка

Толькі што бачыла буслоў. Нават адразу чатырох, першы раз у гэтым годзе. Гордыя, моцныя птахі ў літаральным сэнсе слова плавалі ў паветры пад самым папялістым блакітам. Так, сур'ёзна, сёння нябесны блакіт нейкі інакшы, чым раней, нібы стомлены, як бывае ў спякотны летні дзень. Хочацца проста выйсці ў сад і глядзець, слухаць, удыхаць у сябе вясну. Шпак у чорным фраку сцеражэ сваё жыллё ад нахабных вераб'ёў. Яны ж, непаседы, адны ўжо б'юцца за шпакоўню побач, іншыя вышукваюць утульнае месцейка над вакном. Сонейка лагодзіць усё-усенькае такою доўгачаканаю цеплынёю. Зямля, дзе-нідзе вызваленая з-пад снежнага кажуха, дыхае прахалодай, якая хваля за хваляй абдымае, падбіраецца да твару, спрачаючыся з сонцам, а я мушу сядзець над урокамі. Каб жа яшчэ ішло, а то алгебра не паддаецца, хімія таксама, а што па геаметрыі задалі і не ведаю.

10 красавіка

"Мая таполя" адзначана дыпломам 2-й ступені на абласным аглядзе сачыненняў "Ёсць у рэвалюцыі пачатак – няма ў рэвалюцыі канца". Прыемна! Так, старалася. Выказалася шчыра.

*За вакном пеняцца бела-ружовым кіпенем сады, усміхаецца ясным блакітам высокае неба. Радуецца вока аксаміту зялёнай руні на калгасных палетках, руплівай працы буслоў на старым гняздзе.*

*За вакном – працаўніца-вясна, за вакном – неспакойныя дні.*

*Рада гэтаму шумнаму, бурліваму цячэнню жыцця і яна – прыгожая, стройная таполька. Нібы тая гарэза-дзяўчынка, употайкі перашэптваецца з непаседам-ветрам, падстаўляе яго пяшчотным парывам зялёнае лісце. А побач сакрэтнічаюць адна з другой, схіляюць долу, да пахучай зямлі танклявыя гнуткія станы, гойдаюць пад ветрам пышнымі вершалінкамі яшчэ дзевяноста дзевяць прыгажунь-таполяў.*

*Глядзіш на іх і здаецца, што гэтыя дрэўцы неяк іначай саграваe сонейка і вецер асабліва з імі ласкавы.*

*Гэтыя статныя таполі асаблівыя. Яны ленінскія таполі, дрэўцы Ленінскай алеі. Пасадзілі іх тут красавіцкім ранкам мы, піянеры, як знак вялікай, бязмежнай любові да роднага Ільіча. Гамоніць пахучымі лісточкамі сярод таполяў, пасаджаных маімі сябрамі, і маладое дрэўца, якое пасадзіла я.*

*Зграбныя вішанькі, беластволыя бярозкі даводзілася садзіць мне ў свае чатырнаццаць гадоў, але гэтая таполя Ленінскай алеі даражэй за ўсіх. І кожны раз ля яе перада мною ўсплывае дарагі воблік Ільіча: яго адкрыты твар, яго позірк з вясёлымі іскрынкамі, ласкавая ўсмешка...*

*Той сонечны дзень запомніцца мне на ўсё жыццё. У гэты дзень споўнілася мая запаветная мара – я стала камсамолкай. Тады мне, шчас-лівай і радаснай, здавалася, што ўсё навокал папрыгажэла. Здавалася, што ўсе сустрэчныя ветліва і ласкава ўсміхаюцца мне і маім сяброўкам, – мабыць, так яно і было, – звяртаюць увагу на агністыя значкі на нашых грудзях...*

*З пурпуровай кніжачкай у руках, саззяючым на сонцы камсамольскім значком, на якім прамяніўся золатам профіль У.І. Леніна, прыйшла я на другі дзень да таполі. Стаялі ў садах акружаныя белым воблакам духмянай квецені, нібы крыху збянтэжаныя і здзіўленыя сваёй нечаканай чаруючай прыгажосцю яблыні і грушы, палалі ў кветніках барвовай чырванню цюльпаны, насычаў паветра салодкім водарам буйна квітнеючы бэз... І сярод непаўторнага хараства родных мясцін я зразумела, што гэтая кніжачка з профілем Ільіча, пурпуровая, як паліты гарачай крывёю маіх суайчыннікаў чырвоны сцяг перамог, як алыя макі ля абеліска героя – самае значнае, чаго я дасягнула. І гэта самае значнае непарыўна звязана з Ільічом. Бясконца дарагой мне пурпуровай кніжкай, і бязвоблачным дзяцінствам сваім, светлай будучыняй я, як і ўсе мае сябры, абавязана нашаму бясконца любімаму і дарагому Леніну.*

*Расці ж, мая таполя! Абдымі сваімі гнуткімі галінкамі ўвесь свет. Табе гэта пад сілу, таму што ты незвычайная, ты – Ленінская.*

22 красавіка

100 гадоў – У.І. Леніну! І сёння не толькі ўсеагульнае міжнароднае свята, але і ў дадатак маё асабістае. Па-першае, залічылі ў школу юнкораў пры “Знамя юности”. Мне так карцела стаць яе слухачом, а прымалі, пачынаючы толькі з дзевятага класа. На ўсякі выпадак выканала першае заданне – добра! – і зрабілі для мяне выключэнне. Ура! Другая радасць: у “Піянеры Беларусі” надрукавалі “Маю таполю”. Вучы фізіку! Паспрабуй толькі заваліць кантрольную!

30 красавіка

Вельмі хвалююся. Сонца на вуліцы, сонца ў душы. Сакратар камітэта камсамола школы... Пасля заняткаў адбыўся справаздачна-выбарчы сход. А затым пасяджэнне новага камітэта. І тут: “Прапаную...” Вылучалі яшчэ кандыдатуры, але спыніліся чамусьці на мне. Правяла першае пасяджэнне. Размеркавалі адказных за сектары, разгледзелі яшчэ некаторыя пытанні. І ўсё, як у добрым сне. Віншаванні, пажаданні, парады...

І толькі зараз асэнсавала, што адбылося. Я, а не хтосьці іншы, сакратар.

Са 150 чалавек – дзяўчо з белымі бантамі, восьмы клас. Чым заслужыла такі давер?! Ці здолею апраўдаць надзеі? Павесці за сабой іншых? Вось яно, галоўнае пытанне! Адказнасць узведзена ў куб яшчэ таму, што год незвычайны – перадз'ездаўскі. І ўсе справы, як у юбілейным Ленінскім, павінны быць значнымі, выкананымі асабліва шчыра, сумленна. Жыццё напоўнілася новым сэнсам. Адным словам, пачаўся экзамен, які будзе працягвацца цэлы год, да наступнага справаздачна-выбарчага сходу. А экзаменатар строгі – камсамольцы і маё сумленне.

5 мая

Я імчуся, а не праходжу скрозь дні. Здаецца, крыху адступлюся і ўсё перакуліцца, змяшаецца. Вучыцца зараз значна цяжэй, а прага ведаў страшэнная. Хочацца паболей прачытаць, даведацца, зрабіць – паспець паўсюль.

Днямі выпадкова пачула: "Разумееш, я ўжо два разы галіўся. Трымаю брытву, а рука дрыжыць..." Будзь сур'ёзней, патрабавальней да сябе і мякчэй да іншых. Вучыць ўрокі!

8 мая

Сёння быў мітынг каля магіл ахвяраў Вялікай Айчыннай. Рапарт, выступленні ветэранаў, хвіліна маўчання. І суровая, наскрозь прасякаючая болем праўда: "Кожны чацвёрты беларус не дажыў да дня перамогі..."

16 мая

Вось і пракрочыла свята "За гонар школы", такое клопатнае, сумбурнае, радаснае. Чацвёрты май запоўнены ім. Падрыхтоўка да Свята пачынаецца звычайна з самага пачатку навучальнага года. Але ў чацвёртай чвэрці паскораны пульс школьнага жыцця выклікае яно, Свята.

Здавала рапарт камсамольскай арганізацыі. Ды ў справах, адлюстраваных у ім, мала майго. Я ўся, з галавы да пятак, яшчэ ў піянерскай дружыне... Цяпер апошнія кантрольныя, экзамены. Лета побач. Хутчэй бы канікулы: вельмі мала часу для чытання. Купрын зрабіў вялікае ўражанне. А наогул, трэба чытаць мэтанакіравана, што сапраўднай самаадукацыяй. Шкада, у трох даступных бібліятэках не заўсёды ёсць патрэбнае. А сёння, як заўсёды на Свята, прывозілі з Асіповічаў марожанае!..

19 мая

Мая дружына заняла першае месца ў Ленінскім маршы сярод сярэдніх школ раёна. Здорава! Хоць зараз яна ўжо і не мая... Быццам згубіла разам са "старшынствам" штосьці роднае, блізкае. У справах дружыны, як у фокусе, адлюстраваны ўсе мае хляванні, няўдачы, поспехі. Зборы, дыспуты, пасяджэнні, рэйды, пераклічкі, дні атрадаў, рэкордных 1.500 кілаграмаў макулатуры, перапіска, "Ліхтарык" – ва ўсё гэта столькі ўкладзена!

Гальштук мой старэнькі вісіць у шафе. Другі старшыня савета дружыны, Анечка Алібовіч, бегае па класах, хвалюецца за спазненне з газетай, атрымлівае “ўказанні” ў важатай Валянціны Іванаўны. Шкада ўсё ж...

26 мая

Сёння роўна год, як я стала камсамолкай. Што паспела зрабіць? Вельмі мала. Справы піянерскія – добра, вучоба – задавальняюча, “творчасць” – цярпіма, характар – пасрэдна. Чаму трымаешся ненатуральна? Перарабі сябе. Цяжка? Але ж ты чалавек, камсамолка, сакратар! Умацоўваюся ў намеры абавязкова стаць журналісткай, хай сабе шлях да мары будзе цярністым, але ж мушу вытрымаць яго.

30 мая

Закончыўся навучальны год, ды не для восьмых і дзесятых класаў. Наперадзе хваляванні, трывогі – экзамены! Як здаць, не падкачаць?.. Ахопліваюць незразумелыя пачуцці. Нейкая я не такая, як іншыя. Што за характар у мяне? Так, кепскага стараюся пазбаўляцца, імкнуся ляпіць новае, хіба ёсць і штосьці добрае... Не магу мірыцца з падманам, пошласцю, хамствам, але змагацца па-сапраўднаму з усім гэтым не хапае не тое што духоўных, унутраных сіл, а фізічнага здароўя і часу... Мыць падлогу – гультайка!

3 чэрвеня

Ура!!! Па нашай чыгунцы пусцілі дызель. Такі сімпацяга вясёлага малінавага колеру, а які спрытны. Цяпер час на дарогу да Мінску эканоміцца аж на дзве гадзіны. Вось яны – змены на вачах. А восем гадоў назад у нас яшчэ ў Дараганаве не было і электрычнасці і сядзелі даўжэзнымі зімовымі вечарамі пры лямпах, нават у школе.

11 чэрвеня

Экзамены здадзены – усе пяцёркі. Гадавыя ж дзве чацвёркі. Здорава – наперадзе лета. Перш за ўсё ныраю ў кнігі. Сонца, рэчка, лес – усё маё зараз да 1 верасня!

22 чэрвеня

Ніколі не ехаць
Хлапцу маладому
Да роднага гаю.
Да блізкага дому.

Над ім асыпаюцца
Слуцкія краскі,
Абсмалены колас
Схіліўся да каскі.

Ляжыць ён, як віцязь,
У стоптаным жыце.
Маці спаткаеце –
Ёй не кажыце...

Колькі іх, такіх маладых, палегла “у стоптаным жыце”, як і сам паэт Мікола Сурначоў, не вярнулася да мацярок, каханых... Трагічны дзень, а сонечна, прыгожа, нібы ніколі страшнай вайны не было. Для маміных

братоў Васіля і Яўхіма гадзіны перад світаннем 22 чэрвеня сталіся апошнімі мірнымі ў іх жыцці. І як крыўдна – нават магіл іх, каб прыйсці паплакаць дзецям, якія без бацькоў выраслі, няма. Адзін у Бабруйскім канцлагеры смяротна адпакутаваў, другі пад Варшаваю недзе лёг...

30 чэрвеня

Тры дні была на абласным піянерскім злёце. Наш раён прадстаўлялі вучні гарадскіх, Дараганаўскай і Градзянскай школ. Злёт распачаўся ў Магілёве, дзе адбылася святочная лінейка, прысвечаная 26-й гадавіне з дня вызвалення горада. Выступіў афіцэр В.І. Шаўчэнка, які адным з першых у чэрвені 1944 года ўвайшоў са сваімі падначаленымі ў Магілёў. Жылі мы ў рознакаляровым палатачным гарадку на зялёнай паляне. Парад піянерыі вобласці, канцэрт мастацкай самадзейнасці, праца секцый. Запомнілася, як пошукавыя сабакі дэманстравалі ўменне знаходзіць парушальнікаў, выконваць загады. Было цікава! А ў Асіповічах, ужо развітваючыся, я нават паплакала. Так зраслася за гэтыя дні з Ірай Барташэвіч. Ну, нічога, будзем бачыцца і надалей. Абавязаная гэтаму злёту яшчэ адной сяброўкай.

10 ліпеня

Раскашую на беразе ракі... Здаецца, нейкаму асілку надакучыла забаўляцца іскрыстым мячом, і свавольнік з усіх волатаўскіх сіл шпурнуў яго ў дах блакітнага шатра, раскінутага над зямлёй. Таму ж надта спадабалася ў вышыні, ад лішку пачуццяў гарачыня ахапіла, шчаслівец выбухнуў жменяй золата, якое рассыпалася гарэзлівымі промнямі над светам. І ўтульна, хораша стала ўсяму. Задаволены і бусел, які з плячэй ветрыку любуецца наваколлем. Прыемная гарачыня спавіла водарны луг, зрабіла флегматычнай раку. Па ёй плывуць снежна-белыя, мабыць, салодкія воблачкі, жывы самалёт-бусел – Пціч фатаграфуе неба. Углядаюцца ў ваду, як у люстэрка, алешыны; дубы палошчуць у няспешным цячэнні кучаравыя кроны. Дубы... Побач з імі робяцца малазначнымі турботы, крыўды, усяляецца ў душу трывалы спакой. Каржакаватыя постаці з глыбокімі маршчынамі, ранамі, пакінутымі шурпатымі далонямі часу, унушаюць упэўненасць у свае сілы... Гарачыня. Лянівa пералятаюць з лотаці на лотаць празрыстакрылыя стрыкозы. Паветра нібы кагосьці калыша. У жоўтым пяску можна яечка спячы. Лета ў зеніце. Хочацца, каб гэты час доўжыўся бясконца! Я нібы сабе незнаёмая, а свая, родная таму, што навокал...

12 ліпеня

Час расслойваецца на дні і становіцца мінулым разам з адарванымі лісткамі календара, пакідаючы па сабе падзеі, думкі. Збіраюцца, збіраюцца... Добры чараўнік гэты час: узнагароджвае разважлівасцю, вопытам

жыццёвых сітуацый, прымушае разважаць, крытычна глядзець на сябе...

25 ліпеня

Кахаю, кахаю – у сэрцы, у душы музыка, лагоднае полымя пяшчоты. І гэтаму цудоўным вінаваўцам Ён, які і не падазрае аб тым, што тры гады ўжо зусім побач па ім хтосьці сумуе, радуецца бачачы і баіцца быць раскрытым... Раптам дзіўнае пытанне: калі б не было тут Яго, пра некага іншага марыла б?!

13 жніўня

Вярнулася з "Арлянят", абласнога лагера вучобы камсамольскага активу. Спісала, канспектуючы лекцыі, агульны сшытак. З'явілася шмат знаёмых. І праблема сакратарства стала яшчэ вастрэйшай. Ці вартая таго, каб заўсёды быць наперадзе? Вядома, пастараюся зрабіць усё магчымае. Мае верасы зацвітаюць!

27 жніўня

Хаджу штодня ў грыбы. Мае спаконныя баравіковыя мясцінкі чакаюць і адорваюць. У лесе адчуваю сябе лепш, чым дзе. Мне проста неабходна быць перыядычна адной. Каб вакол – дрэвы, маўклівыя, занятыя сабою толькі...

30 жніўня

Сёння апошняя нядзеля лета, перадапошні дзень яго. Яно, здаецца, не прайшло дарэмна. Ніколі не паўторацца злёт, лагер, само наэлектрызаванае пачуццямі паветра... Пацверазела, стала патрабавальней да сябе. І нарастае момантамі нейкая дзіўная туга, якой не ведала раней, пасялілася нібы настала дзесьці ў глыбіні душы...

Заўтра арганізацыйны дзень у школе. Ужо засумавалася па тэмпу ўрокаў, віхурыстай мітусні на перапынках. Хочацца акунуцца ў плынь работы. Гэта для мяне таксама выратаваннем, выбаўленнем з нейкіх унутраных лабірынтаў, у якіх сябе не ведаю... Адразу ж праводжу пасяджэнне камітэта камсамола. Парадак дня, вядома, беспамерны. Але нічога не зробіш, трэба вызначыць напрамак дзейнасці арганізацыі, скласці план мерапрыемстваў хаця б на першую чвэрць.

1 верасня

Зноў, як, хіба, яшчэ ў маміны школьныя тутэйшыя часы, застылі ў святочным страі вучні. Па традыцыі першым выступае дырэктар. Асаблівая ўвага, вядома, першакласнікам і ім, дасягнуўшым апагея ў школьным жыцці – дзесятым класам. Нават зайздросна крыху. Але як падумаеш, што праз год таксама вынясе на парог самастойнасці – і чамусьці здрадніцкі пачынае пяршыць у горле. Нарэшце і ён – школьны жаўрук! Пяе ва ўсё "горла" званок, быццам і не было летняй ростані. І ў песні гэтай кароткай

– радасць, нецярпенне, надзея.

Сёння хадзіла па класах, шмат гаварыла з камсоргамі. Вырашыла з першых дзён патрабаваць безвалакітнага, дакладнага выканання даручанага. На жаль, сустракала іранічныя позіркі, маўляў, дзеля чаго стараецца, высоўваецца, больш іншых, мабыць, трэба. І я павінна, проста абавязана зрабіць усё, каб у вачах камсамольцаў не было шэрай пустаты, скептыцызму, абыякавасці. А перш за ўсё трэба заваяваць аўтарытэт, давер кожнага. Каб слова камітэта і маё, сакратара, не было звонкай фальшывай манетай.

10 верасня

Паміж добрым і нікчэмным існуе нейтральная паласа, але яна хутчэй прыводзіць да подласці, чым да высокай стваральнасці. Чалавеку, які гуляе са сваім сумленнем, вельмі цяжка рабіць дабро. Людзі ж прамыя, прынцыповыя не маюць паняцця аб тым, як можна прайсці міма таго, хто ў бядзе, зманіць, скрывадушнічаць...

Учора пускала ў цемнаце месячныя зайчыкі. Вусцішнавата і заманліва. Слабое святло, у якім мігціць надзея на світанне, да якога цэлая начная вечнасць...

14 верасня

Як добра ў лесе! Мае сцежкі, мае дрэвы, сярод якіх прасторна пачуццям, думкам... Сёння бачыла жураўоў. Паволі плылі яны геаметрычным клінам па сіне-пеннаму небу. Смуткам адазвалася ў сэрцы жалобна-развітальнае: “Курлы, курлы”, “Прабач, прабач”. Вецер кідаўся на калматыя сосны, футболіў жоўтае лісце. А жураўлі не хацелі пакідаць Радзіму. Апусцелыя палі, халодныя лясы бліжэй ім цёплых, прыветліва зялёных паўднёвых краін. Радзіма... Слова, якое ўбірае ў сябе кліч гэтых добрых птахаў і маю любоў да зямлі, дзе нарадзілася, неба над ёй, да кожнага лісцейка клёна над вуліцай... Якое гэта шчасце – жыць на Радзіме, сустракаць і праводзіць жураўоў.

18 верасня

У апошнім нумары “Журналиста” падарункам мне артыкул пра Ларысу Рэйснер з яе фатаграфіяй – строгая, прыгожая! Чытала ўжо раней пра бясстрашную журналістку і захапілася – яна вартая быць ідэалам. Вернасць Радзіме, любоў да жыцця з яго вялікім і недарэчным, гераічным і смешным, крыштальная чысціня, вялікая сіла волі, стойкасць, аптымізм – вось тое, за што я люблю і паважаю Ларысу Рэйснер. Хачу быць на яе падобнай!

25 верасня

Некалі ўся зямля была суцэльным акіянам? Тады “вадзе была дадзена

цудоўная ўлада стаць сокам жыцця на зямлі". Не ўкладаецца ў галаве. На біялогіі праходзім паходжанне відаў па Дарвіну. Дык вось адкуль узяўся чалавек?!

А сакратаром быць цяжка. На пасяджэннях камітэта камсамола ўзнікаюць сітуацыі, калі я трапляю ў раку з дзвюма плынямі – двума меркаваннямі членаў камітэта. У які бок падацца, ці зусім прышвартавацца да берага?! Імкнуся быць аб'ектыўнай, цвяроза ацэньваць падзеі, але ж гэта, на жаль, не заўсёды ўдаецца.

1 кастрычніка

Як шмат я ўсё ж упусціла ў сваім жыцці! Пятнаццаць з лішнім гадоў жыву на Зямлі. І колькі кніг не прачытала, як мала ведаю, як тапчуся на адным месцы, марнуючы магчымасці самавыхавання. Сорамна дарэмна раскідацца каштоўным чалавечым часам! Дасканаласць толькі мроіцца. Мушу працаваць і працаваць.

5 кастрычніка

На двары залатая восень – радуйцеся людзі! Збірае агеньчык да агеньчыка – лісточак да лісточка. Упрыгожвае сябе. Мой клён аблятае сваім залацістым, багровым лісцем. Шапатлівае полымя пад нагою і на плечы апускаецца, а не апякае. Тужліва. Будуць яшчэ восені, але ж ні адзін гэты цудоўны ліст кляновы не паўторыцца ўжо ніколі ў маім жыцці. Будуць іншыя, не горшыя, а такіх вось не будзе...

Агортвае смутак, быццам застаецца яшчэ на адным жыццёвым прыпынку штосьці светлае, цудоўнае... Вецер зносіць лісце.

10 кастрычніка

Да чаго ж мала часу даецца чалавеку на свядомае жыццё. Трэцюю частку яго проста прасыпаем. А як многа хочацца паспець зрабіць, навучыцца, прачытаць. І крыўдна за некаторых. Прапускаючы скрозь пальцы россып часу, забаўляючыся, пырхаюць па днях. Мабыць, аб тым, як кожны размяркоўвае свой дзень, мэтазгодна пагутарыць асобна.

15 кастрычніка

Ні да чаго нельга адносіцца абыякава!!!

21 кастрычніка

*Ничто не стоит нам так дешево и не ценится людьми так дорого, как вежливость,* – як дакладна выказаўся А.П. Чэхаў!

Вечар, прысвечаны дню нараджэння ВЛКСМ, прайшоў увогуле нядрэнна, другой часткай былі танцы. І гэтыя танцы сапсавалі толькі настрой. Дзяўчаты танцуюць з хлапцамі, многія з якіх у паліто, куртках. І гэтак лянiва, нібы ласку робяць, падыходзяць, каб запрасіць на танец. А

дзяўчаты бы належнае гэта ўспрымаюць. Характар жа, асабовасць складаецца якраз з дробязей. Нам самім трэба памагаць хлапцам не прыніжаць сябе і нас падобнымі паводзінамі.

25 кастрычніка

Забіта бортправадніца Надзея Курчанка. Забрана жыццё ў сапраўднага чалавека, поўнага сіл, энергіі, любові да прыгожага. Надзі назаўсёды засталося 19 гадоў, памножаных на подзвіг плюс бяссмерце.

Ці змагла б я паступіць так, як гэта простая дзяўчына, цяпер гераіня?! Курчанка толькі на чатыры гады старэйшая за мяне. Надзя камсамолка, чалавек, які вырас у СССР. Яна, мабыць, не задумвалася над тым, ці здольная на подзвіг. А ў патрэбны момант проста выканала абавязак Чалавека – стала тварам у твар з узброеным бандытам. Надзея прыняла эстафету подзвігу ад Зоі Касмадзем’янскай, Ульяны Громавай, Лізы Чайкінай.

29 кастрычніка

Сёння – Дзень нараджэння ВЛКСМ. Як шмат зроблена моладдзю маёй Айчыны! Гераічная барацьба на франтах Грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў, адраджэнне з руін і попелу, асваенне цалінных зямель, самаадданая праца на фабрыках, заводах, палях, ударных камсамольскіх будоўлях, заваяванне космасу – вось пульс ВЛКСМ. Шэсць ордэнаў ззяе на сцягу Камсамола. І я ганаруся тым, што з’яўляюся часцінкай нястомнага Саюза Моладзі, які заўсёды ў авангардзе будаўніцтва камунізма.

Комсомолец,
Живя в твои лета,
Октябрьским озоном дыша,
Помни,
что каждый
день – этап.
К цели намеченной шаг.

2 лістапада

Цяжка. Усё цяжка. Вучоба, праца, жыццё. Дзе ініцыятыва ў маіх камсамольцаў? Увогуле ж з мяне атрымаўся б добры рэдактар насценнай газеты, што непараўнальна лепш, чым ніякі сакратар. Так, у «камітэтчыках» можна раздзьмухаць іскрынкі актыўнасці, але ж, мабыць, гэта не ў маіх слабых сілах. Трэба прыводзіць аргументы, якія пераканалі б кожнага не саступаць з выверанай пазіцыі, быць роўнай у адносінах да кожнага.

5 лістапада

Вытрымаць усе цяжкасці і галоўнае – стаць сапраўдным чалавекам. За спіной смяюцца, шэпчуцца – не звяртаць увагі. Зайздрасць бяссільных.

Значыць, вышэй іх. Ты ж шчаслівы чалавек. Журналістыка! Хіба кожнаму шанцуе ўбачыць сваю зорку ў дзяцінстве, за школьнай партаю?! Здароўе? Дробязь. Падрамантуецца. У цябе ж усё атрымліваецца. З цяжкасцю? А што лёгка ў жыцці? Не хапае часу? Плануй дзень. Ушчыльняй яго. Ну, за працу. Памятай, ты – ЧАЛАВЕК!

16 лістапада

Як нядобра ўсё ж ідзецца. І хто вучыць гэтаму? Завуч, адказны за пазакласную работу. Праўда, дзіўна? Дакументы, працы, па яго словах, канспектаваць можна па вярхах, а пры нагодзе чыйсьці канспект і перапісаць. А карысці ад гэтага? Недахопаў выдзяляць не варта. Лепш падкрэсліць лішні раз добрае. І што з таго?

Значыць, прынцыповасць у бок, як непатрэбную рэч. Не, я так не магу і не буду! Страціць сумленне, вядома, лёгка, а пасля як? І ўвогуле я сваё цяжкае жыццё ні на якое іншае не прамяняю. Хай у гарачцы думаю ўсялякую ерунду, але лепш гарэць! Сіла волі, вытрымка. А дзённік адкрываю ўсё ж звычайна, найчасцей, калі цяжка...

30 лістапада

Апошні дзень восені. Пуста, шэра на двары. Няма сонца і знутры. Настрой хутчэй упадніцкі. Заўсёды так – зраблю штосьці, адгару ў пісанні і – запоем хандра. Камсамольская праца адцягвае толькі. Урокі вучу на сіле волі. Хочацца чытаць штосьці сапраўднае, душэўнае. Са школай юнкораў пакуль што ў парадку. 26-га ўпершыню змясцілі ў “Знамя юности” заметку. А ўвогуле я тупіца... Задачкі не паддаюцца. Ладна. Тактоўнасць. Стрыманасць.

3 снежня

У закаханага ўнутры воблака з кропелек дабра, шчасця, вернасці. І ён, як ласкавы вясенні дожджык, распырсквае яго на людзей, што побач, вырашчвае цудоўныя кветкі ў душах іншых. Невычарпальная крыніца – каханне. І.С. Тургенеў сказаў, што “...маладосць без кахання, як дзень без сонца”. Дакладна!

Мы цяпер на мяжы дзяцінства і самастойнасці і таму ўзрост вельмі цяжкі, адказны. Не ведаеш як павядзеш сябе – салідна-даросла ці запальчыва па-дзіцячы. Паміж двух берагоў мітусішся, а ў сэрцы – няпэўнасць, невыразнасць, туга.

Ніколі не высоўвайся наперад са сваімі расказамі. Падумай спачатку, ці цікава гэта іншым!

6 снежня

Першы раз за снежань сонца ўзышло разам з днём. Неба цудоўнае! Хараство! Не хапае толькі снегу яшчэ.

15 снежня

Сход, з-за якога так хвалявалася, спрачалася – праваліўся! Было як звычайна, але не так, як ТРЭБА. Шумелі, перагаворваліся. Я не магу быць сакратаром! Я не той чалавек. Нік-чэм-насць, зразумела?.. І што, як з сабою быць?

21 снежня

Мне здаецца, што ў мяне не будзе сапраўднага асабістага жыцця ў будучыні. Ці змагу я “гарэць” для людзей, ці хопіць ведаў, дабрыні, урэшце здароўя?! Страшэнна стамілася. Хутчэй бы канікулы. Прамінула амаль палова вучобы ў дзевятым класе... Мне патрэбен Ты, самы добры, цудоўны, самы-самы! Дзе Ты? Ці сустрэну калі Цябе?.. Вытрымка. Так-тоўнасць. Сумленнасць.

22 снежня

Паўсюль: вучоба, сходы, вечары, усе мерапрыемствы — камітэтчыкі мусяць быць наперадзе. А дзе ж астатнія!? Дзе праца класных кіраўнікоў? Вялікі нуль! Выхаванне без выхавання...

25 снежня

Што сталася? Я зараз як хворая. Ледзь дакраніся, крыўда накрывае хваляй. Стамілася ад бясконцых клопатаў, трывог. Нельга чарсцвець! Дык ці стану я журналісткай? Ці змагу? Магчыма, я чалавек непрыдатны для гэтай прафесіі. Ці хопіць таленту (ды ці ёсць у мяне і самыя малыя здольнасці), любові да людзей, цярплівасці, працаздольнасці...

Дарагі мой хлопча, мне трэба з некім гаварыць – добрым і разумным, далікатным і моцным. Сапраўдным! Ты не такі, але я ствараю цябе такога для сябе. Маю патрэбу ў Сонцы, праменні якога прасякаюць душу, поўнячы яе ззяннем. Я хачу звяраць кожны свой крок з прамянямі. Для некага рабіцца лепшай. Думаць, што кожны мой радок, прачытаная кніга Чэхава, Грына робяць мяне разумней для некага, магчыма, для Цябе. Каханне... Пачуццё вялікае і моцнае. Кахаць могуць толькі моцныя, сапраўдныя людзі. Ці змагу я кахаць?..

28 снежня

Была ў Асіповічах, у рэдакцыі раёнкі. Атрымала прэмію. Працуюць тут цудоўныя людзі. Асабліва спадабаліся Санчук і Бакіноўскі. У астатніх не вельмі разабралася. І ўсё ж я сябе не зусім зручна адчувала. Усе дарослыя, а я – ні тое, ні сёе. Увогуле я сябе цяпер не разумею. Быццам другі чалавек, чужы ўва мне гаспадарыць. Часам крыўджу маму! Камсамольская работа мяне заесць хутка... Заўтра апошні дзень у школе. Нарэшце канікулы. Мілыя, паспяшайцеся!

30 снежня

Перадапошні дзень 1970 года, але святочнасць неяк пазніцца. Можа таму, што баліць зуб, а ў хаце яшчэ не прыбрана. Хоць у грудзях усё ж нейкае трапятанне вычуваецца. Штосьці сыходзіць у мінулае. Аб нечым застануцца ўспаміны. І запытальны знак можа ператварыцца ў кропку або клічнік. Жыццё ідзе... Жыццё, жыццё. А дзе ж чакае мяне той, з кім дадзена будзе прайсці праз смуткі, радасці? Дзе ты, мой рыцар? Хутка шаснаццаць...

Сёння бал-маскарад. Хачу выйсці бярозкаю. Не зусім удаецца сукенка, але ж мушу быць у касцюме. І ў хаце шурум-бурум, а яна распісалася. За працу!

31 снежня

Брат хацеў уступіцца за жанчыну. Аднак устрымаўся. І ніхто, хоць там было шмат народу, не зрабіў гэтага. Дарагія бацькі нашы раскрычаліся на яго. Сказалі, каб не соваў носа, куды не трэба, каб глядзеў сябе...

Непрыгожа заканчваецца гэты год. Неба вось-вось расплачацца. Вятрыска разышоўся і г.д і т.п. Настрой адпаведна таксама не навагодні. Вось каб марозік быў! Любімае свята, а сэрца як аглохла. Ды што ж. Галоўнае пражыць па-сапраўднаму 1971 год.

Мяне адзначылі ў “Знамени юности”. Значыць, пераходжу на другі курс школы юнкораў! А зуб баліць...

Вечар, 22.30

У зале амаль да столі дацягваецца і над усім пануе зялёная пахучая красуня, а я, вельмі недарэчы, усё ж захварэла. Сэрца болем адзываецца і ў горле дзярэ. Настрой адпаведна таксама не вельмі, але ж хвалююся. Новы год – 1971-шы ! Вітаю! 1970-ты – бывай! Ты праз паўтары гадзіны станеш гісторыяй. Мілы, ты быў добрым да мяне. Не ведаю, ці будзе мець гэтулькі ласкі да мяне 1971-шы... У гэтым дзённіку ў асноўным усё, што хвалявала цэлы год. Поспехі ёсць, але ведаў, розуму мала прыбавілася. У наступным годзе трэба паболей чытаць, крытычней адносіцца ў першую чаргу да сябе. Быць натуральнай, сціплай, вытрыманай. Больш працаваць над сабой. Займацца гімнастыкай, рабіць усё, каб выправіць здароўе, папрыгажэць. Навучыцца танцаваць вальс, гатаваць, вязаць, шыць.

Наладзіць працу камсамольскай арганізацыі. Помні – ты сакратар! Ты павінна быць наперадзе. Вучыць цярпліва, спакойна. Тваё слова павінна карыстацца аўтарытэтам, каб твая пахвала была ўзнагародай. Трымай слова.

Ты павінна пісаць, а для таго, каб штосьці сказаць людзям, трэба быць вартай гэтага. Трэба шмат, вельмі шмат ведаць. Бачыць не толькі ўчынак, справу, але і яго карані, прычыны. Каб звярнуць увагу на штосьці кепскае, трэба самой быць крышталёва чыстай, яснай – сапраўднай.

Будзь настойлівай: баліць – скрыпі зубамі, а маўчы. Крыўдна – выпла-

чашся потым у падушку адна, без сведкаў. Радасна – устрымайся, не хваліся поспехамі, бо ў некага, можа, гора, крыўда, а ты замест спачування са сваім эгаістычным “букетам”. Значыць, будзь сціплей, зразумела? Пэўна, не ціхоняй, а Чалавекам.

Апранута крыху горш за іншых – нічога страшнага. Ты яшчэ школьніца ды і кожнаму грыбу свой кораб.

Памятай – запаволенасць не падоўжвае жыццё. Абавязкова сустрэнеш на сваім шляху чалавека самага лепшага, сапраўднага і дзеля яго, у імя яго будучага, але рэальнага, ты павінна ўмець усё-усё, быць лепш за ўсіх, зразумела, па-свойму. Развівай свой эстэтычны ўзровень. Ты павінна быць усебакова культурным чалавекам. Памятай – у жыцці няма дробязей – ёсць абыякавыя людзі. Ніколі не ільсці, не крыві душой. Будзь прынцыповай, каго б ні датычылася пытанне. Зразумела??!

Табе вось-вось шаснаццаць. Юнацтва прыйшло або на парозе.

Узялася за справу – даводзь яе да канца. Не крышы на аскепкі час. Вядома, будуць зрывы, абвалы, слёзы, горыч – без гэтага немагчыма. Ты ж вучышся хадзіць па жыцці.

Помні – ты абавязана стаць журналісткай! І станеш!!! Іначай, навошта жыць?!?

6 студзеня 1971 год

На небе жоўтая поўня, зоркі ўгары, зоркі ўнізе. На вуліцы зіма, ужо сапраўдная, з моцным марозікам. Снежнае хараство іскрыцца, ззяе чароўнымі самацветамі. Так, зіма – цуд!

10 студзеня

Бурштынавым ліпавым мёдам сонейка заліло апранутую ў пуховую Прыгажосць зямлю. Быццам і неба паблякла перад гэтай чароўнай яваю. Пухнатыя белыя правады, срэбныя дрэвы і бліскучыя цукровыя россыпы на дахах... Якое шчасце быць у гэтым свеце! Каб жа яшчэ паспяваць з неабходным. Вазьміся па-сапраўднаму за кам/арганізацыю. Сорамна, сакратар! Будзь пільнай, чаму не адгукаешся на палітычныя падзеі?! Ганьба! Заўтра ў школу.

13 студзеня

Чакаю Некага, хачу да Кагосьці... Дзе ты, добры, мілы, шчыры мой чалавек?! Адгукніся. Прыйдзі.

Цяжка, вельмі натужна. Не хапае дабрыні, ласкі, увагі – сапраўдных. Шмат працы, што можа і добра. Прынамсі, рвуся між справамі. Няма побач таго, хто зразумеў бы. Раблюся раздражнёнай, неўраўнаважанай, рассеянай. Кепска. Ёсць жа недзе чалавек, для якога стану ўсім. І для яго трэба рабіцца лепшай, прыгажэйшай, разумнейшай. Вучыцца розным дамашнім “мудрасцям”, бо жыццё ж не толькі паэзія, але і проза. Будзь

цярплівай, настойлівай, сабранай, падцягнутай, урэшце, з пачуццём уласнай годнасці...

22 студзеня

Зноў у ложку, зноў хворая. Зноў чакаю цяпла, спагады.

*Гордым легче,*
*Гордые не плачут*
*ни от ран, ни от душевной боли,*
*на чужих дорогах не маячат,*
*о любви, как нищие не молят...*

Ці здольная я на подзвіг у імя людзей, у імя будучыні? Ці змагу аддаць жыццё ў барацьбе за ўсіхняе шчасце?! Быць чалавекам бескарыслівым, палымяным. “Чалавек – гэта гучыць горда!” Усё для людзей – нічога ад людзей. Ці будзе маё жыццё адпавядаць гэтаму прынцыпу?..

14 лютага

Ва ўсіх да камсамольскай працы прэтэнзіі: паперы, розныя пратаколы, характарыстыкі заядаюць. Сапраўды, працьма часу ідзе на тое, каб аформіць план, пратакол. Як гэтага пазбегнуць? А можа б адбіраць сярод вучняў тых, хто мае схільнасць да гэтакага справаводства? Толькі ж ці ёсць такія ахвочыя?

Хутка мой дзень. Будзе шаснаццаць! А я ж яшчэ не дасягнула і паловіннай хоць бы дасканаласці характару. Запальчывая, грубаватая, а потым перажываю. Трэба быць ураўнаважаней, дакладней, мякчэй у адносінах да людзей, не раскідацца словамі, старацца аб’ектыўна ацэньваць усё побач.

17 лютага

Сёння мне споўнілася 16 гадоў! А ці па сваёй дарозе я крочу? Ці ўступіла на шлях карыснага стварэння?! Так, ты ўжо дарослая – вось пашпарт атрымаеш. Шаснаццаць штосьці значыць. Але ж гэта толькі па гадах табе 16, а па развіцці ты стаіш на ўзроўні 14-гадовай! Называецца сакратар, юнкор, рабселькор. Зусім не разбіраешся ў музыцы, жывапісу... І не сорамна?! Сакратар!

23 лютага

Апошнім часам стала здаваць у пісанні. Трэба быць патрабавальней да сябе. Цвярдзей і яшчэ раз цвярдзей. Іначай – кранты. Згублюся, затану ў мяшчанстве. А жыць і змагацца трэба. Калі-нікалі прыходзіць думка аб тым, што можна будзе ў час спакойна выйсці замуж. Абкласціся дзецьмі. Стаць добрай гаспадыняй. Ды аж смешна робіцца. Хіба ты гэтак зможаш?! Так што бесперапынна патрабаваць ад сябе і хоць бы напалову ад іншых. Цвярдзей да сябе і мякчэй да іншых.

І помні – ты абавязана стаць журналісткай, зашмат кепскага вакол, каб

не ўступіць у барацьбу з пошласцю, ханжаствам. Ідзі па жыцці прамой дарогай; не атрымліваецца – змагайся, даб'ешся свайго. Глядзі людзям у вочы.

28 лютага

Сёння апошні дзень зімы. Вясна па календары ўжо ўсміхаецца з наступнай старонкі. На двары ж пануе зіма. Марозік, што трэба. Ды мне ўсё ж неяк абыякава амаль усё. Вельмі стамляюся. Блізка хіба мая фізічная мяжа. Пакуль што трымаюся на сіле волі. Але... Занепадае вучоба, справы ў арганізацыі – няма сіл. Сэрца баліць кожны дзень, вяласць страшэнная, раздражняюся без прычыны, пад вачыма цені. Цяжка...

Ды журналісткай стаць ты проста абавязана. Дзеля таго, каб сказаць, даць штосьці людзям, трэба самой шмат знаць, штогадзінна павышаць свой узровень. Журналістаў некаторыя лічаць нікчэмнымі, расхлябанымі людзьмі. Што ж, ёсць дастаткова такіх, як і ў кожнай іншай прафесіі. Толькі там кепскае так не выпінаецца, а вось газетчык заўсёды навідавоку.

Прыклад Ларысы Рэйснер, адважных селькораў, якія гінулі на сваім пасту падчас калектывізацыі, сведчыць, што журналістыка – гэта прыстанак мужнасці, святла, праўды. Я хачу раскрываць вочы людзей на пустое, агіднае, што хаваецца пад маскаю прыстойнасці. Я буду журналісткай! І калі не журналісткай, дык нікім. Бо ж сэнс жыцця ў гарэнні. *Згараючы сам, свяці другім!*

Цяжкасцей шмат, але што з таго? Ты ж чалавек, які ідзе да мары. Ты будзеш шчаслівай!!! Хіба жыць для людзей, быць патрэбнай – не шчасце?!

8 сакавіка

Мы з А. цяпер цалкам розныя людзі. Я не ведаю, што, калі сказаць, каб не пакрыўдзіць яе. Я, зразумела, дэспат. Мне трэба, каб хтосьці мяне пахваліў або разабраў маю заметку, сказаў, як мне пасуе абноўка, каб можна было пажаліцца, прыціснуцца да пляча. І А. нібы тое ж трэба. Стараюся, а яна яршыцца, адпіхае. Вакол няма таго, хто зразумеў бы без слоў. Хачу, каб чалавек побач дзяліўся са мной усімі сваімі ўражаннямі і раіў, накіроўваў мяне. Каб яму, моцнаму, мудраму, можна было крыху і падпарадкавацца. І каб ён мяккасцю, дабрынёй адказваў на маю шчырасць. Ці знойдзецца такая сяброўка хоць некалі? Іначай жа, як набыць душэўную раўнавагу. Кожны з нас здзяйсняецца і ў іншым чалавеку побач. Ды з дружбаю, відаць, супярэчлівей, чым з каханнем, бо кахаць можна і тайком, не прызнаючыся іншай асобе, а ў дружбе абавязковая ж прысутнасць дваіх!

10 сакавіка

Атрымала бандэроль ад самой ЮЛІІ ДРУНІНАЙ!!! Сапраўднае шчасце, скачу, бегаю. Кнігі з аўтографамі "Ты вернешься" і "В двух изме-

рениях”. Значыць з “Літаратурных вечароў” на радыё перадалі ёй мой ліст. І дайшоў жа, хоць адрас быў на канверце амаль як у чэхаўскага героя: Масква, радыё, Ю. Д. Напісала, якія пачуцці выклікаюць яе вершы, падзякавала ёй за тое, што памагае мне жыць сваёй паэзіяй, і вось!..

28 сакавіка

Вярнулася з Мінску. Трэба падлячыць сэрца і нярвовую сістэму. У паездках знаёмішся з людзьмі і сябе пазнаеш. Набываецца непасрэдны спосаб адносін. Сустрэла цудоўнага чалавека – Ларысу Іванаўну Старасценка. Яна неўрапатолаг па прафесіі, але найперш цудоўны чалавек. У Л. І. няма адной нагі, пратэз. І замест крыўды на жыццё за сваю інваліднасць – аптымізм, любоў, раўнавага. Калі б такі чалавек быў побач усё жыццё, ну хоць бы некалькі месяцаў, наколькі б палепшаў мой характар! Л. І. проста настрой мне ўзняла. Мне кепска і цяпер, але ўзгадваю Яе і яшчэ некаторых душэўных, добрых, разумных людзей – і становіцца лягчэй.

Апошнім часам не разумею сябе. Быццам два чалавекі жывуць ува мне. Адзін – выхваляка, зануда; другі – чысты, добры, тактоўны. Але агідны першы знішчае ўсё зробленае другім. І ўвогуле трэба менш думаць аб тым добрым, што робіш людзям, дарыць, не чакаючы зваротнага руху.

31 сакавіка

Заўтра ў школу. Хочацца ж увесь час быць адной. Што цяпер адбываецца ў душы? Думала, што пераходны ўзрост ужо прамінуў... Чаго мне хочацца? Быццам бы пераналаджваюся, а тыя, хто побач, замінаюць, вяртаюць да старога. Мабыць, залішне рана раблюся дарослай. Хачу быць зразуметай!

1 красавіка

Здаецца, цвёрда вырашыла – пасля школы буду пастyпаць на філасофскі факультэт. Хаця... журналісткай буду ўсё адно. Аднак для гэтага трэба накапіць веды, жыццёвы вопыт. А пакуль літаратура застанецца маім хобі, захапленнем. Значыць, з актывістаў сыходжу. Крыху – ці не крыху ! – шкада, накатвае нейкае кепскае прадчуванне. Але здароўе зусім ніякае. Мушу здаравець.

6 красавіка

Так, дакладна не буду сакратаром. Кепскае здароўе зблытала ўсе планы. Вытрымка. Не паддавацца няўдачам, хваробам. Вылечышся! Усё наладзіцца...

7 красавіка

Вова Ніканові пайшоў на год у армію, у Германію. Перад ад’ездам папрасіў па-суседску нешта на памяць. Былі пад рукой два зборнікі паэзіі:

“Агонь” Ніны Мацяш і “Снежныя грамніцы” Яўгеніі Янішчыц, нядаўна набыла ў кніжным. Падаравала яму блакітную кніжачку Янішчыц... Цяпер хаджу штодня на ўкольчыкі. Даволі непрыемна, але ж мушу вітамініцца.

9 красавіка

Прыляцелі буслы. Вярнуліся дадому.

Лекі дзейнічаюць адмоўна. Раздражняюся, выходжу з сябе. І ніхто, ніхто не хоча зразумець, як цяжка. Не магу жыць побач з пошласцю, а яна, ненавісная, побач, у кожную хвіліну гатовая абазваць, прынізіць. Не магу болей!!! Што рабіць? Брыдота, цемрадзь у душы. Цяжка. Як вырвацца з гэтага кола? Не трэба мне нікога. Хачу самоты. Хачу пісаць.

Мікалаю ж Астроўскаму было ў тысячу разоў цяжэй. Ды ён выстаяў. А я, чалавек з нагамі, рукамі, здаровай галавой, хныкаю, ныю: цяжка. Ну і што. Працуй над сабой, пераадольвай цяжкасці, выхоўвай характар. У кожнае імгненне можа быць запатрабавана справаздача перад сумленнем у тым, што зроблена, ці сумленна пачата жыццё... Пачуццё ўласнай годнасці, спагадлівасць. Змагайся на сваім жыццёвым фронце. У цябе ёсць мэта ў жыцці. Хіба гэта не найвялікшае шчасце? Хіба чалавек – гэта не гучыць Цудоўна?!! Ты павінна стаць сапраўднай, чакае ж недзе цябе Ён, дарагі, адзіны...

27 красавіка

Выпаў нечакана снег, мокры, рыхлы, прыкрыў платы, абляпіў правады. Бедныя шпакі сядзяць натапыраныя, надзьмутыя. Ім сапраўды кепска. А вось бярозы сёння проста цудоўныя; адначасова, як заўсёды, сціплыя і велічныя. Што за цуд гэтыя бярозы!

29 красавіка

Як слаўна жыць на зямлі, калі тваё існаванне прыносіць людзям радасць, карысць. Калі ты змушаеш маркотнага ўсміхнуцца, забыць хоць на хвіліну аб сумным, хіба не радасць-шчасце гэта прыносіць і табе?

Калі зроблена добрая справа, трэба проста аб ёй забыцца, бо іначай усё добрае ператвараецца ў пустое самалюбаванне.

30 красавіка

а) Літаратура; б) Жывапіс; в) Гісторыя; г) Філасофія; д) Біялогія; е) Музыка; ж) Астраномія; з) Спорт; і) Дамашнія справы

2 мая

Свята прайшло нейк будзённа, непрыкметна. Здароўе быццам бы наладжваецца. Пятага мая – Дзень друку, завуць у рэдакцыю “Запаветаў”. І хочацца вельмі паехаць. Цяпер так шмат што цікавіць. Прываблівае да сябе жывапіс, хочацца нават самой маляваць. Трэба сачыць за сабой, што

цяжка, але ж неабходна для будучыні.

3 мая

Чаму К. стаў мне чужым? Вось ходзіць чалавек, які тры гады быў дарагім, блізкім і амаль год ужо ўспрымаецца звычайна, будзённа. Як прыходзяць да чалавека пачуцці? Што іх асноваю?

5 мая

Сёння ў рэдакцыі мяне залішне хвалілі, не заслужыла я такіх добрых, хай сабе, толькі слоў. І якая ж я брыдкая – ніякай вытрымкі, такту, сілы волі. Ні да чаго не здатная!

6 мая

Мне быццам бы не дадуць значка “Ленінскі залік”. І вось ужо ад крыўды і сэрца баліць і г.д. Вось якая я! Ну, не заслужыла, каб цябе адзначылі, як тваіх камітэтчыкаў... Хоць цяжка так думаць. Але нічога, іншага выйсця няма ж. Так, не заслужыла...

8 мая

Нейкая жахлівая незадаволенасць сабой. Хочацца рабіць штосьці вялікае і вельмі патрэбнае. Не магу проста сядзець, чытаць, хадзіць. Што са мной? Вось жа і значок усё ж далі.

А бярозы ўжо разгарнуліся лістотаю далікатнай. Як дасканала і правільна, дакладна ўсё ў прыродзе! Прыйшоў час і з’явіліся зялёныя карункі паміж цёмных сосен. Якое ж маё месца ў жыцці? Ці магчыма дасягнуць чалавеку дасканаласці?..

11 мая

Учора поўня ўзнялася над зямлёю вялізным чырвоным шарам. У адной цёмнай цэласнасці застылі неба і наваколле. Але паступова неба, як губка, увабрала ў сябе чырвань, нібы прыняўшы на сябе частку таго, чаго саромелася маўклівая спадарожніца зямлі.

Страшэнна хочацца чытаць. А трэба вучыць урокі. Трэба! Павінна вучыць. Я ж яшчэ як дзіця, перад якім вясёлкай ззяюць цудоўныя рэчы, а яно ў разгубленасці не ведае за што ўхапіцца. Я таксама не ведаю яшчэ па-сапраўднаму, што ж маё ў гэтым свеце... вучы ўрокі! Чуеш!

15 мая

Віталь Банівур! Няўжо гэты мужны чалавек аддаў сваё жыццё за тое, каб цяпер множыліся мяшчанства, пошласць?! Баяцца ўступіцца за пакрыўджанага, абыходзяць бокам хуліганаў, а Ён жа загінуў за нас. Калі будзем плаціць Яму? Ды і платай можа быць толькі пабудова камунізму. Я павінна стаць сапраўдным чалавекам, я буду сумленнай, Віталь, я буду

такой, каб без сораму размаўляць з Табой!

27 мая

Вярнулася з Магілёва. Здаецца, закахалася. У душы туга і радасць. Магчыма, гэта проста захапленне, хутчэй за ўсё. Не веру, што атрымаю ліст. На абласным злёце хвалілі. Гаварылі і Аляксей Пысін, і Васіль Матэвушаў, што, калі буду працаваць над сабой, штосьці талковае атрымаецца...

13 чэрвеня

Цяпер я разумею, што такое музыка Грыга! Яна ўвайшла ў маё сэрца салёнымі пырскамі Паўночнага мора, ласкавымі хвалямі атуліла ўсю цалкам. Змушае пакутаваць, хваляваццa, супакойвае. Гэта музыка – само жыццё! Я шчаслівая, бясконца шчаслівая! Грыг. Дзякуй Вам, Эдвард Грыг! Маё жыццё павінна стаць для людзей тым жа, чым стала для мяне Ваша музыка.

Ліста няма, але ж Ён ёсць. Хай сабе і не ў тым раённым гарадку... Учора ў фільме "Пераступі парог" хлопец – так падобны на Яго, што ў мяне мову адняло пасля кіно, а ўвесь сеанс у страшэнным напружанні сядзела. Так, атрымала пашпарт.

23 ліпеня

У Канстанціна Паўстоўскага ў юнацкім узросце былі думкі аб пісьменніцкай працы. Ён з вясёлкі фактаў адбіраў тыя, што ў будучым прыдаліся б для напісання твораў. І мне вось, як ні дзіўна, часта думаецца, што пэўныя з'явы маглі б увайсці ў *мае кнігі*! Абсурд страшны. Паўстоўскі – гэта Паўстоўскі, а я – гэта апошняя літара ў алфавіце.

27 ліпеня

Учора была на вяселлі С. Ён – шчаслівы і чамусьці засмучаны адначасова. Увогуле, здаецца, не было асабліва весела. Маладая – цуд.

І як разабрацца ў сабе? Чаму, часта заўважаю за сабой, калі вакол весяляцца, мне цяжка быць ва ўнісон? Але вось як некаму кепска, тады я магу развесяліць, паправіць настрой. Зразумела, не заўсёды.

6 жніўня

Толькі сёння пачуццё непаразумення, адчужанасці да людзей іншых рас знікла з маёй душы. Вось жа магла я нарадзіцца з чорнай або жоўтай скурай, з вузкімі вачыма... Знешні воблік – сукенка. І галоўнае ў чалавеку не якая яна, а што схавана пад ёю. Так проста і ясна. Я гаварыла, можа крыху іначай, штось у такім плане даўно, але ўсведамленне яснае прыйшло толькі цяпер, як азарэнне. І як добра стала на душы!

7 жніўня

Учора цячэнне расцягвала сонечны дыск у агністы цыліндр, нібы бавілася з ім. Гусі ж на лускаватай бліскучай вадзе выдавалі на гордых лебедзяў.

Як цяжка ўсё ж мне ламаць сябе. Простая сітуацыя. Трэба было не застацца на танцах. Не засталася. Але якая хваля супраціўлення ўзнялася ў душы. Нейкія дрыжыкі ахапілі, змяніўся голас, азванчэў, нават плакаць хацелася. Затое цяпер, калі справілася з сабой, добра, спакойна.

10 жніўня

Сёння Марс наблізіўся да Зямлі на мінімальную адлегласць, што адбываецца адзін раз у 15—16 гадоў.

11 жніўня

Пажыць бы на бязлюдным востраве! Кнігі, кнігі... Не кожную думку сваю можна выказваць услых і прама ў вочы. Асабліва тады, калі немагчыма выправіць сітуацыю і памагчы. Тактоўнасць, вытрымка!

20 жніўня

Лета развінае апошнюю нітачку бесклапотнасці. У школу хочацца ледзь-ледзь: палохае галоўным чынам матэматычнае ярмо... Што ж, вяртанне ў дзяцінства не прадугледжана. Апошнія летнія канікулы прашапацелі старонкамі-крыламі кніг, адзіхацелі пырскамі-іскрамі рачной вады. За год трэба паспець выраўняць пляцоўку для ўзлёту ў іншае, ужо дарослае жыццё. Хутка пачнецца новая серыя фільму. Сцэнарыст – само жыццё. Жыццёвая плынь нясе чалавека па цячэнні, а ці заўсёды ў адпаведнасці з запатрабаваннямі і чаканнямі нашымі? Толькі моцны можа адстаяць сваё. Апошняе лета. А што далей?

22 жніўня

Са мной адбываецца штосьці страшнае. Сэрцам чарсцвею ці што. Ператвараюся ў чалавека інтэлекту — без пачуццяў. Аж холадна. Але як сумясціць упартую вучобу і пачуцці... Калі мяне штосьці захоплівае, дык цалкам, без астатку. Н.Н. называе філасофію палітыкай, гаворыць, што ёй цяпер са ста чалавек цікавіцца ў лепшым выпадку адзін. Жывое, натуральнае, што можна ўзяць ў рукі, пэўна, лягчэй зразумець, над ім не трэба ламаць галаву, але ці палітыка, аднак, філасофія? Яна адкрывае штосьці новае, дапамагае зразумець свет. Увогуле ж я заблытваюся. Апошнім часам нават заікацца стала. А “Ціхі Дон” М. Шолахава нечым збліжаецца з “Вайной і мірам “ Л. Талстога.

28 жніўня

Учора моцна паспрачалася з А. Размова распачалася аб тактоўнасці,

мяккасці. А. кажа, што ад другіх я патрабую так, як ад сябе, а гэтага нібы нельга рабіць. Ды трэба ўнесці тут некаторыя карэктывы. Па-першае, патрабую так, як ад сябе, ад самых блізкіх. Па-другое, калі не патрабаваць, значыць ставіць сябе вышэй іх. Я ж хачу, каб мы роўнымі былі. Чэхаў сказаў: “Воспитанные люди снисходительны, мякки, уступчивы...”. Я згодная з ім. Але ж пры выхаванні характару *снисходительность* бывае шкоднай.

31 жніўня

Заўтра апошняе ў маім жыцці школьнае 1 верасня... Неяк сумна. Заўсёды тужліва, калі ўваходзіць слова “апошняе”. Цяпер жа асабліва. Дзяцінства прамільгнула, як раніца, пакінуўшы расу, якую сонца хуценька асушыла.Толькі ж раніца паўтараецца, а маё дзяцінства не...

23 верасня

Упершыню ў жыцці выслухала ад “а” да “я” аперэту. “Сільвія” Кальмана – цудоўная рэч! Якаясьці ўпэўненасць з’яўляецца ў душы з музыкай, адчыняецца новы свет.

29 верасня

Што за незразумелыя сілы як бы затаіліся ўнутры мяне? Баюся іх. Трэба працаваць і працаваць. Мушу паступіць ва ўніверсітэт! Хаця б дзеля мамы. І ўвогуле хочацца вучыцца. Вучыць, пэўна ж, любімыя прадметы. Сіла волі. Вытрымка. Тактоўнасць.

12 кастрычніка

Хочацца нечага вялікага, светлага. І душа не ў тамленні, а ў пяшчотным чаканні. Не ведаю, чаго хачу. Унутры быццам хвалі гойдаюцца. І музыка Эдварда Грыга, найперш яго Сольвейг з “Пер Гюнта”... Мабыць, у такія моманты “чалавек робіцца чалавекам”... І працягваецца адкрыццё Фёдара Цютчава. Мая паэзія! Тлумачыць нешта важнае для душы, толькі вычуваемае.

16 кастрычніка

Прыйшла балючая думка: навошта я жыву. Вось жа не змагу перарабіць свет. Хай і коштам свайго жыцця зрабіць людзей шчаслівымі. Тады – навошта?!

22 кастрычніка

Кідаецца зверам у вокны, лупіць staўнямі, стогне, вые, крэхча вецер. Тонкія свежыя струменьчыкі прабіраюцца ў хату, заігрываюць з лязомагеньчыкам свечкі. Добра і вусцішнавата нават, здаецца, што нехта заглядае ў вокны, насцярожана сочыць за кожным рухам. Хутка дзесятая

гадзіна. У мяне зноў змены ў душы. Засталася вострая прага ведаў. Пачуцці адышлі на другі план. Увогуле ж цяжка. Зноў жа – адна. Ніводзін чалавек не можа зразумець. Дзе мой моцны-моцны чалавек, каб накіроўваў, спрачаўся, звяртаў увагу на памылкі...

4 лістапада

Адчуваю, што павінна пісаць і буду пісаць. Ды не заношаныя заметкі аб тым, што выступілі, сказалі, паапладыравалі і на гэтым кропка. Мне сорамна пісаць традыцыйнымі штампамі, шэранька, паўтараць іншых. Журналіст мусіць быць не проста інфарматарам, летапісцам. Ён павінен мець асаблівы характар, каб памагаць людзям. Быць чалавекам вялікай душы, такту, розуму, быць цярплівым, настойлівым, добрым і строгім адначасова. Свяціць другім. Толькі ў гэтым апраўданне жыцця. Я пастараюся стаць такой. Няхай ад мяне будзе светла некалькім людзям, але і ў гэтым агністы сэнс. Усё для будучыні. Характар!

13 лістапада

Воблакі ў праменнях заходзячага сонца, нібы бутэрброды, густа намазаныя ліпавым мёдам... Зоркі – распырсканыя слёзы, у любові да людзей ззяюць, праменяцца...

26 лістапада

Здаецца, што зашмат апошнім часам гуляю ў жыццё. Міжволі, само сабой. Гуляю на матэматыках, на deutsch, з дзяўчатамі, нават з А. У глыбіні адчуваецца штосьці вялікае, моцнае. Яно рвецца са слізкіх абдымкаў штодзённшчыны. Хваравіта ўспрымаю фальшывае, бруднае. І страшэннае, аграмаднае пачуццё незадаволенасці сабой. Нейкія бязволле, песімізм. Вось цяпер пішу гэта шчыра, а ў цені – думкі назіральніка. Праўда ў чалавеку – ствараецца разам з чалавекам. Воля! Ёсць мэта. Неабходныя веды, уменне, каб быць карыснай, апраўдваць сваё існаванне.

4 снежня

Магу звар'яцець з-за ласкі. Я баюся ласкі чыёй бы там ні было. Я бяссільная перад ласкаю. Чаму ўва мне ўжываецца побач з сарамлівасцю, адноснай дабрынёю – здольнасць паўсюль і заўсёды заўважаць кепскае, фальшывае? Так цяжка жыць. Бачыць, узірацца і не мець магчымасці дапамагчы. Дык жа такое бяздзеянне – душэўная подласць. І ў нас зашмат кепскага...

14 снежня

Паглядзела цудоўны фільм "У озера". Ах, як галоўная гераіня Лена чытае "Скіфаў" Аляксандра Блока! Характарам яна вельмі блізкая мне. Толькі я жыву сярод кніг і кнігамі, а яна яшчэ і бацькам... Драматычны

трохкутнік. Добра разумею яе, бачу ў ёй істотнае сваё, але, здаецца, я яшчэ мякчэй. І гэтая мяккасць, мабыць, лішняя.

1 студзеня, субота, адразу пасля 12-ай, 1972 год

Вітаю, 1972! Я хачу, каб ты быў добрым са мной, патрабавальным і справядлівым. Добра?! Трэба, проста неабходна закончыць на “4” і “5” школу. Паступіць на аддзяленне філасофіі БДУ. Трэба быць добрай і строгай. Трэба свяціць людзям.

7 студзеня

Чытаю зараз пра Блока. Аказваецца, ён блізкі з Дастаеўскім. Мне ж страшна, бо я таксама нейкі падвойны чалавек. І штосьці нібы расцягвае дзве душэўныя палавінкі. У галаву прыходзяць найжахлівыя думкі. Дзіўна, як яшчэ захоўваецца цвярозасць розуму. Як не нарабіла яшчэ глупстваў. І гэтак даўно. Штосьці незразумелае мне самой. Калі б не мая ўсё ж прыроджаная дабрыня, я, мабыць, была б жорсткім чалавекам. Ну як ў маёй душы адначасова могуць ужывацца і чысціня і бруд?! Дваістасць такая адчуваецца не заўсёды, але ж яна ёсць! І я то, як наіўнае дзіця, пяшчотнае, ласкавае, то ганарыстая, халодная, як скала. Мне ж, па сутнасці, увесь час даводзіцца іграць, ці не іграць, а жыць адным з гэтых сваіх “я”. Таму ў характары страшэнная рухомасць. Чагосьці не хапае ў жыцці. Разумных-разумных людзей? Дзеяння? Вось раней жа ці не ўся мая энергія ішла на грамадскую працу.

9 студзеня

Моцна паспрачалася з мамай. Яна лічыць, што нехта зверху павінен паднесці на сподачку добрае жыццё. Што дзяржава падманвае людзей, што няма законаў, якія б спынялі хуліганства, п’янства і г.д. І так разважае не адна ж мая мама. Так думае 98% (калі не 99) мясцовых людзей. Я магла б, вядома, пераканаць яе. Але мама лічыць, што я не ведаю жыцця, што ўсё ў мяне кніжнае. Я ж углядаюся ў жыццё, часам да болю. Імкнуся разабрацца ў людзях. І сама часта пакутую ад несправядлівасці, але не магу яшчэ змагацца супраць яе. Не маю ўзроставага права. Не маральнага, а ўзроставага. Я буду вучыцца. Мне трэба дасягнуць таго, каб ніхто не мог сказаць, што я нічога ў жыцці не разумею. Трэба навучыцца пераконваць, весці людзей за сабой асабістым прыкладам. Так, задумы ў мяне вялікія. Баюся, як бы маё ніякае здароўе не зашкодзіла іх здзяйсненню.

Добра, пакуль я буду маўчаць. Трэба ўмацавацца спачатку, бо гарэнне зараз – дарэмная трата сябе. Цяжкасці загартоўваюць. Трэба толькі не абыходзіць іх, а змушаць саміх сыйсці з дарогі. Будзь стрыманай, трымай сябе ў руках для будучыні! Быць чыстай і сумленнай...

Вельмі-вельмі спадабалася музыка Моцарта. Моцарт – шчырасць. Яго 40-я сімфонія, соль мінор – незвычайны твор.

12 студзеня

Мне абавязкова трэба пісаць. Не змагу жыць, нічога не гаворачы людзям. Патрэба пісання ідзе знутры. Быццам у душы штосьці б’ецца крыламі і просіцца на волю. Такі стан прыходзіць нечакана. Псуецца настрой, нічога не робіцца, усё падае з рук, калі не вазьмуся за пяро і не “надрапаю” чаго-небудзь. А пішацца ж звычайна цяжка. Так рэдка словы гладка льюцца на паперу. З’яўленне нармальнага сказу суправаджаюць роздумы, часам пакутныя, хоць і пішацца шэраговая замалёўка, заметка. Ды гэтая пакута для мяне – радасць. Не магу жыць без пошуку слоў. І адчуваю, як мала я ведаю, якая дубовая яшчэ мова. Ну, гадоў праз дзесяць я хіба змагу пісаць больш-менш прыймальна. Зразумела – праца, яшчэ раз праца. Бясконцая работа над сабой. А якім  бы пустым было маё жыццё без літаратуры!

...І ўсё ж я кепскі чалавек. Крывадушніца. І гэта гаворыць справядлівае “я”. А другая палавіна – ну, хіба ж не крывадушша! – падшэптвае :”Ды не так, не так...” Ну, каго я такая магу зрабіць шчаслівым! Аж сорамна і крыўдна. А хто вінаваты? Толькі сама. Вось так. І не ківай на бацькоў і ўсялякае іншае “мікраасяроддзе”. Толькі ад чалавека залежыць, якім ён будзе: высакародным або нізкім, добранькім або добрым у прамым сэнсе слова. Ставіш высокія мэты! А што робіш штодзень, каб дасягнуць іх??? Так, заўсёды нервы, нервы, а ў іншых, што – не нервы?! Вечна балбочаш аб сабе. Менш трэба аб сваіх памкненнях, парывах, пачуццях разважаць. Вось сшытак – і выказвайся яму! Хопіць, а то яна такая ўзвышаная, іншыя дацягвайцеся да яе. А сама нічога не вартая!

І як мне выйсці з гэтага замкнёнага кола, як стаць чалавекам не толькі ў разважаннях, а ва ўсім? Каб сам-насам быць такой жа, як і на людзях? Ды ўвогуле не пакідаць пыл і на задворках душы ў надзеі, што туды ніхто не зазірне.

Сёння ж першы сапраўдны дзень зімы. Цудоўны марозік, сонца, пяшчотны снег – а ў душы страшэнная незадаволенасць сабой. Якая неадпаведнасць!.. Мароз люблю. Увогуле зашмат люблю. Ці не азначае гэта, што не люблю нічога?..

14 студзеня

Увесь час, дакладней, вельмі часта адчуваю сябе на мяжы рэальнага. Быццам яшчэ адзін крок і палячу ў бездань, з якой не выбрацца ніколі. Розум мой у хісткім стане ці што... Пакутна, балюча спалучаць псіхалогію чалавечых душ з лірыкай прыроды, прагай цудоўнага. Ды гэта ж усё называецца адным словам – жыццё. А я крою яго на кавалкі і не магу дасягнуць гармоніі. Вечна жыву чаканнем  нейкіх перамен. І то страсна хочацца жыць, то цалкам абыякавай раблюся. Як гэта зразумець?!

16 студзеня

Стаіць траскучы мароз, а мне ўчора падалося, што покаўкі на яблыні вось-вось пырскнуць зеленню і кветам. Сёння ж глянула на вярбу і зноў паўтарыўся гэты мой міраж. Чаму так?!

В. і Т. прачыталі дзённік Л. Не чакала ад іх такога. Сказала ўсё, што думала. В. пагардліва хмыкнула. Т., праўда, як сама ледзь не расплакалася. Ну, не лічаць жа Л. за асобу, адбіраюць права на асабістае жыццё. Божа мой, якая подласць!

19 студзеня

Хадзіла да Н.П. і Л.В. – зноў міжволі манернічаю. Ніяк не атрымліваецца быць самой сабой. Быццам штосьці трымае душу ў абцугах. Чаму? Так сорамна за сябе. Н.П. прывезла апошнія (7 і 8) тамы Канстанціна Паўстоўскага. Удзячная ёй, бо сапраўды да мяне напрамую прамаўляюць яго творы...

23 студзеня

Найчасцей у людзей не хапае сіл, каб ажыццявіць задуманае ў юнацтве, і гэты нерэалізаваны патэнцыял мараў, памкненняў раптам набывае статус жыццёвага вопыту. Гавораць: “Пажывеш, убачыш, як усё робіцца”. Так, сапраўды, рабіць цяжэй, чым марыць і спрачацца, але нічога ў жыцці не даецца проста. Трэба змусіць, навучыць сябе ва ўсім бачыць цудоўнае, адчуваць шчасце ў пераадоленні цяжкасцей. І нават хварэючы, верыць, што хутка выздаравееш і гэта адчуваць шчасцем. Наіўнасць – доля летуценнікаў і дзяцей. Але ж ёсць наіўнасць, якая памагае жыць. Вось, расфіласофствалася... Пэўна ж, я дзіця і назаўсёды, мабыць, ім застануся. Безумоўна, калі наіўнасць і шчырасць належаць толькі дзяцінству.

Увогуле ж у мяне дзіўны характар. Часта сама не ведаю, што зраблю і з цікавасцю назіраю сама за сабой. Толькі адно хіба нязменнае – сэрца. Заўсёды, калі бачу, што некаму кепска, яно абліваецца крывёю. Але ж, гавораць мне, сэрца не галоўнае ў гэтым жыцці! Ды хоць і не галоўнае, я хачу, каб мяне любілі менавіта за сэрца. Не за розум, а за сэрца.

25 студзеня

Апошнім часам аграмаднымі порцыямі паглынаю прыгажосць. І асабліва распаўсюджаную ў прыродзе. Заўсёды ўспрымала яе найвялікшым, пасля чалавека, цудам. Але цяпер наскрозь нібы прасякаюся настроем нябёс, сарамлівай ціхамірнасцю бярозак. Хочацца растварыцца ў аблоках, у дрэвах, у снезе. Усё такое дасканалае, што з болем адчуваеш сваю ненатуральнасць, агаляюцца ўсе слабасці. Зараз бы проста стаяць або ісці і дыхаць прыгажосцю, каб яе водар лячыў твае пачуцці, думкі. Кінуць бы на час усё-усё. Сыйсці ад усіх. Для таго, каб потым вярнуцца да людзей чыстай і пяшчотнай, моцнай і добрай. Мабыць, прыгажосць і вар’яцтва

жывуць побач.

Адчуваю наймацнейшы ўплыў Канстанціна Паўстоўскага. Я б увяла яго "Повесть о жизни" ў школьную праграму па літаратуры. Чытаеш і ўсё проста, ніякіх завіраванняў, цыркаў. Нібы звычайная проза. Так, звычайная! Не знаходжу дакладных слоў, каб выказаць сваё захапленне гэтай прозай. Вось прачытанае мусіць жа паступова адступацца, але час, наадварот, набліжае Паўстоўскага. Адным словам, Паўстоўскі для мяне – гэта нібы само жыццё.

3 лютага

"Фантастычная сімфонія" Берліёза – якая цудоўная музыка! Момантамі проста зачароўвае, захоплівае цалкам.

14 лютага

Хутка мая сямнаццатка. Мой дзень, маё вялікае свята. Сямнаццаць гадоў. Дзіўна, ці праўда, што мне вось-вось 17? Не верыцца. І так хочацца, каб гэты дзень быў ясным і сонечным. Няхай на вуліцы і пахмурна, але сонечна ў душы. Хочацца, каб адбылося штосьці вялікае і цудоўнае, каб усё свяцілася радасцю і ззяла шчасцем...

17 лютага

Мне Сямнаццаць! Сямнаццаць... І адчула сябе як бы пасталеўшай, менавіта адчула штосьці новае ў душы. Падарункі, віншаванні. Цяпер я з гадзіннічкам на руцэ. Мамін падарунак. У гэты мой год мусіць вызначыцца жыццёвы шлях. І хочацца, так хочацца стаць сапраўднай. Дзень жа сёння быў цудоўны, нават сонца выглянула, сагрэла.

І зноў сорамна за сябе. Пачуцці самыя супярэчлівыя. Ды трэба ўзяць сябе ў рукі. Не траць дарма часу. Не звяртай увагі на боль. "Імкненне да шчасця – таксама шчасце". Каханне маё, будзь чыстым і пяшчотным, як музыка Эдварда Грыга...

20 лютага

Што такое любоў, каханне? Да чалавека? Музыку Грыга, яго "Пер Гюнта" ці канцэрт для фартэпіяна з аркестрам зразумела як люблю. Хочацца слухаць бясконца. Святлее навокал і ў душы. Увогуле ж я нібы трэсачка, якую выносіць у жыццёвы акіян. Не разумею сама сябе. Свет то звужаецца, то робіцца велізарным. Што ж, адказ трэба знайсці самой – у музыцы, кнігах, прыродзе, людзях... І не губляць дарэмна часу!

22 лютага

Нядобры я чалавек – паслугу зраблю самую малюсенькую чалавеку і ўжо ўяўляю сабе немаведама што! Трэба навучыцца забываць пра тое добрае, што ты зрабіла людзям, каб гэта добрае стала звычкай, а не

адступленнем ад штодзённасці. Такім чынам, заўсёды помніць пра тое добрае, што табе зрабілі іншыя і выкрэсліваць з галавы зробленае табой! І не іначай!

8 сакавіка

Сёння паўсюль святочны настрой. Мне хвілінамі таксама робіцца весела і радасна, а пасля туга. Хоць вясна і юнацтва бяруць сваё. Нібыта ў паветры скачуць малекулы гарэзлівасці.

О, каб я магла зрабіць людзей шчаслівымі, каб ведала, што жыццё маё прынясе карысць ім, дык не думала б пра асабістае шчасцейка... Супярэчнасці раздзіраюць.

10 сакавіка

Адзінота памагае засяродзіцца. У юнацтве яна, мабыць, неабходная кожнаму, як дождж. Выклікае рост думак. Чытаю Верасаева. У яго вельмі псіхалагічныя рэчы. Падабаюцца. Андрэеў таксама зацікавіў. Увогуле ж у Верасаева знайшла сугучча сваім адчуванням, нібы штосьці праясняецца, але не магу знайсці словы, каб акрэсліць дакладна, што ж менавіта... Воля. Рабіць тое, што трэба. Не губляць дарэмна часу, які сапраўды золатам. Сабраць сябе ў кулак. Больш патрабавальнасці да сябе – менш да іншых. Больш назіральнасці. Самастойнасць.

15 сакавіка

У клубе была сустрэча з пісьменнікамі з Мінску. Рашылася і падышла да Станіслава Пятровіча Шушкевіча са сваім альбомам, ужо калі яны выступалі ў школе-інтэрнаце. Прагледзеў мае выразкі з газет і так упэўнена сказаў, што я магу стаць “творчым працаўніком”. Далучыўся да яго Алесь Махнач. Шушкевіч увогуле бачыць ува мне будучага беларускага празаіка!

А мне сорамна! Страшэнна сорамна! Няма ж ніякіх здольнасцей – ёсць толькі праца. Падманваю людзей. Жах! І нейкая нотка-муха пры тым настойліва гудзе: “Усё ж, маўляў, пахвалілі, ах, якая ты разумная, здольная”. І ад гэтага яшчэ горш. Вучы ўрокі! Нездаровіцца, ну і што, а Мікалая Астроўскага памятаеш?!.

17 сакавіка

Увесь час здаецца, што я ў даўгу перад кімсьці чыстым, светлым... Цяпер найпершая праблема ў матэрыяльным жыцці – выбар факультэту. Філасофія? Журналістыка? Філалогія?

Як цяжка выпрацаваць у сабе ўменне тактоўна абыходзіцца з людзьмі. Не толькі элементарна ветліва, а ў самых тонкіх н’юансах. Навучыцца стрымліваць парывы, міміку твару. Навучыцца бачыць людзей і тады, калі ў цябе гора і калі вялікая радасць. Каб дасягнуць гэтага, трэба

сачыць за кожным жэстам, словам. Менавіта так: узяць сябе ў рукі. Патрабавальнасць да сябе. Не сыходзіць да дробязей, а падымаць іх на ўзровень значнага. Чалавек складаецца з клетак. Так і дробязі ўтвараюць цэласнасць. Значыць – увага і яшчэ раз увага.

Вясна. Мілая, сціплая дзяўчынка. Пакуль яшчэ падлетак, а хутка вырасце ў дзяўчыну, накіне на галаву, плечы калярова-зялёныя вянок і фату, адурманіць, захмяліць цудоўнымі водарамі... Усё ж як гэта здорава – жыць!!!

24 сакавіка

Трэцяя чвэрць фінішыравала! Яшчэ ледзь-ледзь і адсунецца ўбок школьнае жыццё, хоць я і сама ад яго адсоўваюся... Нейк няўтульна жыць. Адусюль вострыя вуглы. Праз два дні выбіраюся разам з Іркай у Мінск. Трэба ўрэшце вызначыцца з факультэтам! Зайсці ў “Піянер Беларусі”. Добра было б купіць пласцінкі з музыкай Грыга і Вагнера. І яшчэ ж выезд у Магілёў на 5-ты з’езд (?) пачынаючых паэтаў і празаікаў.

2 красавіка

Ужо дома. Закончылася маё “турнэ”. Як добра вярнуцца дадому... Ці задаволеная выездамі? Парушыліся мае планы, але не мары. Што ж, філасофія застанецца захапленнем. Урэшце, яе ж вывучаюць на кожным факультэце. Змагацца з матэматыкай на шляху да глыбокага вывучэння філасофіі мне не выпадае. Значыць – філалагічны. Ці паступлю... Злётам задаволеная. Хочацца пісаць, каб і радкі прозы гучалі музыкай, былі ў сабе паэзіяй. Аляксей Пысін – добразычлівы, светлы чалавек. Памятаю яго са святкавання 50-годдзя Івана Данілавіча, калі і ён быў у Дараганаве, выступаў у клубе. Яны ж сябравалі. І з ліпеня 1969 няма ўжо Івана Данілавіча! У Пінкавічах сваіх пад дубамі спачывае Янка Непачаловіч... Удзячная лёсу, што яшчэ да пераезду ў Мінск далося тры гады ў яго літаратурным гуртку пазаймацца, “Золак” выпускаць.

8 красавіка

Што ж мне, беднай, рабіць?! Румзаю. Ісці на здзелку з сумленнем? Анекдатычна на першы погляд. Кума. Папракаюць у тым, што адмаўляюся ад сваякоў, лічу сябе лепшай за ўсіх. Але ж я камсамолка. Ліда і Віця пакрыўдзяцца. Ды аб якой унутранай чыстаце можа ісці гаворка пасля царквы?! Калі быць верным нечаму, дык без хістанняў. Не, не паеду хрысціць Ігарка, хоць і пакрыўдзяцца. Хай само жыццё маю рацыю давядзе.

17 красавіка

Паштоўка ад Станіслава Пятровіча Шушкевіча! Была фізкультура, я якраз разбягалася, каб праз каня скочыць, а паштальёнка паклікала –

сказала, што з Мінску мне напісалі. Падтрымлівае мяне на духу Станіслаў Пятровіч. Запрашае званіць і заязджаць у Мінску. Дзякуй!!!

10 красавіка

Вось і пачалося ўзаемадзеянне маіх прынцыпаў з рэчаіснасцю. Дакладней, працягнулася. Адказны таварыш з ЦК ЛКСМБ, уласна інструктар, у райкоме асудзіў маю "апалітычнасць". Ён не змог даказаць сваю слушнасць. Гаворыць як па-пісанаму, але не пераконвае, не ўваходзіць у сітуацыю – слізгае па паверхні. Ён ведае, як мусіць быць. Ёсць план, згодна якога ўсе мусяць уступіць у камсамол. Незалежна ад таго, вартыя ці не. Сорам! Ладна, галоўнае заставацца вернай сваім прынцыпам, не крывіць душой.

23 красавіка

Адзначылі "Мой Гальштук" другім месцам у конкурсе "Піянера Беларусі". Мне сапраўды вельмі важна ўсё, што звязана з маёй піянерыяй!

*Таварыш старшая важатая! Дружына імя Героя Савецкага Саюза Алега Кашавога да правядзення справаздачна-выбарнага збора гатова.*

*Задзіра-вецер паспешна гартаў залатую лістоту дрэў. Над галавою – казка з воблакаў.*

*Помніш гэты дзень, мой Гальштук? Вядома! Ты ж быў побач з сэрцам. І твае крыльцы ўстрапянуліся, калі яно забілася барабанным пошчакам.*

*Помніш, мой Гальштук, якімі былі два гады да гэтага дня? Віхурыста-радасныя, клопатныя...Ты ж ведаеш – пачэсна быць уперадзе, але цяжка і адказна.*

*Жылі мы весела. Што значыць адно падарожжа ў краіну ЭРА – краіну Энтузіястаў, Рамантыкаў, Актывістаў! З сабою ў далёкі шлях захапілі аптымізм, піянерскі задор, песню.*

*У канцы падарожжа, калі нашу дружыну прызналі лепшай у раёне, "на сёмым небе" ад шчасця разам са мною быў і ты, мой Гальштук!*

*...Дзесьці блізка, накінуўшы на плечы белы шаль, заціхлі пяшчотныя вішні. Вялізнаю рыбінай плюскатала Пціч. А на паляне раптоўна ўзнялася вогненная кветка – піянерскі касцёр.*

*Мой Гальштук! Цяпер, калі падрасла, я зразумела – жыццё робяць чыстымі і прыгожымі такія кастры ў душах людзей. Хто запальвае іх? Пэўна, іскрынкі жывой кветкі на паляне.*

*Яшчэ, мой Гальштук, у полымі на паляне я бачу трапяткога жураўля, які рвецца ў неба. Да зорак! А ў кожнага свая зорачка – мара, якая напаўняе сэнсам жыццё. Ты чуеш мяне, мой Гальштук? Мы разам прыйдзем да мары!*

14 мая

Хіба сэнс жыцця ў тым, каб задаволіць свае амбіцыі і застацца на

старонках гісторыі? Якая недарэчнасць! Трэба проста жыць, быць чалавекам. Колькі людзей прайшло да мяне па жыццёвай дарозе, цяпер іду я, а колькі пройдзе пасля мяне... Што такое вядомасць? Мэта кар'ерыста, які, каб аздобіць сваю шэрасць, гатовы ісці па галовах? Сапраўды вялікія людзі проста выконваюць з любоўю сваю працу: пішуць карціны, кнігі, музыку, не думаючы пра славу. Але яна сама іх знаходзіць. А хіба ўсім суджана пакінуць аўтографы на вякі? Няўжо любоў, павага родных, сяброў, знаёмых не вартыя павагі?

Не ведаю, ці дасягну сваёй мэты – журналістыкі. Ну, а калі што, пайду працаваць у школу. Лепш добры настаўнік, чым кепскі журналіст. Галоўнае – быць на сваім месцы.

18 мая

Сяджу над урокамі, а за вакном – насычаная гукамі ноч. Салавей. Мілая птаха кліча ва ўтульныя пакоі цемнаты. Працуе дзесь трактар, б'юцца аб шыбы жукі. І салавей заліваецца, трэба ж, недзе зусім блізка, хіба, у вішнях напрыканцы саду...

Экзамены! Мае нервы не вытрымаюць. Гэтай вясной неяк асабліва ўспрымаецца прыгажосць, а прасякацца ёю нельга! Няма часу. Салавей – маленькая шэрая пташка, а колькі радасці ад яго людзям! Сапраўды выводзіць на нейкі момант з вузкай, ухабістай каляіны... Да канца школьнага жыцця – дзевяць дзён! Мне страшна, баюся такой блізкай ужо перамены абставін. Вынасілася старая вопратка, а новая яшчэ не гатовая. Матэрыял ёсць, а вось кравец з мяне няважны. Вырасла з аднаго, а не дарасла да наступнага..

.

23 мая

Працаваць над сабой, сабраць у адну кропку ўсе сілы. Вырашаецца пытанне аб тым, ці не надарма пражыты мае сямнаццаць гадоў. Сямнаццаць – гэта ў сярэднім чвэрць жыцця. А магу я смела адстойваць свае прынцыпы? І ці ёсць увогуле яны ў мяне?! Ці сыходзіць ад мяне цяпло? Патрэбная я каму? Ці гатовая да выпрабаванняў, ці не зламаюся? Мне трэба жыць правільна. Галоўнае – праўда, сумленнасць перад сабой, каб не хапацца за туман. Унутраная чыстата і знешняя – адна прамая. Паляпшаць сябе можна толькі праз дапамогу іншым. Смялей у змаганні за праўду – яна ж аснова ўсяго.

25 мая

Сёння свята апошняга званка!!! Плачце і трыумфуйце народы! Ну, я ж -то буду румзаць. Даводжу сябе да ладу. Прыкрае пачуццё пустаты – насоўваецца няўхільна. У апошні раз на ўрокі ў школу...

Ён празвінеў у апошні раз. На лінейцы трымалася. Толькі віншавальная тэлеграма ад Анны Дзянісаўны расхвалявала: "Слаўныя мае...".

Заўсёды нас так называе дарагая першая настаўніца. Трымалася і тады, калі дзяўчынка-першакласніца падбегла з букецікам канвалій. Ну, а пасля расплакалася. Соладка так. Палягчэла. Слёзы аб мінулым, учарашнім. Дзіўна, але цяпер знікла адчуванне пустаты. Добра ведаю, што мне рабіць заўтра і пасля два месяцы. Вось жа ўчора і сёння да званка хандрыла. Вучыць, вучыць, вучыць... Закончаны дзесяты клас – дайшла і да канца гэтага сшытку, да вокладкі. Колькі ведае мой дзённік – і добрага, і кепскага. З табой, мой дарагі Дзённік, заўсёды шчырая. Мае сумненні і трывогі найперш патрабуюць цябе. Радасць радзей просіцца на старонкі. Радасць, поспехі трэба несці людзям. А вось горыч, няўпэўненасць, песімізм трымаць пад панцырам. Пасталела аднак, што даносяць і два сшыткі дзённіка. Шкада распачынаць новы. Трэба ляпіць, ствараць сябе. Жыць толькі для сябе – эгаізм.

27 мая

Cognosce te ipsum! Так, пазнай сябе. Першы запіс у новым сшытку.

Білеты зусім не паддаюцца. У галаве пустата. Здаецца ж цалкам гатова да ўспрыняцця новага і да паўтарэння, а штосьці пры тым замінае. Бегаю ад стала да стала. Можа месца не арганізуе ўвагу? Ладна, змушу сябе. Ведаю, што калі мозг працуе нібы ўхаластую, дадаецца штосьці важнае да душы.

Сёння ўвогуле радасны дзень. Тры гады ў камсамоле! Помню, як хадзіла за Валянцінай Іванаўнай, каб даражэнькая важатая дазволіла сямікласнікам уступіць у ЛКСМ. Яна жа дала мне і рэкамендацыю. Спадзяюся, што ніколі не пашкадуе аб гэтым. Я кожны раз з хваляваннем бяру свой білет. І веру, што ніколі не стану абыякавай да яго, што заўсёды ў сэрцы будзе ўзнікаць хваля пяшчоты да чырвонай кніжачкі. Цвёрда ведаю, што галоўнае быць сумленнай. Праўда, справядлівасць, а ў засені іх дабрыня, якая не мае межаў. Як хочацца крыкнуць: “Людзі! Будзьце добрымі адзін да другога”. Каб магла, як горкаўскі Данка, сэрцам сваім асвятліць шлях да паразумення ўсіх! Я хачу шчасця людзям больш, чым сабе. Цяпер адчуваю, што ў гэтым найвялікшае мае шчасце. У гэтым сэнс жыцця. Калі б кожны прыняў, як закон, імкненне да шчасця іншых, не было б хандры, суму, паныласці. Няма патрэбы гаварыць высокія словы на кожным кроку. Іх бляск можа сляпіць так, што не ўбачыш таго, што вакол і побач. Не летуценіць, а быць удзельнікам жыцця. Не пасіўным назіральнікам, а актыўным змагаром: *Лишь тот достоин жизни и свободы, кто каждый день на бой идёт за них*.

І яшчэ сёння адна вялікая падзея – Масква! Яна стала бліжэй да нас, як скарацілася адлегласць да сталіцы. Праз Дараганава ад сёння ідзе цягнік “Масква – Баранавічы”. Масква! Святое імя. Хачу ў Маскву. І баюся. Баюся, што не вытрымаю радасці сустрэчы. Смешна нібы, але ж шчыра.

31 мая

Заўтра – першы экзамен. Сачыненне. Упэўненая, што напішу кепска, не ў належнай форме. Нават няма настрою чытаць крытыку. Увогуле хутчэй бы праляцелі гэтыя дваццаць чатыры дні!

Хочацца з’ехаць з дому. Трэба разабрацца ў сабе, а звыклыя абставіны трымаюць у ранейшым. Каханне, маё горкае каханне... Як добра, што ты ёсць. Няхай боль, пакута, але ж гэта шчасце, шчасце – кахаць. Момантамі нясцерпна цяжка. Калі раней супакойваў Грыг, дык цяпер ратуе Бетховен...

1 чэрвеня

Сачыненне напісана. Адчуванне, нібы звычайны ўрок адбыла. Прыйшла, як заўсёды, у школу, пра кветкі клапацілася... Трымала сябе. Толькі, калі адкрывалі канверт з тэмамі, унутры закалацілася. “Я – грамадзянін Савецкага Саюза”. Тэма цяжкая сваёй неабсяжнасцю. Незадаволеная напіса-ным. Але ж ёсць сілы рыхтавацца да гісторыі і грамадазнаўства. Быць стрыманей!

Проста любіць людзей высакародных і моцных, добрых і разумных. А вось паспрабуй палюбіць іх подленькіх і труслівых, жорсткіх і хітрых. Палюбіць за тое, што *людзі* яны. І гэтай любоўю выпалі кепскае, а на попеле ўзрасці вартае чалавека. Вось гэта любоў. А сюсюканне і доўгія размовы ні аб чым – проста здрадаю. Не абыходзіць бруд, а ачышчаць ад яго душы. Пакуль няма сіл жыць так. Але мушу зрабіць усё, каб людзі побач са мной рабіліся лепшымі. Маральны абавязак – любоў да жыцця. Няхай хандра часам захліствае, але гэта на карысць. Каб сябе самаё спазнаць, трэба мець самы розны вопыт. Увогуле ж прага жыцця ў самых розных выявах. Я радуюся ёй, вітаю і болей таго – раздзьмухваю яшчэ болей любоў да ўсяго: музыкі, дажджу, пчол, кветак, травы... У якой прафесіі ні сцверджуся, а буду найперш Чалавекам. Не ведаю, чаго змагу дасягнуць. Праца і сіла волі. А ў гадоў дваццаць дакладна вызначыцца. Галоўнае – быць сумленнай з людзьмі і сабой. І стражэй, стражэй ацэньваць свае ўчынкі. Дакладна ведаю: дабрыня і сіла волі непадзельныя. Толькі моцны можа быць добрым, а не добранькім.

2 чэрвеня

Сёння з Моцартам. А учора – Бетховен. Нічога не магла слухаць апрача 40-ой сімфоніі – свежасць раніцы, іскрыстыя колеры. У Бетховена – глыбокія, вагомасныя тоны. У Моцарта – празрыстыя, лёгкія.

Пахвала патрэбная. Шчырая – ацэнка руху наперад, вынік працы. Але пахвала найчасцей падобная на імгліста-падманлівае святло месяца. Калі холадна, дык не сагрэе. Толькі настойліваю працай дасягаюцца сапраўдныя сонечнасць і цяпло. Цвяроза і аб’ектыўна падыходзіць да сваіх магчымасцей і вынікаў!

І што за беспрасветная хандра, туга находзяць на мяне?! Быццам марскія прылівы. Праз вызначаны час першыя сімптомы, а пасля і ўлада болю. Люблю жыццё, а ў такія моманты здольная кінуцца ў бездань. І чым большай была радасць, тым глыбей, усеахопней боль. Ува мне два кантрастных чалавекі. Адна частка мяне высакародная, чыстая, а другая – пошленькая, часам дробязная, страшэнна нягеглая. І змагаюцца між сабой, а найчасцей перамагае якраз другая. Слабачка я!

7 чэрвеня

Каб адчуць радасць, трэба згубіць рэч, перахваляваўцца, а потым знайсці яе. Людзі не ўсведамляюць свайго шчасця, а толькі страціўшы яго, становяцца відушчымі. І шукаюць, шукаюць... Па сачыненню – 5\5, па гісторыі і грамадазнаўству – 5. Пакуль здаецца лёгка. Ды засталося самае цяжкае. І на экзаменах, і ў жыцці.

Чалавек мае патрэбу ў дачыненнях з рознымі людзьмі, з рознымі характарамі, бо так найглыбей праяўляецца індывідуальнасць. Абуджаецца тое невядомае, што прыхавана за звыклым. Чым багацей унутрана чалавек, тым шырэйшае ў яго кола сяброў. І тут узаемная сувязь: ты людзям – людзі табе.

Няма ідэальных людзей. І ідэал паняцце адноснае, але без ідэалаў жыць нельга. Ідэал – чалавек, у якім больш, чым у некім іншым, канцэнтруюцца рысы, якія неабходна напрацоўваць кожнаму.

Добра, мушу старанна, прадуктыўна вучыць фізіку. Універсітэт... ці вартая я ўніверсітэта?.. Ну, зубрыць. І воля, воля, кантраляваць кожны жэст, рух.

12 чэрвеня

Па фізіцы пяцёрка! 32-градусная гарачыня, якая адурманьвае, а трэба вучыць хімію.

Надвячорак. Што за новыя адчуванні? Мне раптам захацелася сына. Каб ён увайшоў у жыццё праз гадоў сем. І каб ён ганарыўся мамай. І мама ім. Сын... Маленькі мужчына. Накатвае хваляю мара аб утульным шчасці дома. Аб хлопчыку з бясконцымі пытаннямі. Дзіўна. І што гэта сёння... Будзе шчасце, будзе. Павінна быць, а калі не... Але ж лепш марыць і быць пэўнаю ў добрым.

24 чэрвеня

Экзамены здадзены. Геаметрыя – 5. Але чамусьці няма радасці, ад якой лёгка, крылата. Вучыла як магла, наколькі ў маіх сілах. Усё адно пачуццё незадаволенасці.

Як здорава, што выйшла пастанова аб п'янстве. Даўно пара пачаць рашучы наступ на гэтае зло. Ледзь не скакала. Алкаголь жа псуе жыццё не толькі асобнаму чалавеку, яго сям'і, але і ўсім навокал. Цяпер бы

пашырыць кола зацікаўлення людзей. Ва ўніверсітэты культуры варта было б змушаць ісці нават сілай. Калі чалавек вучыцца хадзіць, робіць першыя крокі, падае, б'ецца. Але ж гэта непазбежна. Так і з эстэтычным выхаваннем. Нічога, дойдуць у хуткім часе і да гэтага.

28 чэрвеня

Была ў Асіповічах, у рэдакцыі раёнкі. І набралася сумневаў адносна філфаку. А можа журналістыка сапраўды мае "прызванне", як рэдактар пераконваў? І не трэба акольных шляхоў?! Заўтра выпускны вечар, а ніякай радасці і хвалявання.

30 чэрвеня

Хаджу, бурчу, ныю... Вечар прайшоў лепш, чым чакала. Заўтра сабантуй – не хачу! І сорамна: ад калектыву адрываюся. Не хочацца пісаць. Дзіўны стан, як напаўняюся чымсьці незразумелым – пакуль ці ўвогуле? Атрымала рэкамендацыю для паступення на філфак ад старшыні Магілёўскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Васіля Матэвушава.

5 ліпеня

Дакументы ў прыёмную камісію філалагічнага факультэта здадзены. Сёння вярнулася з Мінску. Зноў адчуваю сябе чалавекам. Вось жа непаразуменне – заўсёды "забываю" сябе дома, куды б ні паехала. У Асіповічах нават "шарыкі" ў іншы бок пачынаюць вярцецца, а пра Мінск і гаварыць няма чаго. І дакуль гэта будзе працягвацца? Праўда, цяпер трымалася лепш, але... Была ў "Піянеры Беларусі". Літаратурны супрацоўнік Міхась Зарэмба напісаў характарыстыку на "юнага карэспандэнта Галіну С-к". Колькі гадоў таму я за яго подпісам першы ліст атрымала? З сёмага класа ў "П/Б" пачала пісаць і ўдзячная М. Зарэмбе, бо ён жа найчасцей мне адказваў і займаўся маімі матэрыяламі.

8 ліпеня

У гэтым годзе не паступлю. Ведаю дакладна. Такі агромны аб'ём матэрыялу не ўлезе ў маю дубовую галаванькў. Пайду працаваць важатай. Хоць, зразумела, хочацца вучыцца.

Зноў сёння да цябе, мой Дзённік – беспрасветная хандра. Хоць бы не звар'яцець. Здаецца, што чую, як пульсіруюць нервы. І яшчэ гэтая ўпэўненасць навокал у тым, што я паступлю. Супрацьлеглая маім прадчуванням. Ёсць, пэўна ж, думкі аб тым, што атэстат нічогісты, а да яго і характарыстыкі-рэкамендацыі яшчэ. Але ж гэта толькі шансы-н'юансы. Так, як звычайна, думкі пра тое, як будзе, калі стану студэнткай, і што, як не ўдасцца... Розумам цвяроза ўсведамляю, што куды мне ва ўніверсітэт. Прыйшоў выклік на экзамены. 30-га ліпеня трэба быць у прыёмнай камісіі. Так, буду. А 25 жніўня паеду з Дараганава ў Асіповічы, у райком,

прасіцца на працу важатай... Бо не вартая таго, каб вучыцца ва ўніверсітэце!

19 ліпеня

Ёсць людзі, адносіны з якімі нібы ўзыходжанне на горную вяршыню... Знайшла сівы волас! Рыхтуюся да экзаменаў. Як жа несправядліва, што ўсходнія славяне раздзяліліся на беларусаў, рускіх, украінцаў. Разам былі б мацнейшымі. Адна магутная плынь, а так тры ракі. Вось пачуццё віны перад беларускай мовай, што іду на рускае аддзяленне. Нібы здраджваю нацыянальнаму, а люблю ж сваю родную мову. Ды на яе глядзяць цяпер як на нейкі архаізм. Вакол гавораць у асноўным па-руску. Непрыемна, крыўдна. І сябе апраўдваю тым, што беларускую ведаю лепш за рускую...

28 ліпеня

Учора былі з мамай у кіно. Калі вярталіся, яна сказала, што са мной найлепш хадзіць у клуб. Як выразна адчулася, што няма іншага чалавека, якому б даражэй быў кожны мой уздых, мая слязінка, мой поспех. Яна дала жыццё дзіцяці-крыкуну, выкарміла сваім малаком. А цяпер як адрывае ад сэрца семнаццацігадовага чалавека. Мілая мая мама, як цяжка табе ўсе гэтыя 25 гадоў. Твая чулая душа пакутавала, стагнала. Жыццё толькі дзеля нас з братам. І як можна крыўдаваць, што не разумела мяне, той, якая глытала кнігу за кнігай. Да тваіх грудзей можна прыціснуцца моцна-моцна, выплакацца, скінуць цяжар перажыванняў.

У мамы глыбокі, цэласны характар, як з аднаго кавалку скроены. Яна шчасліва пазбаўлена супярэчнасцей, любіць людзей, дзейсная ў спачуванні. Вось неўзабаве зноў пачне ссыпаць у мяшочкі крупы, цукар, каб праведаць бабулю Параскеву, што зусім адна засталася, хоць была ж у яе сям'я, дзеці... Пяшчота, пяшчота. Мама, люблю цябе...

1 жніўня

Як сон – няўжо за плячыма ўжо першы экзамен... Пісала сачыненне на тэму "Я радуюсь маршу, которым идём..." У. Маякоўскі. Перапрацавала школьнае экзаменацыйнае. Правяла паралелі. Школьным патрабаванням адпавядае, а ўніверсітэцкім? Вялікі запытальны знак. Можа, і памылак нарабіла. Спадзяюся, што не на "двойку" і варта рыхтавацца да вусных мовы і літаратуры.

2 жніўня

Вучыцца ва ўніверсітэце хочацца! У студэнцкую б аўдыторыю! Люблю Мінск сам па сабе і ацэньваю яго магчымасці для развіцця. Заўтра – экзамен. Надзей мала, але трэба ведаць, што ў барацьбе дзеля перамогі зроблена ўсё.

"Чацьвёрка" па сачыненні. Не паступлю?!

3 жніўня

І сёння атрымала чарговую “чацьвёрку”. Здаецца, адказвала правільна, а нейкім чынам пераўтварылі ў няправільнае. Не далі адказваць, сабрацца з думкамі – не чакала такога ўсё ж тут. Як пацямнела адразу ўсё навокал!

Трымаюся дзякуючы наведванню Станіслава Пятровіча Шушкевіча. Ён вельмі добры чалавек. Сыходзіць ад яго нейкая дзіцячасць, нават нібы наіўнасць. Люблю людзей, якія захавалі на ўсё жыццё зарад бадзёрасці, непасрэднасці юных гадоў. Надзя, яго дачка, вельмі мілы чалавек. Галоўнае, што ёсць ідэалы, дабрыня і, мабыць, воля. Мы яшчэ абавязкова сустрэнемся і, мабыць, пасябруем. Таксама паступае на філфак.

6 жніўня

Па гісторыі літаральна з-за “мамы і таты” атрымала “чацьвёрку”. Ну, не выракаюся я сваіх “простых” бацькоў. Няўжо няма справядлівасці ва ўніверсітэце? Адказала ж бездакорна на ўсе пытанні, а апошняе было – пра бацькоў. Па гісторыі ж у школе ад пятага па дзесяты клас ніводной нават бягучай “чацьвёркі” не мела. Перад дзвярыма яшчэ кансультавала дзяўчат, і чула, як іншыя адказвалі. Што ж, з’язджаць?! Вось так, з кепскімі думкамі пра людзей? Шансаў стаць студэнткай ужо няма. Але ж трэба перажыць усю сітуацыю...

7 жніўня

Мушу вучыць deutsch. Дзесяць тэм сёння – як хочаш! Не распускацца, падцягнуцца. Пойдзеш працаваць. Няўжо нельга жыць без універсітэта? Галоўнае – заставацца чалавекам.

Сёння ў Шушкевічаў пазнаёмілася з сябрам Станіслава Пятровіча паэтам Сцяпанам Ліхадзіеўскім, які жыве, працуе ва ўніверсітэце ў Ташкенце. Год таму чытала ў “Полымі” аб іх сяброўстве і вось убачыла побач абодвух.

Як кепска – нікому не зразумець. Вядома, засмучае тое, што не паступіла. І – справядлівасць! Ведала, што бруду шмат, але каб у такой ступені сабрана было ў найлепшым ВНУ рэспублікі – сюрпрыз. Разгубленасць, адхвасталі па душы. Аднак па-ранейшаму належыць ісці прамым шляхам. Буду змагацца за праўду і верыць у жыццё. У 20-я гады было цяжка, жорстка, а выстаялі. І ў імя Валерыя Банівура я мушу быць чалавекам.

8 жніўня

Гэтак можна звар’яцець. Як кепска! Ледзь не патрапіла пад машыну. Агіда. Хочацца з’ехаць дадому, ісці працаваць і не прыніжацца. Хіба зразумеюць мяне? Мушу папытацца аб справядлівасці. Гэты марш-кідок перад экзаменамі даў, вядома, шмат. Літаратуру ў аб’ёме сярэдняй школы лепш вывучыць я ўжо не магу. Трэба было б прайсці курс ВНУ. А

гісторыя? Такое адчуванне, што ў любы момант грудзі разарвуцца ад болю. Толькі б вытрымаць, выстаяць. Што ж, бывай, мара! На дзённае лепш хіба і не рабіць болей спроб. Бацькоў мяняць я не збіраюся. Пастутупаць у наступным годзе – значыць яшчэ раз прыніжацца. Так увогуле можна ўзненавідзець жыццё.

10 жніўня

Па deutsch – “пяцёрка”. Вось цуд! Найгорш па нямецкай мове, хіба, была падрыхтаваная, а атрымала “выдатна”. Пыталася шаноўная экзаменатарка шмат, але па справе. Мне нават спадабалася адказваць. Вось бы ўсе так! Выйшла змучаная, гатовая ўпасці, але шчаслівая. І дзякуй маёй дарагой настаўніцы Ніне Антонаўне Арловай...

12 жніўня

Цяпер каля трох гадзін ночы. Сяджу на асіповіцкім вакзале. Мільгаюць, праплываюць, перавальваюцца... людзі. Сем гадзін чакала субяседаванне. Конкурс – шэсць кандыдатаў на адно месца. У адпаведнасці з баламі і заходзілі ў пакой. Што мяне ўтрымала ля тых дзвярэй?! На намесніка дэкана зрабіў уражанне мой альбом з газетнымі публікацыямі: “О, сколько написала...” Пакінуў у сябе з тым, каб прайшла яшчэ раз паўторна субяседаванне. Ці будзе штосьці з таго? Як хочацца паступіць!

19 жніўня

Зноў ноч на вакзале: спазнілася на дызель. Пакуты працягваюцца. Як нядобра на душы з-за гэтых “варыяцый” з паступленнем! Такое адчуванне, нібы абкрадаю некага. Не прымуць жа! Проста не абарвалі адным разам нітачку-надзею, а цягнуць, цягнуць, пакуль яна не лопне. І так пакутна, балюча гэта! Хіба і дарма, бо, каб пэўна ведала, што праца наперадзе, рыхтавалася б адпаведна, а зараз імгла пакуль...

Вельмі мілыя Надзя, Ружа Шушкевічы. У іх, з імі сапраўды добра. Лёгка дыхаецца, свабодна. Прапануюць, калі паступлю, жыць у іх. У прынцыпе цудоўна, але ж гэта – Шушкевічы!!! Сорамна мне... Дваццаць пятага зноў у Мінск за дакументамі і альбомам. Калі б прынялі, усё надта ж добра склалася б, а ў маім жыцці такое не прадугледжана...

20 жніўня

Я шчыра люблю, абураюся, спрачаюся, спачуваю людзям, хачу дапамагчы ім. Але ў глыбіні душы жыве чалавек, незалежны ад мяне ж. Ён глядзіць на свет як крытык. Сартуе ўражанні: варта помніць, не варта... Я буду пісаць. Калі застануся самой сабой, не змагу не пісаць. Не забыць усяго таго, што адбываецца штодня. Хачу, каб пра простых людзей, якія мне дарагія, ведалі ўсе. Таму што яны *сапраўдныя людзі*. Сумленныя, чыстыя, вельмі зямныя. У адказны момант і Лідзія Уладзіміраўна, і Міла

Капітонаўна, і Наталля Пятроўна, і Таццяна Санковіч, і Іра Барташэвіч, і Ліда Дмітрава... стануць на сцежку Банівура, Ульяны Громавай, Зоі Касмадзем'янскай. Я не магу не расказаць усім і кожнаму аб маёй Пцічы, аб маёй бярозе, аб маім лесе, аб маіх полі і дарозе, аб маім небе.

Хачу, каб кожны адчуў пяшчоту да дарагіх мне кляновых лісточкаў. Чалавек, які любіць прыроду, любіць і людзей. Іншая справа, што мы часта аказваемся грубымі ў параўнанні з карункамі бярозы. Так, як шмат сярод нас пошленькіх, заплеснявелых, жорсткіх. Але ж я хачу – не магу інакш! – змагацца за душы чалавечыя. Я не талент, каб падобна Талстому, Чэхаву асвятляць людзям шлях. Пасля Паўстоўскага цяжка сказаць індывідуальна-вартасна аб тым, што навокал цябе. Але я буду працаваць, каб стаць хоць радавой лучынкай. Маёй душы цесна без мары. І не хачу астуджваць свае парыванні, бо без іх і мяне ж няма...

Чытаю Расула Гамзатава. Як вочы адкрыліся: пэўна ж, я павінна пісаць толькі па-беларуску. На мове маіх продкаў. Магчыма, нічога талковага з мяне і не выйдзе, але чалавек мусіць цягнуцца да зорак. Тады выпростваюцца плечы, страйнее пастава. Знаць дасканала рускую мову неабходна. Беларускую ўдасканальваць да прафесійнага ўзроўню ў стане сама. Пакуль не атрымліваецца выказаць свае пачуцці, але сёння пераломны дзень. Зямля не гайдаецца ўжо пад нагамі.

21 жніўня

Жнівень на зыходзе. Жоўтыя сціrты, нібы рыцарскія шлемы, пакінутыя на полі пасля бітвы. Жыта абмалочана. Склалі галовы буйны моладцы. Колас без зерня – не колас. Шлем без рыцара – сірата. Месяцамі, вечнасць сваю, люляла сцябло хлеб. І вось аддало людям сваё дзіцятка, свой лёс, а само засталося, быццам шлем, без рыцара. Праз год, магчыма, нясмела выгляне з-пад зямлі плоць і кроў той сцябліны, зернейка з коласа. Прашумяць дажджы. Зноў будзе жнівень. Асірацее поле. Устануць шлемы без рыцараў. І так год за годам. Тужліва. Ды каб з году ў год цягнуліся каласы ў сінь, не абысціся без шлемаў...

Увогуле настрой з-за няпэўнасці складаны. І бедная мая мама хвалюецца, пакутуе нават больш за мяне. Сілы, так патрэбныя, глынае чаканне. Ужо б сказалі адразу, што я за бортам...

22 жніўня

Вечара такога, як учарашні, не будзе ў маім жыцці ніколі. Так, буду сядаць за школьную парту як госць. Учора ж сядзела дзяўчынка-дзяўчына. Нібы дзяцінства маё і юнацтва працягнулі рукі адно другому. Абняліся. Радасць і туга зліліся ў адно цэлае. І кроплі слёз... Аб чым?.. Аб добрым і кепскім, пяшчотным і жорсткім. Аб ляльцы, якая з дачкі ператварылася ў ляльку. Аб вечарах, калі за дзве гадзіны роздумаў на паперу клалася толькі чатыры дзіцячых радкі. Аб празе кахання, а, магчыма, проста сябра...

“Сёння незвычайны ўрок. Урок аб той складанай рэчы, імя якой жыццё, – сказала Міла Капітонаўна. – Канспектаваць неабавязкова”.

Як вытрымаць паперы, як раскрыць на ёй пачуцці, якімі наскрозь прасякаецца душа...Няма такіх слоў у мяне. Туга – і не туга, радасць – і не радасць. Тое, што ачышчае, уздымае, дорыць крылы. У такія хвіліны адчувальна сталееш, адкрываеш нанова жыццё. У такія хвіліны ў душы “сур’ёзная“ музыка, класіка. Нібы ўдары сэрца па клавішах цудоўнага інструмента нараджаюць цудоўныя гукі, моцныя, страсныя, пяшчотныя.

26 жніўня

Вярнулася з Мінску. Сваю паразу хацела прыняць сама, каб тое, што адаб’ецца на маім твары, не бачыў ніхто з блізкіх людзей. У прыватнасці, Надзя Ш-ч, бо мы з ёй сустракаліся ля філфака на Чырвонаармейскай. Ішла за дакументамі і альбомам, але ж няпэўнасць працягваецца. Намеснік дэкана сказаў: “Я думаю, што вы паступіце...” Рэктару збіраюцца паказваць мой альбом.

Толькі ж мая зорачка хіба шчыльна зацягнулася хмарамі. Можа, праўда, і на карысць нечаму ўва мне, што так расцягнуўся неспакой. Хваляванні ў маім узросце працуюць на характар, мусяць працаваць. Трымацца! А чаму гавораць суботні, нядзельны вечар, а не ўжываюцца формы панядзелкавы, аўторкавы і г.д.? Вось дык думкі.

26 жніўня

Поўня, нібы шар з юрлівай жоўтай ртуці, коўзаецца па жывым люстэрку вады. Мігцяць вільготнымі вачыма зоркі. Рака ўздымае над сваім пругкім целам беладымнае покрыва. Туман плыве то сівой грывай, то мяккім вэлюмам. Не хапае слоў, каб выказаць пачуцці. Ні ў адным мастацкім музеі свету не знойдзеш такой прыгажосці, у якую можна ўвайсці, апусціць руку ў люстэрка, зачарпнуць зорку, а праз хвіліну зноў убачыць у ім, гэтым люстэрку, неба з тваёй зоркай. Які цуд!!! Праглядаюць гарадскія сцены, выдаюцца вострыя вежы. Застыў разведзены над гарадскім ірвом мост. Толькі б не праімчаліся па дарозе ганцы, не парушыўся б спакой гэтай начной дзяржавы. Цішыня...

Мне часам здаецца, што маё сэрца здольнае перанесці любыя гора, бяду, а можа не вытрымаць такога вось боскага хараства, пачуцця радасці, бязмежнага шчасця... Жыццё, нягледзячы на падман, частую бессаромнасць чалавечую, такое цудоўнае! Вось жа зоркі ніколі не пагаснуць. Хай робяць навуковыя разлікі, пераконваюць астраномы, але мае зоркі ніколі не знікнуць – маё сэрца самы магутны тэлескоп.

Не ўсё вылілася на паперу. Штосьці яшчэ засталося і як у бакі водзіць, але ўжо крыху лягчэй. І трэба стаяць да канца. Рэктар дык рэктар, міністр дык міністр. Хачу вучыцца, хоць у душы сумненні варушацца: “Можа, горш за іншых. Куды ж цягнешся!?” Эх, каб быў дасканалы апарат для

## Легенда Беларускага Адраджэння

Так вельмі ўдала была названа ўнікальная выстава ў час прэзентацыі 5-га выпуску факсімільнага выдання газеты “Наша Ніва”, якую 24 сакавіка 2010 года арганізавалі Цэнтральная навуковая бібліятэка імя Якуба Коласа НАН Беларусі і выдавецтва “Тэхналогія”. Перад святам усіх беларусаў “Днём волі і Незалежнасці” (25 сакавіка) атрымалася яшчэ адно выдатнае свята – завяршэнне факсімільнага выдання славутай газеты, якая стала сімвалам беларускага нацыянальнага адраджэння і якая дала назву хоць і кароткаму (усяго 9-гадоваму), але важнаму этапу ў гісторыі Беларусі – “нашаніўскі”. Гэта быў час станаўлення беларускай нацыянальнай ідэі, новай беларускай літаратуры, сучаснай беларускай мовы – і ўсё дзякуючы газеце “Наша Ніва”. Яна маці беларускіх нацыянальных газет.

Поўная зала дзеячоў культуры і навукі ўважліва слухала цікавыя выступы Зміцера Санько, Уладзіміра Конана, Валянціны Лемцюговай, Віталя Скалабана, Аляксандра Лукашанца, Анатоля Сідарэвіча і інш., а таксама прывітальныя словы Ніла Гілевіча, якія зачытаў яго сын Сяргей. Гэтае свята было перш-наперш святам ініцыятара і выдаўца факсімільнага выдання, вядомага навукоўца і галоўнага рэдактара выдавецтва “Тэхналогія” Зміцера Санько, які на працягу 22 гадоў мэтанакіравана збіраў камплект газеты, рыхтаваў і выдаваў яе. Гэта сапраўдны подзвіг, бо ў Беларусі не было ніводнага поўнага збору “Нашай Нівы”. Прыйшлося збіраць нумары газеты не толькі ў бібліятэках і архівах краіны, але і ў суседніх дзяржавах, асабістых зборах. Санько нагадаў выразны сказ айца Аляксандра Надсана: “У Беларусі ёсць дзве выдатныя кнігі: “Біблія” Ф. Скарыны і “Наша Ніва”. Выступоўцы адзначылі многія бакі жыцця і дзейнасці, звязаныя з “Нашай Нівай”: выдатных асоб – заснавальнікаў і рэдактараў, аўтараў – класікаў нашай літаратуры і мовазнаўства, іх самаахвярную дзейнасць і пераследы ўладамі, значэнне дзеля адраджэння мовы, культуры, адукацыі, гісторыі, тлумачэння рэлігійнага пытання, забароны асобных публікацый і цалкам газеты і інш. У 2006 годзе было стагоддзе выхаду ў свет газеты “Наша Ніва”, але адзначылі тады гэтую дату вельмі сціпла – толькі ў Музеі-архіве літаратуры і мастацтва (дырэктар Ганна Запартыка) адбыліся навуковыя чытанні.

Чамусьці ніхто з выступоўцаў не адзначыў актуальнасць “Нашай Нівы”. Як быццам не прайшло больш за 100 гадоў з часу “нашаніўскага” перыяду. Здаецца, што многія публікацыі газеты напісаны цяпер. Ідзе тая ж барацьба за нацыянальнае адраджэнне, беларускую ідэю, развіццё нацыянальнай культуры, мовы, адукацыі, літаратуры, мастацтва. Знакаміты верш Янкі Купалы “Ворагам беларушчыны” і яго покліч “Жыве Беларусь!” надзённы зараз, як і тады. Але сілы беларушчыны не пагаслі, і жыве надзея ў стварэнне не проста самастойнай Рэспублікі Беларусь, а беларускай Беларусі – незалежнай, багатай, дэмакратычнай, еўрапейскай дзяржавы.

## Калектыўныя звароты

У сярэдзіне сакавіка быў у Лечкамісіі, каб атрымаць медычнае заключэнне на права кіраваць аўтамабілем. Па дарозе вырашыў наведаць Ніла Гілевіча, з якім даўно не бачыўся. Размаўлялі на самыя розныя тэмы. Нядаўна і да яго, і да мяне звярнуліся з прапановай падпісаць адзін невялікі зварот – я падпісаў, а Ніл – не. Ён растлумачыў, што ўжо досыць даўно падпісвае такія паперы вельмі асцярожна, бо не адзін раз атрымліваў ад гэтага адмоўны бумеранг у сувязі з зусім іншым вынікам, чым той, на які разлічваў. Нашы подпісы стаяць пад многімі зваротамі і заявамі, на адны з якіх быў станоўчы водгук, на другі – ніякага розгаласу, а на некаторыя – і, сапраўды, не зусім добрыя водгукі.

Я ўспомніў, як у сакавіку 2003 года да мяне звярнуўся Якаў Гутман – старшыня Сусветнага згуртавання яўрэяў Беларусі (ЗША, Нью-Йорк). Я яго працяглы час ведаў, бо ён актыўна ўдзельнічаў у працы Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына”, прэзідэнтам якога я тады быў. Мы нават на Першым з’ездзе беларусаў свету абралі яго сябрам Вялікай Рады. Ён з абурэннем паведаміў мне, што ідзе разбурэнне гістарычнага будынку – сінагогі на вул. Дзмітрава і выдадзена антысеміцкая кніга “По законам подлости”. Далей дадаў, што ў Менск едзе вядомы расейскі спявак Іосіф Кабзон, якому мы пашлем наш зварот аб гэтых падзеях, папросім пры прыездзе ў Менск выказаць уладам сваё незадавальненне і тым самым выратаваць сінагогу ад разбурэння. Апрача таго звярталася ўвага спевака на тое, што яго канцэрт адбудзецца 26 сакавіка ў рамках дня яднання Расеі і Беларусі, якраз пасля 25 сакавіка, якое свабодалюбівыя людзі Беларусі адзначаюць як свой гістарычны Дзень Волі. Мой подпіс у звароце аказаўся першым, а яго таксама падпісалі Зінаіда Бандарэнка, Сяргей Законнікаў, Адам Мальдзіс, Юры Хадыка, а подпіс ініцыятара звароту Якава Гутмана чамусьці адсутнічаў. Іосіф Кабзон атрымаў наш зварот і напісаў рэзалюцыю: “Канцэрт адмяніць”. Калі ў Менску пра гэта даведаліся аматары песеннай творчасці Кабзона, асабліва тыя, якія ўжо набылі білеты на яго канцэрт, жудасна абурыліся, раззлаваліся і пачалі шукаць вінаватага. Вырашылі, што гэта – Гарэцкі, подпіс якога быў першым, а я ў той час нават не ведаў, што Кабзон адмовіўся прыехаць. Хатні тэлефон у Дзень Волі гудзеў як шалёны. Я адсылаў усіх да Якава Гутмана, а яго і след прастыў…

***

Пры жыцці Сталіна пра нейкія звароты не тое што да народа, а нават да ўрада ці ЦК КПСС па сваёй ініцыятыве знізу і падумаць было нельга. Дапускаліся толькі па камандзе зверху. Пазней можна было напісаць пра нейкую прапанову ці скаргу ў розныя ўладныя органы, але лепш гэта было рабіць індывідуальна і ні ў якім разе калектыўна. А найбольш

дзейснымі пры Саветах былі ананімныя лісты, на якія абавязкова рэагавалі хутка і дасканала. Памятую, як мой Тата, акадэмік Гаўрыла Гарэцкі, разам з групай пісьменнікаў падпісаў ліст у ЦК КПБ з прапановай перанесці прах класіка беларускай літаратуры Максіма Багдановіча ў Менск. Вельмі хутка масціты вучоны атрымаў ад маладога прадстаўніка ЦК КПБ моцную прачуханку…

**Дзве юбілейныя даты**

Пры адміністрацыйна-камандным рэжыме, які панаваў у савецкі час і які, на жаль, дамінуе і цяпер, галоўнымі кіраўнікамі краіны з’яўляюцца чыноўнікі, прычым іх колькасць не змяншаецца, і яны ўжо ўяўляюць магутны сацыяльны клас. Чынавенства рэдка калі пакідае рэфарматарскі зуд, які, на жаль, часта мае не зусім разумны і станоўчы напрамак. Звычайна яно мала прыслухоўваецца да спецыялістаў у той ці іншай справе, больш стараецца дагадзіць вышэйстаячаму начальству. Яно ніяк не можа ўспрыняць мудрыя думкі з басні Івана Крылова пра музыкантаў, якіх парассаджваюць то так, то гэтак.

Так адбылося ў 1963 годзе з Інстытутам геалагічных навук АН БССР, які з пачатку свайго заснавання ў 1929 годзе належыў акадэміі і які тады, у сувязі з рэарганізацыяй геалагічнай службы ў Савецкім Саюзе, быў перададзены ў сістэму Дзяржгеалкама і стаў Беларускім навукова-даследчым геолагаразведачным інстытутам (БелНДГРІ). Але жыццё прымушае нават чыноўнікаў папраўляць памылкі і ў 1971 годзе ў Акадэміі навук быў створаны Інстытут геахіміі і геафізікі. Але ўжо новы приступ рэарганізацыі ў 2007 годзе прымусіў старшыню прэзідыума НАН Беларусі і прэм’ер-міністра дзяржавы падпісаць пастанову аб ліквідацыі Інстытута геахіміі і геафізікі, перадачы яго супрацоўнікаў ў БелНДГРІ Мінпрыроды і толькі 20 навукоўцаў – у Інстытут прыродакарыстання НАН Беларусі. На агульным сходзе НАН Беларусі 23 красавіка 2010 года старшыня прэзідыума М.У. Мясніковіч прызнаў, што гэта не прынесла ніякай карысці і дарэмна яны так зрабілі.

У Беларускім дзяржаўным універсітэце кафедра геалогіі была арганізавана ў 1923 годзе (з 1973 года звалася кафедрай глебазнаўства і геалогіі), а ў 1934 годзе адкрыты геолага-глебава-геаграфічны факультэт (з 1937 года пераіменаваны ў геаграфічны). У 1951–1958 гадах у складзе факультэта працавала геалагічнае аддзяленне, якое рыхтавала геолагаў па спецыяльнасці “пошук і разведка месцанараджэнняў карысных выкапняў”, а пасля васьмігадовага перапынку ў 1966 годзе зноў адкрыта (падрыхтоўка ўжо вялася па спецыяльнасці “гідрагеалогія”) і працавала да 1969 года ўключна. Цікава, што выгнанне Інстытута геалагічных навук з АН БССР і абедзве ліквідацыі падрыхтоўкі геолагаў у БДУ адбыліся тады, калі рэктарам БДУ (1952–1956), а затым віцэ-прэзідэнтам АН БССР (1956–

1969) быў геолаг-акадэмік К.І. Лукашоў. Добра, што ўжо ў 1971 годзе пад яго кіраўніцтвам быў створаны ў Акадэміі навук БССР Інстытут геахіміі і геафізікі.

Усе гэтыя рэарганізацыі геалагічнай навукі ў Беларусі я ўспомніў у сувязі з тым, што ў 2010 годзе напярэдадні Дня геолага (першая надзеля красавіка, побач з пачаткам вясны і днём гумару) адзначалі дзве юбілейныя даты: 20-годдзе навукова-даследчага геалагічнага рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "БелГеа" і 15-годдзе кафедры дынамічнай геалогіі геаграфічнага факультэта БДУ.

Яшчэ ў 1981 годзе да мяне ў лабараторыю геатэктонікі Інстытута геахіміі і геафізікі па конкурсу на пасаду старшага навуковага супрацоўніка прыйшоў Віталь Андрэевіч Масквіч – вельмі здольны, ініцыятыўны 34-гадовы геолаг, які ўдала спалучаў навуковыя і арганізацыйныя прыхільнасці. Ён адзін з першых у інстытуце пачаў распрацоўваць падачу заявак на вынаходства, што ў геалогіі вельмі складана зрабіць. Праз 8 гадоў і пасля двухгадовай працы ў Індыі, Віталь Андрэевіч абараніў доктарскую дысертацыю. Ён увесь час шукаў новыя напрамкі ў методыках пошукаў радовішчаў нафты і газа, новых арганізацыйных форм працы. Мне вельмі падабалася яго неспакойная натура, яго часта неспадзяваныя прапановы. Я, як загадчык лабараторыі і дырэктар інстытута, падтрымліваў яго і адчуваў, што яму цесна ў колах інстытута. Тады, ужо ў час перабудовы, можна было пры Інстытуце стварыць малое прадпрыемства, якому дазвалялася весці не толькі навуковую, але і прадпрымальніцкую дзейнасць. Гэта было тое, што так блізка да натуры В. Масквіча. Я ад імя інстытута-заснавальніка падпісаў паперу аб стварэнні малога прадпрыемства, дырэктарам якога быў прызначаны Віталь Масквіч. З таго часу мяне завуць "хросным бацькам" БелГеа.

Выдатны арганізацыйны талент В. Масквіча дазволіў яму, нягледзячы на самыя разнастайныя цяжкасці, праз 10 гадоў з малога прадпрыемства, якое налічвала ўсяго дзесятак супрацоўнікаў, стварыць буйную самастойную геалагічную арганізацыю са штатам супрацоўнікаў да 250-300 чалавек. Мы часта думалі з Масквічом, каб стварыць на базе БелГеа Інстытут геалогіі замежных краін ці Інстытут горных спраў, якіх так не хапае ў Беларусі, але супрацьстаянне чынавенства і раптоўная смерць В. Масквіча 12 красавіка 2002 года не дазволілі ажыццявіць гэтыя задумы.

Пасля смерці Віталя Андрэевіча генеральным дырэктарам БелГеа стала яго жонка Алімпіяда Леанідаўна – не геолаг, а эканаміст па адукацыі. Я з вялікім захапленнем наглядаў, як гэта з знешняга выгляду кволая, а на самой справе моцная жанчына ўпэўнена павяла далей справу свайго незабыўнага мужа. Зараз БелГеа, нягледзячы на тое, што яго перавялі з НАН Беларусі ў Мінпрыроды, жыве і актыўна працуе, а яго заснавальнік, Інстытут геахіміі і геафізікі НАН Беларусі, – памёр…

Калі ліквідавалі падрыхтоўку геолагаў у БДУ, усе геалагічныя арга-

нізацыі Беларусі – і вытворчыя, і навуковыя, – адчулі недахоп маладых спецыялістаў. Я, як дырэктар Інстытута геахіміі і геафізікі, ездзіў па галоўных ВНУ Савецкага Саюза і складаў спісы студэнтаў – жыхароў Беларусі, каб запрасіць іх па заканчэнні навучання на іх Радзіму. Пасля распаду СССР і гэта рабіць стала немагчыма. З дапамогай прафесара Вольгі Якушка ў 1979 годзе дамагліся выпусціць географаў па спецыяльнасці "геамарфалогія", якія бліжэй да геалогіі і якім маглі чытаць лекцыі некаторыя супрацоўнікі нашага інстытута, у тым ліку і я. Больш 10 гадоў я актыўна прабіваў падрыхтоўку геолагаў на геаграфічным факультэце БДУ і толькі ў 1995 годзе з падтрымкай рэктара ўніверсітэта акадэміка Фёдара Капуцкага і дэкана геафака Расціслава Жмойдзяка ўдалося заснаваць кафедру дынамічнай геалогіі, загадчыкам якой па неадменнай прапанове рэктара БДУ прыйшлося стаць мне. Так на геаграфічным факультэце, апрача кафедры глебазнаўства і геалогіі (утворана з кафедры геалогіі), была заснавана яшчэ адна новая кафедра дынамічнай геалогіі, на базе якой і цяпер вядзецца сучасная падрыхтоўка геолагаў. Былі праведзены IV універсітэцкія геалагічныя чытанні "Праблемы рэгіянальнай геалогіі Беларусі", прысвечаныя 15-годдзю заснавання кафедры дынамічнай геалогіі БДУ. Адкрыў чытанні дэкан факультэта прафесар Іван Пірожнік, а вёў – загадчык кафедры прафесар Валерый Губін. З прыемнасцю прывітальнае слова і навуковы даклад зрабіў і я.

## Дымна-жвачныя жанчыны

Часта праходжу міма сярэдняй школы, якая недалёка ад нашага дому. Прыемна глядзець на невялікія групоўкі маладых прыгожых беларусачак. Падыходжу бліжэй і бачу над імі воблака дыму – амаль усе паляць папіросы. Прыслухоўваюся да іх гамонкі – цяжка паверыць: брыдкія словы сыплюць, як гарох. Яны не толькі дымныя, але і брыдкаслоўныя. Знікае чароўнасць, а з ёй і добры настрой…

Саджуся ў тралейбус пасля ўрачыстасці ў БДУ. Насупраць жанчына гадоў пад трыццаць са смакам жуе жвачку, аж прычмоквае. Перыядычна, відаць, ад асалоды, так шырока адкрывае рот, што відаць чырвоны язык з наліплай на яго белай аладкападобнай жованкай. Твар жанчыны не надта прыгожы робіцца зусім непрыемным, а я адчуваю, што падступае млоснасць… Каб не бачыць гэтую жвачную жанчыну, саджуся побач з ёй. На прыпынку дзве сімпатычныя дзяўчынкі. Гляджу – кідаюць акуркі, пускаюць дым і скачуць у наш тралейбус. Весела смяючыся і абдаўшы мяне дымным духам, плюхаюцца на сядзенне насупраць. Тут жа дастаюць жвачкі і пачынаюць чаўкаць. Аказалася, што гэта не проста дымныя дзеўкі, а дымна-жвачныя. Далей я ехаў, не адрываючы вачэй ад акна, за якім мільгацелі прыемныя вясновыя краявіды, а ў галаву ўсё лезла пытанне: "Адкуль такая пошасць напала на нашых маладых жанчын, якая

так псуе іх прыгожасць і пяшчотнасць?”.

## Сто гадоў Вялікаму Беларусу

У час перабудовы і развалу СССР (канец 80-х – пачатак 90-х гадоў мінулага стагоддзя) мы пачалі патроху даведвацца праўду пра нашых беларускіх эмігрантаў, пра якіх бальшавіцкі афіцыёз удзёўбваў нам у галаву, што ўсе яны “здраднікі” і “калабаранты”. Тады адбылося і вяртанне імя Барыса Кіта – спачатку ў невялікіх артыкулах, а ўжо ў 1992 годзе ён сам змог амаль праз 50 гадоў жыцця за межамі Беларусі прыехаць на Бацькаўшчыну. Тады і я з ім пазнаёміўся. Нягледзячы на ўжо досыць сталы ўзрост (82 гады), я ўбачыў жвавага, энергічнага, добразычлівага і абаяльнага чалавека, які загаварыў на цудоўнай беларускай мове. Мы хутка знайшлі агульныя тэмы для размовы і здавалася, што даўно знаёмыя.

Я быў уражаны яго складаным жыццёвым шляхам ад сялянскага хлопчыка да выдатнага навукоўца, педагога і грамадскага дзеяча. Здзіўляла яго жыццяўстойлівасць, мэтанакіраванасць да авалодання ведамі. Ужо вядомы навукоўца ў галіне касманаўтыкі, прафесар матэматыкі, якім ён стаў, маючы толькі званне магістра філасофіі ў галіне матэматыкі, Барыс Уладзіміравіч у 73-гадовым узросце абараніў дысертацыю на навуковую ступень доктара філасофіі ў галіне матэматыкі і гісторыі навукі.

У Акадэмію навук Беларусі паступілі заявы ад акадэміка Юрыя Астроўскага і прафесара Адама Мальдзіса з прапановай абраць Барыса Кіта ганаровым ці замежным членам нашай Акадэміі навук. Я, як віцэ-прэзідэнт АН Беларусі, адказваючы за кадры, заняўся гэтай справай. Бюро Прэзідыума акадэміі якраз абмяркоўвала магчымасць зноў аднавіць такія выбары, якіх ужо не было амаль 35 гадоў. Мае намаганні не прынеслі станоўчага выніку, бо да беларусаў-эмігрантаў ваеннага часу тады яшчэ ставіліся з вялікай асцярогай, ды і нашы фізікі і матэматыкі мала ведалі працы Барыса Кіта.

Зноў мы сустрэліся з Барысам Уладзіміравічам у верасні 1994 г. на Генеральнай асамблеі толькі што заснаванай грамадскай Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі ў Менску. Мы аднагалосна абралі нашага славутага земляка членам акадэміі і яе віцэ-прэзідэнтам. У першую палову 90-х гадоў адбылося выбуховае прызнанне Барыса Кіта як выдатнага навукоўца ў галіне астранаўтыкі і матэматыкі і грамадскага дзеяча, гонара беларускага народа. Ён быў абраны акадэмікам Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі (Парыж, 1994 г.), ганаровым доктарам навук Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы (1994 г.), узнагароджаны залатым медалём Германа Обэрта і Вернера фон Браўна (ФРГ) за ўклад у развіццё астранаўтыкі і інш. З’явілася шмат публікацый пра яго жыццё і дзейнасць, асабліва поўныя Лідзіі Савік. Аповяды Барыса Кіта ў 2001

годдзе запісаў Васіль Быкаў пад назвай “Цярновы шлях”. Шырокая вядомасць да Барыса Уладзіміравіча прыйшла досыць позна, але Бог быў да яго літасцівы і даў яму даўгалецце, каб ён адчуў прызнанне і славу на Радзіме і ва ўсім свеце пры жыцці, а не пасля адыходу ў іншы свет, як гэта часта адбываецца.

У 2000 годзе ён быў абраны ганаровым старшынёй “Рабочай групы Беларуска-Нямецкіх спатканняў”, якая была заснавана пры Свабодным універсітэце Берліна і садзейнічала ўстанаўленню прэміі Барыса Кіта для ўзнагароджання найбольш актыўных дзеячоў беларускай культуры нацыянальнага адраджэння. Такая прэмія ў 2004 годзе стала для мяне адной з самых прыкметных і дарагіх.

Шырока, цёпла і ўзнёсла былі адзначаны 85-гадовы, 90-гадовы, 95-гадовы юбілеі Барыса Кіта, якога часта сталі называць “грамадзянін свету”. Але мяне больш за ўсё ў постаці гэтага волата прыцягвае яго беларускасць. Нягледзячы на неймаверныя цяжкасці свайго жыцця, адрыў ад Бацькаўшчыны, працэсы глабалізацыі, ён заўсёды заставаўся сапраўдным патрыётам Беларусі, прыхільнікам беларушчыны і гэтыя святыя пачуцці перадаваў сваім вучням, калі быў настаўнікам і дырэктарам розных навучальных устаноў і пры паляках, і пры Саветах, і пры немцах. Як ён сам успамінаў: “Пры ўсіх уладах мне даводзілася сядзець у турмах за тое, што я вучыў дзяцей беларускай мове і гісторыі”. Крэда жыцця Барыса Кіта – ягоныя словы: “Усё, што я рабіў у сваім жыцці, я рабіў для маёй Радзімы і яе славы…” З гонарам за Барыса Кіта, якому споўнілася 100 гадоў, хочацца падкрэсліць, што ён застаецца шчырым беларусам, прычым не проста грамадзянінам сваёй Бацькаўшчыны, а – Вялікім Беларусам, вядомым ва ўсім свеце.

***

6 красавіка 2010 года ў зале Палаца мастацтваў адбыліся ўрачыстасці, прысвечаныя 100-гадоваму юбілею Барыса Кіта. Святлана Клімянценка ў “Народнай волі” адзначала: “[…] Усе, хто выступаў на вечарыне ў перапоўненай зале, з любоўю і глыбокай пашанай гаварылі пра сына беларускай вёскі, які стаў сапраўдным Чалавекам свету […], але пры тым застаўся, па яго ўласным прызнанні, 100-працэнтным беларусам.

[…] Аб гэтым ён напісаў у сваім прачулым вітанні “светлым беларусам”, што сабраліся ў гэтай зале. Яго зачытала вядомая навукоўка, аўтар кніг пра Барыса Кіта, яго першы біёграф Лідзія Савік. У выступах старшыні аргкамітэта святкавання пісьменніка Васіля Якавенкі, старшыні МГА “Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына” Алены Макоўскай, майстра пяра і гісторыка Уладзіміра Арлова – лаўрэата прэміі Б. Кіта і міжнароднай прэміі “Еўрапейскі паэт Свабоды”, акадэміка НАН Беларусі Радзіма Гарэцкага, паэта Сяргея Законнікава, дырэктара Наваградскага гісторыка-краязнаўчага музея Тамары Вяршыцкай, старшыні Беларускага

фонду культуры Уладзіміра Гілепа, старшыні Мінскага культурна-асветнага клуба “Спадчына” Анатоля Белага, знанага палітыка Станіслава Шушкевіча, брата юбіляра Льва Кіта, галоўнага рэдактара газеты “Народная воля” Іосіфа Сярэдзіча і іншых паўставала магутная постаць сапраўднага “кіта” навукі і беларускасці…

[…] Варта заўважыць, што нават звыклыя “тэхнічныя прычыны” на гэты раз не вытыркалі нас…”

Калі я па тэлефоне павіншаваў Барыса Уладзіміравіча, у адказ пачуў бадзёры голас шчаслівага чалавека, якому ніколі не дасі столькі гадоў.

## Тату – 110 гадоў

Бацькоў, як і малую Радзіму, чалавек не выбірае, яны даюцца яму ад Бога. Мне і майму брату Усяславу вельмі пашанцавала: лепшых бацькоў, чым нашыя, і лепшай Бацькаўшчыны прыдумаць немагчыма. Тата і Мама разумелі сваіх сыноў, вялі сябе з намі як з роўнымі, бачылі ў нас не проста малых, а разумных людзей. І мы іх успрымалі як лепшых сяброў, якія зразумеюць нас, нашы цяжкасці, крыўды, радасці, параяць і падтрымаюць. Сяброўства з Татам і Мамай і іх любоў – наша шчасце. Таму вясеннія месяцы для мяне асабліва радасныя і светлыя: 13 сакавіка нарадзілася Мама, а 10 красавіка – Тата.

У кнізе “Шчыра, як на духу… Споведзі вядомых людзей Беларусі” (2002) на пытанне: “Які ў Вашым жыцці момант быў самы горкі, нешчаслівы”, я адказаў: “Смерць бацькі і маці”. На пытанне: “Чаго Вы яшчэ хацелі б у жыцці дасягнуць і дачакацца?” – адказаў: “Напісаць кнігу пра братоў Максіма і Гаўрылу Гарэцкіх”. Я рад, што мне да 110-гадовага юбілею Таты ўдалося выдаць кнігу “Браты Гарэцкія” (2009) – дакументальную аповесць, у якой на прыкладзе Максіма і Гаўрылы Гарэцкіх паказаны цяжкі, часта трагічны шлях беларускай інтэлігенцыі, большасць з якой выхадцы з сялянства, на працягу пакутлівага XX стагоддзя. Выйшла з друку мая невялічкая кніжка “Акадэмік Гаўрыла Гарэцкі і Украіна” (2009). Раней удалося надрукаваць кнігу “Акадэмік Гаўрыла Гарэцкі. Успаміны, артыкулы, дакументы. Да 100-годдзя з дня нараджэння” (2000), а ў “Кнігазборы” – Гаўрыла Гарэцкі “ Выбранае” (2002).
У красавіку 2010 года ў чытальнай зале рэдкай кнігі і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я. Коласа адкрылася выстава “Са слаўнага роду Гарэцкіх”, на якой багата і змястоўна паказаны жыццё і дзейнасць Гаўрылы Гарэцкага, чаму спрыялі загадчык аддзела Аляксандр Сцефановіч, супрацоўнікі Таццяна Жук і Віктар Свякла; у Інстытуце прыродакарыстання НАН Беларусі прайшлі XXI навуковыя чытанні, прысвечаныя памяці Г.І. Гарэцкага, а ў чэрвені – XVIII Гарэцкія чытанні, на якіх разглядаюцца жыццё і творчасць Максіма і Гаўрылы Гарэцкіх (да 110 -годдзя апошняга).

2009—2010 гг.

**МАРЫЯ ШАЎЧОНАК**

# Не будзе, як было

## У мяне за плячамі

У мяне за плячамі жыццё ў рукзаку,
А я сцежкай лясною блукаю.
Як сястра, падае мне бярозка руку,
І яе, як сястру, я вітаю.
У мяне за плячамі жыццё…

Дзве дарогі ўсё клічуць мяне нездарма,
Толькі выбраць найлепш мне якую?
Я стаю і не ведаю нават сама,
А зязюля кукуе, кукуе.
Дзве дарогі ўсё клічуць мяне…

Мне здаецца, што іх я прайшла ўжо калісь,
Ды згубіла галоўнае штосьці.
Не пад ногі глядзела, найболей – увысь,
Бо вялі мяне дні маладосці.
Мне здаецца, што я іх прайшла…

Але ж толькі чаму зноў ісці мне па іх?
Я даўно ўжо дзяўчынка не тая.
На адной з тых дарог і бязгучна, і ўслых
Мяне юнае сэрца гукае.
Але ж толькі чаму зноў ісці…

На дарозе другой мае слёзы  і боль,
Мітусня, намаганні пустыя,
І прайсці гэта ўсё мне не хочацца больш,
А душа па іх гэтак жа ные.

На дарозе другой – мае слёзы…

У мяне за плячамі жыццё ў рукзаку,
Хай не клічуць дарогі былыя.
Многа розных дарог у людзей на вяку,
І яны ўсе для іх дарагія.
У мяне за плячамі – жыццё .

* * *

Сэнс жыцця імкнуся я спазнаць,
Ад жыцця чакала я адказу.
Больш за ўсё сказала мне сляза,
Менш за ўсё мне адказала радасць.

Горкі хлеб і горкі краявід,
Горкае паўнеба на змярканні –
Гэта ўсё адсеецца ў нябыт
І пакіне боль расчаравання.

Сэнс жыцця не знойдзеш пры жыцці,
Колькі разглядаць яго ні спробуй.
Будзе расцвітаць ён і цвісці,
А для усіх і кожнага – асобны.

Хай кіпіць спрадвечнае жыццё,
Сыплюцца даспелыя зярняты,
Бо прырода запаўняе ўсё,
Што людзьмі пакуль што не занята.

* * *

Вясна прыходзіла не раз,
прыходзіла, адходзіла.
Яна ізноў прыйшла да нас
І неба распагодзіла.
А распагодзіцца душа
Чамусьці не асмеліцца.
Не супадаюць весні час
І час душы квітнеючы.

* * *

Навошта мудрэць і прарочыць?
Пракорі на небе жывуць.
А я пагляджу ў твае вочы
І ўбачу, як думкі плывуць.
І ўбачу, як час нестамлёны
Змяняе, раўняе, бяжыць
Нам, людзям, даюцца законы,
Каб тут не прарочыць, а жыць.

* * *

Раздае зязюля год за годам.
І гады мільгаюць, як крыло.
Штосьці будзе заўтра, будзе потым,
Але ўжо не будзе, як было.

## Мой Сусвет

Што я ў Сусвеце? Іскрынка святла,
Клеткай грудной паланёна.
Ёсць яшчэ я на зямлі ці была,
Але такіх мільёны.

Дзе мой прытулак, няўжо праз гады
Мне не прабіцца да сонца?
Родныя сцежкі, палеткі, сады,
Вечназялёныя сосны,
Добра мне з вамі, ды ўсё ж не навек,
Прагне душа на свабоду.
Вам не ўтрымаць мяне, я – чалавек,
Значыць, я зорнага роду.

Значыць, вярнуся туды, дзе была
Божай іскрынкай Сусвету.
Людзі заўсёды шукаюць святла
І асвятляюць планету.

* * *

Нясу ў далонях цеплыню
Насустрач сонечнаму дню.

Праменьчык на вадзе ўсміхнецца,
Нібы да сэрца дакранецца.
Зямля і неба сіні дах
Не разумеюць слова “жах”.
Для іх ва ўсім – заканамернасць,
Бясконцасць, вечнасць і бязмернасць.

## Крынічка

Бяжыць вясёлая крынічка,
Бяжыць і ў спёку, і ў мароз.
У ёй бруіцца таямнічасць
І свеціцца шчаслівы лёс.
І шчасцем тым сваім дзяліцца
Яна імкнецца зноў і зноў.
З яе ўсім хочацца напіцца,
Каб раздзяліць яе любоў
Да кожнай кветкі і травінкі,
Да ўсіх, хто прыйдзе да яе.
Ляцяць, ляцяць над ёй хвілінкі
І птушка райская пяе.
Ёй люба глыбіня зямная,
Крынічка – родам з глыбіні,
Таму для ўсіх яна святая,
А з ёй прасветлены і мы.



**ГАЛІНА САМОЙЛА**

# А ты не са мной

* * *

Мне на лісці восень паварожыць
І дажджом напіша на акне,
Ці бывае шчасце ў непрыгожых,
Ці адна туга, а шчасце – не?

І ў жыцці, і ў сэрцы – раздарожжы,
Думкі б'юць у скроні, як званы.
Ці кахаюць шчыра непрыгожых
Тыя, каго выбралі яны?

Спадзяванні крышацца трывожна
Аб сарказм, што нібы лёд застыў.
Ці імкнуцца ў сэрцы непрыгожых,
Ладзячы над безданню масты?

Ці магчыма ім распальваць страсці,
Спакушаць, ляцець у забыццё?
Мабыць, ёсць у непрыгожых шчасце…
Але ёсць і жаль на ўсё жыццё…

## Сонечны дождж

Толькі ты мяне не трымай,
Не здзіўляйся: "Няўжо?"
Я пайду ў бярозавы гай
На спатканне – з дажджом.

Прыбягу да тонкіх бяроз
Па траве басанож.

Там шуміць па лісці ўсур’ёз
Лёгкі сонечны дождж.

Ружавеюць ствалы, ствалы;
То гусцей, то радзей.
Мне ў далоні з гнуткіх галін
Кропля сонца ўпадзе.

Кроплі сонца, кроплі святла
Льюцца, скачуць, трымцяць.
Колькі год ужо пражыла,
А нібыта дзіця.

Толькі ты мяне не чапай,
Толькі ты не трывож.
Я пайду ў бярозавы гай
Пад сухі, пад сонечны дождж.

## Неразлюбленаму

Не забыцца сном,
Не змагчыся працай.
Затрымай, акно,
Шаленства акацый.

Гора не сталіць,
З плачу не памерці.
Памяць, мне баліць,
Не грукайся ў сэрца.

Не знайсці забаў,
Не прыняць парады.
Даўняе, пазбаў
Ад сваёй улады.

Голасна маўчу,
Нема лемантую.
Час, мой кліч пачуй,
Пусці ў восень тую…

Крэсліць і сцвярджаць:
Кожны рух забуду…

Пакутна чакаць:
А што, калі цуда?..

## Навальніца

Ад навальніцы не ўцяку,
Сустрэну ў полі.
Кукуй, зязюля, мне кукуй
Сто год і болей.
Завешвай, вецер, небасхіл
Ліловай хмарай.
Шумі, асіннік, галасі,
Што гром ударыць.
Маланкі хмару разарвуць
І скінуць лівень.
Зямля і неба паплывуць,
І я між імі.
І шчасце стукнецца аб жах
І заіскрыцца.
І я спасцігну: сэнс жыцця -
У навальніцах.

* * *

Колькі ружаў цвіло
І пялёсткі абсыпала.
Колькі хмараў плыло
І дажджамі ў далоні выпала.
А ты не са мной.
Твае вочы глядзяць не ў мае.
Тваё сэрца пра іншых пяе.
Не маіх твае вусны шукаюць.
За шляхамі ты ці за вякамі?
Ты за лёсам маім, ты за нашай вясной,
Не са мной.

То сумуе рака,
Моцна снегам спавітая,
То трымае ў руках
Жнівень слівы налітыя,
А я без цябе.
Не прытуліш мяне да грудзей,

Не асветліш засмучаны дзень.
Мне маршчынкі лічыць пад вачамі,
То не верыць, то верыць адчайна...
Я ў пакоры сваёй і ў сваёй барацьбе
Без цябе.

* * *

А павуцінне слоў тваіх плыло…
І мне сабраць яго карцела.
Паналіпала нібы плесень-тло
Яно на вопратку і цела.

– У нас з табой нічога не было,
Ты не хацела.

Надзея мне даверыла вясло,
Але рака бы звар’яцела.
Я думала: да берага нясло –
У бездань паляцела.

– У нас з табой нічога не было,
Ты не хацела.

Пад дом апалых мараў намяло,
Шуршаць асірацела.
– У нас з табой нічога не было,
Ты не хацела.

– У нас з табой усё было. Было!
Апроч пасцелі…

* * *

Няма з кім падзяліцца цішынёй,
Грыбным дажджом і сонечнай палянай;
І зоркай, у рацэ адлюстраванай;
І пылам на дарозе занядбанай –
Усё адной:
І лес у шышках і лістах апалых,
І набрынялы яблыкамі сад,
І сівая сцяжынка ў валасах,
І дабрата, і стомленасць, і страх…
Я выбірала.

* * *

Іду да магіл:
Да мамы, да таты, да брата.
За небасхіл
Зачэплены бусел цыбаты.
З вачэй маіх капае
страта,
            страта,
                        страта…
І я вінавата…
Мой знішчаны Космас
Упаў на Зямлю крыжамі,
Па леце млосным
Са звыклай арбіты з’язджаю.
Бадзяцца па холадзе
    з жалем,
             жалем,
                     жалем
Сябе праважаю.

* * *

Мы дзеці дзяцей вайны…
Бацькі нашы не вінаваты,
Што шчасцем яны не багаты,
Затое багатыя болем.
Пачаўся іх шлях са стратаў,
Са страху прад наваколлем…
Як многа жудасці бачылі
Наіўныя вочы дзіцячыя!
Мы дзеці дзяцей вайны…
Даруйце нам мамы і таты,
Што радасцю мы не багаты,
Затое багатыя горам,
Бо з вашых сэрцаў напятых
Яно лілося ў прастору.
За ваша дзяцінства распнутае
І мы заплацілі пакутамі.
Мы дзеці дзяцей вайны…

* * *

Гляджу ў акно:
Нібы ў сукенках зрэбных
Там дрэвы ў восеньскім тумане.
На скрыжаванні –
Чыстае каханне.
Яна і ён – усё, што ім патрэбна.
Гляджу ў альбом:
На фотакартках даўніх
Мае расстанні і сустрэчы,
Аблічча, рэчы,
Лепшы самы вечар,
Найгоршы дзень – з такім пустым чаканнем.
Гляджу ў душу:
Там лёс мой чалавечы
Суровай вечнасцю занатаваны.
Ён мной сатканы
З радасцяў і ранаў,
Менш непазбежных, болей недарэчных.

* * *

Ах, гэты вечар на дваіх,
Табой для нас уратаваны!
Як велічна цвітуць каштаны!
Як бездакорна вецер сціх!
І я пылінкай хутка стану
І прыпаду да ног тваіх,
І я пушынкай хутка стану –
На тваіх вуснах апантаных
Устрапянуся, ажыву…
І аблачынкай хутка стану
І па вачах замілаваных
Тваіх – да шчасця паплыву!
Ах, гэты вечар з даўніх сноў,
Што я для нас не ўратавала…
І ад таго былінкай стала
На ўсіх вятрах ля тых шляхоў.

* * *

Любоў ператварылася ў нянавісць,
Высокая і чорная – яна.
Паміж учора і цяпер, між намі
Іх дзве: твая сцяна, мая сцяна.

А над лесам зара такая,
Што міжволі туга змаўкае
На хвіліны майго захаплення.
Да зямлі прыпадаю каленьмі,
Каб спакоем душы памаліцца.
Божа, літасцю дай наталіцца…

Жыву ў нянавісці, а не ў любові,
Раз-пораз па грудзях як разане…
Дом збудаваць хацелі мы з табою,
А збудавалі – кожны па сцяне…

* * *

Тут сухастой ці дрэвы хворыя.
Між купінамі шлях агорала.
Баліць і трызніць галава –
Дрыгва.
Трасуцца ногі, сэрца, воблакі.
Усё наўгад, няпэўна, вобмацкам.
Пасярод дня крычыць сава –
Дрыгва.
Булькоча жудасць па-за гацямі.
Дарогу мацаю рагацінай.
Па бездані паўзе трава –
Дрыгва.
Мацую верай сілу волі я.
Страх смерці смеласцю адольваю.
Пражыты дзень ідзе за два –
Дрыгва.



**УЛАДЗІМІР МАРХЕЛЬ**

# Працэнты памяці

Я ніколі не спазняўся ў школу, і не таму, што быў надта дысцыплінаваны. Кожную раніцу мая бабуля Альжбета нагадвала мне, што няма калі разлежвацца, трэба хутчэй умывацца і снедаць. Ежа была, звычайна, нескладанай. Перавага аддавалася картафлянікам, намазаным маслам або, часцей, здорам. Самае цікавае, што картафлянікі не прыядаліся. Значна пазней я ўведаў, наколькі яны каларыйныя. З сабою ж я прыхопліваў грудку рафінаду – і гэтым абыходзіўся. Ніякіх, як цяпер, сталовак не было. У выхадныя дні ці на святы перападала крыху засушанай каўбасы. Яна заўсёды была смачная: бабуля закладвала туды такую прыправу і ў такой прапорцыі, што каўбаса выклікала яшчэ большы апетыт. А які быў хлеб хатняй выпечкі, на дубовых лістах! Лепшага хлеба я ніколі не еў. Буханку бабулінага хлеба я кожную нядзелю, ідучы з Жыгалак, браў з сабою, калі на зіму спыняўся на кватэры ў Мікалаеўшчыне, у старшыні калгаса Мікалая Мікалаевіча Кукалевіча і яго жонкі цёці Каці. Іх дзеці – Валодзя і Юра – хадзілі ў малодшыя класы, таму на мяне ўскладалася задача, так бы мовіць, “коласаўскага дарэктара”. Вялікага клопату з маім гувернёрствам, па сутнасці, не было. Затое можна ўявіць, як даводзілася цёці Каці ўпраўляцца з трыма падшыванцамі. Я быў крыху старэйшы, і гэта накладвала на мяне пэўныя абавязкі, можа, таму я імкнуўся быць больш дарослым. У Кукалевічаў я прывучыўся піць каву з жалудоў. Думаю, што гэты напітак больш карысны за іншыя.

На кватэры ў Кукалевічаў я быў пад час зімы каля трох месяцаў. У астатні час – вясною, пасля разводдзя, і восенню, да выпадзення снегу, мы ездзілі ў Мікалаеўскую школу на веласіпедах. Каля дваццаці кіламетраў туды і назад: неблагая трэніроўка.

***

У канцы лета, пасля завяршэння падзерыцкага этапа навучання, паўстала праблема маёй далейшай вучобы. Пайсці ў Стоўбцы, дзе ёсць далёкія сваякі, і ў іх можна кватараваць ці хадзіць у Мікалаеўшчыну, якая ад нас бліжэй напалову. Усё зводзілася да таго, каб наведваць школу ўсё-

такі ў Мікалаеўшчыне, тым болей, што старшыня калгаса Мікалай Кукалевіч запрасіў на зімовы час жыць у яго доме. Мала таго, ад яго зыходзіла прапанова напісаць гумарыстычны верш наконт частага знікнення у невядомым кірунку аднаго з брыгадзіраў. Прапанова была нечаканай, але я выканаў яе як заказ. Неўзабаве ў "Голасе селяніна" пасля некалькіх словаў пра канкрэтны выпадак і вінавайца было надрукавана зарыфмаванае паведамленне наконт таго самага факта:

Вецер дзьме асенні,
Дыша ранак халадком,
У гумне на сене
Брыгадзір спіць пад хмяльком.

Ён сабе адпачывае
У такі адказны час,
І дзе ён, ніхто не знае –
Гэты п'яны лабатрас

Хоць сябры яго і зналі,
Дзе і як ён, што рабіў,
Але ціханька маўчалі,
Бо ён разам з імі піў.

Гэтае вершаванне было падпісана псеўданімам Янка Вярба. Чаму я вызначыўся як Вярба, было зразумела – ад маіх народзін у Вербную суботу. А вось Янка з'явіўся невядома якім чынам: ці ад таго, што продка звалі Яськам, ці ад Янкі Купалы, а мо ад Янкі Лучыны?

***

З Жыгалак у восьмы клас пайшоў толькі я адзін. Таму мне, вядома, хацелася быць у адным класе з хлопцамі з суседніх Падзерыч. А паколькі ўсе яны былі ў 8"Б" класе, то я, хоць і лічыўся ў спісе ў 8"А", прыйшоў на ўрок разам з ранейшымі знаёмцамі. Першай у раскладзе значылася алгебра. Яе выкладчык Леанід Міхайлавіч Біруля прачытаў напачатку спіс вучняў, вядома ж, без майго прозвішча. Мая ж спроба пераканаць настаўніка ў тым, што мне лепш застацца са сваімі былымі аднакласнікамі, поспеху не мела. На перапынку да мяне цэлай гурмой падышлі хлопцы з 8"А" і паклікалі ў свой клас. Наступным урокам была тая ж алгебра, дзе стала вядома, што Леанід Міхайлавіч – гэта наш класны кіраўнік. Праверыўшы нашы веды за сёмы клас, ён дзесьці праз тыдзень сабраў з двух восьмых класаў матэматычны гурток і прызначыў мяне старастам. Неўзабаве мы рашалі задачы, якія даваліся, напрыклад, на ўступных экзаменах політэхнічнага інстытута. Гурткоўцаў Леанід Міхайлавіч вылучаў асобна. Ён даваў нам заданні большай складанасці. Увогуле, мы – Соня Андроцкая, Марыя Лёсік, Коля Белы і я з 8"А" класа, а таксама Міша Каструбай і Алёша Ярашэвіч з 8"Б" – спраўляліся з кантрольнымі работамі па матэматыцы без асаблівых цяжкасцяў. За дзвюхгадзінную кантрольную я даволі часта паспяваў рашыць сваю задачу і практыкаванне і справіцца нават з заданнем суседа, а пасля яшчэ за якія паўгадзіны да

перапынку сагнаць ахвоту на турніку. Але найбольшае задавальненне мы атрымлівалі тады, калі заставаліся пасля ўрокаў і пад кіраўніцтвам Леаніда Міхайлавіча засяроджваліся на выкананні тых задач, якія патрабавалі новых падыходаў і тым самым амаль самастойна набліжаліся да чарговых тэарэтычных арыенціраў.

Матэматычныя практыкаванні так ці інакш паўплывалі на нашы іншыя дакладныя навукі. Аднойчы ў двух класах была праведзена кантрольная работа па фізіцы. Амаль усе вучні атрымалі дрэнныя ацэнкі, выключэнне складалі гурткоўцы, якія задаволіліся тройкамі, і я, хто правільна зразумеў настаўніка, атрымаў выдатную адзнаку. Значна пазней, калі я сам працаваў настаўнікам, мне стала добра вядома, што, па сутнасці, вучні не засвойвалі матэрыял у тым выпадку, калі ім недастаткова дапамагалі разабрацца ў гэтым настаўнікі. Аднак, акрамя тэарэтычных заданняў, у нас здараліся і практычныя заняткі. На той жа самай фізіцы мы праходзілі элементы электрычнасці. Не ведаю, ці гаварылі нам што-небудзь пра Фарадэя, але Васіль Ігнатавіч Аўчыннікаў прынёс на ўрок электра-статычную машыну. Мы з Колем Белым сядзелі за першай партай. Таму нам спачатку давялося правяраць гэтую машыну. Коля ўзяўся за абедзве клемы. Васіль Ігнатавіч пачаў круціць корбу – адразу паволі, затым паступова паскараючы тэмп, і Коля адмовіўся працягваць эксперымент. Затым настала мая чарга. Настаўнік круціў сваю корбу ўсё мацней і мацней, напружанне расло, мне пачало зводзіць рукі, але я не адпусціў клемы, адказваючы на пытанні, што “трываць можна”. Твар настаўніка расчырванеўся, але большай інтэнсіўнасці ў раскручванні корбы ён не дасягнуў. На тым выпрабаванне вольтамі закончылася.

Думаю, я з гонарам выйшаў са становішча, бо папярэдне неаднойчы правяраў сваю здольнасць успрымаць напружанне, можа, крыху меншае, праз далучэнне да акумулятара, з якога сілкаваўся мой радыёпрыёмнік “Масква ”.

***

На пачатку пяцідзесятых гадоў у нас яшчэ праводзіліся фэсты. Яны прымяркоўваліся да якога-небудзь царкоўнага свята. Ва ўсякім разе я добра ведаў фэст на Яна (7 ліпеня) і на Юр’я (6 мая). Асабліва шырока, з размахам праходзіў фэст на Яна ў Гавязне, калісьці мястэчку. Там у той дзень збіраліся родныя, сваякі блізкія і далёкія, суседзі, сябры, знаёмыя. Адбываліся кірмашы, куды прыязджалі людзі з-пад Наваградка, Брэста і нават з Украіны. Больш сціпла фэст ладзіўся на Юр’я ў Любкаўшчыне, хаця і там было шмат людзей з Амлінцаў, Навасёлак, Гавязны, Вязаўца, Перакопшчыны, Зарэчча, Падзерыч, Пагарэлага і іншых вёсак. Свята на Юр’я праводзілася ў невялічкай царкве, названай у сваім абыходзе – Мезенкай. Сюды прыязджаў на гэты выпадак святар з Кунасы, і служба праводзілася не меней, як да абеду. Таму мы, дзевяцікласнікі, якім ехаць

на веласіпедах у наш бок, былі ўпэўнены, што яшчэ паспеем на завяршэнне фэсту. Аднак настаўнік фізікі Васіль Ігнатавіч выклікаў двух Ярашэвічаў – Мішу і Алёшу, а таксама мяне, загадаўшы нам пасля заняткаў абкорыць жэрдкі. Гэта, вядома, не ўваходзіла ў нашы планы, і я прапанаваў адмовіцца ад абсурднага задання, тым болей, што ў час царкоўнага свята работу з жэрдкамі можна было адкласці. Мае сябры спачатку пагадзіліся са мною, але пасля ўсё-такі пайшлі абдзіраць кару з жэрдак. Я застаўся адзін і таму вымушаны быў далучыцца да астатніх. Хлопцы ўжо акорвалі скобамі жэрдкі. Мне ж не хапіла інструменту, і настаўнік раздражнёна кінуў: ”Работай тапаром!”— і выйшаў. У выніку мне нічога не заставалася, як нейкім чынам прыстасавацца да таго, каб сякера ператварылася ў скобу. Больш таго, я стараўся дагнаць сяброў. Спяшаючыся, урэшце зачапіўся за сук і параніў палец. Паколькі кроў не спынялася, я прыціснуў указальны палец тоўстым пальцам, а кулак схаваў у левую кішэню, і ўжо адной рукой працягваў скабліць жэрдку. Работа, як я ні стараўся, ішла марудна. Калі настаўнік фізікі вярнуўся, хлопцы амаль закончылі скабленне, а я ўпарта працягваў працу. Убачыўшы мяне, Васіль Ігнатавіч не тое што ўразіўся, а раззлаваўся. Са словам ”беларучка” ён з сілай вырваў маю заціснутую жменю з кішэні, і я нечакана расціснуў сваю руку – і кроў зноў пырснула з пальца. Спалатнелы настаўнік перамяніўся ў твары: “Трэба хутчэй перавязаць!” З сяброў мяне ніхто не чакаў. Я вярнуўся да жэрдак і ўжо са скобаю завяршыў работу. На той Юр’еўскі фэст я ўжо не трапіў.

Вяртаўся я дахаты адзін. Пра свае прыгоды з жэрдкамі нікому не распавёў. Была толькі абуранасць на няўдалую агітацыю сярод сяброў і няўмелае супрацьстаянне абсурду атэістычнай прапаганды, справакаванай настаўнікам па ўласнай ініцыятыве.

***

Маці загадвала крамай, якая была ў халоднай палове нашага дома. Бацька яшчэ не вярнуўся з Сібіры. Таму пасля восьмага класа (у пяцьдзесят пятым годзе ) у час лета два разы на тыдзень маці загадвала мне адвозіць на веласіпедзе выручку ў сельпо, якое знаходзілася ў мястэчку Гавязна (цяпер неразумна названым Вішняўцом). Гэта прыкладна ў шасці кіламетрах ад Жыгалак, але ехаць туды можна было праз лес або вакол яго, а таксама праз Перакопшчыну і Крамец. Дарогі я выбіраў розныя і націскаў на педалі, не спыняючыся перад узгоркамі. Хаця бандытаў, магчыма, ужо не было, але напамін пра іх яшчэ застаўся, ды маці кожны раз нагадвала пра асцярожнасць. Затое дарога, названая папярочкай, праз лес ад Зарэчча да жыгальскага сервітута амаль заўсёды прыносіла спакой назірання…

***

Вясною, летам і восенню за дзень я праязджаў на веласіпедзе не менш за дваццаць кіламетраў, грунтоўна займаўся цяганнем гіры, таму адчуваў сябе даволі ўстойліва. Стометроўку я прабягаў заўсёды першы і быў упэўнены, што і на іншых метрах не адстану. Аднак калі фізрук прапанаваў здаваць нормы "ГТО" і вывеў нас на дыстанцыю ў тры кіламетры, я нейкі час бег лідэрам, але неўзабаве адчуў, як не хапае дыхання, і сышоў з дыстанцыі. Менавіта тады я зразумеў: для таго, каб быць першым на фінішы, неабавязкова ўвесь час заставацца лідэрам.

***

Напрыканцы красавіка тысяча дзевяцьсот пяцьдзесят шостага года па ўсіх класах нашай школы было абвешчана, што да нас маецца прыехаць Якуб Колас. Убачыць паэта, знаёмага з чытанак, за сродкі якога адбудавана Мікалаеўшчынская школа, дзе мы вучыліся, пры тым аддаленага ад нас узроўнем славутасці, было, вядома, надзвычай цікава. Але паколькі я ўжо спрабаваў друкаваць свае вершы ў раённай газеце, і той-сёй з настаўнікаў ведаў пра мае схільнасці, то мне падумалася, што мяне могуць выклікаць пачытаць свае вершаванні перад Коласам. Уявіць сабе такое разгортванне падзей я ўжо не быў здольны. Ва ўсякім разе ў мяне не хапіла адвагі, і я знайшоў прычыну, каб не ехаць у Мікалаеўшчыну пад час наведвання школы знакамітым пісьменнікам. А трынаццатага жніўня тысяча дзевяцьсот шостага года Якуба Коласа не стала.

***

Мае літаратурныя практыкаванні так ці інакш дайшлі і да нашага класнага кіраўніка. Было гэта ў дзевятым класе. Заходзіць Леанід Міхайлавіч у клас і, не гледзячы ні на кога, пачынае гаварыць: " Я яму і тое, і гэта, а ён – Пушкін. Я яго ў Лабачэўскія, а ён – Пушкін". Я здагадаўся, пра каго гаворка, але выгляду не падаў. Нарэшце Леанід Міхайлавіч дадае: " Да дошкі, Пушкін." Але пакуль ён не глянуў на мяне ва ўпор, я не шалахнуўся. Задача была даволі складаная. Вучні займаліся сваімі справамі, а я адзін карпеў над задачаю. За гадзіну я справіўся. Аднак незалежна ад таго, што я змог рашыць падрыхтаваную мне загадзя задачу, Леанід Міхайлавіч усё-такі пачаў сумнявацца, каб "вершапісец" быў здольны да матэматыкі, тым болей, што ў яго быў прыклад у асобе А.С. Пушкіна. У характарыстыцы класным кіраўніком было напісана, што я наважыўся праявіць сябе ў літаратурнай дзейнасці, і таму час ад часу адхіляўся ад навучання.

Значна пазней я добра-такі ўсвядоміў, наколькі для Леаніда Міхайлавіча траўма аказалася адчувальнай. Бо я ж не стаў Лабачэўскім!..

Выкладчык матэматыкі быў упэўнены, што "пустое рыфмаванне" і "цікавыя ўраўненні"– гэта з'явы несумяшчальныя, таму я ўвачавідкі перака-

наўся, што мастацтва патрабуе ахвяр

***

Яшчэ да школы, калі чытаў Якуба Коласа і Сяргея Міхалкова, якія лёгка запаміналіся, мне здавалася, што рыфмаваць проста, і я рыфмаваў шмат, думаючы, што гэта паэзія, і кампенсуючы тым самым недахоп кніг ды спатольваючы прагу да чытання: тады ў дзедавым кнігазборы захаваліся нейкія календары, штосьці, відаць, з краязнаўчай літаратуры на польскай мове, без вокладак і "Новы запавет" на старaславянскай і рускай мовах. Аднак інерцыя тых практыкаванняў была такая, што я нават адважыўся паказаць свае "творчыя вынікі" Аляксею Пысіну, з лёгкай рукі якога мяне пачалі друкаваць у раённай газеце "Голас селяніна", а потым пры падтрымцы Івана Калесніка і Ніла Гілевіча ўжо ў дзесятым класе трапіў на старонкі "Чырвонай змены". Пра мае заняткі вершаваннямі не маглі, вядома, не ведаць найперш настаўнікі-славеснікі.

Выкладчыца рускай літаратуры Юлія Сяргееўна Тупяневіч апекавалася надзвычай сур'ёзна тымі, хто хоць нейкім чынам быў схільны да філалогіі. Літаратурнага гуртка ў нас не было. Юлія Сяргееўна гутарыла са мною і з Міколам Маляўкам, які вучыўся на год пазней, па меры таго, як у нас узнікала жаданне паказаць на паперы напісанае. Калі рабіліся заўвагі, то вельмі далікатна, але я не надта назаляў пажылой настаўніцы. Юлія Сяргееўна прапанавала назваць мой першы зборнік вершаў "Мае апладысменты" (пад такім загалоўкам я друкаваў пазней сваю мініяцюру ў "Чырвонай змене"). Урокі ж літаратуры праходзілі ўзрушана, на эмацыйным узроўні. Як ні старалася настаўніца прывучыць нас да выразнага чытання, выступленне з вершамі па памяці заўсёды было абыякава-манатонным: галоўнае, здавалася, не збіцца з панталыку. Інтанацыйна мы не маглі пераадолець мяжу сарамяжлівасці. Аднойчы, калі мы вывучалі паэзію Маякоўскага, Юлія Сяргееўна выклікала мяне прачытаць урывак з паэмы "Владимир Ильич Ленин". Пад уплывам савецкіх чытальнікаў, якіх неаднойчы слухаў па радыё, я хоць у нейкай ступені паспрабаваў пабыць дэкламатарам. Як ні дзіўна, аднакласнікі не засмяяліся ад майго чытальніцтва, а суцішыліся і чагосьці чакалі. Але я давёў выступленне з большай, як звычайна, басавітасцю да канца. Гэты ўчынак, відаць, вывеў маіх аднакласнікаў з інерцыі абыякавага стаўлення да вершаваных інтанацый.

Да ста дваццатай гадавіны з дня нараджэння Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна Юлія Сяргееўна арганізавала канцэрт, дзе ўдзельнічалі выка-наўцы вершаў, і дэманстравалася падрыхтаваная настаўніцаю пастаноўка паводле пушкінскай паэмы "Палтава". Не памятаю, хто іграў Мазепу і Качубея. Добра запомнілася толькі Соня Андроцкая, што ўвасабляла Марыю. На мяне ж выпала роля адважнага казака Іскры. Завяршылася імпрэза маёй дэкламацыяй верша "Я памятник воздвиг себе неруко-творный..." Паколькі мне трэба было выступаць за Пушкіна, Юліі Сярге-

еўне давялося шмат папрацаваць над грымам, каб я ў чым-небудзь стаў падобны да Аляксандра Сяргеевіча. На плечы мне накінулі плашч і надзелі кучаравы парык, на сцэне я стаяў нерухома, каб постаць у нечым нагадвала помнік. Акрамя таго, на стале з левага боку ляжала кніга, старонкі якой хтосьці з вучняў перагортваў, мэтанакіравана дзьмухаючы з -за кулісаў у бок здабытага аднекуль фаліянта…

***

Зімою тысяча дзевяцьсот пяцьдзесят шостага года бацька вярнуўся з выгнання. Думалі, што ён прыедзе з Сібіры раней, бо амніставалі тых, хто быў асуджаны на пяць гадоў. А паколькі бацька быў не асуджаны, а адпраўлены ў шасцігадовую ссылку, то ён поўнасцю адбыў увесь тэрмін і з'явіўся дома неўзабаве пасля XX з'езда КПСС.

Яшчэ не скончылася зіма, і я, кватаруючы ў Мікалаеўшчыне, пакуль не спадзе разводдзе, прыходзіў дахаты на суботу і нядзелю. Самае цікавае, мяне ніхто не папярэдзіў наконт з'яўлення бацькі, і наша сустрэча была нечаканасцю. Знаёмства і хваляванні адбыліся адначасна: я не заўважыў, як змяніўся бацька, і не вельмі ўяўляў сабе, наколькі я падрос. Аднак асэнсоўвалася гэта, здаецца, пазней, калі мы сядзелі за сталом.

Праз нейкі час бацька купіў матацыкл, але аб'ездзіць яго даручыў мне. Таму больш пільна вывучаліся рухавікі ўнутранага згарання і розныя трансмісіі, сачыць за свечкамі, на практыцы пераканацца, якая багатая ці бедная сумесь, якое паліва і г. д. Разам з тым я не мог не паспытаць язды на максімальнай хуткасці, хоць пры нашых прасёлачных дарогах разагнацца не вельмі было куды. Аднойчы, едучы ў Навасёлкі, я выскачыў у канцы Жыгалак на ўтаптаную сцежку, паралельную дарозе, развіў прыстойную хуткасць, як раптам ад валуна выскачыла свіння з парасятамі, але, дзіўна, парасяты рванулiся ў бок, а свіння кінулася мне пад колы. Я загамаваў і стукнуўся ў жывую перашкоду адначасна. Мяне вынесла з сядла, і я перакуліўся. Паднімаючы галаву, убачыў, што матацыкл стаіць на кіраўніцы, а свіння з аблузанаю спіною пабегла да парасят. Натуральная свіння, такім чынам, была падкладзена, а ў пераносным сэнсе "падкладзеных свіней" мне пазней хапала.

***

Восенню, траха ні з першых дзён дзесятага класа, нас пачалі выкарыстоўваць на копцы бульбы. Праўда, той-сёй заставаўся дома, бо трэба капаць сваю бульбу, і ім, здаецца, ніякіх вымоў не было. Але я ездзіў з кашом і драпашкаю на бульбянішча кожны дзень. Па нейкай прычыне я імкнуўся быць першым у спаборніцтве, і мне гэта ўдавалася. Дырэктар школы нават узнагародзіў мяне даволі аб'ёмнаю кнігаю выбраных твораў Барыса Гарбатава, выдадзенаю ў Маскве ў 1955 годзе. Але колькі я ні садзіўся за чытанне гэтай кнігі, так і не прачытаў яе.

***

Дзесяты клас закончаны. Вынікі экзаменаў ужо перапісаны з ведамасцяў у атэстаты сталасці. З маіх Жыгалак, так бы мовіць, з-за Нёмана, мае бацькі прыехалі на выпускны вечар на матацыкле. Я, прыехаўшы ў Мікалаеўшчыну значна раней на веласіпедзе, назіраў, што бацькі ўязджаюць праз браму, як быццам, больш урачыста, чым звычайна. У актавай зале сабраліся выпускнікі з двух дзесятых класаў, іх бацькі і настаўнікі. Дырэктар Новікаў, невысокі і круглатвары, выступіў з настаўленнямі і павучаннямі, затым ад вучняў сказала слова Соня Андроцкая. Мяне таксама абавязалі выступіць. Хваляванне, вядома, было, але я, можа нават натхнёна, прачытаў свой верш “Бывайце, сябры аднагодкі”.

---------------------------------------

У № 13 „Тэрмапілаў” на с.133 у шостым радку была недакладнасць: замест **вушанка** трэба **вуланка**.

**ПАВАЛ ЛЯХНОВІЧ**

# Пінскі фарватар

*Людміле*

Уначы прысьнілася, сорамна прызнацца…дзярмо. Быццам крочу кудысь, а навокал… – аж няма дзе ступіць.

– Харошы сон, – сказала раніцай Люда. – На грошы. Можа працу знойдзеш.

– Калі ты кінеш усе гэтыя прыкметы? Фігня ўсё. Забабоны. Не распавяду больш нічога. З працай сапраўды праблема – лепш сьняданкам займіся.

Цокаючы па падлозе кіпцюрамі, зайшоў Рэй, сямігадовы эстонскі ганчак. Замахаў хвастом і стаў заглядаць у вочы. На вуліцу просіцца.

– Зараз ідзем, пачакай, толькі зубы пачышчу, – папрасіў я Рэя. – Не махай так хвастом, задніца адламаецца.

Зразумеў. Уздыхнуў і паплёўся на сваю “канапу” з паралону – чакаць.

Ужо сярэдзіна сакавіка, а вясны няма. Сьнег, марозік. Хоць днём даволі добра прыпякае і гракі дражняцца ўсімі гарадскімі гукамі.

Аблазілі з Рэем пляцоўку, выдзеленую гарадскімі ўладамі для выгулу сабак. Пляцоўка на апошнім некранутым будоўляй археалагічным помніку Пінска. На рэштках гарадскога вала. Жыхары “прыватнага сэктару” не-не, ды ськідалі ўпотай тут пакет-другі сьмецьця. Змагаючыся зь імі, гарадскія ўлады прыбілі да дрэва шыльду: “Мусор не бросать. Штраф…”. Нягледзячы на пагрозу, сьмецьце зрэдку ўсё роўна зьяўлялася. Тады шыльду зьнялі і прывезьлі жалезную скрыню. Сьмецьця адразу пабольшала разоў у сто. Зараз скрыні няма, на помніку археалогіі сапраўдная звалка і стаіць новая шыльда: “Господом Богом молим. Не сорите!”.

Рэя я са шворкі не спускаю. Раней было, адпускаў пабегаць, дык згубіў пад машынамі двух сабак. Ідзем дадому. Ён ужо зрабіў усе свае справы, але не прапускае ніводнага дрэва і кута, усё яму трэба абнюхаць і “расьпісацца”. Цікава, што ён там чытае? Пабыць бы пару дзён сабакам…

Ужо падымаліся на ганак, як аклікнулі: “Павел Андреевич! Подождите!”. Да нас беглі двое ў аднолькавых чорных куртках і вязаных

шапачках-“менінгітках”. Мянты. Мода ў іх такая, ці што, хоць і ў цывільным, а як дзятдомаўцы – усё аднолькавае. На днях я дапамагаў арганізаваць сустрэчу з “электаратам” аднаму з альтэрнатыўных кандыдатаў у прэзідэнты, зарэгістраванаму, ніякага крыміналу. Але помсты ад уладаў чакаў. Вось і пачынаецца. Пад лыжачкай непрыемна засмактала. Спакойна. Не трэба, каб яны ўбачылі хваляваньне.

“Дзятдомаўцы” за пяць крокаў выхапілі пасьведчаньні і працягнулі ў мой бок. Быццам з такой адлегласьці нешта можна прачытаць.

– Мы из милиции. Нужно поговорить.

– Можаце не цягнуць свае “корачкі”. І так за кіламетр відаць хто вы. А мяне як пазналі? Я што, карыстаюся такой папулярнасьцю ў вашай канторы, што мяне ўсе ў твар ведаюць?

– Работа такая… – з усяе сілы паказваючы, які ён “круты”, вымавіў адзін. – Павел Андреевич, наше начальство хочет с вами побеседовать. Давайте съездим. Мы вас на машине доставим.

– Вы мяне затрымліваеце? “Ясна, затрымліваюць. Можа адмовіцца, запатрабаваць позву? Не, пачнуць круціць рукі, прыдзецца выпусьціць сабаку, сыдзе за сучкамі і прападзе”.

– Нет-нет! Что вы! Просто побеседовать!

Значыць, можна зайсьці ў пад’езд. Можа схавацца ў суседзяў? Але… Мярзотна ўсё. Хавацца, не зрабіўшы нічога процізаконнага?! І жонку будуць дапякаць тэлефанаваньнямі… І па горадзе трэба будзе перамяшчацца “кароткімі перабежкамі”. А-а! Зьезджу. Паглядзім, што там за “гутарка”. Мо і праўда хочуць папярэдзіць перад выбарамі аб выкананьні законаў. Дык я і не парушаю нічога.

– Люда, мяне зараз спынілі на вуліцы мянты, мабыць, будуць садзіць, Зьбяры, калі ласка, пару прасьцінаў, мыла, зубную шчотку і пасту. І ручнік. І пераапрануцца ў спартыўны касьцюм. “Малайчына жонка, вочы крыху акругліліся, але ўвогуле спакойна пачала зьбіраць “турэмную торбу”. Так. Што зараз? Трэба патэлефанаваць знаёмым журналістам. І пашпарт не забыцца”.

– Сядзь пасьнедай! Зараз можна не сьпяшацца. “Можна то можна, але не хацеў бы, каб у дзьверы пачалі ламацца”.

– Ведаеш што, не вельмі хочацца. “Сапраўды не хочацца, хоць апошні раз еў учора вечарам”.

У “Пінскім часе” спалоханая Надзя паведаміла, што рэдактар пайшоў у міліцыю даведацца, чаму з працы забралі актывіста з групы падтрымкі адзінага кандыдата ад дэмсілаў і раптам зьнік. І “мабільнік” ягоны змоўк. Ага, значыць аблава. Рана. Да дня выбараў яшчэ чатыры дні…

Да пастарунку ехалі хвілін пяць. Прымусіў сябе супакоіцца не толькі зьнешне. Узгадаў лозунг старых, сталінскіх яшчэ вязьняў: “Ня вер, ня бойся, не прасі”.

Лукашэнкаўскія турэмшчыкі аказаліся такімі ж, як і сталінскія. Пры-

намсі, што датычыць першай часткі мудрасьці – “Ня вер…”. Толькі ўвайшлі ў пастарунак, адзін з “дзятдомаўцаў” некуды зьнік, а другі радасна паведаміў: “А вот сейчас – задержание!” – І сеў за столік у фае, разьдзеленым кратамі на дзьве часткі, пісаць паперу.

– Ну, і ў чым вы мяне вінавацiце?

– Потом узнаете…

– А зараз я хачу “узнать” ваша прозьвішча, пасаду і званьне. – Зноў, як і каля дома, тыцнуў мне ў твар пасьведчаньнем.

– Не, я так нічога не разьбяру. Дайце прачытаць. “Гля, нават у пастарунку баіцца, што даведаюся ягоныя “фіо”, асэнсоўвае, хто з нас злачынец”.

Неахвотна аддае “корачкі” ў рукі. Казьлюк Сяргей, старшы лейтэнант міліцыі, аперупаўнаважаны. Шкада, забыўся ўзяць паперу і аловак. Ну нічога, запомню. А зараз, пакуль ён піша, трэба прымусіць сябе адкаснуцца ад усяго, што застаецца па-за гэтым будынкам. Усё, ніякіх планаў, нічога на бліжэйшыя тыдзень альбо два не існуе. Нічога, акрамя гэтых сьценаў няма…

Доўгі калідор з дзьвярыма налева-направа. Адны дзьверы адчынены, там маленечкі маёрчык крычыць па тэлефоне, відаць, размаўляе з босам: “Майор Гринёк слушает! Есть! Так точно! Сейчас разберёмся с демократами, и сразу!…Есть!”.

…У кабінеце лейтэнант, апрануты ў пакамячаную форму, прымушае Казьлюка перапісваць рапарт. Нешта там не зрастаецца. Потым, заглядаючы туды, запаўняе нейкі бланк. Зьвяртаецца да мяне:

– Фамилия, имя, отчество? – Я моўчкі лезу ў кішэнь, дастаю пашпарт і аддаю яму. Гартае, піша.

– Дети есть?

– Навошта вам мае дзеці?

– Положено…

– Вам “паложана”, вы і капайце. А я не бачу прычыны вам аб усім дакладваць. Вы мяне чаго сюды зацягнулі, на якой падставе пытаецеся? Усё, што вам патрэбна, ёсьць у пашпарце. – Наліўся чырваньню, але змаўчаў.

– Где работаете?

– Адказ ранейшы – капайце самі.

Засоп, але зноў змаўчаў.

– Распишитесь. Вот здесь.

– А што гэта?

– Это протокол административного задержания. Чисто формальная штука. Вам нужно только расписаться.

– Здаецца, я маю права пазнаёміцца з гэтымі паперамі? Дык я зьбіраюся гэтым правам скарыстацца…

– Пожалуйста… – абыякава паціснуў плячыма. – Знакомтесь. Только

моё и своё время зря тратите…

– Да вашага “врэмені” мне няма ніякай справы. А што да майго часу, то, здаецца, вашымі клопатамі мне няма куды сьпяшацца.

Паводле рапарту Сяргея Казьлюка, я выгульваў сабаку без намызьніка, а сабака “падаваў голас” (от жа дэбільная мова! Чаму не “брахаў”, ці там “гавкал”, “лаял”?) на пінчукоў і гасьцей гораду. А калі Казьлюк з напарнікам зрабілі мне заўвагу, я нецэнзурна вылаяўся і на заўвагі не рэагаваў (калі вылаяўся, значыць зрэагаваў. Ну і тупыя!) За гэта быў затрыманы і дастаўлены ў пастарунак. Куды дзеўся сабака, у рапарце не паведамлялася.

Пратакол затрыманьня быў вытрыманы ў стылі рапарту. Графа “час затрыманьня” не запоўненая. Прымусіў запоўніць. Каля месца для майго роспісу – пару радкоў для тлумачэньняў. Пачаў пісаць тлумачэньні: “Правапарушэньне, выкладзенае ў рапарце ст. л-та Казьлюка ў прыродзе не існавала, і рапарт і пратакол сфабрыкаваныя…”

– Что вы там пишете? – занепакоіўся пакамечаны лейтэнант. – Вы должны написать только, согласны или не согласны с протоколом!

– Не “сагласны” я! Пішу, што вы з Казьлюком сфабрыкавалі на мяне гэтыя паперы. Тут, на бланку мала месца, я напісаў, што працяг – на дадатковым аркушы. Дайце мне, калі ласка, аркуш паперы…

– Ар… Что? – выгляд лейтэнанта быў такі, што я ледзьве не разрагатаўся.

– Ну, я зьбіраюся напісаць тлумачэньні, а месца на пратаколе не хапае, то я прашу даць мне, на чым працягнуць гэтыя тлумачэньні.

– Вы будете расписываться или нет?! – амаль завішчэў той. – Если не будете, то и не надо!

– Буду, буду. Толькі я не скончыў тлумачэньні, месца не хапіла, дык я напісаў, што працяг тлумачэньняў на дадатковым аркушы. Так што ў судзе, мабыць, спытаюцца – дзе працяг? Дык я маю намер дапісаць тлумачэньні, а потым падпішу.

Лейтэнант са злосьцю выхапіў пратакол.

– Покажите, что у вас в пакете.

– Глядзіце самі. Калі гэта ваш абавязак – то выконвайце яго. Я да вас у памочнікі не наймаўся. – Са злосьцю вываліў зьмесьціва на стол і пачаў запісваць, прыгаворваючы: “Простыни – две, зубная паста – одна, зубная щётка – одна, мыло – одно, мыльница – одна, полотенце – одно. Поднимите руки”, – спрытна злазіў у кішэні, дастаў ужываную насоўку і сьцізорык – іх таксама запісаў. Абмацаў усяго, нават у шкарпэткі злазіў. Гідка. Ненавіджу мужчынскія дотыкі. Так хочацца даць па галаве!

– Подпишите. Это протокол досмотра. Чтобы потом не говорили, что у вас что-то забрали…

– Тут вось запісана, што прысутнічалі панятыя. А іх не было. Як гэта разумець?

– Понятые были, – лейтэнант нахабна глядзіць мне ў вочы. – Они потом распишутся.

Шлях да турмы зусім блізкі. Тут яе клічуць “ізалятар урэменнага садзержанія”. Крыху па калідоры, потым дзесятак прыступак уніз, дзьверы з металічных прутоў, зноў уніз – і пашарпаны стол пасярэдзіне калідора. За сталом пузаты старшына з тварам жанчыны-алкагалічкі і пустымі заплыўшымі вачыма. Абмацвае, забірае шапку і прасьціны, пакет з ручнікам, мылам, шчоткай, пастай аддае мне.

– Руки за спину! – Што добра гучыць па-расейску, дык гэта каманды. Раблю выгляд, што не зразумеў.

Вядзе налева па калідору. У калідоры нечым сьмярдзіць, крыва атынкаваныя сьцены пафарбаваны ў цёмна-зялёны колер. Зьлева і справа зачыненыя дзьверы. На некаторых прамакутныя амбразуры зь дзьверцамі. Яшчэ ўздоўж сьцен нейкія тоўстыя трубы. У канцы калідора закратаванае вакно. Паўпадвал.

Спыняемся ля дзьвярэй пад нумарам дванаццаць з круглым зашклёным акенцам і адчыненай “амбразурай”. Вось зараз я ўвайду туды і скажу... Што сказаць, каб не трапіць у няёмкае становішча? Там жа свая, невядомая мне субкультура. А! Проста паздароўкаюся і спытаюся, дзе мне разьмясьціцца. Дзьверы са страшэнным шоргатам адчыняюцца і я ступаю ў змрок. У нос б’е нясьцерпны смурод застаялай мачы і тытунёвага дыму. Такое, толькі нашмат слабейшае, можна ўнюхаць у прыбіральнях беларускіх вакзалаў. Апрача сталічнага. Спыняюся. Дзьверы з такім жа шоргатам зачыняюцца. Нічога не бачу, але чую моцны рогат. Чым гэта я расьсьмяшыў вязьняў камеры нумар дванаццаць? Некалькі галасоў знаёмых, здаецца, Віці Яршука, рэдактара “Пінскага часу” і лідэра мясцовых сацыял-дэмакратаў Сяргея Касьцевіча.

Вочы прывыкаюць і са змроку выплывае памяшканьне памерамі прыкладна чатыры на тры метры. На процілеглай сьцяне – прамакутнік з бляхі, у блясе нароблена крыху дзірак. Відаць за ёю вакно. Над дзьвярыма цьмяная лямпачка ў брудным шкляным плафоне. Разьбівай плафон і хоць рэжся сам, хоць рэж іншых. Адразу ля дзьвярэй прамакутнік падлогі, недзе метр дваццаць на паўтара. На гэтым прамакутніку ля сьцяны алюміневы бак, такія служылі ў савецкім войску для гатаваньня. Бак накрыты кавалкам ДСП. Астатняя падлога камеры паднята сантыметраў на шэсьцьдзесят-семдзесят, як сцэна. На ёй варушыцца ў змроку чалавечае месіва і рагоча. Так, досьвед начлегу ў мурманскай афіцэрскай гаўптвахце мяне падвёў, з прасьцінамі я пасьпяшаўся. Добра, што здагадаўся апрануць старую куртку, ёсьць што кінуць на дошкі.

– А я думаў – цябе першага тут сустрэну! А ты толькі зараз! Цябе дзе ўзялі? – гарлае Яршук, і я бачу яго ў атачэньні знаёмых з групаў падтрымкі кандыдатаў у прэзідэнты Мілінкевіча і Казуліна. Адзначаю, што ляжаць яны ля бляхі зь дзіркамі, ля сьвяжэйшага паветра – да

палітычных зьняволеных тут, відаць, адносяцца няблага. – А Аўсея не сустракаў? Яго таксама ловяць! Ён, як убачыў, што мяне павялі, то задам-задам – і ходу! Мабыць, ужо недзе ў дызелі да Лунінца пад'язджае!

– Зараз раскажу. Дзень добры, спадары сядзельцы. Куды мне тут уладкавацца?

Уся "сцэна" занята ляжачымі целамі, і я не ўяўляю, што магу разьмясьціць тут яшчэ і сябе.

– Разувайся і кладзіся вось тут. – Віця Яршук і зь ім яшчэ трое палітычных падціскаюць ногі. – Залазяць сюды без абутку, злазяць – абавязкова абуваюцца, каб не несьці з квадрата бруд. Гігіена, браце! Параша – толькі для малой патрэбы. Тут вось – паказвае на поліэтыленавае вядро з бруднай эмаліраванай накрыўкай, на якой стаіць амаль чорны кубак – вада для піцьця. У прыбіральню выпускаюць два разы на дзень – пасьля пад'ёму і перад адбоем. Ну, цябе за што затрымалі?

– Сабака брахаў … Мацюкаўся на мянтоў… – Зноў выбух рогату.

– Што?! Сабака брахаў мацюкамі на мянтоў?!

– Ну, блин! Менты совсем оборзели! Ладно, этих, – сталы ўжо, сівы хударлявы мужчына з няўлоўнай пячаткай хранічнага зэка (я іх чамусьці, а яшчэ міліцыянтаў і ваенных, амаль беспамылкова ўгадваю – шмат разоў праверана) кіўнуў на сваіх суседзяў, – напились, подрались, жену поколотили, тёщу там… Но вас! Вы же ничего против ихних же долбаных законов не сделали! Это же беспредел! Это что ж? Вас всех за мелкое хулиганство замели? "Нецензурно выражались, на замечания работников милиции не реагировали"? Падлы, хоть бы для приличия формулировки разные придумали!

– Им по всей Беларуси приказано перед выборами изолировать тех, кто "засветился" и гарантировано будет против Лукашенки…И этим же приказом доведена формулировка… – "перахапіў мікрафон" Касьцевіч. Сяргей любіць пагутарыць з электаратам.

Аказалася, што раніцай на працу да Зьміцера Базевіча, дваццацідвухгадовага сябра групы падтрымкі Мілінкевіча прыехалі двое міліцыянтаў. Выходзіў ён з паднятымі ўгору рукамі. У пастарунку склалі пратакол – "нецэнзурна лаяўся, на заўвагі не рэагаваў". Даведацца, што ж гэта робіцца, у пастарунак сунуўся з журналісцкай цікаўнасьцю Віця Яршук, чым вельмі ашчасьлівіў "праваабаронцаў". Сьледам за Яршуком сунуліся Сяргей Касьцевіч і Саша Аўсенка, але Саша своечасова адчуў непярэліўкі, і зьнік. А Сяргей з Віктарам у фае пастарунку "пачалі нецэнзурна лаяцца"... Кастуся Чавука схапілі ў пракуратуры, куды ён прынёс нейкую скаргу. Заяву аб тым, што ён "нецэнзурна лаяўся і не рэагаваў…" напісала нейкая тамтэйшая сакратарка.

Зарыпелі дзьверы, і ў сьветлым прамакутніку ўзьнік пузаты старшына.

– Базевич, Яршук, Чавук, Костевич, Ляхно! Приготовиться к выходу! На суд поедете.

– Ни фига себе! – зьдзівіўся хударлявы зэк, Мікола. – Я здесь, может пятнадцатый раз, но никогда не было, чтобы к концу рабочего дня на суд возили! Сейчас сколько? Часов пять? Ну, ребята, видимо вас приказали конкретно гасить! Такая спешка!

Выводзілі па аднаму. У двары пастарунку, проста ля дзьвярэй стаяў падобны на хлебавозку “чорны воран”. З бакоў перакрывалі шлях двое прапаршчыкаў. Унутры “воран” разгароджаны на малюсенькія клеткі зь дзьвярамі-кратамі. Яршук паспрабаваў загаварыць з прапаршчыкам, але той гыркнуў: “Не разговаривать!” – і Віця змоўк.

Першым на суд вывелі з “ворана” Чавука. Я знайшоў у сваёй клетцы некалькі гарэлых запалак і ледзьве пасьпеў напісаць імі на сьцяне “Жыве Беларусь!”, як Кастусь ужо вярнуўся: “Пяць сутак!”…

Мяне вывелі і ў атачэньні канваіраў завялі на другі паверх у невялічкі кабінецік. Паказалі, куды стаць, адзін засланіў шлях да дзьвярэй, другі – да судзьдзі. Судзьдзя – мажны, сыты мужчына ў чорнай мантыі, абшытай па краях залацістым кантам, падобнай на папоўскую рызу, спытаў прозьвішча-імя-імя па-бацьку. Побач, на краі стала шчыравала сакратарка. Пісала пратакол.

– В протоколе задержания записано, что вы, находясь по улице Завальная, четыре, нецензурно выражались, на замечания работников милиции не реагировали… Вы согласны с протоколом?

Калі гэтыя, пшэпрашам “праваабаронцы”, бессаромна лгуць, робячы нашмат большае злачынства, чым тое, якое спрабуюць “навесіць” на мяне, то зараз салгу і я. Цікава, каманда ізаляваць праціўнікаў рэжыму дадзена толькі мянтам, ці і судзьдзям таксама? Пракуратуры дадзена, гэта відаць з захопу Чавука. Паглядзім, як гэты гладкі дзядзька будзе зараз выкручвацца, ці паспрабуе разабрацца ў нестыкоўках?

– Пан судзьдзя! –“Ваша честь” ты ад мяне не дачакаешся. Хутчэй за ўсё ты халуй, і гонару ў цябе няма. Інакш ты б не судзіў так сьпешна. – Там яшчэ запісана, што мяне затрымалі, калі я выгульваў сабаку. – Судзьдзя кіўнуў – Дык вось таго правапарушэньня, у якім мяне абвінавачвае пратакол, насамрэч не існавала ў прыродзе. Старшы лейтэнант Казьлюк свой рапарт пра правапарушэньне папросту высмактаў з пальца. Там усё – мана. Мяне забралі з кватэры. Доказам гэтага можа быць мая вопратка – бачыце, я апрануты ў спартыўнае, я так па вуліцы не хаджу. Апрача гэтага я ўзяў з сабою мыла, зубную пасту, ручнік. Як вы думаеце, браў бы я гэтыя рэчы для таго, каб выгуляць сабаку? Паўтараю, мяне забралі з кватэры. Што, Казьлюк з падзельнікам ішлі па вуліцы Завальнай і пачулі, як я ў кватэры мацюкаюся? Не, пан судзьдзя! Гэта проста ідзе “зачыстка” электаральнага поля перад прэзідэнцкімі выбарамі. Вас, пан судзьдзя, работнікі міліцыі хочуць зьвесьці ў зман! – на мой наіўны погляд любы судзьдзя пасьля гэтага павінен быў выклікаць на допыт мянтоў, што мяне затрымлівалі.

– Так вы не выгуливали собаку? – твар судзьдзі выражае гранічную незадаволенасьць.

– Не, пан судзьдзя! Не пасьпеў, позна прачнуўся. Мяне з кватэры!

– А собака-то! Собака – есть?!

– Сабака ёсьць. Як яны ўваліліся ў кватэру – ён на гэтых міліцыянтаў забрахаў… – Эх, дурань, не зрэагаваў! Трэба было адказаць, што няма ніякага сабакі. Цікава, ці правяраў бы існаваньне таго ў прыродзе.

– Какой породы собака?

– Эстонскі выжлец…

– Ну вот… – Доўгая паўза. Потым рэзка, твар у паперах, ня гледзячы на мяне. – Шэсьць сутак!

Тое, што наша дзяржава зьяўляецца злачыннай арганізацыяй, мы і так ведалі. Цяпер мы ўведалі гэта яшчэ лепей. Але пабудавана хітра. У выпадку са мной рэальна злачынства зьдзейсьніў той старлей, што напісаў рапарт з фальшывымі зьвесткамі. Астатнія дзейнічалі на падставе гэтага сфабрыкаванага рапарту, фармальна правільна. Ну і што, што судзьдзя Стасюк не здолеў разабрацца ў відавочных несупадзеньнях фактаў? Ну – тупаваты! Што з тупога ўзяць?

Зноў цесная скрынка “ворана” і камера. Мне са Зьміцерам далі па шэсьць, Віцьку, Кастусю і Сяргею – па пяць.

– Хлопцы, давайце аб’явім галадоўку пратэсту, – кажу я, калі мы разьмясьціліся на “сцэне” пад бляхай. – думаю, што ў гэтым смуродзе галадаць будзе лёгка.

Згадзіліся ўсе, акрамя Касьцевіча, ён пажыцьцёвы дыетчык, перахварэў гепатытам.

…Рыпяць дзьверы і раве турэмшчык: – За пайкой!

Выходзяць двое, Мікола і Аляксандр, абодва неаднаразова пазбаўляліся волі за крадзяжы і разбоі. Аляксандра “на суткі” адправіла матуля, калі ён п’яны падняў дома вэрхал. Мікола пра сябе нічога не распавёў. Прыносяць малочны бідон, потым бак, гэтакі ж, як наша “параша”.

– О–о! – зьдзіўляецца Мікола, перамяжаючы словы, якія нясуць інфармацыю, мацюкамі. – Так здесь никогда не кормили! Смотрите! Суп! Картошка! О–о, котлеты! Это, что – нас перед выборами покупают или из-за политических? – спрытна накладае ежу ў алюміневыя міскі і першым прапаноўвае нам. Мы адмаўляемся, кажам пра галадоўку.

– Ребята! Кому вы что докажете своей голодовкой? Кто узнает? Берите, кушайте – смотрите какой хавчик классный! Я дома такого не ем!

– Ну і радуйся, – бурчыць Віцька, – табе больш будзе.

Мы ляжым, імкнучыся не глядзець у бок “уркаў”, якія сядзяць, заціснуўшы ступакамі міскі і рупліва чэрпаюць лыжкамі. Лыжкі таксама алюміневыя, з адламанымі ручкамі, і каб чарпануць, не апусціўшы ў суп пальцы, трэба быць даволі спрактыкаваным. Відовішча не дадае апетыту, і гэта добра.

– Похавали? Выносите посуду! – крычыць у дзьвярным праёме старшына. – И составьте аккуратно педали! – Што сукамернікаў, што ахоўнікаў я разумею толькі напалову – суцэльная “феня”. Большасьць кліентаў камеры – былыя зэкі. “Педалі” – гэта аказваецца наш абутак.

– Старшына! – зьвяртаюся я. – Я аб’яўляю галадоўку пратэсту супраць незаконнага затрыманьня і асуджэньня. Таксама галадоўку аб’яўляюць усе палітычныя вязьні нашай камеры. Прашу далажыць аб гэтым па камандзе. І прашу даць нам паперу для напісаньня адпаведных заяваў.

– Шо? – старшына няўцямна глядзіць на мяне. Здаецца, сапраўды не разумее. А можа прыдурваецца?

– Паўтараю для асабліва адораных. (Радасны сьмех “уркаў”). Я аб’яўляю галадоўку пратэсту, прашу далажыць аб гэтым вашаму начальству і прашу паперу і аловак, каб напісаць заяву.

Глядзіць што той баран, і маўчыць.

– Ляхно просит бумагу и карандаш, будет писать заявление об объявлении голодовки! – Не вытрымлівае і пачынае перакладаць Сяргей Касьцевіч.

Нешта мэкнуў і зачыніў камеру. Паперы мы так і не дачакаліся. Замест гэтага праз паўгадзіны зьявіўся напарнік старшыны, ніжэйшы, не такі рыхлы, са злосным тварам, таксама старшына:

– Яршук, Чавук, Кастевич – на выход! – Выйшлі, пакінуўшы нас гадаць, што гэта значыць. Потым зразумелі – разьдзялілі палітычных, перавялі частку ў другую камеру.

Праз пару хвілінаў зноў камандны крык. – По шесть! На оправку!

Дзьверы камеры адчынены, усе выйшлі і стоўпіліся ў канцы калідора. Па шэсьць чалавек заходзяць у прыбіральню, яна ж і ўмывальня. Зьлева на высокай прыступцы тры кабінкі зь нізенькімі перагародкамі і безь дзьвярэй, у двух метрах насупраць кабінак тры краны. У дзьвярах прыбіральні старшына назірае за тым, што адбываецца. Я не магу пераадолець сябе і садзіцца на кукішкі ў кабінцы пад позіркамі. Стрымліваючы рвотны рэфлекс, чышчу зубы, вада халодная, аж нямее ў роце, потым ськідаю майку і мыю твар, шыю, вушы, пад пахамі...

Дзірачкі ў блясе, ля якой мы ляжым, падсьцяліўшы пад сябе верхнюю вопратку, даўно пацямнелі. Відаць, на вуліцы ўжо ноч. Зрэдку чуваць шум праехаўшай машыны. Большасьць сукамернікаў сьпіць. Ля мяне, крайні ад сьцяны, ціха пасапвае Зьміцер Базевіч. Мы зь ім гадзіны са дзьве гутарылі і ён здаўся мне вельмі сьветлым, шляхетным і разумным хлопцам. Худы, высокі. Хварэе на варыкознае пашырэньне венаў. Спрабаваў пераканаць яго адмовіцца ад галадоўкі, не пераканаў. Уларты. Такія і ішлі ў шэрагі Касьцюшкі, Каліноўскага. Нават калі ведалі – заўтра перамогі ня будзе. Працавалі на будучыню. Іронія гісторыі: працавалі, каб сёньня беларусы маглі мець прэзідэнта. Нават калі гэта Лукашэнка. Зьміцер упэўнены, што справядлівых выбараў не будзе, але працуе ў групе падтрымкі Мілін-

кевіча. Кажа, што гатовы дапамагаць кожнаму, хто паспрабуе паламаць гэтую ілжывую сістэму.

Ад ляжаньня на амаль голых дошках баляць бакі, баліць паясьніца, хвасьцец. Часам то адзін, то другі сукамернік падымаецца, садзіцца на край "сцэны", суне ногі ў абутак. Нягучна стукае накрыўка парашы, цурчыць струмень і па камеры моцнай хваляй расьцякаецца пах мачы і аміяку. Ажно рэжа ўваччу. Зрэдку, калі міязмы дасягаюць стала турэмшчыка ў калідоры, той уключае выцяжную вентыляцыю. Тады становіцца крыху лягчэй.

Я ўзгадваю кадры кінахронікі часоў другой сусьветнай вайны. Канцлагер, барак, двухпавярховыя драўляныя нары, на нарах у адзін рад (!) ляжаць людзі. Нас у камеры зараз пятнаццаць чалавек, легчы здолелі ўсе, але выцягнуць ногі немагчыма, іх кладуць адзін на другога. Я спачатку саромеўся, але як стала нясьцерпна, асьцярожна паклаў ногі на нейкага ўрку. Той замармытаў у сьне, заварушыўся і сьпіць далей. Мікола сьведчыў, што летась, у страшэнную сьпёку, сюды кінулі трыццаць чалавек. Немагчыма было не тое што ляжаць, але і сядзець. На скаргі адказ заўжды адзін, відаць, рэкамендаваны "цэнтралізавана": "Тут не санаторый!".

Загрымелі дзьверы і ў камеру некага ўпіхнулі. Той пастаяў унізе ля парашы, потым сеў на "сцэну", абхапіў галаву, стаў разгойдвацца і ціха енчыць.

– Эй, мужик! Что с тобой? – азваўся са свайго месца Мікола. – Что ты, как жид у Стены Плача? Крыша едет?

– Не могу! Ломает меня!.. Дозу надо…

– А–а… Ты вот что, ложись пока. Пацаны, подвинулись! – Некалькі "уркаў" пасунуліся, далі месца ля сьцяны, што зь дзьвярыма. Наркаман лёг там, але енчыць не перастаў. Хвілін праз дваццаць Мікола ня вытрываў, спусьціўся да амбразуры. Яе трымалі адчыненай.

– Командир! Эй, старшина! Подойди к двенадцатой!

Той падышоў.

– Слышь, командир, тут наркоман кончается. Тебе это надо, чтобы к утру труп был? – І адразу, не мяняючы інтанацыю. – Курить дай…

Да аміяку далучыўся ўдушлівы пах таннага тытуню. Хвілін праз дваццаць наркамана выклікалі з камеры, яшчэ праз пяць ён вярнуўся, ушчаміўся на сваё месца і заснуў. Спаў двое сутак, зрэдку прачынаўся, прасіў выклікаць медыкаў, выходзіў, зноў вяртаўся. Размаўляць пачаў на трэція суткі.

Забалела яшчэ і галава. Відаць, з-за атрутнага паветра. Замест сну – нейкая напаўпрытомнасьць.

У калідоры зашумела і да нас заштурхнулі хлопца. На добрым падпітку. З выгляду гадоў восемнаццаць–дваццаць. У яго істэрыка.

– Мойку! Дайте кто-нибудь мойку! Порежусь! – Вішчэў ён. – Мрази,

суки! Меня едва не ограбили, а они меня же и взяли! А тех уродов даже не попробовали догнать!

Ён пабудзіў усю камеру. Пачалі распытваць і даведаліся, што нейкія хлопцы хацелі адабраць у яго бутэльку гарэлкі, купленую на астатнія грошы, каб “дагнацца”. І гэтую бутэльку прыйшлося разьбіць аб галаву аднаго з грабежнікаў. Тут зьявіліся міліцыянты, і яго “замялі”. Яму васемнаццаць, ён зь вёскі Марозавічы. Я спытаў, нашто яму мойка, і мне наперабой растлумачылі, што “мойка” – гэта лязо брытвы, ён хоча ўскрыць сабе вены, каб трапіць у шпіталь.

Урэшце маладзёна ўсе разам супакоілі, хоць гэта было няпроста, і паснулі. Заснуў і я, часта прачынаючыся, шукаючы зручную позу, або ськідваючы зь сябе чыесьці ногі ці разьмінаючы зацёкшыя члены. Сон мінулай ноччу быў праўдзівы. А тут, на падлозе, сноў не было.

***

Мне ў камеры горача і душна. А астатнія сукамернікі чамусьці мерзнуць. У прыбіральню ідуць захутваючыся ў вопратку, мыюцца толькі крыху пырскаючы вадой у твар. Часьцей, чым уключыць, просяць выключыць вентыляцыю. І амаль увесь час паляць цыгарэты, дзелячы адну на траіх. Зьміцер Базевіч таксама курыць. Прашу яго на час галадоўкі прыпыніць паленьне, але марна.

Раніцай чарговая зьмена турэмшчыкаў праводзіць праверку. Адзін зь іх заходзіць са сьпісам, мы садзімся і адгукаемся на свае прозьвішчы.

Чалавек шэсьць забралі з камеры на працу. Назначаў Мікола. І сам зьнік. Ён называе сябе “бродягой”, гэта па яго тлумачэньні тое ж, што і “аўтарытэт”, перадапошняе “званьне” перад “вором в законе”. Па майму разуменьню, ён не павінен быў ісьці працаваць. А яшчэ Зьміцер, ён наведваў прыбіральню адным з першых, калі я вярнуўся, нашаптаў мне на вуха, што чуў, як Мікола распавядаў старшыні, маўляў, палітычныя сапраўды ўчора нічога ня елі. Відавочна, турэмшчыкі імкнуцца стварыць сярод вязьняў уражаньне, што мы тут адарваныя ад усяго сьвету, што тут робіцца – нікога не хвалюе, але на самой справе імкнуцца быць у курсе ўсіх унутрыкамерных падзеяў. Хутчэй за ўсё сярод нас нехта падсаджаны для назіраньня. Мо нават і Мікола. Надта ж часта ён зьвяртаецца да турэмшчыкаў з усялякімі просьбамі. “Камандзір”, “старшына”, часам нават па імені. І тыя ставяцца да яго паблажліва. Можа я начытаўся ня той літаратуры, але думаю, што прадстаўнік крымінальнага сьвету, якім пазіцыянуе сябе Мікола, не павінен сябе так паводзіць. На мой погляд, ён падобны на “шасьцёрку”, а не на “аўтарытэта”. Але гэта толькі маё асабістае разуменьне. Што дакладна, дык запаведзь “Не прасі”, Мікола не выконвае.

Наркаман, якога кінулі ў камеру ўначы, сьпіць. Не прачынаецца нават

на сьняданак, які праходзіць гэтак жа, як і ўчора вячэра. Зноў Мікола і Аляксандр зьдзіўляюцца высокай якасьці ежы, якой зь іх словаў тут раней ніколі не было. Зноў спрабуюць угаварыць мяне са Зьміцерам паесьці, праяўляючы дзіўны клопат аб нашым здароўі.

У Зьміцера пачалі балець варыкозныя ногі. Кажа, трэба нейкі ўкол. Доўга церпіць, потым кліча дзяжурнага турэмшчыка. Старшынаў зьмянілі двое прапаршчыкаў. Тыя выклікаюць “хуткую дапамогу”, Зьміцера выводзяць, каб зрабіць укол.

Укол зрабілі, ды не той. Анальгін. Зьміцеру гэта не дапамагае, і ён пакутуе па-ранейшаму. На працягу ўсёй адсідкі яму калолі анальгін яшчэ разы тры: “Тут вам не санаторыя”.

Мяне выклікаюць у калідор да століка дзяжурнага. Даюць чытаць правы і абавязкі. Уедліва чытаю, стараюся запамятаваць самае важнае. Ага, перадачы дазволены. Пра “рукі за сьпіну” нічога няма, то і ня буду. Чытаю доўга, тое-сёе па некалькі разоў. Бачу, турэмшчыкам ня церпіцца, але маўчаць. Потым даюць расьпісацца ў нейкім пратаколе, што азнаёмлены. Яго і журнал азнаямленьняў з правамі і абавязкамі я прабягаю бегла. Перш чым расьпісацца ў пратаколе, пішу: “У знак пратэсту супраць адвольнага затрыманьня і асуджэньня аб’яўляю галадоўку”. Гэта выклікае сярод прапаршчыкаў перапуд, але запіс ужо зроблены. Пасьля мяне тыя ж подпісы бяруць і ў Зьміцера Базевіча. Асуджаных “уркаў” такімі дробязямі не непакояць.

Праз паўгадзіны выклікаюць зноў і нейкі мужчына ў цывільным, з лічбавым фотаапаратам пачынае дапытваць, дзе я працую, ці ёсьць і дзе мае дзеці, дзе я прапісаны. На гэтыя пытаньні па магчымасьці ветліва адказваю, што я тут адбываю адміністрацыйнае пакараньне, што “сьледства” і “суд” па маёй справе закончаны і што адказваць на пытаньні невядома каго і невядома для чаго не зьбіраюся. Мужчына пакрыўджана кажа, што ён работнік крыміналістычнай экспертызы і выконвае свае абавязкі, а я яму, у сваю чаргу, што мяне ягоныя абавязкі не хвалююць, і ў мае абавязкі дапамога яму не ўваходзіць. Ён фатаграфуе мае фас і профіль, і я вяртаюся ў камеру.

Толіка, які ўначы зьбіраўся рэзаць вены, звазілі на суд. Прысудзілі пяць сутак. Толік моцна складзены і імкнецца зрабіць уражаньне на сукамернікаў. То стукне кулаком у сьцяну, маўляў, вось які я моцны, то пачынае адціскацца ад падлогі. І ўвесь час балбоча пра свае перамогі ў бойках. Слухаюць даволі абыякава.

Большасьць сукамернікаў ляжыць. Ляжу і я. Падоўгу гутару са Зьміцерам. Адціскаьні Толіка ад падлогі прыводзяць мяне да думкі, што трэба і мне перыядычна даваць сабе нагрузку, інакш за амаль тыдзень ляжаньня зусім аслабну. З гэтага дня кожны раз, злавіўшы момант, калі ніхто не паліць і ў камеры адносна прасторна, я прысядаю, адціскаюся, “качаю” прэс, шыю, раблю статычныя практыкаваньні. Гэта выклікае разуменьне

сярод найбольш уплывовых “уркаў”. Прынамсі, калі “качаюся”, а ў гэты час нехта зьбіраецца закурыць, яго абрываюць: “Что, потерпеть не можешь? Видишь, человек занимается…” І церпяць. Пад канец адсідкі я ўжо і сам прасіў курцоў прыпыніцца на “фізкультпаўзу”.

Ніяк не магу прывыкнуць да рыпу дзьвярэй. Верхняя завеса правіслая, дзьверы ніжнім краем чапляюць за падлогу.

– Ляхно! На выход! – За дзьвярыма на калідоры стаіць турэмшчык з чорным поліэтыленавым пакетам. – Тебе передача!

– Будзьце так ласкавы, – надаю голасу максімальную пяшчоту, – зьвяртайцеся да мяне на “вы”. За гэта я таксама буду зьвяртацца да вас на “вы”. Мне сёньня давалі чытаць мае правы і абавязкі, там напісана, што я маю права на годныя адносіны з вашага боку. Дамовіліся? – Глядзіць на мяне няўцямна, нават не ведаю, зразумеў, ці не. Праз некалькі імгненьняў ківае: – І яшчэ, прапаршчык, мне трэба ў туалет…

– Нет-нет! Здесь порядок! Только утром и вечером.

– Прапаршчык! Беларусь падпісала “Усеагульную Дэкларацыю аб правах чалавека…”. І па гэтай Дэкларацыі я тут пазбаўлены толькі права вольна перамяшчацца. І ў прысудзе не напісана, што я не маю права на сьвежае паветра, на права хадзіць у прыбіральню тады, калі гэтага запатрабуе мой арганізм, а не па нейкім раскладзе…

– Нет! Не положено! Вам передача. Проверьте наличие. – Суне мне ў рукі пакет.

– Як я праверу? Я ж не ведаю, што перадалі…

– Там, внутри, бумага…

Расьхінаю пакет, зьверху аркуш у клетку. Почырк Люды. О! Як цёпла стала на сэрцы! Ніколі б не падумаў, што праз суткі адсідкі адзін толькі жончын почырк здольны выклікаць столькі эмоцый. Ад замілаваньня на вочы просяцца сьлёзы. Толькі не паказаць прапаршчыку!

Палка кілбасы, мінералка, хлеб, плітка шакаладу, сок, бананы, апельсіны і – дзьве кніжкі. Шукшын. І футляр з акулярамі.

– Всё на месте? Пишите: “Передачу получил полностью, замечаний нет.” Дата, подпись.

Пішу: “Перадачу атрымаў цалкам і ўсе прадукты падараваў сукамернікам.” 16.3.06 г. Расьпісваюся. Трэба неяк паведаміць ёй, што я галадаю, каб перадавала толькі ваду бяз газу.

– Выбачайце, хлопцы, вада будзе толькі галадоўцам. А на астатняе налятайце. – стаўлю пакет бліжэй да “уркаў”. Яго адразу перахоплівае Мікола: “Недавно завтракали. Это – съедим после ужина”. Пярэчаньняў няма.

Зноў грымяць дзьверы, на парозе той самы прапаршчык. Па-змоўніцку падміргвае: “Ляхно, идите в туалет”…

Камера, тут і сядзельцы і турэмшчыкі называюць яе “хатай”, вячэрае, мы са Зьміцерам ляжым побач, адвярнуўшыся і заплюшчыўшы вочы.

Імкнемся заснуць, але ў нас не вельмі атрымоўваецца. Мяне зьлёгку штурхае Мікола.

– Паша! Паша! Подвинься, надо нож достать. – Ён адзіны тут кліча мяне на "ты", астатнія "выкаюць". Вымае кавалак плінтуса, да якога я прысланіў галаву, і дастае адтуль лязо ад сьцізорыка. Кроіць кілбасу з маёй перадачы і вяртае лязо на месца. Вось дык фокусьнік!

Павячэраўшы, Мікола нахіляецца да амбразуры ў дзьвярах і кліча: "Командир! Кипятку!". Праз пару хвілін "камандзір" прасоўвае алюміневы кубак, Мікола сыпле туды невядома дзе ўзятую заварку. Потым "уркі" садзяцца ў кола і, перадаючы кубак, прыхлёбваюць па глытку. Прапаноўваюць нам са Зьміцерам: "Пацаны, давайте к нам. Это для желудка первое дело!". Мы адмаўляемся, маўляў, акрамя вады – нічога.

Пасьля чыфіру частка вязьняў сьпіць, Мікола з Аляксандрам і яшчэ некалькімі "хранічнымі зэкамі" гутараць пра свае адсідкі. З усяго я разумею можа трэць. Словы, здаецца, усе знаёмыя, але прымяняюць іх мае сукамернікі ня ў звыклым сэнсе. Большасьць успамінаў старых сядзельцаў пра выпадкі, калі яны нейкім чынам здабылі добрай ежы ці заваркі для чыфіру ці цыгарэтаў. Часьцей за ўсё гучыць выраз "варить-курить". Гэта значыць, наварылі чыфіру, папілі яго, потым запалілі цыгарэты і ўсмак пагутарылі. Бедныя… У іхнім жыцьці больш нічога прыемнага не было. Пра жонак – "тварь", пра дзяцей – "спиногрыз". Толькі пра маці – добра. Але Аляксандра здала сюды менавіта маці, калі ён напіўся, прыцягнуў дадому тузін такіх, як і сам, п'яных дзевак і хлопцаў. Месца беднай жанчыне дома не засталося. Тады яна і выклікала мянтоў. Аляксандр зараз шкадуе маці, кажа, што як выйдзе, будзе прасіць прабачэньня. (У рэальнасьці ён пасьля вызваленьня недзе напіўся, потым нарабіў дома вэрхалу і праз суткі зноў апынуўся на ранейшым месцы.)

Час у камеры цягучы, цяжкі, цьмяны. Адчуваньне такое, быццам ты, страшэнна зьнясілены, трапіў раптам у густую гразь, у багну, якая – і не вада і не зямля. Плыць субстанцыя не дае, а пагружацца – калі ласка… Гадзіньнікаў ні ў кога няма. Колькі часу – ня ведае ніхто. Турэмшчыкі на такія пытаньні не адказваюць. Гэта яшчэ адзін прыём псіхалагічнага катаваньня. У дадатак да адсутнасьці паветра – смурод, адмова выпусьціць у прыбіральню, грубыя вокрыкі, антысанітарыя…

Дзіркі ў блясе на вакне даўно пачарнелі. У камеру запусьцілі вялікага рыхлага мужчыну са стрыжанай пад нуль галавой і кароценькай бародкай з вусамі. Мужчына няўпэўнена пакруціў галавой і сеў на "сцэну". Ад дзьвярынага рыпу большасьць прачнулася, паўзмрок глядзеў на яго восемнаццаццю парамі вачэй.

Такой парой у камеру звычайна кідаюць п'яных, схопленых на вуліцы, ці здадзеных роднымі за хатняе хуліганства. Гэты быў цьвярозы. Дзякуй Богу, прыйдзецца ўціскацца, але хоць не будзе гарлапаніць усю ноч.

– Эй, мужик! Тебя за что? – шляхетным выхаваньнем Толік не вызна-

чаецца. Спрабуе лідзіраваць сярод маладых пастаяльцаў.

– Понимаете, я протестовал против использования гипноза для нанесения вреда здоровью людей…

“Ого! Гэта нешта незвычайнае. Размаўляе мужчына з яскравым маскоўскім акцэнтам. Цікава, што гэта за “пратэстант” з Расеі”.

– Ты ложись, – пасоўвае бліжэйшага суседа Мікола. – И расскажи, кто ты, откуда, как сюда попал.

“Не, усё ж Мікола, відаць, “пастуквае”. Інакш навошта гэтыя пытаньні. Захоча – сам распавядзе”.

– Спасибо, – Мужчына садзіцца на вызваленае месца. – Это долгая история. Но если вам интересно, я расскажу… Меня зовут Алексей, я родом из Пинска, художник-скульптор. Молодым уехал в Питер, окончил там художественное училище, работал, имел квартиру. Потом окончил богословский факультет, попал в тоталитарную секту. В секте практиковали гипноз. В результате я потерял всё. И квартиру, и семью. Живу у сестры. Мне “проехали по мозгам” и сейчас я болею. Любой человек, даже не гипнотизёр сливает на меня отрицательную энергию…

Здаецца, ён не вельмі нармальны. Вясеньняе абвастрэньне?

– Сегодня я написал плакат “Требую принятие закона, запрещающего использование гипноза во вред здоровью человека” и пришёл к горисполкому. Стоял минут двадцать перед окнами. Потом ко мне подошёл майор милиции, мы поговорили, и вот – я здесь.

Вось яно што! Дзядзька выбраў няправільны час для свайго пратэсту. Гэты лозунг перад выбарамі, калі ў чынавенства таксама “абвастрэньне”, запраста прачытваецца, як закамуфляваны выпад супраць, напрыклад, беларускага тэлебачаньня.

Аляксей яшчэ доўга адказвае на пытаньні, нешта распавядае, нашы пастаяльцы перыядычна ўзрываюцца рогатам, а я западаю ў паўсонны стан. Калі і не сьпіш, здаецца – і няма ніякіх думак, і час ляціць незаўважна. Толькі намятыя аб дошкі баляць косьці, і якім бокам ні кладзіся – там баліць таксама. Імкнуся легчы так, каб тварам трапіць у тоненькі халодны струменьчык паветра з вуліцы, які прасочваецца праз дзіркі ў блясе.

***

З раніцы Аляксея звазілі на суд і судзьдзя прыпаяў яму пяць сутак. Не, гэта не Аляксей ненармальны, гэта ў дзяржаўных “органах” нешта з галавой. Ён жа як дзіцё – наіўны і зусім не агрэсіўны. І з поглядамі, прышчэпленымі доўгім знаходжаньнем у метраполіі – абсалютна сугучнымі з афіцыйнай ідэалогіяй. Шкада яго.

Дзьверы рыкнулі, у праёме – тоўсты старшына.

– Пять человек – на работы! Богомаз (гэта мянушка “паганялы” Міколы), выделяй! Через пять минут – на выход.

Трое, зь іх сам Мікола, Аляксандр і яшчэ адзін – выклікаліся самі. З двума выйшла затрымка. Мікола паспрабаваў вылучыць Толіка, але той катэгарычна адмовіўся. Падазраю, што гэта з-за ўчарашняй Міколавай лекцыі пра “законьнікаў”. Толік вельмі зацікавіўся, шмат перапытваў і ўдакладняў. Быццам прымяраў на сябе зладзейскую “карону”. Вядома, што “воры в законе” ніякай працы выконваць не павінны.

– Где ещё двое?! – зароў старшына, калі ахвотнікі выйшлі на калідор. – Вы что, не понимаете – я могу обидеться! Даю ещё три минуты!

– Пацаны! – заскочыў у камеру Мікола. – Вы офигели? Хотите испортить отношения с охраной? – мацюкаючыся, зь неахвотай падняліся яшчэ двое. Таксама з былых зэкаў.

– Чаго гэта Мікола так замітусіўся? – спытаўся я ў Івана, зь якім пазнаёміўся ўчора і зь якім, як аказалася, меў шмат агульных знаёмых. Іван, у адрозьненьне ад мяне, “на сутках”сядзеў не ўпершыню.

– Чаго? Ты ж чуў, што старшына паабяцаў “абідзецца”… – Іван за гэтыя двое сутак у адной камеры з беларускамоўнымі сам пачаў гаварыць па-беларуску. – Гэта значыць, ня дасьць ні цыгарэтаў, ні кіпеню, ні заваркі. “Варыць-курыць” Міколе з кампаніяй не будзе чаго. У прынцыпе, рабіць прыборку вязьні павінны толькі ў камеры. Усё астатняе, гэта рабочае месца турэмшчыкаў і падтрымліваць яго ў належнай чысьціні яны павінны самі. Але за пару цыгарэтаў, кубак гарачай вады, лыжку сухой заваркі ўсю брудную працу выконваюць вязьні. Тыя, каму цыгарэта і чыфір даражэй за ўласную годнасьць. Гэта яны тут ды перад моладзьдзю любяць пальцы гнуць, маўляў “крутыя зэкі”, а на самой справе пра годнасьць ня маюць ніякага ўяўленьня. За абсьлінены недакурак маму прададуць… Мянты, яны ў прынцыпе такія ж самыя, гатовыя ў любы момант падмануць, што-небудзь подлае ўтварыць, гэтым карыстаюцца. Калі іх памяняць месцамі – нічога ня зьменіцца, сёньняшнія турэмшчыкі за недакурак будуць драіць прыбіральню, аж гай будзе шумець.

Філасофскія развагі Івана на некаторы час перарваліся грымлівымі дзьвярыма. Вярнулі назад Яршука з астатнімі. Яны сядзелі ўтрох у камеры на процілеглым канцы калідора. Было шмат месца, было чысьцейшае паветра, але халаднавата. Таксама атрымалі ад жонак передачы. Прынесьлі газеты “Наша ніва” і “Народная воля”. На палях адной зь іх Надзя, карэспандэнтка “Пінскага часу”, напісала запіску: “Пра вас ведае ўся Беларусь. Трымайцеся. Дыктатура зьгіне. Зьгіне і памяць пра дыктатара. Жыве Беларусь!” Прыемна…

У час абеду я і Зьміцер са шкадаваньнем даведаліся, што Яршук з Чавуком наша агульнае рашэньне галадаць праігнаравалі. Акрыяў наркаман, якога кінулі заўчора і, здаецца, дагэтуль не вазілі на суд. Дзіўна, як гэта магло адбыцца? А можа я папросту праспаў гэты час? Наркаман паспрабаваў перахапіць у Міколы разьмеркаваньне ежы, і… пакарміць нас са Зьміцерам:

– Кончайте фигнёй заниматься! Кому вы что докажете своей голодовкой? Вы писали официальное заявление? Нет! Ну и до задницы ваша голодовка! Голодающих должны держать в отдельной камере. А вы же передачи принимаете! Ну, и что с того, что раздаёте остальным, кто об этом узнает? – наркаман аказаўся надзвычай гаваркі, занадта абазнаны ў нашых справах, асабліва калі ўлічыць, што ён столькі часу быццам бы спаў, і гаворка яго была вельмі хуткай. А мне здавалася, што наркаманы, асабліва пасьля ломкі, размаўляюць павольна, затарможана. Нават і анекдоты пра гэта ёсьць. Я слухаў, слухаў, а потым абарваў:

– Чуеш, хлопец! Калі я захачу парады, я адразу зьвярнуся да цябе. Добра? – нешта вельмі ён мяне раздражняў. Дарэчы, да таго, што я неяк не заўважыў, калі яго судзілі – я яшчэ не заўважыў момант, калі ён зьнік. Можа ў мяне і паранойя, але разумныя людзі кажуць, што нават калі ў цябе яна і ёсьць, то гэта зусім не значыць, што за табою не сочаць…

Гэтым днём вельмі хацелася есьці. Відаць, таму я быў злосны. Вылаяў Чавука, калі ён, гэтак жа, як і наркаман, пачаў спакушаць Зьміцера ежай. Мне гэта здалося подлым. Чалавек пакутуе ад голаду і ад хваробы, трымаецца з усяе сілы, а тут замест таго, каб маральна падтрымаць, у цябе пад носам круцяць кавалкам кілбасы і робіць гэта не мянтоўскі агент, а твой паплечнік.

Скончылася вячэра, вынесьлі посуд, уся камера патанула ў шызым сьмярдзючым дыме. Потым зноў зароў турэмшчык:

– Всем встать!

“А вось і хрэн вам. Ня буду, у правілах не напісана, што я павінен ускокваць перад мянтоўскім начальствам. Ляжу. І Зьміцер побач ляжыць. Малойца. Астатнія ўскочылі. Малады мужчына ў цывільным. Стаіць ля парашы і косіць вокам у наш са Зьміцерам бок. Хай косіць – мы галадаем, у нас сілы канчаюцца…”

– Ну, как обстановка? Жалобы, заявления есть?

Усе адразу загаласілі хорам свае скаргі. Наіўнякі. Ясная ж справа – выконвае фармальны абавязак, каб потым паставіць недзе ў сваёй дакументацыі “птушачку”.

– А вы почему не встаёте? – у наш бок.

– А хто вы такі, каб перад вамі ўскокваць?

– Я прокурор города. – Прозьвішча не назваў.

– Мы аб’явілі галадоўку пратэсту супраць незаконнага затрыманьня і асуджэньня. Беражэм сілы…

– А вы писали заявление об этом?

– Адміністрацыя ізалятара не прадаставіла нам па нашым патрабаваньні паперу і аловак. Але аб галадоўцы я пісаў ва ўсіх паперах, якія тут мне давалі падпісваць. Яны абавязаны былі вам аб гэтым далажыць. Ці не так?

Пракурор няпэўна хітае галавой.

– Апрача таго, я зараз, карыстаючыся вашай прысутнасьцю, заяўляю

вусна: Я, Павел Ляхно і Зьміцер Базевіч трымаем з моманту затрыманьня галадоўку пратэсту. Мы пратэстуем супраць фабрыкацыі ў дачыненьні да нас абвінавачваньня ў адміністратыўным правапарушэньні. Мы не зьдзяйсьнялі правапарушэньняў. Вам дастаткова нашых вусных заяваў?

– Вы можете заявлять только от себя лично, но не от Базевича. Ещё жалобы, заявления есть?

Зноў загаманіў хор: Парашу не позволяют выносить, только раз в сутки! Воняет! В туалет не отпускают, места мало! Лежим друг на друге!

– Вы меня удивляете! Здесь не санаторий!

Круць – і няма пракурора.

Пасьля гэтага "візіту" сукамернікі доўга гудзяць, абмяркоўваючы становішча, скардзячыся адзін-аднаму. Потым хтосьці з "уркаў" выцягвае аркуш паперы і прапаноўвае мне напісаць скаргу ў пракуратуру на ўмовы ўтрыманьня. Я лянуюся, таму, спаслаўшыся на слабое асьвятленьне, адмаўляюся. Тады ўсе пастаяльцы пераключаюцца на Віцю Яршука.

Урэшце мы падручнымі сродкамі вымяраем "спальную плошчу" і я дыктую, а Віця запісвае скаргу. Вечарам выпускаюць на волю Івана, той паабяцаў заўтра перадаць яе ў пракуратуру. У скарзе мы пішам, што на дзевяць з паловай квадратных метраў плошчы закінулі васемнаццаць вязьняў, што няма каналізацыі, а параша выносіцца толькі раз на суткі, што з-за гэтага атмасфера камеры ўтрымлівае шкодныя для здароўя прымесі, што нас пазбавілі волі, але на самой справе акрамя волі над намі зьдзекуюцца і прымяняюць катаваньні, бо такія ўмовы ўтрыманьня зьяўляюцца фактычна катаваньнямі. Падпісвае ўся камера. На разьвітаньне дыктую Івану хатні тэлефон і прашу паведаміць Людзе, каб перадавала толькі ваду бяз газу.

Калі крыху супакоіліся, бяру кніжку Шукшына, падыходжу ўшчыльную да лямпачкі і ў камеры ўсталёўваецца цішыня. Мабыць, за ўвесь век яе існаваньня тут упершыню гучыць мастацкае слова. Чытаю: "Сильные идут дальше". Ад рогату ажно дрыжаць сцены, у амбразуры зьяўляецца здзіўлены твар турэмшчыка. "Хор-рошая статья…" – падсумоўвае адзін з "уркаў".

…Зусім позна, большасьць вязняў сьпіць. Хтосьці храпе, хтосьці пасапвае, у розных кутках камеры гучыць невыразнае мармытаньне. Расчыняюцца дзьверы і злосны голас вымаўляе: "Идиоты, научитесь площадь измерять!" Зачыняюцца. Зразумела, нашу скаргу ў Івана знайшлі. Невядома толькі, чаму турэмшчык пра гэта паведаміў. Таемны прыхільнік?

Паступова пачаў прывыкаць да дошак. Бакі не так ужо і баляць. Тут бы паспаць, але не далі. Гэтай ноччу з пінскіх вуліц прыцягнулі і кінулі да нас чатырох. І ўсе п'яныя да таго стану, калі энергія віруе і шукае выйсьця. Толькі пад раніцу стаміліся і паснулі. Дзед, векам пад семдзесят, калі заснуў на краі "сцэны", то ўпаў уніз, да парашы. Там і правёў астатак часу

да пад'ёму.

***

Заўтра прэзідэнцкія выбары. Якраз тое, з-за чаго мы ўпяцёх апынуліся ў гэтай сьмярдзючай яме.

– Дзядзька Павал, вы ня думаеце, што пазаўтра мы прачнемся ў іншай краіне? Можа нават нас і вызваляць на пару дзён раней? – Сьмяецца Зьміцер.

– Ой, Зьміцер! Твае б словы ды Богу ў вушы. Але не для таго ты тут бязьвінна сядзіш, не таму працэнтаў сорак выбарцаў ужо загнаныя на датэрміновае галасаваньне, не таму ў выбарчых камісіях няма ніводнага прадстаўніка альтэрнатыўных кандыдатаў, не таму парушаны нават дзеючы выбарчы Кодэкс – Лукашэнка на час кампаніі не пайшоў у адпачынак. Думаю нават, што і падліку бюлетэняў ніякіх ня будзе. Не дарэмна ж не пусьцілі ў краіну назіральнікаў зь Еўразьвязу. А расейскія так званыя назіральнікі аб'явяць дэмакратычнымі якія заўгодна парушэньні законаў. Так што, Зьміцерка, ты прачнешся са старым новым прэзідэнтам. Толькі не думай, што гэтае нашае зьняволеньне – дарэмнае. Думай пра тое, што калі б не было нацыянальна-вызвольнага паўстаньня пад кіраўніцтвам Касьцюшкі, не было б і паўстаньняў 1831 года, і 1863–га, пад кіраўніцтвам Каліноўскага. А бязь іх не ўтварылася б Беларуская Народная Рэспубліка. Без БНР і гутаркі б не было пра БССР і Рэспубліку Беларусь. Нічога, Зьміцер, не прападае дарэмна. І твае пакуты лягуць цаглінай у мур прыгожага дома, які будзе называцца вольнай, дэмакратычнай Беларусьсю. Над гэтым домам вецер волі расправіць бел-чырвона-белы сьцяг. Вер, так і будзе. Дай Бог толькі дажыць да таго часу. А яшчэ – шкада загубленых нашай нацыяй за апошнія дванаццаць гадоў магчымасьцяў.

Увесь дзень усе палітычныя ўзбуджаны. Размовы, размовы. Прагнозы. І хоць ніхто не верыць у хуткую перамогу, недзе глыбока ў душы кожны хавае надзею. А раптам? Бо некалі ж і камуністычны рэжым здаваўся такім моцным, такім “нерушимым”, а ляснуў імгненна.

…Сяргей Касьцевіч пачаў скардзіцца на болі ў сэрцы. “Хуткую” турэмшчыкі выклікалі пасьля чацьвёртага патрабаваньня. Суправаджаў абмяклага Сяргея лейтэнант, які замкнуў на яго руках кайданкі і спалохана папярэдзіў: “Попробуешь убежать – застрелю”, – і калі машыну кідала на калдобінах, хапаўся за кабуру зь пісталетам. У бальніцы Сяргею памералі крывяны ціск, і на гэтым медычная дапамога завяршылася. Затое, калі вярнулі ў ізалятар – распранулі дагала і абмацалі на вопратцы кожнае шво. Зазірнулі нават у рот і задніцу. Пра тое, што ўладамі арыштаваныя па палітычных матывах людзі, і што частка з іх у знак пратэсту галадае, ведаюць нават бальнічныя медыкі.

Праз пару гадзінаў пасьля вячэры ў калідоры пачуўся шум. Сярод галасоў выдзяляўся жаночы віск. Нашы маладзёны адразу кінуліся да амбразуры. Турэмшчыкі зацягнулі ў камеру насупраць маладую дзяўчыну. Тая ўпіралася і брудна лаялася. Потым у камеры пачала сьвістаць у міліцэйскі сьвісток і біць у дзьверы. Нашы рагаталі і падбадзёрвалі. Скончылася тым, што да жанчын ўварваўся турэмшчык, паабяцаў яе зьбіць і, відаць, адабраў сьвісток.

Праз нядоўгі час у тую ж камеру кінулі яшчэ адну жанчыну. Мяркуючы па яе крыках – цяжарную:

– Мент! Слышь, мент! Мусор!! Выпусти меня отсюда! Не видишь, я беременная! Дебил, ты в чём-нибудь соображаешь? Ты знаешь, что такое “воды отошли”? У меня воды отошли! Я рожаю! Уроды, выпустите меня! – Гэта працягвалася ўсю ноч. Да яе крыкаў далучаліся стукі ў дзьверы, мацюкі турэмшчыкаў і сукамерніц, якія дарэмна спрабавалі яе супакоіць. Наша моладзь спачатку забаўлялася, потым ёй гэты вэрхал надакучыў. Тым больш, у камеру да нас кінулі асобу, якая на кароткі час заваявала ўсю ўвагу.

Было ўжо, мабыць, пасьля апоўначы, калі ў камеры зьявіўся мужчына ў паліто і шыкоўным касьцюме-тройцы з гальштукам. Паводзіў сябе як добра п’яны. Прадставіўся адстаўным палкоўнікам ФСБ Гараглядам і міжнародным назіральнікам за ходам выбараў ад Расеі. Сказаў, што трапіў сюды выпадкова, што заўтра раніцай яго адсюль вызваляць, што родам з-пад Пінска, зь вёскі Ставок. Сапраўды, ужо пасьля пад’ёму яго выклікалі і ў камеру ён больш не вярнуўся.

Распавёўшы пра сябе, назіральнік ад Расеі палкоўнік Гарагляд пачаў прадстаўленьне. Спачатку імітаваў шумы і трэск міліцэйскай рацыі і металічным голасам крычаў: “Первый! Первый! Я шестой! На связь! Приём!”. Імітаваў вельмі падобна і спачатку гэта выклікала рогат. Потым палкоўнік ФСБ панёс нешта такое, што паўтарыць немагчыма – скарагаворкай бессэнсоўны набор слоў, і нёс гэта хвілін дзесяць, аж пакуль Толік не паабяцаў, калі той не заткнецца, даць яму ў лоб. Той імгненна “заткнуўся”. Прылёг на краі “сцэны” і праз некалькі хвілін пачаў выклікаць на размову, мне здалося, …мяне. “Здесь есть морская пехота Севера?! Морпехи Северного флота, отзовитесь! Североморцы, полундра! Североморцы, подъём! Кто североморец? Отзовись!” – паўтараў гэта хвілін пятнаццаць. Потым змоўк. Відаць, заснуў.

Апошняй падзеяй гэтага дня быў крык на вуліцы, які данёсься праз дзірачкі ў бляхе:

– Эй, суточники! Ляхно у вас?

– У нас! Гэта я! – прынік вухам да бляхі.

– Паша, ты?

– Я! Чуваць кепска, хто там, не пазнаю.

– Ты как? Как здоровье? – Сукамернікі, хто спаў, прачнуліся, сьцішы-

ліся, часам шыкаюць адзін на аднаго, каб не заглушалі голас з вуліцы.

– Нармальна! Ты хто?

– Я здесь митинг провожу! В поддержку тебя! – І на ўсё горла: – Сво–о –бо–о–ду–у Ля–я–а–хно–о–о!!! – І тупат ног. Толькі б не злавілі. Так і не пазнаў, хто гэта зрабіў такі каштоўны падарунак. Даведаўся пасьля вызваленьня. Юра Дарэцкі, з якім разам займаемся падводным паляваньнем. Ніколі не чакаў ад яго такога ўчынку!.

***

Пасьля апоўдня азадачаны турэмшчык аб’явіў, каб падрыхтаваліся да галасаваньня, прывезьлі пераносную скрынку. Што там рыхтавацца! Віця Яршук з Сяргеем Касьцевічам апошнія двое сутак толькі і рабілі, што агітавалі камерных пастаяльцаў да асэнсаванага выбару. Расхвальвалі Казуліна і Мілінкевіча, больш Казуліна, яны зь ягонай групы падтрымкі. Дзьверы камеры насьцеж. Першым выклікалі Аляксея. Я адразу зароў: “Хлопцы, глядзіце! Прэзідэнта нам выбіраюць іншаземцы!” Галасаваньне арганізавалі побач, за сьценкай, у камеры для допытаў, відаць, там пачулі маё абурэньне, бо праз хвіліну Аляксей вярнуўся і паведаміў, што галасаваць яму не дазволілі як нянаскаму грамадзяніну.

Выклікалі мяне. У “катавальні” на стале, прымацаваным да падлогі, маленечкая фанерная скрынка са шчылінай. Двое ні то са спалоханымі, ні то са зьдзіўленымі вачыма. Дзеля задзёру патрабую паказаць, як скрынка апячатана. Замітусіліся, паказваюць. “Пал Андреич, Пал Андреич, всё по закону…” Далі расьпісацца ў сьпісе, выдалі бюлетэнь. “Определяйтесь с выбором…” – і выскачылі з камеры, маўляў, даюць магчымасьць для таемнага галасаваньня. Дарэчы, так яны выскоквалі толькі пяць разоў, калі галасавалі палітзьняволеныя. “Уркі” ж такога “гонару” ня мелі. Але ж ведалі, пры кім выскокваць. Нас у камеры тады было пятнаццаць чалавек.

Адразу пасьля заканчэньня галасаваньня праводзім у камеры “экзіт пул” і выяўляецца, што Лукашэнка набраў сярод нашых выбарцаў нуль працэнтаў. Гайдукевіч – таксама нуль. “Супраць усіх” не прагаласаваў ніхто. Такім чынам, усе галасы падзяліліся паміж Казуліным і Мілінкевічам. Гэта паказальна. Ня трэба нават вялікай агітацыі. Вусаты твар даўно ўсім абрыдлы. Каб толькі бюлетэні насамрэч лічылі…

Мы са Зьміцерам ляжым і спрабуем заснуць. Толькі што была вячэра, зараз амаль усе вязьні паляць. У камеры не прадыхнуць. Дзьверы грымяць: “Встать!” – раве турэмшчык, і ў камеры ўзьнікае той маёрчык, што дакладваў начальству наконт “разборок с демократами”. Здаецца, Грыньчык ці Грынёк?

– Какие будут жалобы, заявления? Как хаванина?

– Хавчик хороший, начальник! Раньше такого не было… – перабіваюць адзін аднаго вязьні. – Спасибо, начальник, мы и дома такого… – Цьфу,

смаўжы!

– Все проголосовали? Претензий нет?

– Нет, нет, какие претензии, начальник!

Тут “уркаў” перакрывае добра пастаўлены голас Віці Яршука.

– Виктор Егорыч! – Бач, ведае як клікаць! І на расейскую перайшоў. – А давайте по случаю президентских выборов сделаем амнистию… Ладно уж, нам, политическим – не надо… Только для этих вот ребят, которые по бытовым правонарушениям… – Камера зачарована замаўкае. Я ляжу, уткнуўшыся тварам у Зьміцераву сьпіну, раблю выгляд, што сплю, а сам ледзьве не лопаюся ад злосьці.

– Ха-ха! Нет! Нет! Вор должен сидеть в тюрьме! Слышали такое выражение? – атрымаў, папуліст хрэнаў.

– Начальник! Ну разрешите хоть парашу на ночь выливать!

– Здесь не санаторий!

Маёрчык сыходзіць, Віцька кладзецца на сваё месца, і я шапчу яму на вуха ўсё, што думаю пра ягоны папулізм, пра вярчэньне хвастом, пра мянтоў, пра гарадскога начальніка і ягоных намесьнікаў, пра “вась-вась” зь імі. Маўчыць. Відаць, згаджаецца.

…Уначы закінулі маладога мужчыну. Цьвярозы, энергічны, добра апрануты. За што – не расказвае. Ну і не вельмі цікава. Сам сабе, з расейскім акцэнтам лаецца:

– Ур-роды! Телефон забрали! Ладно, завтра я со всеми гнидами поквитаюсь. У-у, с-суки, макаки, бабуины!… – Пад ягоную ціхую лаянку незаўважна для сябе засынаю. Цела ўжо прывыкла да цьвёрдага і дошкі падлогі, калі і не здаюцца пярынай, то, прынамсі, не муляюць. Прачынаюся ад нягучнага галашэньня:

– Господи, да что ж это такое! Только этого ещё не хватало! О, Боже, что делать?

– Чего ты скулишь? – пытаецца Мікола, “смотрящий”.

– Живот крутит, сил нет! В туалет надо.

– Позови дежурного. Скажи так, мол, и так.

Мужчына нахіляецца да “амбразуры”, кліча турэмшчыка. Спачатку ціха, відавочна, баючыся непакоіць пастаяльцаў камеры, потым усё мацней, пакуль не пераходзіць на крык:

– Дежурный! Старшина! Подойди к двенадцатой камере!

– Чё орёшь? – чуецца нарэшце голас за дзьвярыма.

– Старшина! Живот скрутило, мочи нет! Пусти в туалет…

– Не положено!

– Как не положено?! Старшина! Понос у меня! Ты человек или не человек?!! Ну пусти, старшина, Христом Богом прошу!

– Не положено…

– Что ты заладил – “не положено, не положено”! Ты что, садист? Тебе же говорят – понос у меня!

– Дрыщи в парашу… – пакрочыў па калідоры.

– Господи, что же делать! Господи, дай мне дожить до утра! Ну фашисты, ну гниды...

***

Ведаем, што вынікі выбараў будуць фальсіфікаваныя, а ўсё адно з раніцы б'е мандраж: "Ну як там?". Турэмшчыкі ходзяць важныя і на пытаньні не адказваюць. Бліжэй да абеду голас за "вакном", гэта значыць за бляхай зь дзіркамі: "У Лукі дзевяноста два адсоткі!". І ўсё. Па голасе вызначылі, што крычаў, відаць, Аўсей. Ня даўся-такі ў лапы "гестапа". Але дзевяноста два – гэта лухта. Ня можа быць, каб фальсіфікатары пайшлі на такія працэнты. Гэта ўсё роўна, як прызнацца ў фальсіфікацыі. Яны мразь, але ня дурні.

Такой лічбы не чакаў ніхто, і Сяргей Касьцевіч адразу прачытаў лекцыю пра маніпуляцыі на выбарах. Як гэта рабілася на папярэдніх і што рыхтавалася да ўчарашніх. Усе відавочна расчараваныя.

Сёньня шосты дзень ўвязьненьня палітычных, а калі лічыць па сутках, то заканчваюцца пятыя. Яршука, Касьцевіча і Чавука павінны выпусьціць. Нам са Зьміцерам валяцца на падлозе яшчэ суткі. Віця ўголас распавядае, як ён прыйдзе дадому і будзе дзьве гадзіны адмакаць у ваньне.

– А вы не думаеце, што вас могуць пахапаць на выхадзе і зачыніць паўторна? Яны ж зусім перасталі зважаць на законнасьць, – кажу хлопцам. – Маральна вы павінны быць гатовымі і да такога павароту падзеяў. Яны захочуць вас зламаць, і гэта самы зручны момант – калі вы адчуеце, што катаваньні скончыліся, вы вытрымалі, а тут раз – і зноў у катоўню.

– Мне адразу можна будзе замаўляць труну, – паведамляе Касьцевіч. – Я на гэтых харчах памру. Але думаю, нас схапілі толькі на час выбараў, а зараз – навошта ім?

(Віця паляжыць-такі ў ваньне. Але праз дзень будзе схоплены зноў – за нібыта нецэнзуршчыну – і асуджаны на шэсьць сутак. Улады паспрабуюць перашкодзіць выхаду чарговага нумару "Пінскага часу". Вурдалакі баяцца сьвятла. Але газета выйдзе і без рэдактара.)

У нас са Зьміцерам заканчваецца вада. Есьці не хочацца зусім. У целе лёгкасьць. Настрой, нягледзячы на крушэньне надзей, хоць і зусім слабых, прыпадняты. Гэта, відаць эйфарыя з галаду. Калі ўстаем, то ўваччу мігціць і ўсё навокал здаецца нерэальным, як на экране тэлевізара. Папрасіў Віцю адразу пасьля вызваленьня патэлефанаваць Людзе, каб хуценька перадала вады. Але Віця яшчэ ў камеры, а ваду ўжо турэмшчык прынёс. Малайчынка! Жонка, а не турэмшчык.

Вечарам доўга і падрабязна распавядаю Зьміцеру, як трэба выходзіць з галадоўкі, каб не нашкодзіць здароўю. У свой час я прачытаў пра гэта даволі літаратуры і тое-сёе ведаю.

***

У адзінаццаць дваццаць заканчваецца тэрмін Зьміцера, у чатырнаццаць нуль пяць – у мяне. Прынамсі, так паведаміў мне ў час учарашняй вячэрняй “оправки” дзяжурны турэмшчык. Гадзіньніка ў нас няма, іх пры паступленьні адбіраюць, таму пры кожным рыпеньні дзьвярэй Зьміцер уськідвае галаву і з надзеяй глядзіць на турэмшчыка. Урэшце яго выклікаюць “На выход с вещами”, ён падхопліваецца, хуценька разьвітваецца са мной, з астатнімі вязьнямі – і зьнікае.

Ня трэба паказваць турэмшчыкам нецярпеньня. Калі папраўдзе, то нецярпеньня і няма. Спрабую заснуць, але не магу. Толькі западаю ў знаёмую ўжо паўпрытомнасьць. Чую ўсё – крокі, гутаркі, шумы машын на вуліцы, чую пах тытунёвага дыму, але не адчуваю часу. Як калода – ніякіх пачуцьцяў, ніякіх эмоцый, думкі запаволеныя. Ад учарашняй эйфарыі не засталося нічога.

Хлопцы не вярнуліся, значыць, ёсьць надзея, што іх не пахапалі на выхадзе, хоць гэта не факт. Маглі пахапаць і зараз трымаць у іншай камеры. Так што трэба быць гатовым адразу пасьля вызваленьня вярнуцца назад, і не ўчыніць істэрыкі. Няможна дастаўляць гэтым, як казаў той хлопец? – Бабуінам? – задавальненьня. Яны ж садысты, насамрэч яны атрымоўваюць ад чалавечых пакутаў кайф.

– Ляхно! На выход с вещами! – прапаршчык у дзьвярах зьдзіўлена глядзіць на мой пакамечаны, нібыта заспаны твар. Я пачынаю зьбіраць у агульны пакет рэчы – наўмысна загадзя не зьбіраўся, каб не выявіць перад турэмшчыкам сьпешкі. Прапаршчык не вытрымлівае, грымнуўшы, зачыняе дзьверы. Спускаю ногі са “сцэны”, шукаю чаравікі, надзяваю.

Цяпер чакаць прыходзіцца мне. Прапаршчык помсьціць за маруднасьць, за абыякавасьць. Зазвычай вызваленыя выказваюць любоў да цэлага сьвету, у тым ліку і да сваіх былых катаў. За мінулыя шэсьць сутак я нагледзеўся на гэта даволі.

Ля стала ў калідоры двое прапаршчыкаў і маёр. Здаецца, гэта начальнік ізалятара. У яго літоўскае прозьвішча. І як гэта вольналюбівыя літоўцы нарадзілі асобіну, што можа існаваць ва ўмовах сучаснай Беларусі, ды яшчэ служыць у мянтуры?

Прапаршчык працягвае пакет з рэчамі, што забралі пры арышце:

– Проверьте наличие. А то потом от ваших жалоб не отобьёшься…

– Абавязкова праверу. Не веру ніводнаму слову, калі яно ад людзей з вашай канторы… – Шукаю ў пакеце пашпарт. Вось. На месцы. – Усё. Дзе расьпісацца?

Расьпісваюся, маёр вядзе мяне наверх, у фае, і там пакідае. Націскаю на цяжкія жалезныя дзьверы, выходжу на ганак. Галава круціцца ад сьвежага паветра і мяне крыху хістае. О! Ужо вясна! Прахалодна, але сьнегу няма, і ў паветры разьліты пах набрынялых пупышак. Па ходніку бяжыць некуды дзяўчо гадоў васьмі. Ай і прыгожа ж бяжыць! Імкліва, тэхнічна!

Можа будзе чэмпіёнкай. Можа праславіць Радзіму. Бяжы, дзяўчынка, бяжы. Праслаў Беларусь. Толькі бел-чырвона-белую. Бяжы.

Праз дарогу, на другім баку вуліцы грамада, чалавек дваццаць. Махаюць. Пазнаю вызваленых учора паплечнікаў-сукамернікаў. Спускаюся па прыступках. Ад грамады аддзяляецца маленькая постаць з кветкай у руках. Скача на шыю, цалуе:

– Мая ты радасьць! А які ж ты сьмярдзючы!

– А ты ж казала – “Харошы сон! На грошы!” – сьмяюся я.

У горле камяк, і я ніяк не магу яго праглынуць.

15–21 сакавіка 2006 г. Пінск.




Уладзімір Хін, *Трыпціх "Прытча"*

# МАСТАЦТВА

## Изображение и слово в гравюре
(заметки о синтезе)

**ВЛАДИМИР ХИН**
Минск

Гравюра объединяет все моменты, которыми богаты пластические искусства, синтезирует и усиливает их пластическое звучание.

Она позволяет нам взглянуть на современный мир в другом ракурсе, которого лишены живопись, скульптура, рисунок и сегодня компьютерная графика.

Гравюра давно является самостоятельным видом искусства со своим только ей присущим языком. Возможности и особенности гравюры, ее художественный язык открывают перед художником широкое поле деятельности.

А когда в искусстве намечался или возникал упадок, то гравюра во все времена генерировала новые идеи. Эти идеи помогали живописи и другим видам искусства в тупиковых ситуациях, помогали их возрождению.

В этих заметках личный опыт по синтезу изображения и слова в гравюре, который открыл мне новые образные и пластические возможности в достижении поставленной перед собой цели.

Фундамент, основу всякого творчества заключают в себе школа и чувство ритма. В цветовом аспекте моя гравюра все-таки в большинстве своем остается верна черно-белым отношениям.

Можно сказать, что слово является вызовом, предпосылкой к воображению, к творческому труду... плюс мысль и чувство. Потом из-под станка выходит оттиск, результат, где все определено и конкретно, и этот результат гравюра – произведение искусства.

Левое и правое полушарие нашего мозга не обособлены и в каждом акте познания интеллект и интуиция не обходятся друг без друга, они дополняют друг друга, обогащая этим познание мира.

Поэзия – идеальный вид искусства, в котором максимально реализуются эстетические категории субъективного, индивидуального.., в этом контексте... поэтический текст и изображение, да и просто текст, как разные принципы мировоззрения... взаимопроникая и дополняя друг друга, сглаживают возникающие противоречия между собой, то есть между словом и изображением, и превращаются в целостную структуру – в матрицу, в печатную форму... затем оттиск, отпечаток, след во временном пространстве... и этот след – произведение искусства, эстамп.

Визуальная среда гравюры. Языковая структура. Анализ знака буквы. Лингвистическо-логическал модель. Языковой элемент (текст, буква, поэзия) такие же носители пластической образности в гравюре, как и изображение.

Знак буквы, текст повышает экспрессию в гравюре и понимается мной, как сложное и многозначное явление со своим языком ритма.

Это только на первый взгляд слово и изображение в гравюре далекие и чужие, но по высшей сути буква и гравюра близкие родственники. Это не единожды доказано в истории искусств.

Мысль есть действие, а действие всегда есть результат – положительный или отрицательный и это уже – Опыт.

Гравюра должна захватывать, производить впечатление на ум и чувства средствами своего искусства, используя разные технические приемы и разные принципы художественного решения тех задач, которые поставил перед собой художник посредством черного и белого, посредством линии, пятна и точки плюс слово.

Гравюра не копия природы, гравюра ее дитя. Главное – идея, чувство. Гравюра без идеи, без чувства – просто набор этих самых пятен, линий, точек и слов на белом поле листа.

Воображение не есть действительность, но корни, источник, родник воображения – объективная реальность, мысль и жизнь духа.

Взаимодействие, близость знака буквы и изображения, их родство, значение слова как такового... поэзия линии, точки, знака буквы, горизонтали, вертикали, пятна и поэзия слова... плюс звук – слово произносится... даже про себя читается... возникает сфера ритмической гармонии, сфера общения на уровне вербального и визуального. Синтез дает нам новые ощущения, новые переживания, новое произведение, рожденное из природы, как часть целого.

Ритм изображения, ритм слова в гравюре синтезируется и на плоскости доски возникает новый мир – мир изображения и слова, мир новой гравюры.

В стихотворении и в любом тексте стараюсь найти что-то близкое моей натуре, моему внутреннему ритму также, как при созерцании природы. Все во времени – прошлое, настоящее, будущее...

Текст, стихотворение – часть души автора, его ритм, его дух, его

жизненный опыт, его интеллект, его сердце и сам он – часть той природы, которая его окружала.

Разные ритмы объединены и существуют в одном. Текст – это всегда прошлое. Моя встреча с ним – настоящее. Результат от встречи – это будущее. В тоже время этот ритм всегда был – ритм Космоса.

Передо мной стоит задача гармонии – синтезировать прошлое, настоящее и снова включить (новую композицию) во вселенский ритм, но обновленным качественно, пропустив все через свое сердце, то есть придать прошлому современные черты (вопросы пластики) и угадать ритмы будущего. Получается интерпретация, аранжировка текста, изображения, стихотворения в визуальных образах и не только смысла, но и самого текста как изображения.

Совершается метаморфоза и текст, стихотворение рождаются как бы заново еще раз, где текст не только смысл, но и каждая буква есть изобразительный момент, элемент гравюры, и рождается это в другом отрезке времени, с другим отсчетом морально-нравственных норм сегодняшнего нашего общества.

Но написанный текст, стихотворение не вырываются, не изымаются из великого закона всеобщего ритма вселенной в силу того, что "закон космоса незыблем", как и многие другие вечные ориентиры на Земле – как Любовь, Вера и Надежда.

Созданное произведение, если это сделано добротно, включается во всеобщий ритм и живет уже своей жизнью и не зависит от автора. А если плохо – говорить можно только как о неудаче. Бывает и такое. Это тоже результат, но с другим знаком. В пути мы учимся и любая работа – это опыт, шаг вперед.

Алфавит – книга творения – инструмент творения Человека как личность в системе письменности и изображения.

Практика без теории и расширения кругозора, без дисциплины труда не даст желаемых результатов. Развитие – это от простого к сложному – от низшего к высшему – это процесс, движение, метаморфоза, трансформация. Это – изменение противоположное регрессу, распаду. Все взаимосвязано между Небом, Землей и Человеком.

Человек – часть ритма Вселенной. Психика человека и физическое его тело – высокоорганизованное свойство материи.

Движение – моторные функции человека. Физические, внешние, психические, внутренние, умственные.

Центральная нервная система – головной, спинной мозг.

Слово – другая сигнальная система.

Буква, алфавит, слово – физиологические и психические функции человека, как пульс, водный обмен, теплообмен, сознание, эмоции, внимание, воля, память, речь, мышление и так далее.

Ассоциации – буква, текст – по сходству, по контрасту, по сложности и

плюс сложные ассоциации причинно-следственных связей. Слово, буква – язык, речь, обмен идеями. Слово, буква – вызывает образы и представления о предметах. Слово – знания, чувства, эмоции.

Работа над композицией – это всегда вопрос-ответ, это выполнение поставленной задачи, это рассуждение, анализ плюс вдохновение, интуиция, то есть необходимо найти общий знаменатель всех явлений, всех ритмов при создании художественного образа.

Необходимо в каждой работе ставить себе новые задачи и решать их не стандартно, а изобретательно, творчески, находя новые пластические решения данной темы, данной композиции.

При этом не повторять старые приемы и способы решения, которые были в предыдущих работах. Всегда необходимо стремиться к новому способу, к новому решению поставленной перед собой задачи, а это предполагает не только изобретательность, воображение, интуицию, но и критический ум, а следовательно, и дисциплину, и силу воли к достижению желаемого результата в работе над композицией.

Штамп – враг художника, его капкан.Трафарет никогда не давал и не даст свободу художнику и внешняя манера не есть почерк, стиль автора.

Со штампом художник должен бороться, как со злейшим врагом, ибо это должно быть чуждо его творчеству. Все оригинальное – внутри нас, только необходимо время и усилия для познания своего "я".

Композиция гравюры с введением в нее слова образует вместе с изображением свой ритм, который построен на противоположности черного и белого, толстого и тонкого и, если есть цвет – красного и зеленого, желтого и фиолетового и так далее, но в целом построение композиции преследует одну цель – выразить определенную мысль в определенном ритме и создать художественный образ из изображения и текста, который волнует автора.

Знак буквы – колебание, вибрации пространства внутри человека и вне его. Звук буквы.

Знак буквы – ритм слова, написанного, нарезанного, прочитанного. Любая письменная запись останавливает мгновение, сохраняя идею, событие и мысль, тем более текст, гравированный и пластически совмещенный с изобразительным моментом в гравюре, неся в себе разный эмоциональный накал за счет контрастов пропорций.

Точность характеристики буквы, строки, блока текста и их образное решение в связи с изобразительным рядом гравюры плюс точность расставленных акцентов черно-белого пятна, линии и точки, вероятно, и даст нам желаемый результат.

В тоже время посредством слова может быть вызвана противоположная мысль, не относящаяся якобы к теме, изображением графически не поддержанная, но ассоциативно связанная с ним и не только пластикой, но и внутренним напряжением всего ритма доски. Двигательные функции

руки /моторные/ с резцом при гравировании на доске должны осуществляться свободно и с той экспрессией, которую требует доска, как материал, и сама композиция, состоящая из изображения и текста, которым необходимо дать жизнь.

Не надо в это время думать о лице, индивидуальности и стиле – личность, если она есть, проявится сама, хочет этого художник или нет, ибо это суть творчества.

Любое пятно, линия, изображение в целом, точка, буква вызывают у нас определенные эмоции, мысли, что позволяет художнику создавать образы, которые путем ассоциаций скажут о главном в данной гравюре с присущим только ей ритмом.

Шрифт в гравюре не должен быть однозначным и одинаковым, он видоизменяется в законах общего ритма гравюры. Каждая новая серия, гравюра требует своего пластически-образного и эмоционального решения, своего ритма.

Строка в гравюре, ее ритм и ритм каждой буквы, слова и блока текста.Что это несет нам как изображение, кроме смысла...

Гравированный шрифт и изображение в гравюре могут быть спокойными, динамичными, страшными, нежными по характеру и так далее в зависимости от текста, изображения и, главное, от той мысли, которую необходимо воплотить в гравюре.

Многозначность и ограничение. Система правил всегда ограничивает. Пропорции – хаос и порядок, добро и зло, гармония и дисгармония, квадратный корень из числа пять...

Искусство это не личное самовыражение – "это фокусировка духа". Так говорили древние. Это закон соответствий между мирозданием и человеком. Способ познания себя и законов вселенной.

Звук, корень, цвет, строчка, ключевые, смысловые слова, ритмика слова, буквы, их происхождение и графический эквивалент.

Буква как рисунок, как изображение и блок текста, как орнамент. Многовариантность в вопросах синтеза в области изображения и текста, в области буквы, пятна, линии, абстрактного и фигуративного в контексте определенной мысли, идеи, задачи, которую преследует автор в композиции гравюры.

Все находится в движении, пересекается, отталкивается, сближается и гармонично соединяется, подчиняясь великому всеобщему закону ритма, закону космоса.

Сближение текста с изображением, их взаимопроникновение одного в другое, не нарушая общего целого.

Пластика линии, пятна, точки изображения и пластика пятна, линии, точки знака буквы, слова, текста – суть разные ритмы, которые необходимо синтезировать и в тоже время помнить, что они несут в себе что-то родственное, связанное с ритмом Мироздания.

Прикосновение двух разных миров друг к другу не должно нарушать этого родства – этой одной природы ритма.

Нельзя пересказать текст, стихи построчно пластическими средствами. Повсеместное непонимание этого вопроса занижает образный строй текста, стихотворения, что приводит к простейшему сопровождению текста иллюстрацией, стремящейся быть похожей на смысл строки текста, а не на духовный посыл поэта, писателя, на ту мысль, которая главная, которая и помогает художнику увидеть в потоке вечности образно-пластическое решение данного вопроса в гравюре.

Композиционный ритм и графические элементы гравюры, включая букву, текст, должны обращать внимание зрителя к мироощущению, к мысли, к переживаниям поэта в пластических образах.

Это как игра на двух музыкальных инструментах (флейта, аккордеон) одного музыкального произведения, где поэт, писатель и художник объединены внутренним родством, родством творческого ритма.

Художником руководит чувство соизмеримости, чувство такта, вкуса, ритма, разума и интуиции в построении композиции гравюры, изображения, того ритмического изображения текста, его рисунка, который вместе с изображением отражал бы в пластических образах поэтический текст, смысл романа или наставления.

Художественный образ в законах своего искусства – вот главное, что дает право художнику играть на "другом инструменте".

Синтез буквы, блока текста и изображения в гравюре ориентированы на совершенствование внутренней духовности и напряжения, активности во всех частях задуманной композиции, в которой необходимо раскрыть художественно-образный строй текста в контексте нового взгляда на привычные вещи и события.

Не то, что мните вы, природа:
Не слепок, не бездушный лик –
В ней есть душа, в ней есть свобода,
В ней есть любовь, в ней есть язык...

Природа алфавита, его состав, название букв, начертание, порядок, расположение букв, звуковое их значение плюс количество – все тайна ритма Мироздания. Тайна гласных, а это «А - Я, О - Ё, У - Ю, Э - Е, Ы - И и тайна согласных от Б - П, В - Ф, Г - К, Д - Т, Ж - Ш, З – С и далее Й, Л, М, Н, Р, Д, Ц, Ч, Щ, а еще ориентация знака буквы и его симметрия. Вертикальная ось симметрии: А, Д, М, П, Т, Ш и горизонтальная ось симметрии: В, Е, З, К, С, Э, Ю плюс горизонтальная и вертикальная: Ж, Н, О, Ф, Д, а также несимметричные буквы: Б, Г, Ё, Й, Л, Р, У, Ц, Ч, Щ и буква И с нарушенной симметрией. Все это тайна буквы – вот буквы с правой ориентацией: Б, В, Г, Е, Ё, К, Р, С, П, Ы, а вот с левой: З, Л, У, Ч, Э, Я, затем буквы с закрытой ориентацией: А, И, Ё, М, Н, О, П плюс Щ, Ы, Ъ, Ю. Буквы, состоящие из одного элемента, двух, трех, четырех: С, Х,

А, Ж»* и так далее. Что есть азбука, что есть слово!?

Тайна пластического и сакрального ритма буквы. Особенность каждой буквы. Связующие элементы в букве. Ширина буквы и ее высота. Психология буквы. Просвет между буквами и строками – и все имеет значение, и гласные, и согласные, и их взаимоотношения. Роль горизонталей и вертикалей в букве. Многообразие в единстве.

Роль подсознания в восприятии текста, содержания и каждой буквы как таковой плюс орнаментальное построение блоков текста.

Все только часть в системе бытия – грамматика, искусство, зритель и художник, алфавит и поэт, ученик и мастер, знак буквы и изображение, гравюра, инструмент и материал и плюс дух.

Совершить духовное восхождение к слову, к букве как к части целого, как к части вселенского ритма.

Буква, алфавит, слово не только как средство общения, но и как органическая часть в пластическом языке гравюры. Изображение и слово должны существовать в единстве, как земля и небо. То, что необходимо для слияния двух стихий в одно целое, можно отыскать только в законах ритмического построения плоскости.

В законах образного мышления, где ритм и интуиция тоже являются главным моментом. Ритм возникновения замысла.

Язык гравюры, синтезированный изображением и словом, открывает нам черты личности автора, гравировавшего эту композицию.

Мы видим пластическое и образное мышление художника, его мировоззрение, состояние его психики и профессиональные качества в ритме того отрезка его жизни, когда эта идея занимала художника и именно во временном характере относительно ритма мироздания.

Законы космоса распространяются на все в нашем мире и на искусство тоже, а потому алфавит не составляет исключения. Если не сказать больше – что космосу мы принадлежим больше, чем земле.

Мир слова, мир изображения, мир гравюры открывают в нашем сознании сокровенное знание и приобщают наше сердце к ритму великой вселенной.

Когда изучаешь написанное слово, вдумываешься и исследуешь знак буквы, согласные и гласные, просто горизонтали и вертикали и их отношение к букве, к пространству во времени  сегодня или вчера, я думаю, и происходит та связь, как бы продолжение поэтической строки, текста в другое время через меня, через художника в будущее.

Каждое новое произведение выдвигает свои, только для этого произведения конкретные образно-пластические решения изображения и блоков текста и только этой серии присущие те или иные отношения между блоком текста, буквой, строкой и изобразительным моментом, что и будет составлять единое новое целое произведение, то есть совершенно иной, новый мир.

Возникает полифоническая ткань новой гравюры – синтетично найденных соотношений при создании взаимопроникающих разных систем, создающих эффект творческой интерпретации, ведущей к основной идее, к мысли и к тайне, которая уже живет за пределами, за границами данного произведения, данной гравюры.

Собственный Путь обязывает свободно владеть языком композиции, ремеслом гравирования, ремеслом печатника и каждое новое композиционное построение должно быть намного выразительнее предыдущего композиционного решения произведения гравюры.

Я бы сказал, что оно в корне должно быть другим и не повторять приемов, достигнутых в прежних работах.

Конструктивные закономерности перехода и построения каждой формы в композиции изображения или блока текста, контур которых играет важную роль в пространстве гравюры, выявляя положения изображения и блока текста, их взаимодействие, пропорции, возникающий между ними конфликт, взаимопроникновение, контраст и нахождение точек пластических соприкосновений, отражающих основную идею гравюры...

Важно, что текст, буква, смысл текста вносят в композицию гравюры конкретные поэтические ассоциации, сохраняя осязаемость слова и внутреннюю связь его с пятном, линией и с самой маленькой точкой в изображении.

Ритмическая жизнь текста и ритмическая жизнь изображения начинают жить единой жизнью, объединенные одним всеобщим композиционным ритмом. Очень важно понять в каждом новом случае их взаимосвязь и исследовать все стороны этого процесса. Какая значимость каждой буквы, корня в слове, в тексте, в его композиционном блоке и каждого изобразительного момента по отношению друг к другу и к тексту в целом в данной композиции.

Одна буква, ее знак всегда должны быть как часть единого целого в блоке текста при разной характеристике каждой буквы.

Сам блок текста строится как единое целое с частностями по отношению к изображению, которое тоже состоит из частных характеристик каждого участка гравюры, занятой изображением.

Композиция – это синтез, анализ, обобщение, конкретизация, где все стремится к общему знаменателю, где часть составляет целое, где все взаимообусловленно на уровне мысли и интуиции.

Роль слова, текста в системе ритма произведения, где оно может занимать ведущую или вспомогательную роль, разумеется, в пропорциях с изобразительным рядом гравюры. В некоторых работах возможен момент, где текст занимает главное и основное место в гравюре в смысловом и изобразительном порядке, раскрывая этим самым полнее образ и идею композиции в целом.

Выделение в тексте, в слове буквы, слова, корня, изменяя рисунок

буквы и подчеркивая какими-либо средствами и выявляя из общего строя строки, слова, составляет один из важнейших приемов при работе с текстом в гравюре.

Можно поразить восприятие необычным расположением текста и его необычным сочетанием с изображением.

Необходимо больше задавать вопросы самому себе, больше сомневаться и вникать в суть, идею композиции и это при дисциплине труда всегда даст желаемый результат.

Таким образом, блок текста в соотношении и союзе с изобразительным моментом в гравюре способствует раскрытию идеи, но и сам блок текста становится изображением, что позволяет сделать вывод о переходе текста еще в одно, другое состояние.

Вполне очевидно, что свое вИдение проблемы синтеза должно нести целостный образ восприятия композиции гравюры, где сочетание линий текста, изображения, вплоть до маленькой точки в целом будут содержатъ в себе важную информацию, то есть идею, мысль и тайну всей композиции в целом.

Идея – замысел гравюры, возникший на уровне интуиции и ума, затем продумывается до деталей, где все необходимо привести к гармонии, к единству композиции, которая станет гравюрой. Многообразие превращений есть формула успеха плюс уверенно нарезанный текст и изображение.

Когда на первый взгляд кажется все как бы легко и просто, вероятно, это и есть результат, указывающий на внутренний динамизм и тайну данного произведения.

Текст не является декоративным украшением листа (хотя в некоторых работах он может выполнять и эту функцию), не является просто информацией, напротив, он всегда часть образной ткани произведения, а иногда занимает и решающие место в раскрытии основной идеи гравюры.

Информационная структура надписи может иметь совершенно другой подтекст нежели весь изобразительный ряд гравюры.

Надпись гравированная – это тайна листа, это приглашение к сотворчеству и сопереживанию не только изобразительного образа, несущего в себе свою тайну, но и общего скрытого сакрального смысла слова и изображения. Скрытая сила слова и ритм сердца.

Всемирный смысл слова и космогоническое значение знака буквы. Знак буквы, из которых состоит алфавит и при помощи которого возникают Слова, Предложения и Тексты.

Слово – загадка, тайна и откровение. Магия алфавита, магия "молчания" слова, но за каждым знаком буквы и словом целый мир.

Не разрушить, дополнить, соединить слово и изображение в гравюре. Соединить два начала, два разных ритма, схваченных общим смыслом, ритмом идеи, который и составил новое целое, устремленное к единству и

ставшее произведением искусства.

Алфавит и изображение – два мира. Идея творчества не в том, чтобы копировать Мироздание, создавая внешнее подобие его форм, идея творчества – учиться у природы творить.

Внедрение, вторжение, взаимосвязь этих двух миров, их проникновение друг в друга дают нам возможность обогатить язык гравюры. В явном противоречии на протяжении столетий эти миры стремятся к единству и равновесию, которое столь зыбко и столь прочно, как и весь меняющийся окружающий нас мир.

Столкновение двух миров, у которых свои законы и свои принципы существования, рождает мир третий – мир плоскости – мир гравюры. Это состояние, когда каждый из миров стремится отторгнуть чужеродное тело, но взаимопроникновение миров друг в друга нарушает границы текста и изображения, становясь чем-то новым.

Контуры текста и изображения меняются относительно друг друга, вызывая к жизни новое звучание, новый пластический образ.

В этом новом мире с новыми законами, циклами, новым мировоззрением готовность слова и изображения к внутренним наложениям, к родству, к растворению друг в друге, усиливают звучание этого Мира, слитого в одной форме, которая точно найдена художником.

Само понимание божественной природы слова позволяет говорить о мощном его воздействии на нашу жизнь, психику, творчество.

Понять смысл знака буквы и что скрыто за данной графикой каждой буквы, какой невидимый мир, какое сакральное значение и код несет в мир знак буквы.

Кто, откуда, куда, как, почему, когда и где, кто и что – это вопросы, которые, вероятно, художник должен задавать себе постоянно. Все как-то примелькалось и потеряло всякий смысл в повседневных буднях, в борьбе человека за хлеб насущный и мы забыли, что вначале было СЛОВО!

Таким образом, "закон космоса незыблем" в пространственно-временном ритме в гармонической последовательности изменений миров и всего живого во вселенной.

Проблема взаимодействия слова и изображения – это стремление человека к гармонии, к цельности, к решению проблем духовности и бездуховности, это потребность к синтезу в искусстве, потребность к качественному изменению, что и помогает понять нам, как устроен мир.

Каждая новая композиция, каждая новая мысль, закрепленная в гравюре, помогает художнику увидеть себя в этом вечном потоке, в этой тайне вселенной.

Жизнь и окружающий нас мир предоставляют нам возможность проявить себя в этой системе выбора – нам решать, где свет, а где тьма. У нас есть выбор Пути, но каждый идет по своему лабиринту. Это вопрос нравственной ответственности каждого за свой личный Путь.

Творчество – это не стремление художника навязать обществу свои личные, субъективные взгляды, возможно, это один из путей восхождения к себе, к человеку внутреннему, к личному "я", который художник и предлагает миру.

Это мой личный опыт и я не вправе навязывать этот путь всему миру – я ищу единомышленников.

Все подвержено действию времени. Как осуществляется это действие и с каким результатом для будущего – кто знает? Что оставит фильтр времени на скрижалях вечности – тоже никому не известно.

1975 – 2010

---

* А. И. М о и с е е в, *Звуки и буквы, буквы и цифры...*, Москва 1987




Уладзімір Хін, *Трыпціх “Прытча”*

# СПАДЧЫНА

## ЯН КАХАНОЎСКІ: НЕКАЛЬКІ ШТРЫХОЎ ДА ПАРТРЭТА АЎТАРА «ТРЭНАЎ»

Нягледзячы на бурнае развіццё ў апошнія дзесяцігоддзі ў Еўропе гістарычнага літаратуразнаўства, кампаратывістыкі і іншых гуманітарных навук, якія займаюцца выяўленнем і вывучэннем самых розных міжнацыянальных сувязяў – літаратурных, моўных, культурных, па-ранейшаму застаецца мноства своеасаблівых нерушаў, куды яшчэ не сягаў позірк даследчыка. Не з’яўляецца выключэннем і беларуска-польскі ўчастак еўрапейскай культурнай прасторы. Участак гэты даволі аб’ёмны, паколькі беларусаў і палякаў аб’ядноўвае не толькі геаграфічнае суседства. Менавіта з-за такой аб’ёмнасці з поля зроку навукоўцаў у розныя часы павыпадалі некаторыя вельмі істотныя складнікі літаратурнага працэсу, без якіх немагчыма праўдзіва і цэласна ўзнавіць гісторыю як беларускай, так і польскай літаратуры. Сярод так званых «белых плямаў» згубіўся для беларускай навукі і чытацкай аўдыторыі выбітны польскі творца, адзін са стваральнікаў польскай літаратурнай мовы, паэт-гуманіст Ян Каханоўскі (1530 – 1584). Жыццёвая дарога Каханоўскага ўяўляе сабой складаны, часам нават цярністы, але яскравы, шырокі шлях творцы эпохі Адраджэння. Напачатку была вучоба, якая працякала ў лепшых тагачасных універсітэтах: Кракаўскім, Крулявецкім, Падуанскім. Потым была служба – яго, чалавека таленавітага і з бліскучай адукацыяй, запрашалі да сябе як магнаты, так і каралеўскія асобы (Каханоўскі з’яўляўся адным з сакратароў Зыгмунта ІІ Аўгуста). Між тым, служба пры дварах палітычнай эліты Рэчы Паспалітай не азначала, што Ян Каханоўскі быў прыдворным паэтам, хоць, зрэшты, у тыя далёкія часы падобны тытул не лічыўся нечым ганебным. Каханоўскі выбраў творчую свабоду, і калі нават з-пад яго пяра выходзілі вершы, прысвечаныя знатным, уплывовым асобам (напрыклад, Мікалаю Радзівілу Чорнаму, яго жонцы Эльжбеце, Крыштофу Радзівілу), гэта была добрая воля аўтара. Калі ж паэту нешта не падабалася, не задавальнялі нейкія грамадска-палітычныя працэсы ў краіне, ён адкрыта казаў пра гэта. Сведчаннем грамадзянскай мужнасці Каханоўскага-паэта сталі паэмы «Згода» і «Сатыр, або Дзікі Муж», у якіх пісьменнік асуджае як знешнюю, так і ўнутраную палітыку Рэчы Паспалітай, няўдала абраныя шляхі развіцця грамадскай супольнасці.

Гаворачы пра паэзію Каханоўскага, нельга не звярнуць увагу на білінгвізм творцы: другой мовай, якой бліскуча карыстаўся Ян з Чарналесся, стала лаціна. І

гэта было натуральнай з’явай, паколькі лацінская мова ў той час выконвала функцыю мовы агульнаеўрапейскай – яе разумеў кожны адукаваны чалавек. А менавіта да такой аўдыторыі звяртаўся перадусім паэт. Пісаць лацінай, такім чынам, было вельмі практычна – яна давала шанс быць пачутым. У той час як зварот да мовы народнай звужаў магчымасці творцы, аднак даваў той жа шанс самой мове ўзняцца да ўзроўню літаратурнай. Дарэчы, беларускае літаратурнае двумоўе, асабліва ў XIX стагоддзі, працавала па той самай схеме.

Творчасць Яна Каханоўскага можна разглядаць і ў так званым «беларускім» кантэксце, паколькі яшчэ пры жыцці пісьменніка яго паэзія была вядомай на землях Беларусі (прынамсі, ведалі творы, надрукаваныя ў Нясвіжскай друкарні, сярод якіх можна назваць знакаміты гімн «Чаго хочаш ад нас, Пане…»). Цікавасць беларускага чытача можа выклікаць, напрыклад, песня «Узяцце Полацка», альбо вершы, прысвечаныя згаданым беларускім магнатам. Некаторыя даследчыкі (Іван Ралько, Уладзімір Мархель і інш.) звярнулі таксама ўвагу на той факт, што яўны ўплыў паэзіі Яна Каханоўскага зведаў родапачынальнік беларускага барока Сімяон Полацкі. Пра сталую прысутнасць польскага паэта ў творчай свядомасці беларусаў сведчыць і адзін з найбольш яскравых літаратурных помнікаў XIX ст., паэма «Тарас на Парнасе», на старонках якой побач з Міцкевічам, Пушкіным і Гогалем узнікае постаць Каханоўскага.

У кожнага мастака ёсць творы, якія адзінагалосна прызнаюцца вяршыняй майстэрства. Сярод паэтычнай спадчыны Яна Каханоўскага такой вяршыняй на думку большасці літаратуразнаўцаў сталі «Трэны», напісаныя на смерць дачкі Уршулі. У гэтым вершаваным цыкле, складзеным з 19 элегій, Каханоўскі паказаў сябе найбольш шматгранна: і як чуйны лірык, і як тонкі псіхолаг, і як глыбокі філосаф. Здзіўляе таксама бяскрайні абсяг кантэкстуальнага і інтэлектуальнага поля «Трэнаў»: чытач, слаба знаёмы з антычнай культурай, філасофіяй і мастацтвам, з еўрапейскай літаратурай і грамадскай думкай Сярэднявечча і Рэнесансу, магчыма, не зможа адразу ацаніць усю іх веліч і мастацкую вартасць, але абавязкова захоча запоўніць гэты прабел і пашырыць уласныя далягляды.

***Анатоль Брусэвіч***

УРШУЛІ КАХАНОЎСКАЙ,
МІЛАЙ, ПАЦЕШНАЙ, НЕАРДЫНАРНАЙ ДЗЯЎЧЫНЦЫ, У ЯКОЙ ПРАГЛЯДАЛІСЯ І ЎСЯКАЯ ДАБРАДЗЕЙНАСЦЬ, І ДЗЯВОЧАЕ ХАРАСТВО, І ЯКАЯ НЕСПАДЗЯВАНА, ДАЧАСНА, У ТАКІМ КВОЛЫМ ВЕКУ, ПАКІНУЎШЫ СВАІХ БАЦЬКОЎ У НЯЗНОСНЫМ, ВЯЛІКІМ ГОРЫ, ЗГАСЛА, ЯН КАХАНОЎСКІ, НЯШЧАСНЫ БАЦЬКА, СВАЁЙ ДАРАГОЙ ДАЧУШЦЫ СА СЛЯЗАМІ НАПІСАЎ.
НЯМА ЦЯБЕ, МАЯ УРШУЛЯ!

# ТРЭНЫ

ЯНА КАХАНОЎСКАГА

## ТРЭН І

Уся туга, ўсе слёзы Геракліта,
І лямант, нараканні Сіманіда,
І скаргі ўсе на свеце і ўздыханні,
І гора, і ў згрызоце рук ламанне,
Усе, зараз усе ў мой дом ляціце,
Маё дзяўчо аплакаць памажыце,
З якою смерць бязбожна разлучыла.
А без яе ўвесь гэты свет нямілы.
Так цмок, гняздо калі заўважыць зможа,
Глытае птушанят бездапаможных.
Тым часам маці голасна шчабеча,
На ворага кідаецца малеча.
Дарэмна! Цмок яе глынуць імкнецца.
Нябога ж тая з сіл апошніх б’ецца.
«Дарэмна плачаш» – скажа можа нехта.
О, Божа мой! Ці ж свет – не марнасць гэта?
Чакаеш svіт, глядзіш – ізноў змярканне.
Лёс чалавека – марнае блуканне.
Не знаю, што лягчэй: ці плакаць слёзна,
Ці ўсё ж змірыцца з гэтым страшным лёсам?

## ТРЭН II

Магло маё пяро пісаць з другой нагоды,
Для дзетак мог складаць я рыфмаў карагоды,
Я мог бы калыхаць калыску аж да ранку,
Прыдумаць і спяваць прыгожа калыханку.
Пад песенку маю магло спаць немаўлятка,
І цешыць ціхім сном сваіх матулю, татку.
Такія вершы б я з вялікаю ахвотай
Пісаў, каб не маё няшчасце і згрызота,
Што змусілі ў слязах стаяць над дамавінай
Дачкі і праклінаць суровасць Празерпіны.
Якім магло бы быць, пяро маё не стане
Ніколі: час мінуў вясёлага пісання.
Яго не скарыстаў тады, як быў шчаслівы.
Інакш цяпер пісаць прымусіў лёс жахлівы.
І мне цяпер зусім ніколькі не цікава,
Ці верш самотны мой мяне пакрые славай.
Я не хацеў спяваць жывым – спяваю сёння
Нябожчыкам. Іх смерць мяне таксама згорне.
Убогі свет. Усе ідуць за шчасцем следам,
Але адных дабро спаткае, іншых – беды.
О, злы, суровы лёс! О, крыўдны і няўмольны
Абставін горкіх збег! Цяпер я ваш нявольнік!
Але, скажыце мне, няўжо магла памерці
Уршуля, што амаль і не жыла на свеце?
Бляск сонца не паспеў нацешыць яе вочы,
А ўжо яна пайшла ў краіну вечнай ночы.
За свой кароткі век убачыць што паспела?
Народзіны і смерць. Жыцця зусім не мела.
Замест каб падарыць шчаслівы смех і радасць,
Пакінула бацькоў, прымусіла іх плакаць.

## ТРЭН III

Пагардзіла ты мной, дачка, нашчадак мілы.
Айцец твой не раўня табе, таму ў магілу
Адна ты адышла, без бацькавай апекі.
Так, ты заўжды была дарослай не па веку.
З маленства сведчылі твой розум і манеры
Пра годнасць прышлую і дабрыню бяз меры.
Твой голас, гульні, так прыстойныя паклоны!

О, як жа моцна не хапае мне іх сёння!
Мая ты радасць, ты не вернешся ніколі,
Не сцішыш смутак мой, не зменшыш гэтай болі.
Так не магчыма жыць. У шлях пара збірацца,
Якім аднойчы ты пайшла на вечны шпацыр.
Спаткаемся, дасць Бог, і ручкамі сваімі
Абдымеш бацьку зноў, як некалі, за шыю.

## ТРЭН IV

Пачвара-смерць, мой зрок табе ўдалося згвалціць,
Прымусіўшы глядзець на скон свайго дзіцяці,
Сачыць, як ты плады няспелыя страсаеш
І сэрцы нам, бацькам, на часткі разрываеш.
Не важна ці прыйшла ты рана, альбо позна –
Нясеш заўсёды сум, нясеш заўсёды слёзы.
Не меней чым цяпер ад болю сэрца рвала б,
Калі б у іншы час ты раптам завітала.
Але пакольки смерць забрала ўсё, што маю,
Самоты большай я ніколі не спазнаю.
О, каб хацеў Пан Бог і быў бы век даўжэйшым
Дачкі, каб жыць магла і вочы бацькі цешыць!
Прынамсі першым я гадзіну свайго скону
Павінны быў чакаць, сустрэнуць Персефону
І не адчуць той боль, што зараз паліць грудзі.
Такога болю свет не знаў і знаць не будзе.
Ніоба, што праз смерць дзяцей акамянела,
І тая значна менш, чым я пакутаў мела.

## ТРЭН V

Як яблынькі расток, што вылез толькі з глебы
Паміж высокіх дрэў, і ўжо імкнецца ў неба
За іншымі ўздагон з усіх, што мае сілаў,
Хоць сам – адзін пруток: ні лісця, ні галінаў, –
Садоўнік незнарок нязграбнаю рукою
Зразае заадно з нахабнай крапівою,
І ён, згубіўшы моц, не ў стане затрымацца,
Спадае ціха ў дол, да ног-карэнняў маці,
Такі ж гаротны лёс маёй Уршулі мілай,
Што на вачах бацькоў расправіла ледзь крылы,
Збіралася вось-вось узняцца, ды атрутай

Дыхнула смерць у твар. Да ног бацькоў пакутных
Упала ніц дачка. О, злая Персефона,
Чаму дарэмных слёз ручай плыве бяздонны?

## ТРЭН VI

Дзяўчынка слаўная! Сапфо славянскіх земляў
Магла ты пэўна стаць, бо ад мяне займела
Не толькі цела ў дар, але і голас лютні.
Ён у табе гучаў і ўсімі быў пачуты.
Ты на хаду магла прыдумаць песні словы,
А потым іх спяваць праз цэлы дзень без стомы.
Як у кусце зялёным той малы салоўка
Стараецца ўсю ноч, спявае так салодка,
Ды моўкне раптам – так цябе, малую птушку
Спужала злая смерць, мая ты шчабятушка.
А я так і не змог насыціць слых табою,
А што паспеў пачуць – аплочваю слязою.
Ты і ў смяротны час спяваць не перастала,
Адно матулю ўцалавала і сказала:
«Табе я, мама, памагаць не буду болей,
За твой гасцінны стол не сяду больш ніколі.
Даводзіцца ключы аддаць і прэч падацца,
Бо ў мілы, родны дом не прыйдзецца вяртацца».
Яшчэ казала штось, ды я ў бацькоўскім горы
Не змог пачуць усіх размоваў тваіх шчодрых.
А ў маці ад тых слоў, сказаных перад смерццю,
Не ведаю дальбог, як вытрымала сэрца.

## ТРЭН VII

Рэчы-сіроты – бель сукняў, карункі, стужкі
Беднай маёй дачушкі,
Позірк навошта мой вы на сабе спынілі?
Свет мне і так нямілы.
Болей ніколі ўжо вас яна не надзене –
Жаднай няма надзеі!
Сон гэты злы спыніць я не магу даць рады.
Лепшыя твае шаты,
Грэбні і паяскі ў золаце ўсе і ў срэбры –
Матчыны дар дарэмны.

Шлюбам, ды не такім мусіла ты пабрацца.
Бедная твая маці
Мелася выпраўляць замуж дачку-красуню,
А не ў зямлю сырую.
Толькі прыйшлося даць цалкам іншыя строі.
Бацька над галавою
Сціплы ўзвёў курганок. Разам у скрынцы цеснай
І пасаг і нявеста.

## ТРЭН VIII

Ты зрабіла мой дом да пустыні падобным,
Дарагая Уршуля, сваім адыходам.
Шмат навокал людзей, але я адзінокі:
Без аднюткай душы свет згарнуўся да кропкі.
Ты нібыта за ўсіх гаварыла, спявала,
Кожны ў доме, здаецца, куток абягала.
Маці клопатаў жадных з табою не мела,
А таму і ў мяне галава не балела.
Падбяжыш і абдымеш то бацьку, то маму,
Нас адорыш усмешкаю шчыраю самай.
Змоўкла ўсё. Дом зрабіўся пустынным і сумным,
Больш няма ні вясёлага смеху, ні гульняў.
Кожны кут пазірае тугой і адчаем.
Толькі сэрца яшчэ ўсё чагосьці чакае.

## ТРЭН IX

За любыя бы грошы купіў тую Мудрасць,
Што так лёгка (калі толькі людзі не хлусяць)
Ад трывогі і горычы вызваліць здольна,
Чалавека змяніўшы амаль не ў анёла,
Каб ніколі не меў ён ні болю, ні жалю,
Каб ні гора, ні лёс яго злы не пужалі.
Для цябе, Мудрасць, смешным усё падаецца,
Не зважаеш – ці радасць, ці смутак на сэрцы,
Кпіш са смерці. Заўсёды табе служаць верна
Бесклапотнасць, нязменлівасць і невычэрпнасць.
Для цябе не багач той, хто золата мае.
Дабрабыт – калі грошай не шмат, а хапае.
Ад тваіх усебачных вачэй не схавацца

Гарапашніку ў самым шыкоўным палацы.
Не зайздросціш і бедным – іх ціхаму ладу.
Ды ці слухае хто твае, Мудрасць, парады.
Я, няшчасны, хацеў у цябе павучыцца,
Час губляў, каб спасцігнуць твае таямніцы,
Да вяршыні ішоў, шчасце поўніла грудзі,
Ды зваліўся на дол – дзе астатнія людзі.

## ТРЭН X

Уршуля мілая, скажы, дзе ты прапала?
У край які свае сляды накіравала?
Ці можа дзе сядзіш на небе, між аблокаў,
Сярод другіх, такіх як ты, малых анёлкаў?
Ці ў рай узята? Альбо, можа, Выспы шчасця
Наведала? Альбо ў падземным царстве
П’еш забыцця напой з рук хмурнага Харона,
Таму й не ведаеш, як тужыць бацька родны.
Ці можа воблік свой дзявочы ты змяніла
На пёркі салаўя, а мрояў рой – на крылы?
Ці ў чысцец трапіла і ачышчаеш цела,
Калі граху якую плямку можа мела?
Ці пасля смерці апынулася ў дарозе,
Якой на гора мне прыйшла ты ў дзень народзін?
Дзе б зараз ні была, цябе ў самоце клічу.
Калі прыняць не зможаш звыклага аблічча,
З’явіся ўсё ж, хоць на кароткае імгненне
Як сон, як мроя, светлы цень ці летуценне.

## ТРЭН XI

«Дабрадзейнасць – глупота!» – мовіў зломлены Брут.
Так, глупота, і іншы цяжка выдаць прысуд.
Ці пабожнасць кагосьці ўратавала калі?
Дабрыня хіба зменіць збег абставін ліхіх?
Лёс варожы марнуе мноства справаў людскіх.
Не мінае нікога – ані добрых, ні злых.
Нікуды не схавацца ад яго, не ўцячы:
Знойдзе кожнага ўсюды – хоць маўчы, хоць крычы.
Выглядаць мы нярэдка хочам значна мудрэй,
Пазіраем звысоку на прасцейшых людзей.

Часта марым на небе ўбачыць Бога сляды,
Толькі зрок чалавека для такога слабы.
Сон, бывае, прысніцца гэткі яркі, жывы,
Ды не стане ён явай, як і іншы любы.
Гора, што ты мне чыніш? Хіба можна ў палон
Забіраць назаўсёды разам яву і сон?

## ТРЭН XII

Ці хто меў, так як я, столькі ласкі айцоўскай,
Каб дзіцятка любіць, шкадаваць гэтак моцна?
Не было і дзіцяці такога спрадвеку,
Каб расло гэткім годным бацькоўскай апекі.
Паслухмянай, ахайнай была, не дурэла,
Рыфмаваць і спяваць гэтак хораша ўмела.
Кожны жэст, кожны рух паўтарала дакладна
І трымалася так, як сапраўдная дама.
Чалавечнай расла, незайздроснай, дасціпнай,
Далікатнай, сумленнай, прыстойнай і сціплай.
Як прачнецца, ніколі за стол не сядала –
Перш чым есці, заўсёды малітву чытала.
Перш чым спаць, развітацца спяшыла з бацькамі,
І прасіла, каб Бог меў апеку над намі.
Бегла бацьку праводзіць заўсёды ў дарогу
І заўсёды чакала, вітала з парога.
У рабоце любой прапануе паслугі
Перш, чым гэта зрабілі бы хатнія слугі.
Дабрадзейнасць твая праявілася рана,
Трох не мела гадкоў, а была гэткай спраўнай.
Зрэшты, спраўнасць цябе і згубіла дачасна,
Гэтак гіне калоссе ад шчодрасці ўласнай,
Не счакаўшы жніва. Каласок мой адзіны,
Мусіў я, хоць твая не прабіла гадзіна,
У сырую зямельку ізноў цябе сеяць.
А з табой заадно я хаваю надзею,
Бо не ўзыдзеш ужо. Не змагу я да скону
Любавацца тваёй прыгажосцю вясновай.

## ТРЭН XIII

О, Уршуля, чым так адыходзіць са свету,
Лепш бы ўвогуле ў свет не прыходзіла гэты!
Аплаціць непамернай прыйшлося тугою
Сваю радасць пасля расставання з табою.
Ты ўвяла мяне ў зман. Гэтак мроя начная
Горы золата дорыць. Калі ж пачынаеш
Верыць шчасцю такому – сон возьме і згіне,
Застануцца ад скарбу адныя ўспаміны.
Так і ты, дарагая Уршуля, зрабіла:
Спадзяванні вялікія ў сэрцы збудзіла,
Ды і знікла, пакінула ў смутку як мроя,
Што ні меў я – навекі забрала з сабою.
Больш таго – і душу падзяліла на часткі:
Мне застаўся кавалачак толькі няшчасны.
Муляры, я хачу, каб вы камень паклалі,
І каб словы там выбілі, поўныя жалю:
КАХАНОЎСКАЙ УРШУЛІ ТУТ ЗЛЕГЧЫ ДАЧАСНА
ДАВЯЛОСЯ, ЛЮБОВІ АЙЦА І НЯШЧАСЦЮ.
СМЕРЦЬ ЗРАБІЛА НЕ ТАК, ЯК ПРЫРОДА ХАЦЕЛА:
БО НЕ Я, А ДАЧКА НАДА МНОЙ ПЛАКАЦЬ МЕЛА.

## ТРЭН XIV

Брама дзе, праз якую калісьці дастаўся
Нешчаслівы Арфей у падземнае царства?
Мог падацца і я за любімай дачушкай,
Перайшоў бы раку, праз каторую душы
Перавозчык пануры вязе і кідае
Іх у змрочным, глухім, кіпарысавым гаі.
Не пакінь жа мяне, мая ўдзячная лютня,
Пойдзем разам туды, дзе ўладарыць магутны
І суровы Плутон. Удваіх, мне здаецца,
Песняй слёзнай растопім ягонае сэрца.
І тады дарагую дачушку ён верне,
І пагасіць мой жаль унутры неймаверны.
Нават хай ён мяне затрымае, затое
Недаспелую ягадку пусціць жывою.
Ну няўжо гэты Бог мае сэрца з граніту
І не чуе ні скаргаў людскіх, ні малітваў?
Калі так, то назад мне не будзе дарогі.
Застануся, душа скіне цяжар трывогі.

## ТРЭН XV

Эрато златакудрая, верная лютня,
Скуль уцеху брацъ людзям у клопатах смутных?
Хоць на момант гаротныя думкі суцішце,
Каб у полі слупом скамянелым не быць мне,
І крывавыя слёзы з вачэй мармуровых
Каб не ліць, стаўшы знакам дазнанняў суровых.
Праўда гэта, што іншых пакуты як бачыш,
Гора ўласнае можа падацца нязначным?
О, няшчасная маці (калі будзем згодны
Мы няшчасцем лічыць вынік нашай глупоты),
Дзе сямёра сыноў тваіх, дзе твае дочкі?
Дзе пацеха? Дзе радасць, шчаслівыя вочы?
Бачу я чатырнаццаць магіл, у адчаю
Ты над імі схілілася ледзьве жывая,
Абдымаеш, нябога, халодныя пліты,
Пад якімі дзяцей пахавала забітых.
Гэтак падаюць кветкі, калі падразае
Іх каса, альбо дождж да зямлі прыбівае.
Спадзяешся чаго? Што чакаць можна болей?
Смерць не клічаш чаму, каб пазбавіцца болю?
Ну а вашыя стрэлы і лукі што чыняць,
Трапны Феб і о, поўная помсты багіня?
Праявіце свой гнеў справядлівы, ці літасць
І, вас Богам малю, гэты жах прыпыніце!
Толькі новая кара спаткала за гонар:
Скамянела Ніоба ад страшнага гора,
І стаіць на гары Сіпулос нерухома,
Ды баляць пад мармурам ёй раны ўсё роўна.
Яе шчырыя слёзы праз камень бруяцца
І цякуць з-пад гары, і на сонцы іскрацца.
Жывіць птушак, звяроў, а сама як у путах –
У абдымках вятроў церпіць вечна пакуты.
То не склеп і не помнік жыццю, што пагасла,
А нябожчык, які стаў магілай уласнай.

## ТРЭН XVI

Мушу да ног я няшчасця і жалю,
Што гэткім болем страшэнным працялі,
Лютню пакласці ды з песняй жывою,
Ледзь не з душою.

Бачу наяве? Ці можа падманны
Сон апантаў з касцяной мяне брамы,
Той, што пакуль чалавек не прачнецца,
Праўдай здаецца.

О, памылковасць людская з аблудай!
З лёгкасцю мы выхваляемся ўсюды,
Розумам, покуль удача спрыяе,
Гора не знаем.

Добра багатаму славіць убогасць,
Жыць у раскошы і сціпласць узносіць.
Круцяцца покуль жыцця калаўроты,
Смерць нам – глупота.

Толькі бяда прымушае даўмецца:
Значна складаней жыццё, чым здаецца.
Толькі ў той момант мы смерць успрымаем,
Як паміраем.

Што ж, Цыцэрон, пакідаеш ты з плачам
Край? Хіба Рым для цябе нешта значыць?
Ты ж нам казаў, што ўвесь свет гэты дзіўны
Мудрым – радзіма.

А па дачушцы навошта льеш слёзы?
Ганьбу лічыў ты адзінай пагрозай,
Іншыя ж беды нічога не варты –
Так сабе, жарты.

«Грэшнікі смерці – гаворыш – баяцца».
Сам жа, цнатлівы, з жыццём развітацца
Што ж не хацеў, як за стыль зухаваты
Стаў перад катам?

Многім давёў, а сабе – бездаводны;
Мовіць лягчэй, чым рабіць гэта потым.
Як жа падобныя ў горы нязносным
Нашыя лёсы.

Людзі не з камню: наколькі ім фэрціць,
Гэтак жа будуць і думаць аб свеце.
Лёс ты пракляты! Хто душы вярэдзіць,
Хіба іх зменіць?

Час, забыцця пажаданага бацька!
Розум, святыя з табою наўрад ці
Роўныя ў тым, каб ад жалю пазбавіць
Сэрца і памяць!

## ТРЭН XVII

Панская рука кранула –
Што ні меў, усё згарнула.
Нават я душу і тую,
Пэўна, хутка не адчую.

Ці ўстае і свеціць ясна,
Ці заходзіць сонца, гасне,
Сэрца скрозь працята болем.
Боль не знікне аніколі.

Вочы хто мае асушыць?
Гэтак вечна плакаць мушу.
Мушу плакаць! О, мой Божа,
Ад Цябе ўцячы не можна!

Пазбягаем так дарэмна
Бітваў, хваляў бурапенных:
Як захоча, знойдзе ліха
Нават там, дзе гладка й ціха.

Жыў я сціпла, непрыкметна,
На людзях з'яўляўся рэдка,
Зайздрасць, іншыя няўзгоды
Не маглі ўчыніць мне шкоды.

Але Пан, што сочыць кожны
Крок людзей, кпіць з асцярожных,
Лёс наклікаў мне гаротны,
Каб не жыў я бестурботна.

Зараз розум, што так проста
Разважаў раней над лёсам,
Разумець сябе не хоча.
Вось такі з яго памочнік.

Калі б розум свой на шалі
Я паклаў насупраць жалю,
Шалі тыя, мне здаецца,
Не крануліся бы з месца.

Так, дарэмна кажуць людзі:
«Не гаруй, бо горай будзе».
Калі ж хто смяецца ў горы,
Я б назваў такога хворым.

Што ж, бывае несур'ёзна
Успрымае нехта слёзы.
Але ён таго не знае,
Боль які сляза хавае.

Бо душа калі крывавіць,
Хочаш, не, а мусіш плакаць,
Ігнаруеш меркаванне,
Быццам слёзы – гэта ганьба.

Божа мілы, апроч плачу
Іншых лекаў я не бачу!
Калі хто мяне шкадуе,
Хай яшчэ што прапануе!

Я ж сябе слязьмі сагрэю,
Бо даўно згубіў надзею,
Што разважнасць дапаможа.
Толькі Ты ўратуеш, Божа.

## ТРЭН XVIII

Мы, Твае дзеці нядбайныя, Пане,
Шчасця калі нам хапае,
Рэдка Цябе ўспамінаем,
Час бестурботна свой бавім.

Знаць не жадаем, што ўсё нам прыходзіць
З ласкі Тваёй. Але «годзе»
Скажаш няўдзячным гулякам,
Недачакаўшы падзякі.

Нас адвярні ад спакусаў варожых,
Марнай, заўчаснай раскошы!
Можа Цябе прыгадаем,
Як за грахі атрымаем!

Толькі карай па-бацькоўску, не дужа,
Гнеў Твой калі мы заслужым,
Снег, як карае ў прадвесне,
Сонца з вяршыняў нябесных.

Божа спрадвечны, Ты знішчыць нас можаш
Лёгка, як толькі захочаш.
Ды нелюбоў Твая, Пане,
Горай за ўсе пакаранні.

Але ж Ты літасцю слаўны бяскрайняй,
Перш, хіба, свету не стане,
Чым Ты пакайных адхіліш,
Хоць бы і доўга грашылі.

Быў запаветам Тваім я няверны,
Толькі Твая міласэрнасць –
Гэта не проста пастава.
Змілуйся, Пане ласкавы!

## ТРЭН XIX
альбо
СОН

Праз ноч трывожны сум ніяк не мог дазволіць
Вачэй заплюшчыць мне і цела супакоіць.
Як выбіўся я з сіл, ужо на золку самым
Лянівы сон абняў сваім крылом чарнявым.
Прыснілася тады нябожчыца матуля,
Трымала на руках дачку маю – Уршулю,
Якая да мяне прыбегла памаліцца,
Пакінуўшы пасцель, бо ёй даўно не спіцца.
Кашулька нібы снег і валаскі кутрацца,
Румяны, светлы твар, а вочкі аж іскрацца.
Гляджу – а што далей, аж маці мне гаворыць:
«Спіш, Яне? Ці туга цябе, як звыкла, точыць?»
Тут цяжка я ўздыхнуў і мне ажно здалося,
Што больш не сплю, яна ж хвіліну безгалосна

Стаяла, а пасля ізноў загаварыла:
«Мяне няўцешны плач паклікаў твой з магілы.
Далёка я была, ды слёзаў горкіх перлы
Праніклі аж туды – ў таемны край памерлых.
Прынесла на руках табе тваю дзяўчынку,
Яшчэ раз пагрядзі, суцеш хоць на хвілінку
Шчымлівы ў сэрцы боль, які цябе адолеў,
Які знішчае ўсё – і сілы, і здароўе,
Нібы агонь, што кнот у попел замяняе
Імгненна: раз – і ўсё, хвілінкі не чакае.
Вы лічыце, што нас няма на гэтым свеце,
Хто мёртвы, тым ужо і сонца не засвеціць?
На столькі мы, між тым, жыццём жывем сур'ёзным,
На колькі можа быць ад цела дух адрозны.
Зямное да зямлі ідзе, а дух, што небам
Быў дадзены, няўжо загіне без патрэбы?
Таму ты не тужы, а вер, што так бывае,
Што мілая твая Уршуленька жывая.
Канешне, воблік свой прыйшлося ёй з'іначыць,
Смяротнымі, каб змог яе вачыма бачыць.
Жыве яна цяпер між духаў і анёлаў,
Заранкай свеціць вам урочыстай, вясёлай,
Чытае за бацькоў малітвы без упынку,
Як і раней, калі была малой дзяўчынкай.
Шкадуеш можа, што ў такім узросце раннім
Дачка сышла, раней, як мела бы дазнанне
Усіх зямных даброт? Як марна, як убога
Глядзяцца ўсе яны! Апроч таго так многа
Самоты ў іх, тугі ды іншага няшчасця.
У гэтым ты і сам даўно пераканаўся!
Хацеў бы, каб дзяўчо змяшала з асалодай,
Спазнаную табой, нядобрыя прыгоды,
Бяскрайнюю тугу, якую сёння маеш?
Такога, бачу, ты нікому не жадаеш.
Усё прымі як ёсць і не тужы, што рана
Паслана смерць была тваёй дзяўчынцы слаўнай!
Пайшла не ад дабра яна, а ад пакутаў,
Ад гора і ад слёз, ад цяжкасцяў і смутку,
Якімі поўны свет, ды, зрэшты, што ні маем,
Усё, чым нас жыццё пустое спакушае,
Губляе хутка смак праз розныя няшчасці,
Прынамсі цераз страх, што ўсё мы мусім страціць.
Аб чым смуткуеш ты? Што шчасця не спазнала?
Што мужа за пасаг багаты не прыдбала?

Што процьма слоў благіх не будзе ёй пачута?
Што ёй не нараджаць у болях і пакутах?
Ані прыйсці да той дылемы, што і маці
Яе прыйшла, калі нахлынула няшчасце:
Жыццё дала ці смерць? Вось гэтак адмыслова
Смакуеце сваё штодзённае жыццё вы!
У небе больш даброт, прычым праўдзівых, вечных,
Якія перашкод не маюць недарэчных.
Тут клопатаў няма, ні цяжкасцяў ніякіх,
Няшчасце і бяда не могуць дацца ў знакі,
Хвароба не бярэ і старасць не пільнуе,
І смерць, што слёзы п'е, над намі не пануе.
Жывем бясконца тут у велічным спакоі,
Прычыны ўсіх прычын сусвет ад нас не тоіць.
У нас заўсёды дзень, заўсёды сонца ззяе,
А цемрадзі начной ніколі не бывае.
Тварца ўсяго і ўсіх на троне бачым светлым –
Цялесным зрокам вы не здольныя на гэта.
Таму скіруй сябе і думак бег свабодны
На вечныя, мой сын, сапраўдныя даброты!
Спазнаў ты гэты свет, яго любоў убачыў;
Увагу засяродзь на рэчах болей значных!
Тваю дзяўчынку лёс, павер, спаткаў цудоўны,
Жыццёвы шлях яна распачала падобна
Таму, хто морам плыць у першы раз сабраўся,
Ды небяспеку там убачыў вельмі ясна
І к берагу назад прыстаў. Другія, ўдала
Раскрыўшы ветразь свой, разбіліся аб скалы;
Хто з голаду сканаў, а хто – марозам моцным,
І рэдка хто даплыў да берага на дошцы.
А смерць каб ашукаць – такой не мела сілы,
Хай нават і жыла б даўжэй самой Сівілы.
Што быць магло пазней, наблізіць пажадала,
Затое і турбот у свеце мела мала.
Бывае, без бацькоў хто-небудзь застанецца,
Гібее сіратой у вечнай паняверцы.
Другую замуж пхнуць, з уласнай гоняць хаты,
Бог знае хто зграбе ўвесь скарб яе багаты.
Другіх бяруць сілком. Свае бяруць таксама,
Ды безліч у арду чужынцамі забрана.
Паганскае ярмо цярпець ім, прыніжэнні,
Глытаць слязу і смерць чакаць нібы збавенне.
Баяцца жахаў тых твайму дзяўчу не трэба,
Маленькаю яе паклікалі на неба,

Пакуль зямных турбот ды клопатаў не мела,
Пакуль душу грахом запляміць не паспела.
Ёй добра, вер, сынок, і будзе так заўсёды,
Не плач і не тужы ты з гэтай больш нагоды.
Ні скрусе, ні журбе не варта паддавацца,
Мы розумам сваім павінны кіравацца,
Разважлівымі быць, інакш не апануем
Ні гора, ні сябе ў хвіліну вельмі злую.
А чалавек ужо з народзінаў павінны
Змірыцца з тым, што лёс яму рыхтуе кпіны.
Ад лёсу не ўцячэш! Жадаеш, не жадаеш,
А трэба ўсё рабіць, што ён ні загадае.
Нялёгка ўсім, таму я не магу даўмецца,
Чаму табе, мой сын, цяжэй за ўсіх жывецца?
Смяротнаю, як ты, была твая дзяўчына,
І век яна жыла такі, які павінна.
Кароткі, так, але ці можна даць тут рады.
Таму ні разважаць, ні скардзіцца не варта.
Не вызнаць нам шляхоў Гасподніх; волю Пана
Павінны мы прымаць з пакорай і пашанай.
Тут недарэчны плач; як толькі адляцела
Душа, то не чакай, што вернецца да цела.
Ды з лёсам чалавек не хоча пагадзіцца,
У лёсе бачыць ён бяды сваёй крыніцу,
Пра іншыя дары забыўшыся начыста,
Што дадзены былі па просьбе асабістай.
Запомні, мілы сын, усё ў руках Фартуны,
Не трэба наракаць, калі яна прыструніць.
Лепш дзякаваць, што лёс не стаў у адначассе
Абдорваць той бядой, што мелася ў запасе.
Не забывай і ты пра гэтае дазнанне,
У сэрца не пускай сваё расчараванне,
І радуйся, калі бяда прыйсці забудзе.
Адсутнасць зла дабром лічыць павінны людзі.
Які ты ўрэшце рэшт з пакутлівых старанняў
І з працы маеш плён, правёўшы ад світання
Да змроку ўсе гады ўтаропіўшыся ў кнігі,
Забыўшыся на свет прыгожы і вялікі?
Нарэшце пакаштуй плады з уласных дрэваў
І дух слабы ўратуй ад горычы сумневу!
Ты іншых суцяшаў заўжды ў падобным горы:
Ці будзеш для сябе такім жа чулым, шчодрым?
Лячыся, лекар, сам! Для кожнага, канешне,

Час доктарам, ды хто не ходзіць звыклай сцежкай,
Не мусіць і чакаць, каб час вярнуў здароўе!
Ён розумам пачне прадухіляць хваробы.
А чым жа лечыць час? Даўнейшы досвед свежым
Заменіць – можа быць ён трошкі весялейшым,
Ці гэткім, што і быў; абачлівыя ж людзі
Умеюць заранёў зірнуць на ўсё, што будзе,
Не за сябе глядзяць, але перад сабою,
Каб сэрцы рыхтаваць на добрае і злое.
Па-людску, сын, прымай людскія ўсе няўзгоды,
Бо Пан адзін дае і сум і ўзнагароду».
І знікла – ў той жа час я схамянуўся, зараз
Не знаю –ява то была, ці проста мара.

КАНЕЦ ТРЭНАЎ

*Пераклаў з польскай мовы*
*Анатоль Брусэвіч*

# УСЕАБДЫМНЫЯ МРОІ Ў “МАЛЕНЬКІХ ПАЭМАХ” ШАРЛЯ БАДЛЕРА

**Міхась Сьлямнёў, Кастусь Карпекін**

Французскі паэт Шарль Бадлер (1821 – 1867) стварыў свае “Маленькія паэмы ў прозе” ў сярэдзіне XIX стагодзьдзя. “Маленькія паэмы ў прозе” – 50 апавяданьняў і безьліч фантазіяў. Спалучыўшы ўдумлівае чытаньне ды ўласныя думкі, тут можна знайсьці ўсё, што заўгодна. Нацэліўшы нематэрыяльнае павелічальнае шкло на “Маленькія паэмы”, заўважаеш, што яны працятыя мроямі. Асабліва тыя, што ў аўтара атрымалі назвы “Куды заўгодна з гэтага сьвету”, “Паўсьвету ў валасох”, “Двайны пакой”, “Запрашэньне ў падарожжа”, “Дабрадзействы Месяца”, “Суп і аблокі”, “Задумы”, “Пакаяньне мастака”, “У кожнага свая Хімера”.

Кожны чалавек – тым больш паэт – калі-нікалі адрываецца ад рэчаіснасьці, гэта значыць, апынаецца ў мроях. Гэтым бавіўся ў свой час і Ш. Бадлер. Праз тэксты, пакінутыя нам на паперы, паспрабуем дабрацца да самай сьвядомасьці творчага чалавека XIX стагодзьдзя.

* * *

Паводле “Маленькіх паэм”, *мроі могуць мець рознае аблічча*.

Менавіта мроямі зьяўляецца адна з палоў “Двайнога пакою” Ш. Бадлера. Выцягнутасьць, расслабленасьць, дрымотнасьць і духмянасьць – вось галоўныя прыкметы гэтага жытла. Мроі ў такім памяшканьні – гэта “нешта змрочнае, блакітнаватае й ружаватае”, гэта “лянотныя ванны, аздобленыя шкадаваньнямі й жаданьнямі”.

Запрашаючы сваю каханую ў падарожжа, Ш. Бадлер вызначыў мроі як “ліхаманкавую хваробу – сумаваньне па краіне, якой ніхто ня ведае”. Такая хвароба выклікана нейкім прыродным наркотыкам (так пісьменьнік назваў сьхільнасьць людзей да летуценнасьці).

Што да паэмы “Пакаяньне мастака”, то тут Ш. Бадлер прыкмеціў: пад узьдзеяньнем мрояў чалавечае “я” губляецца, раствараецца ў бясконцасьці думак.

У “Задумах” аўтар, як быццам вяртаючыся да рэчаіснасьці, абазваў мроі “страшэнным бадзяжніцтвам”.

Найбольш вобразна мроі апісаны паэтам-летуценьнікам у паэме “У кожнага свая Хімера”. Хімера – гэта і ёсьць мроя. Яна – празьмерна вялікая, цяжкая, гнуткая, магутная, агромністая й кіпцюрастая. Да таго ж, у кожнага – свая! Самае адметнае тое, што ніводзін чалавек не ўсьведамляе, што зь ім могуць зрабіць мроі-хімеры. Ніхто не ськідае іх у пыл і не жадае выпрастацца й падняць твары да неба. Нават Ш. Бадлеру невядома, як лягчэй: зь імі ці бязь іх.

* * *

Мроі – зусім ня простая рэч. *Яны магчымыя не заўсёды.* Асабіста Ш. Бадлеру былі патрэбныя ціша й спакой, каб цалкам аддацца мроям. А яшчэ – "паглыбляць свой позірк у неабсяжнасьць неба й мора." Ш. Бадлер ня мог марыць без сваёй каханай (хто ведае, рэальнай жанчыны альбо прыдуманай каханкі). Ён прасіў яе: "Дазволь мне доўга-доўга ўдыхаць водар тваіх валасоў, поўнасьцю апускаць туды свой твар, быццам смагнучы чалавек у ваду крыніцы..." Так паэт разварушваў свае мары, заклікаў іх да сябе.

У нейкай ступені Ш. Бадлер прыпісваў здольнасьць людзей да мрояў "дабрадзействам Месяца" (іншымі словамі, самнамбулізму). Як ня кожнаму Месяц кажа: "Мне падабаецца гэтае дзіцяці!" – так ня кожны чалавек можа дасягнуць у сваіх мроях дасканаласьці. Мабыць, дадзеным іншасказаньнем паэт сьцьвярджаў думку пра тое, што летуценнасьць – своеасаблівы падарунак лёсу, які робіць чалавека адметным.

* * *

*Пра што марыць Ш. Бадлер у сваіх творах?* Найперш пра падарожжа бяз пэўнага накірунку, пра падарожжа ўвогуле. Паэт прызнаўся нам: "Пытаньне перасяленьня – адно з тых, якое я бесьперапынна абмяркоўваю з уласнаю душою". Нездарма душа адказвала Ш. Бадлеру: "Куды заўгодна! Абы з гэтага сьвету!"

Ніхто ня ведае, куды хацеў адправіцца Ш. Бадлер. Ён вызначыў свае памкненьні як "Усход Захаду, Кітай Эўропы". Паэт штодня шукаў такое месца, "дзе жыцьцё прыдатнае для адпачынку, дзе шчасьце жанатае зь цішынёю". Паэт ненавідзеў хуткабежны час, а там, у мроях, можна было б ад яго схавацца. Там трэба было б толькі жыць, квітнець і паміраць!

Калі душы даводзілася патрапіць у жаданую краіну, то Ш. Бадлер бачыў там сінія й глыбокія прасторы, адчуваў млявую трапічную сьпякоту, зыбаньне марскіх хваляў. Час ад часу ён наведваў порт, каб паназіраць за мітусьлівымі людзьмі ды напоўніцу адчуць асалоду ад свайго падарожжа.

Душа Ш. Бадлера магла вандраваць паўсюль, калі ягонае цела знаходзілася ў бязьлюдным парку, альбо нават калі ягоныя вочы блукалі па старадаўняй гравюры. У мроях паэт адпраўляўся ў палац ці хаціну на беразе трапічнага мора.

Прыкметна тое, што ў мроях Ш. Бадлер часта бачыў побач з сабою сваю каханку. Па ўсім відаць, што тады падарожжа было для яго паўнавартасным. І ўсё было цалкам зладжаным: у палацы каханка была князёўнай, у хацінцы – жанчынай, якая адпачывала з Ш. Бадлерам і разам зь ім курыла тытунь з опіем.

* * *

Ш. Бадлер быў упэўнены, што мроі – дасканалая зьява, адпаведна, *жыцьцё ў мроях было для яго цалкам паўнавартасным.* Дастаткова аднаго воклічу з апавяданьня "Двайны пакой", каб даказаць праўдзівасьць такой думкі: "Тое, што мы звычайна называем жыцьцём, нават самае шчасьлівае ў сваім праяўленьні, ня мае нічога агульнага з гэтым вышэйшым жыцьцём, зь якім я цяпер знаёмы і якім я цешуся кожную хвіліну, кожную секунду!"

У разуменьні паэта-летуценьніка выключна з дапамогай мрояў ва ўласнай сьвядомасьці магчыма намаляваць абсалютна любую карціну, а потым самому апынуцца там. Да таго ж, наяўнасьць мрояў пазбаўляе чалавека ад гвалту над целам. Тое, чаго немагчыма дасягнуць у матэрыяльным сьвеце, зь лёгкасьцю

атрымліваецца ў марах ды размаітых фантазіях. Толькі ў мроях думкі могуць наталіцца й узбагаціцца, каб потым стварыць нешта ў рэальным жыцьці. Такім чынам, зямное існаваньне й мроі непарушна зьвязаныя паміж сабою.

У адной з сваіх "Маленькіх паэм" Ш. Бадлер як быццам падвёў вынік: "І да чаго папракаць задумы, калі задума сама па сабе зьяўляецца дастатковай асалодай?" Вось і яшчэ адна заява пра паўнавартаснасьць мрояў.

* * *

На жаль, *мроі – зьява досыць палахлівая*. Ш. Бадлер штодня й штоночы шкадаваў, што нехта парушае ягоны спакой, выганяючы зь сьвядомасьці нерэальныя малюнкі. У многіх апавяданьнях магчыма сустрэць згадкі пра тое, што замінае мроям. Як правіла, гэта нешта з рэальнага жыцьця. Ворагі мрояў паўставалі для Ш. Бадлера ў вобразах вартаўнікоў, брыдкіх сужыцелек, хлопчыкаў-рассыльных, рэдактараў газет альбо нават найлепшай каханкі. Яны пранікалі ў мроі паэта, разрывалі іх на шматкі. Момант уварваньня быў для Ш. Бадлера самым жорсткім і балючым. Ён асацыяваўся ў паэта з зусім зямнымі зьявамі: з "вытам кіркой у жывот", "вытам кулаком па сьпіне" альбо чымсьці падобным.

Ш. Бадлер прыкмеціў, што часам чалавек сам можа замінаць уласным фантазіям. Галоўную прычыну ён бачыў у абыякавасьці. "...хутка непераадольная Абыякавасьць абрынулася на мяне, і я быў прыдушаны ёю яшчэ болей, як яны самі былі прыгнечаныя сваімі зьнясільвальнымі Хімерамі". Абыякавасьць – адсутнасьць думак – робіць сьвядомасьць спустошанай, пазбаўленай пачуцьцяў. Мроі ж, наадварот, сплятаюцца з разнастайных яскравых імгненьняў, перажываньняў ды водбліскаў жыцьця.

* * *

Якім бы паўнавартасным ні рабілі жыцьцё чалавека мроі, у "Маленькіх паэмах" Ш. Бадлер дазволіў сабе *крыху песімізму*. На думку паэта, ня ўсё ў мроях зьяўляецца дасканалым.

Да прыкладу, у аповядзе "Двайны пакой" аўтара найбольш засмуціла тое, што пасьля мрояў заўжды даводзіцца вяртацца ў рэальны сьвет – у "жытло вечнага суму". Разам з гэтым вяртаньнем у вочы кідаюцца пабітая мэбля й запэцканы камін, у нос б'е моташлівая цьвіль, а горш за ўсё – зьяўленьне часу. Менавіта ён, хуткі й бязьлітасны, высьлізвае з рук і ўцякае ад чалавека беспаваротна.

Няпэўная незадаволенасьць мроямі адчуваецца ў "Маленькай паэме" "Пакаяньне мастака". Тут Ш. Бадлер зазначыў, што праз мроі асалода можа стаць празьмерна моцнай і тым самым выклікаць нямогласьць, "прыемныя пакуты", а таксама нейкія самотныя хваляваньні. Недабразычліўцы таленту Ш. Бадлера маглі б угледзець у гэтым хваробу паэта. Маўляў, прызвычаіўся да наркотыкаў і іншай брыдоты. Адтуль і ўсе ягоныя мроі.

Заўважаць толькі кепскае – ня лепшая якасьць. Куды складаней сноўдацца паміж штодзённым жыцьцём і мроямі, імкнучыся паўсюль знаходзіць задавальненьне. Яшчэ большае дасягненьне ёсьць стварэньне мастацкіх твораў, празь якія іншыя асобы маглі б спазнаць усю яскравасьць мрояў і паўнавартаснасьць знаходжаньня ў іх. Такія творы-мроі ўдалося сканструяваць Ш. Бадлеру.

**ШАРЛЬ БАДЛЕР**

# МАЛЕНЬКІЯ ПАЭМЫ Ў ПРОЗЕ

## 1. Запрашэньне ў падарожжа

Ёсьць адна цудоўная краіна, гэтак званая зямля запаветная, якую я мару наведаць з сваёй даўняй сяброўкай. Незвычайная краіна, якая патанае ў туманах нашай Поўначы, і якую можна было б назваць Усходам Захаду, Кітаем Эўропы – тут палкае й зьменлівае ўяўленьне цалкам прысьвяціла б сябе дзейнасьці: так старанна й шчодра яно ўславіла гэтую краіну сваімі мудрагелістымі й вытанчанымі зарасьнікамі.

Сапраўдная зямля запаветная, дзе ўсё – цудоўнае, багатае, спакойнае, шчырае, дзе задавальненьне любавацца сабою – звычайная рэч, дзе жыцьцё – сытнае й прыдатнае для адпачынку, адкуль выкрэсьленыя бязладзьдзе, шумлівасьць ды нечаканасьць, дзе шчасьце жанатае зь цішынёю, дзе кухня – сама па сабе паэтычная, сытная й узбуджальная адначасова, дзе ўсё падобнае да Вас, мой даражэнькі анёл.

Ці ведаеш ты гэтакую ліхаманкавую хваробу, якая завалодвае намі пад час халодных нягодаў – сumаваньне па краіне, якой ніхто ня ведае, сум па дзівасіях? Ёсьць краіна, якая нагадвае цябе, дзе ўсё – чароўнае, багатае, спакойнае й шчырае, дзе мроі наладзілі й упрыгожылі заходні Кітай, дзе жыцьцё прыдатнае для адпачынку, дзе шчасьце жанатае зь цішынёю. Менавіта туды трэба імкнуцца жыць, менавіта туды трэба ісьці паміраць!

Так, менавіта туды трэба імкнуцца дыхаць, марыць і расьцягваць час бясконцасьцю пачуцьцяў. Музыка напісаў “*Запрашэньне на вальс*”, а хто створыць “*Запрашэньне ў падарожжа*”, якое можна было б падарыць каханай жанчыне, сваёй выбраньніцы?

Так, менавіта ў такіх умовах добра было б жыць – там, дзе меней пасьпешлівыя гадзіны ўтрымліваюць больш думак, дзе гадзіньнік звоніць пра шчасьце з глыбейшай ды адметнейшай урачыстасьцю.

На зіхоткіх палотнах ці на пазалочаных тканінах і самотным бляску незаўважна жывуць карціны – бесклапотныя, спакойныя й глыбакадумныя, быццам душы мастакоў, якія іх стварылі. Захады сонца, якія так багата афарбоўваюць сталоўку альбо гасьцёўню, – зьмякчаныя чароўнымі

тканінамі ці высокімі шыбамі, па-майстэрску раздробленыя сьвінцовымі аблямоўкамі на безьліч шкельцаў. Мэбля – прасторная, незвычайная, мудрагелістая, абсталяваная замкамі й тайнікамі, нібыта вытанчаная душа. Тут люстэркі, металы, зоркі, пазалота, фаянс выконваюць для вока нямую й таямнічую сімфонію. І ад усіх рэчаў, з усіх куткоў, з шчылін шуфлядак і з складак тканін зыходзіць незвычайны водар – згадка пра Суматру – які зьяўляецца нібыта душою гэтага пакою.

Сапраўдная зямля запаветная, кажу я табе, – там, дзе ўсё багатае, чыстае й зіхатлівае, быццам бездакорнае сумленьне, быццам чароўны кухонны набор, быццам яскравае золата, быццам рознакаляровае ўпрыгажэньне! Багацьці сьвету сьцякаюцца сюды, нібыта ў жытло працавітага чалавека, які меў заслугі перад цэлым сусьветам. Незвычайная краіна, пераўзыходзячая ўсе астатнія, як Мастацтва – Прыроду, дзе Прырода пераўладкаваная марай, дзе яна выпраўленая, упрыгожаная, зьмененая.

Няхай шукаюць, няхай наноў шукаюць, няхай бясконца аддаляюць межы свайго шчасьця алхімікі кветнікаў! Няхай прапаноўваюць узнагароду ў шэсьцьдзесят ці сто тысяч флёрынаў таму, хто вырашыць іхнія грандыёзныя задачы! А я знайшоў свой *чорны цюльпан* ды *блакітную вяргіню*!

Беспараўнальная кветка, здабыты цюльпан, таямнічая вяргіня – менавіта тут, ці ня так, у гэтай чароўнай краіне, такой спакойнай і такой летуценнай, куды трэба было б ісьці, каб жыць і квітнець. Ты была б тут аздобленай падабенствам сябе самой і магла б сузіраць сябе, як кажуць чараўнікі, у сваёй *адпаведнасьці*!

Мроі! Заўсёды мроі! І душа ўсё болей становіцца славалюбнай і вытанчанай, мроі ўсё болей аддаляюць яе ад магчымага. Кожны чалавек нясе ў сабе сваю порцыю прыроднага наркотыка, бесьперапынна выдзяляльнага й абнаўляльнага. А колькі ад нараджэньня да сьмерці мы налічваем гадзін, напоўненых станоўчымі асалодамі, пасьпяховымі й рашучымі ўчынкамі? Ці будзем мы жыць хоць калі-небудзь, ці патрапім мы калісьці ў краіну, адлюстраваную маёй сьвядомасьцю – у краіну, якая нагадвае цябе?

Гэтыя багацьці, гэтая мэбля, гэтая раскоша, гэты парадак, гэтыя водары, гэтыя чароўныя кветкі – усё гэта ты. І зноў ты: агромністыя рэкі й ціхія праліўы, гэтыя велізарныя караблі, якія яны нясуць зусім загружанымі багацьцямі, і зь якіх уздымаюцца аднастайныя сьпевы аснадаў – гэта мае думкі, якія сьпяць альбо круцяцца над тваімі грудзямі. Ты пяшчотна праводжваеш іх да мора, якое зьяўляецца Бясконцасьцю, цалкам адбіваючай глыбіні неба ў чысьціні тваёй чароўнай душы. А калі, стомленыя хваляваньнямі й сытыя ўсходнімі прысмакамі, яны зноў уваходзяць у родны порт – гэта мае ўзбагачаныя думкі, якія вяртаюцца зь Бясконцасьці да цябе.

## 2. **Дабрадзействы Месяца**

Месяц, які сам зьяўляецца непастаянствам, зірнуў у вакно ў той час, калі ты спала ў сваёй калысцы, і сказаў табе: “Мне падабаецца гэтае дзіцяці”.

Ён мякка спусьціўся па лесьвіцы з воблакаў і бязгучна прайшоў скрозь шыбы. Затым ён распасьцерся над табою зь мяккаю пяшчотаю маці й нанёс свае фарбы на твой твар. Праз гэта твае зрэнкі сталі зялёнымі, а шчокі надзвычай бледнымі. Сузіраючы гэтага госьця, твае вочы дзіўна павялічыліся, а ён так ласкава сьціснуў табе горла, што ты назаўжды захавала жаданьне плакаць.

У той жа час з узрастальнай радасьцю Месяц запоўніў увесь пакой, быццам фасфарычнае рэчыва, быццам сьвятлівая атрута, і ўсё гэтае жывое сьвятло думала й казала: “Ты будзеш адчуваць уладу майго пацалунка вечна. Ты будзеш прыгожым па-мойму. Ты залюбіш тое, што я люблю, і тых, хто любіць мяне: ваду, воблакі, цішыню, ноч, бязьмежнае й зялёнае мора, няпэўную й шматвобразную ваду, месцы, дзе ты не пабываеш, каханага, якога ты ня зьведаеш, вялізныя кветкі, водары, якія прымушаюць трызьніць, котак, якія млеюць на фартэпіяна й стогнуць, як жанчыны, хрыплымі ды пяшчотнымі галасамі!

Ты будзеш улюбёнай маіх каханкаў, улагоджанай маімі служкамі. Ты будзеш валадаркай людзей зь зялёнымі вачыма, чые глыткі я таксама сьціснуў у сваіх начных любошчах – тых, хто любіць мора, бязьмежнае, шумнае й зялёнае мора, няпэўную й шматвобразную ваду, месцы, дзе іх няма, жанчыну, якую яны ня ведаюць, злавесныя кветкі, падобныя да кадзільнаў невядомай рэлігіі, водары, глушачыя волю, і дзікіх юрлівых жывёлін, якія зьяўляюцца сымбалямі ўласнага вар’яцтва.

Менавіта для гэтага, праклятае, дарагое, разбэшчанае дзяцяці, я зараз лёг ля тваіх ног, шукаючы ва ўсёй тваёй істоце ўвасабленьне гняўлівай Боскасьці, прарочай хроснай маці, карміліцы-атручальніцы ўсіх лунатыкаў.

## 3. **Суп і аблокі**

Мая маленькая, горача каханая шаляніца падавала мне вячэру, а я праз расчыненае вакно сталоўкі сузіраў рухавыя збудаваньні, якія Бог робіць з пары – дзіўныя празрыстыя стварэньні. І скрозь сузіраньне я сказаў сам сабе: “Усе гэтыя здані – амаль такія ж чароўныя, як вочы маёй каханай прыгажуні, маленькай шаляніцы зь зялёнымі вачыма”.

Раптам я атрымаў люты выт кулаком па сьпіне й пачуў чароўны прыглушаны галос, разгублены енк, ахрыплы, быццам ад гарэлкі – голас маёй дарагой, горача каханай гарэзы, якая казала: “Ці хутка вы прыйдзеце есьці свой суп, паскудны гандляр аблокамі?”

## 4. **Задумы**

Ён казаў сабе, гуляючы па агромністым бязьлюдным парку: “Якая б яна была прыгожая ў прыдворным, выкрунтастым і багатым строі, сыходзячы скрозь водар чароўнага вечара па мармуровых прыступках палаца, які знаходзіцца насупраць шырокіх лугавін і вадаёмаў! Сапраўды, яна мае зьнешнасьць князёўны”.

Пазьней, ідучы па вуліцы, ён спыніўся перад крамай з гравюрамі, і адшукаўшы ў папцы адбітак з адлюстраваньнем трапічнага краявіду, сказаў сабе: “Не! Не ў палацы я жадаў бы валодаць яе каштоўным жыцьцём. Тут мы ня будзем адчуваць сябе па-свойску. Да таго ж на закратаваных золатам мурах не засталося б месца, каб павесіць гэты малюнак. Ва ўрачыстых галярэях няма кутка для інтымнасьці. Бясспрэчна, *там* трэба было б жыць, каб сілкаваць мроі пра ўласнае жыцьцё”.

І вывучаючы вокам драбніцы гравюры, ён працягваў пра сябе: “На беразе мора – цудоўная хаціна, абкружаная мудрагелістымі й зіхатлівымі дрэвамі, назвы якіх я забыўся... У паветры – ап’яняльны, невыказны пах... У хаціне – моцны водар ружаў і мускусу... Далей, за нашым маленькім маёнткам – верхаліны мачтаў, загайданыя хвалямі... Вакол нас – сьвятло ружовага агню, пранікальнага скрозь фіранку з-за межаў пакоя, упрыгожанага стракатымі дыванкамі й ап’яняльнымі кветкамі, з незвычайнымі крэсламі зь цяжкага цёмнага дрэва – у стылі партугальскага ракако (дзе яна адпачывала б, такая спакойная, так выдатна абвявальная ветрам, палячы тытунь з драбніцай опію!); па-за вярандай – гоман птушак, ап’янёных сьвятлом, і балбатня маленькіх негрыцянак... А ўночы маім мроям служыў бы суправаджэньнем самотны сьпеў дрэваў пад граньне маркотных кузуарын! Так, па праўдзе кажучы, менавіта *там* умовы, якія я шукаў. Што мне рабіць з палацам?”

А далей, калі ён ішоў па вялізным прасьпекце, то заўважыў ахайную карчму, дзе ў адным вакне, ажыўленым фіранкамі з стракатага паркалю, сьхіліліся два сьмяшлівыя твары. І ўвобміг ён сказаў сабе: “Мая душа – страшэнная бадзяга, бо так далёка накіроўваецца й шукае тое, што было зусім побач са мною. Задавальненьне й шчасьце – у першым сустрэчным гатэлі – у выпадковым гатэлі, абяцальным посьпех у асалодах. Вялізнае вогнішча, яркі посуд, ніштаватая вячэра, выдатнае віно й шырачэзны ложак з крыху мулкімі, але сьвежымі прасьцінамі. Што можа быць лепей?”

Адзінока вяртаючыся да сябе, калі парады Разважлівасьці больш не прыглушаліся гоманам вонкавага жыцьця, ён сказаў пра сябе: “Сёньня ў марах я меў тры жытлы, дзе я адчуваў аднолькавае задавальненьне. Навошта прымушаць сваё цела зьмяняць жытло, калі душа падарожнічае так лёгка? І да чаго папракаць задумы, калі задума сама па сабе зьяўляецца дастатковай асалодай?”

## 5. **Пакаяньне мастака**

Якія замілавальныя апошнія восеньскія дні! Авой! Працінальныя да болю! Бо існуюць сапраўдныя чароўныя пачуцьці, хваля якіх не выключае напружанасьці. І няма вяршыні больш вострай, як вяршыня Бясконцасьці.

Агромністая асалода паглыбляць свой позірк у неабсяжнасьць неба й мора! Задзіночаньне, ціша, беспараўнальная чысьціня блакіту! Маленькі дрыготкі ветразь у даляглядзе сваёй драбнюткасьцю й адзінотай паўтарае маё невыпраўнае існаваньне; аднастайнае граньне прыбою – усё гэта разважае мною ці я разважаю імі (бо пад уладаю мрояў “я” хутка губляецца!). Яны думаюць, кажу я, але музычна й маляўніча, бязь хітрыкаў, без высноў, бяз вынікаў.

Усё ж думкі, якія зыходзяць ад мяне ці імкнуцца ад рэчаў, хутка становяцца занадта напружанымі. Напружаньне ў асалодах выклікае нямогласьць і прыемныя пакуты. А празьмерна напружаныя нервы абзываюцца яшчэ і непрыемным ды самотным гучаньнем.

І цяпер глыбіня неба агаломшвае мяне, ягоная чысьціня раздражняе мяне. Бяздушнасьць мора, нязьменнасьць відовішча абураюць мяне... Вох! Ці патрэбна безупынна пакутваць ці вечна пазьбягаць прыгожага?

О прырода, дурманлівая без шкадаваньня, заўжды пераможная суперніца, пакінь мяне! Досыць выпрабоўваць мае жаданьні й гонар! Спазнаньне прыгожага – гэта двубой, дзе мастак крычыць ад жаху перад тым, як будзе пераможаны.

## 6. **У кожнага свая Хімера**

Пад бязьмежным шэрым небам, у шырокай запыленай лагчыне, бязь сьцежак, без травы, без растропу, без крапівы, я сустрэў мноства людзей, якія ішлі, сагнуўшыся.

Кожны зь іх нёс на сваёй сьпіне агромністую Хімеру, гэтакую сама цяжкую, як мяшок мукі ці вугалю, альбо рыштунак рымскага жаўнера.

Але пачварная жывёліна не была бязьдзейснай ношай, наадварот, яна абхоплівала й прыгнятала чалавека сваімі гнуткімі й магутнымі мускуламі, а сваімі двума агромністымі кіпцюрамі яна ўтыкалася ў грудзі сваёй верхавой жывёлы; яе неверагодная галава ўздымалася над ілбом чалавека, быццам нейкая жахлівая каска, якімі старажытныя воі спадзяваліся запалохаць ворага.

Я распытаў аднаго з гэтых людзей і пацікавіўся ў яго, куды яны гэтак ідуць. Ён адказаў мне, што пра гэта нічога ня ведае ні ён, ні іншыя, але відавочна, што яны ішлі кудысьці, бо іх штурхала непераадольная прага ісьці.

Цікавая рэч: ніводны з падарожнікаў ня меў раздражнёнага выгляду

праз драпежную жывёліну, павіслую на ягонай шыі й прыліплай да ягонай сьпіны; сказаў бы, што ён лічыў яе складовай часткай сябе самога. Усе гэтыя стомленыя й сур'ёзныя твары не выказвалі ніякага адчаю; пад засмучаным покрывам неба, нагамі, паглыбленымі ў дарожны пыл, гэтакі сама азмрочаны, як і неба, яны валачыліся зь ціхмянымі тварамі тых, хто зьяўляецца асуджаным вечна спадзявацца.

Грамада прайшла паблізу й паглыбілася ў далячынь небакраю – у прастору, дзе круглявая паверхня планеты пазьбягае цікаўнага чалавечага позірку.

І некаторы час я ўпарта жадаў зразумець гэтую таямніцу, але хутка непераадольная Абыякавасьць абрынулася на мяне, і я быў прыдушаны ёю яшчэ болей, як яны самі былі прыгнечаныя сваімі зьнясільвальнымі Хімерамі.

*Пераклад з французскай мовы*
Кастуся Карпекіна

*POST SCRIPTUM*

Формула творчага выніку

Ужо каторы раз у "Тэрмапілах" друкуюцца беларускамоўныя пераклады "Маленькіх паэм у прозе" Шарля Бадлера, зробленыя Кастусём Карпекіным. Мудрагелістыя тэксты падводзяць да пытання: як жа яны з'явіліся? Адказаць на гэтае пытанне ня проста.

На першы погляд усё досыць не сумяшчальнае. Ш. Бадлера аддзяляюць ад нас цэлыя паўтара стагоддзя, ды і творчасць ягоная – не для паўсядзённага ўжытку. Больш таго, К. Карпекін – хлопец з Лёзненшчыны – усходняга раёна Беларусі, сумежнага з Расіяй. Беларускамоўных там адшукаць цяжкавата. Але ўсяму можна знайсці тлумачэнне.

К. Карпекін нарадзіўся ў сям'і вясковых настаўнікаў, дзе на першым месцы заўжды была добрасумленная праца. Бацькі з разуменнем і спагадай ставіліся да ўсіх інтарэсаў свайго сына.

Скончыўшы сярэднюю школу, Кастусь вагаўся паміж фізікай, французскай мовай і гісторыяй. Выбраўшы гісторыю, ён не адрынуў замежнай мовы, вывучэнню якой прысвяціў шмат часу. Гэта і дазволіла яму пранікнуць у загадкавы свет Ш. Бадлера.

Чаму менавіта Ш. Бадлер? Калі К. Карпекін быў студэнтам гістарычнага факультэта Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П.М. Машэрава, тут дзейнічаў літаратурны клуб "Рандэву з французскай паэзіяй". Яго кіраўнік – Наталля Георгіеўна Сяржантава – заўважыўшы здольнасці хлопца, прапанавала яму перакласці колькі "маленькіх паэм". Спачатку з'явіліся рускамоўныя пераклады.

Любоў да роднай мовы, перакананасць у тым, што беларусы могуць асэн-

соўваць культуры іншых нацыяў, падштурхнула К. Карпекіна да перакладу твораў Ш. Бадлера на беларускую мову. Такі кантакт культур вельмі важны. Праз яго магчыма спазнаць свядомасць іншаземцаў. Яшчэ важней тое, што ацаніўшы чужое, бачыш, што свая, спрадвечна беларуская нікуды ня горшая. Цяпер, дзякуючы багаццям мовы, беларусы могуць далучыцца да заходнееўрапейскай літаратуры XIX стагодздзя.

Пераклаўшы некалькі “маленькіх паэм”, К. Карпекін ня здолеў спыніцца, настолькі зацікавілі яго думкі замежнага паэта. Мабыць, бадлераўскія адзінота і мроі аказаліся нечым суладнымі настрою перакладчыка. Натуральна, іншых аматараў няпростай творчасці таксама захопяць бясконцая вобразнасць ды іншасказальнасць “маленькіх паэм”. Дзеля беларусаў і рабілася гэтая праца.

Вось і атрымліваецца своеасаблівая формула. Менавіта сумешчаныя разам бацькоўская любоў, асабістыя здольнасці і спагада адзінадумцаў даюць творчы вынік.

**Міхась Слямнёў**,
доктар філасофскіх навук,
Віцебск

# Культурная спадчына павінна аб’ядноўваць, а не раз’ядноўваць людзей

**Адам Мальдзіс**

(*Першапублікацыя даклада, прачытанага на Міжнароднай навуковай канферэнцыі "Суіснаванне народаў і добрасуседскія адносіны — гарантыя стабільнасці і бяспекі ў Еўропе" ў час саміту кіраўнікоў краін Цэнтральна-Усходняй Еўропы ў Вільнюсе ў 1997 годзе)*

Гістарычныя лёсы беларускага народа, беларускай дзяржаўнасці, бадай, найбольш драматычныя і нават трагічныя, калі параўноўваць іх з лёсамі іншых народаў і дзяржаў, прадстаўленых на гэтым высокім форуме. Так, у нас ёсць старадаўнія традыцыі, што бяруць пачатак ад Полацкага, Тураўскага, Гродзенскага і іншых княстваў. Так, мы маем багатую культуру — дастаткова нагадаць, што якраз цяпер адзначаецца 480-годдзе нашага, скарынаўскага кнігадрукавання. Аднак жа на працягу цэлых стагоддзяў беларускія землі часткова або поўнасцю, добраахвотна ці прымусова ўваходзілі ў склад іншых дзяржаўных утварэнняў — Кіеўскай Русі, Вялікага Княства Літоўскага, Рэчы Паспалітай, Расійскай імперыі, Савецкага Саюза. Таму нашы продкі часцей за ўсё выступалі ў гісторыі пад іншым, няўласным імем — як русіны, ліцвіны, белаляхі, крэсавякі, палешукі, тутэйшыя, жыхары паўночна-заходніх губерняў ці ўсходніх ваяводстваў. Этнічныя вярхі, інтэлектуальную эліту па чарзе захліствалі хвалі паланізацыі ці русіфікацыі. Адсюль і нашы сённяшнія праблемы — нацыянальныя, дзяржаўныя, культурныя. Адсюль і складанасці з нашым менталітэтам, які, у адрозненне ад суседзяў, усё яшчэ фарміруецца і нават рэгрэсіруе. Адсюль і нашы складанасці ва ўзаемаадносінах з суседзямі. З вашага дазволу, я спынюся на спадчыне культурнай, асабліва — спрэчнай, поліэтнічнай. Гэтая спадчына сёння павінна збліжаць, аб’ядноўваць суседнія краіны і народы. Але, на жаль, часцей раз’ядноўвае, служыць перашкодай у нашых суседскіх узаемаадносінах. Паверце, мне, беларусу па перакананнях, але адначасова чалавеку, які мае літоўскія карані, выхаванаму на польскай і рускай культурах, становіцца балюча, калі я чытаю, што культурная спадчына Вялікага Княства Літоўскага (у тым ліку летапісы, статуты, метрыкі) з’яўляецца выключна ўласнасцю сённяшняй Летувы ці што яна ствралася не на старажытнай беларускай мове, а на штучнай "канцылярскай мове" ВКЛ, або, з

другога, нашага боку, што ВКЛ, дзяржава поліэтнічная, была выключна дзяржавай беларускай. Робіцца прыкра, калі бачу выдадзеныя цяпер у Польшчы кнігі пра Нясвіж, Гродна, Слонім, дзе гэтыя гарады называюцца нават не "крэсавымі", а спрадвеку польскімі, а, з другога боку, калі чытаю ў нашай прэсе, што Адам Міцкевіч — гэта беларускі паэт. Становіцца няёмка, калі аўтарытэтныя людзі нават Скарыну, нават Ефрасінню Полацкую, Сімяона Полацкага лічаць з'явамі толькі расійскай культуры, а, з другога боку, што Глінка ці Дастаеўскі — гэта амаль ці не стопрацэнтныя беларусы. І ўжо зусім губляецца аптымізм, калі чуеш ці чытаеш, што кожны католік у Беларусі — гэта абавязкова паляк ці літовец, а кожны праваслаўны — абавязкова рускі. Міжволі думаеш тады: што — беларусам зусім Бог не даў месца пад сонцам?!

Асабліва складаным з'яўляецца пытанне аб спрэчнай культурнай (як матэрыяльнай, так і духоўнай) спадчыне, аб яе рэстытуцыі, вяртанні ў краіну паходжання ці сумесным выкарыстанні. Паколькі Беларусь раней уваходзіла ў склад іншых дзяржаўных фарміраванняў, у іх сталіцах, Вільні, Варшаве, Пецярбургу, Маскве, асядалі беларускія па тэрыторыі паходжання музейныя, бібліятэчныя, архіўныя каштоўнасці. Дзяліць іх, патрабаваць вяртання — справа з юрыдычнага пункту гледжання амаль безнадзейная. Да таго ж яна псавала б нашы суседскія адносіны, гняла б іх, Таму, як мне здаецца, сёння больш перспектыўна ставіць пытанне аб сумесным выкарыстанні спрэчных культурных каштоўнасцей — іх публікацыі, капіраванні, дэманстрацыі на абменных выставах, дэпаніраванні, нарэшце, вывучэнні. А для гэтага, вядома, неабходны свабодны доступ да каштоўнасцей, якога беларускім вучоным сёння часта не хапае, асабліва ў Расіі. Вельмі важныя тут таксама маральна-этычныя аспекты, праяўленне добрай волі кіраўнікоў дзяржаў. Пра ўсё гэта, дарэчы, нядаўна, у чэрвені месяцы, гаварылася на спецыяльнай Міжнароднай канферэнцыі па праблемах рэстытуцыі, праведзенай у Мінску пад эгідай ЮНЕСКА. Выніковы дакумент гэтай канферэнцыі, звернуты ў першую чаргу да кіраўнікоў суседніх дзяржаў. З-за адсутнасці часу я не буду тут пералічваць нашы страты помнікаў гісторыі і культуры. Падкрэслю толькі, што яны велізарныя, большыя, чым у любой іншай еўрапейскай дзяржаве. У час апошняй вайны былі вывезены і разрабаваны фонды амаль усіх беларускіх музеяў, бібліятэк і архіваў. За мяжой беларускіх каштоўнасцей больш, чым у самой Беларусі. І ў вяртанні іх мы спадзяемся не столькі на законы і дагаворы (яны альбо не падпісаны, альбо не дзейнічаюць), колькі на добрую волю суседзяў. Дазвольце мне тут ужо, хутчэй, не як вучонаму, а як пісьменніку, крыху пафантазіраваць аб тым, што б я зрабіў на месцы прэзідэнтаў суседніх дзяржаў.

На месцы Прэзідэнта Літвы, паважанага спадара Бразаўскаса я б адрадзіў у Вільнюсе, у ранейшым памяшканні, Віленскі беларускі музей, закрыты бальшавікамі ў 1946 годзе. Фонды яго сёння раскінуты па многіх музеях, бібліятэках і архівах Літвы і Беларусі. Сабраныя зноў разам, яны паслужылі б асновай цэнтру літоўска-беларускага добрасуседства. Размовы пра яго вядуцца даўно, але вынікаў няма. Карыстаючыся нагодай, я хацеў бы выказаць літоўскім уладам вялікую ўдзячнасць за вернутыя ў Беларусь ксеракопіі Тураўскага Евангелля і гравюр Напалеона Орды.

На месцы Прэзідэнта Польшчы, паважанага пана Квасьнеўскага, я б, калі не вярнуў, то хаця б перадаў у дэпазіт Нясвіжскаму замку 89 партрэтаў з галерэі Радзівілаў, якія ў 1950 годзе былі падораны намі, натуральна, пад націскам з Масквы, Баляславу Беруту. А таксама падарыў бы Беларусі, Навагрудчыне, копіі Лаўрышаўскага Евангелля і метрычнай кнігі Навагрудскага касцёла з запісам аб нараджэнні Адама Міцкевіча, якая была нелегальна вывезена ў Польшчу ў 1946 годзе.

На месцы Прэзідэнта Расіі, паважанага пана Ельцына, я, калі б не вярнуў, то падарыў бы Беларусі калекцыю слуцкіх паясоў, вывезеную ў Маскву ў 1940–1941 гадах, а таксама дублікаты скарынінскіх выданняў, якіх няма ні ў Мінску, ні ў Полацку, на радзіме першадрукара. І дапамог бы ў пошуках слядоў нашай рэліквіі № 1, Крыжа Святой Ефрасінні Полацкай, эвакуіравана з Магілёва ў 1941годзе.

На месцы Прэзідэнта Украіны, паважанага пана Кучмы, я б, калі не вярнуў, то зрабіў бы аб′ектам сумеснага карыстання славутую бібліятэку Храптовічаў, вывезеную ў Кіеў напярэдадні і ў час Першай сусветнай вайны, і дапамог бы ў правядзенні ў Мінску выставы беларускіх скарбаў, якія апынуліся ў Львове, у музеі мітрапаліта Шаптыцкага, у пачатку нашага стагоддзя.

Ну, а на месцы Прэзідэнта Беларусі, паважанага пана Лукашэнкі, я б прадоўжыў практыку бясплатнага вяртання суседзям, перш за ўсё Расіі, ікон і іншых твораў мастацтва, якія так часта канфіскуюцца мытнікамі на беларуска-польскай і беларуска-літоўскай мяжы. І стварыў бы па прыкладу іншых краін навуковую структуру, якая займалася б рэстытуцыяй.

І ў заключэнне дазвольце ад фантазіравання, зрэшты, лёгка рэальна выконваемага, перайсці да канкрэтных прапаноў.

Першае. Дзеля нашага ўзаемаразумення, добрасуседскіх адносін неабходна адзіная інфармацыйная прастора для краін Цэнтральна-Усходняй Еўропы. Парадаксальна, але факт: раней яна была, а цяпер амаль знікла. Звесткі аб публікацыях (ці самі публікацыі) у Літве ці Латвіі нам атрымаць больш складана, чым аб публікацыях у ЗША. Патрэбны сумесны Банк інфармацыі, перш за ўсё, у гуманітарнай сферы. Пачатак яму мы спрабуем пакласці,

але пакуль што з недастатковым поспехам. Другое. Мы знаходзімся напярэдадні чарговых юбілеяў нашых пісьменнікаў, кампазітараў, мастакоў, вучоных. І, відавочна, па-ранейшаму будзем дзяліць агульных геніяў паміж Польшчай, Беларуссю, Літвой. Напэўна, яны самі жахнуліся б ад гэтага. Дык няхай жа юбілеі будуць суседскімі, агульнымі. І трэцяе. У Беларусі распрацаваны цікавы турыстычны праект "Залатое кальцо Беларусі". Я б хацеў звярнуць на яго ўвагу суседзяў. Таму што нішто так не збліжае людзей, як знаходжанне на суседскай зямлі. У якасці жаданага госця.

*(5 верасня 1997 г.)*

# ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА

АЛІНА САБУЦЬ
*Гродна*

## Сучасная найноўшая паэзія: ад афрыканскіх тамтамаў да Купалавай спадчыны

*Утварыўся лябірынт тэкстаў са шматлікімі галерэямі й сьцежкамі, па якіх блукаюць самотныя аўтары й ня могуць выйсьці да чытача, бо чытач блукае па сваіх сьцежках. Інфармацыйна-тэкставы лябірынт – гэта й ёсьць на сёньня нашае культурніцкае поле.*

Пятро Васючэнка

Што ёсць беларускі літаратурны постмадэрнізм: новая з'ява, плынь, новы мастацкі стыль, новы мастацкі кірунак, мастацка-эстэтычная сістэма канца ХХ стагоддзя? Сама размытасць паняцця «постмадэрнізм», прымерванне «аўтарскай маскі», пачуванне прасторы-пусткі можна ўмоўна ахарактарызаваць аўтарскай метафарай Алеся Аркуша – *жыццё пры дарозе*. Калі, вобразна кажучы, авангардна-мадэрнісцка-постмадэрнісцкая парадыгма выглядае вектарна *дарогай*. Бо і сам тэрмін «постмадэрнізм» часта дубліруецца іншымі, нават «прыставачнымі»: «паставангардызм», «постструктуралізм», «пострамантызм», «трансавангард» і інш. Бо творчыя практыкі постмадэрнісцкіх тэкстаў неадкладна патрабуюць расшыфроўкі ажно праз такія паняцці-метафары, як «палімпсэст», «капірка». Бо, урэшце, сярод праяваў беларускага постмадэрнізму, дзе аўтары імкнуцца найбольш самаактуалізавацца, самі ж беларусы згадваюць «Практычны дапаможнік па руйнаванні гарадоў» А. Бахарэвіча і паэзію А. Хадановіча... Насамрэч, гармонія фармальнага і мастацкага (змястоўна-эстэтычнага) ўзроўняў, ахутаная дасведчанай абазнанасцю ў постмадэрнісцкай філасофіі (суадносна светагляд, канцэпцыя, тэорыя, матывацыя),

дадзена не кожнаму творцу. Думаецца, твор без аўтарскай мастацкай задумы і адказнасці – гэта не твор. «Бо, па меркаванні многіх айчынных даследчыкаў, – досыць катэгарычна заяўляе маладая паэтка Віка Трэнас, – усё, што не падобнае да традыцый Купалы, Коласа, Багдановіча, усё *новае і эпатажнае* (курсіў наш. – *А.С.*), якое б яно ні было па сваёй гістарычнай, эстэтычнай і мастацкай сутнасці – усё гэта можна прылічыць да *постмадэрнізму як да сістэмы, свабоднай* не толькі ад жыццёвых фармальнасцей, але падчас і ад саміх аўтараў, і ад іх твораў, і нават ад слоў» [1, с. 118]... Аднак, безумоўна, пакуль што гэта не сістэма як нешта эстэтычна цэласнае. Лепш сказаць, беларускі постмадэрнізм мае адрозна іншую вопратку, чым постмадэрнізм у класічным уяўленні. У сучасным беларускім літаратуразнаўстве нават блукае не аднойчы выказаная думка, што напісанае літаратурнай крытыкай пра мастацкія тэксты «найноўшых» уяўляе куды большую цікавасць, чым самі мастацкія тэксты.

Беларускі постмадэрн (ці постмадэрн у беларускім варыянце, як слушна заўважыў Андрэй Хадановіч) — наспелая, досыць супярэчлівая праблема сённяшняга літаратуразнаўства. Да згаданай праблемы зусім неабыякавыя такія даследчыкі, як Валянцін Акудовіч, Алесь Бельскі, Пятро Васючэнка, Ганна Кісліцына, Міхась Тычына, Ірына Шаўлякова, у тым ліку і самі творцы (Юрась Барысевіч, Зміцер Вішнёў, Юры Гумянюк, Віктар Жыбуль, Серж Мінскевіч, Андрэй Хадановіч і іншыя). Трэба адзначыць, што вартыя даследаванні друкуюцца на старонках прызнаных аўтарытэтных часопісаў, новых перыядычных выданняў («Калосьсе», «Паміж», «Nihil», «Фрагмэнты філязофіі, культуралогіі, літаратуры», «ARCHE», «Дзеяслоў» і інш.). Адметнай з'явай стала грунтоўнае выданне «Анталёгія сучаснага беларускага мысьленьня» (2003), якое ўвабрала больш за тры дзесяткі змястоўных тэкстаў па філасофіі, культуралогіі і літаратуразнаўстве апошняга беларускага дзесяцігоддзя, што прысвечаны «Новай Культурнай Сітуацыі» (тэрмін «прышчэплены» з замежнай на беларускую прастору С. Дубаўцом), а таксама энцыклапедычнае мінскае выданне «Новейший философский словарь. Постмодернизм» (2007, склад. А. Грыцанаў). Феномен пераходнага (паваротнага) перыяду ў сучаснай літаратуры шматгранна асэнсаваны ў нядаўняй калектыўнай акадэмічнай манаграфіі «Літаратура пераходнага перыяду: тэарэтычныя асновы гісторыка-літаратурнага працэсу» (2007) праз такія базавыя паняцці, як «новы гістарызм», «паэтычныя мадэлі», «новая літаратурная сітуацыя», «змена культурнай парадыгмы», «праявы постмадэрнісцкай свядомасці», «інтэрпрэтацыя і гіперінтэрпрэтацыя» і інш. Пра «адзін з самых глыбокіх пераломных момантаў» гісторыі сучаснага літаратуразнаўства аўтар дадзенай манаграфіі М.Тычына даводзіць: «Адбываецца, і часткова ўжо адбыўся, цяжкі, нават хваравіты, пераход ад запалітызаванай парадыгмы, калі ў цэнтры ўвагі быў сацыяльны бок чалавечага існавання, да

«літаратурнага» літаратуразнаўства, калі галоўнай становіцца ўстаноўка на іманентны разгляд літаратуры «ў самой сабе і дзеля сябе» [2, с. 27].

Наогул, сітуацыя беларускага постмадэрну выклікана навацыямі ва ўсіх сферах беларускага грамадства на памежжы 80–90-х гадоў ХХ-га стагоддзя, заканамерным крызісам эстэтычнага вопыту. На думку беларускага літаратуразнаўцы Вячаслава Караткевіча адносна беларускай «сваёй своеасаблівай» мадыфікацыі постмадэрнізму, «у айчынным, як і ва ўкраінскім постмадэрнізменазіраецца значная часавая «перапыненасць», перарыўнасць з мастацтвам мадэрнізму, бо ён узнікае не «пасля мадэрнізму», а пасля сацрэалізму (падкрэслена намі. – *А.С.*), праз дзесяцігоддзі ад заходняга. Але з другога боку, у беларускай мадыфікацыі літаратурнага постмадэрнізму назіраецца змешванне рысаў эстэтыкі авангарду і постмадэрнізму... Такая сітуацыя тлумачыцца, магчыма, канцэпцыяй «комплекса непаўнавартасці» нацыянальнай беларускай літаратуры, створанай даследчыкамі ў Беларусі і за яе межамі, і моцнымі літаратурнымі традыцыямі паэтыкі абсурду...» [3, с. 149]. Часам беларускі авангард называецца нічым іншым, як *працай над памылкамі беларускай савецкай літаратуры* [4, с. 439].

Так, постмадэрнісцкае мастацтва – гэта найперш мастацтва нестандартнага пераасэнсавання-«спісвання» культурнай спадчыны, што вымагае дасведчанай інтэлектуальнай аўдыторыі (аўтар – чытач(глядач)). Постмадэрнісцкі твор – твор, прыналежны і да агульнай, і ўжо да новай літаратурнай сітуацыі. Такім чынам, постмадэрнісцкая літаратура – літаратура эксперыментальнага характару, так ці іначай літаратура, народжаная падчас гістарычна абумоўленай змены культурнай парадыгмы (як вядома, тэрмін «культурная парадыгма» ўведзены Г. Бергманам). Больш за тое, у суголоссе сказанаму вядомы італьянскі семіётык, спецыяліст па тэорыі масавай камунікацыі, пісьменнік Умбэрта Эка сцвярджаў, што *ў любой эпохі ёсць уласны постмадэрнізм* [5, с. 460]; постмадэрнізм разлічвае на такую аўдыторыю, якая здольная ацаніць іронію, прасачыць інтэртэкстуальныя коды, або, услед за антычнай формулай, *забаўляцца, адначасова атрымліваючы новае веданне* (У. Эка) [6, с. 175].

Праўда, айчынныя літаратары не спяшаюцца рабіць гучную рэкламу сябе як постмадэрністаў. Ды і крытыкі ў большыні сваёй такое мастацтва ацэньваюць хутчэй як форматворчасць. Беларускія даследчыкі неадназначна вызначаюць прыналежнасць таго ці іншага аўтара да постмадэрнісцкага дыскурсу. Не шчыруе сучаснае літаратуразнаўства апошнія два дзесяцігоддзі скрупулёзным аналізам бадай ніводнай постмадэрнісцкай кнігі, хоць аўтары такіх кніг станавіліся часам аб’ектам знішчальнай крытыкі. Як пісаў нашанівец М. Гарэцкі, дрэнная тая крытыка, што крытыкуе не творы, а аўтара, альбо, як слушна заўважаў французскі філосаф, вальнадумец XVI ст. М. Мантэнь у сваіх «Вопытах», *мы толькі і робім, што складаем глосы адзін на другога* [7, с. 351]. На

жаль, у беларускай навуцы і сёння пануе размытае ўжыванне паняццяў «пост-мадэрн» і «постмадэрнізм», «постмадэрнісцкі тэкст» і «постмадэрнісцкі твор». У той час як у беларускай паэтычнай прасторы з'явіліся і свае «ізмы»:«транслагізм» (С. Мінскевіч, А. Туровіч), «транслінгві-зм» (Л. Сільнова), «логафармізм» (А. Кавалеўскі), «тэхнарамантызм» (В. Жыбуль), «шызарэалізм» (Ю. Барысевіч), «афрыканізм» (З. Вішнёў) і інш., што сведчыць пра развіццё хуткацечнага руху авангардных кірункаў.

Сёняшняя «найноўшая» авангардная літаратура жыве ў сваім няпростым вымярэнні. Разважаючы пра постмадэрнісцкую гульню як гульню іншага вымярэння, «свой» тэарэтык, «хросны бацька» Бум-Бам-Літа, вядомы беларускі папулярызатар найноўшых культуралагічных тэндэнцый В. Акудовіч удакладняе: «Постмадэрновы тэкст ведаць не ведае, што такое сапраўдная рэальнасць (тым болей – этычная рэальнасць), ён цалкам адбываецца ў гіперрэальнасці віртуальна-вербальнай гульні» [8, с. 295], таму аўтар даволі «выйгрышна» заяўляе: «Сітуацыя постмадэрнізму не ўстанаўлівае правілы гульні, яна толькі падказвае: літаратура – гэта гульня, а па якіх правілах у яе гуляць, кожны вольны вырашаць сам» [8, с. 221]. Таму постмадэрністы разумеюць *свет як тэкст* (Р. Барт), лічаць, што *няма нічога сказанага, што б не было сказана раней* (лацінскае выслоўе), свядома замяняюць саму рэчаіснасць яе копіямі-адбіткамі, увасобленымі ў творах самых розных эпох, метадаў, накірункаў.

Досыць вобразна і выразна пра «ўразнастайненую» карціну мастацкага літаратурнага жыцця выказаўся экстравагантны паэт і тонкі знаўца філалагічных гульняў Андрэй Хадановіч: … *Наўрад ці варта аспрэчваць наяўнасць у нас постмадэрновай сытуацыі. Аднак постмадэрнісцкай літаратуры, прынамсі, у тым сэнсе, як «постмадэрнізм» разумеецца ў сьвеце, у нас амаль ня склалася* [9, с.446], да таго ж, *патэнцыйныя гульцы нават з большага ведаюць, як бавіцца з новымі цацкамі. Вось толькі саміх гэтых цацак покуль што катастрафічна бракуе. Ёсьць шмат аўтараў, гатовых да пародыяў, цытацыяў, стылізацый, перайманьняў ды іншых спосабаў карыстаньня чужымі тэкстамі. Не стае саміх гэтых тэкстаў, вартых постмадэрнісцкай дэканструкцыі* [9, с.450-451].

Творчасць найноўшых літаратараў – безумоўна, варыянт постмадэрнізму, больш за тое, як справядліва лічыць А. Хадановіч, *варыянт дзіцячы*. Можна сказаць, што мода на постмадэрнізм ёсць, так сказаць, *модай на адукаванасць сярод літаратараў* (А. Хадановіч). Таму, бадай, усе базавыя характарыстыкі постмадэрновай сітуацыі новыя і эпатажныя: Так, постмадэрнізм – гэта і *эстэтыка вытанчана-кашмарнага* (Э. Усоўская), і *сукупнасць «прыватных» практык»* (Л. Корань), і *вербальна-інтэлігібельная нелінейная гульня* (В. Акудовіч), і *маскіровачная сетка*, альбо паблажлівае *ўвесь гэты постмадэрнізм* (Д.

Жукоўскі), і *апошняя тэрыторыя* (украінскі пісьменнік Ю. Андруховіч), нават гэты *кляты постмадэрнізм ніяк не можа разрадзіцца буйным творам* (С. Балахонаў) і – у адначассе – метафарычна кажучы, ён жа *дазволіць нам разбурыць Парыж* (В. Акудовіч).

Так ці інакш наяўнасць беларускай постмадэрновай плыні ў новай літаратурнай сітуацыі прызнана многімі айчыннымі даследчыкамі, хоць кожны з іх па-свойму ставіцца да ягоных праяў. Калі большасць старэйшых літаратуразнаўцаў дэманструюць недаверлівы негатыў да постмадэрнізму як да маральна-эстэтычнай рэаліі, то для маладзейшых постмадэрнізм – свой, *увесь наш* (С. Балахонаў) у дачыненні да беларускай і нават сусветнай прасторы. Так, гродзенскі паэт-філолаг Юрась Пацюпа, разумеючы ўсю непрыстойнасць сваіх прэтэнзій на «бацькоўства» ў постмадэрнізме, у свой час усё ж *калыскаю беларускага постмадэрнізму* назваў Гародню: «Зразумейце мяне па-добраму, шаноўныя прысяжныя… Шчыра прабачаюся! Дзіцятка ж маё – постмадэрнізм кляты, – хоць і гадкае, збрыдлае для бацькі, але ж свая крывіначка, родная… А калі кожны яе будзе крыўдзіць, казаць, дзей беларускага постмадэрнізму наогул не існуе, дык узьнікае пытаньне: што ж мы рабілі пятнаццаць гадоў таму? І няўжо ўсё пачынаць з нуля?» [10, с. 274]. «Беларускасьць і мадэрновасьць зрабіліся для мяне калі не сынонімамі дык нечым надта блізкім» [10, с. 251], – падводзіць выснову Ю.Пацюпа.

Насамрэч (як згадваў П. Васючэнка), сёння ўражвае гэты неверагодны лабірынт тэкстаў са шматлікімі непраходнымі сцежкамі, якія, аднак, зрэдзьчас перакрыжоўваюцца: сцежкі блудных аўтараў і сцежкі чытачоў. А яшчэ на пачатку мінулага стагоддзя вядомы класік-нашанівец М. Гарэцкі чакаў *беларускага крытыка*, цвяроза ўсведамляючы, што *на добрай крытыцы гадуюцца пісьменнікі*. Як жа сёння беларускаму крытыку шукаць тое, што шукаў аўтар, калі аўтар сам блукае па шматлікіх непраходных лабірынтах?.. Ці не жыве зараз найноўшае, т.зв. постмадэрнісцкае мастацтва па арыстоцелеўскаму прынцыпу: калі хочаш быць сур’ёзным — гуляй ?.. Так, няпроста сабе ўсвядоміць, што, па меркаванні даследчыцы Э.Усоўскай, метафарай постмадэрнісцкага тэкста можа служыць ніколі не дапісаная кніга, заўсёды адкрытая для ўсялякіх інтэрпрэтацый або дапаўненняў. Альбо, разглядаць любы тэкст як інтэртэкст [11, с. 59]. Маюць месца паспешлівыя адхрышчванні многіх найноўшых ад постмадэрнізму (заўважаючы толькі, што ў яго цяпер *Хадановіч гуляецца* (В. Трэнас)). Да таго ж, у тэкстуальнай цытатнасці творцаў бракуе, па Хадановічу, *уласнай фінальнай страфы*.

Найноўшыя наўмысна травестуюць класічнае, іранізуюць і каламбураць, нават правакуюць ажно да самазванай «міжсуслічнай вайны» (А. Астраўцоў). Праўда, раскашуючы спакуслівай адвольнасцю, «суслікі» разыходзяцца ў дыяметральна процілеглых меркаваннях, пабудаваных на «прымаю» і «не прымаю». Творцы «новай хвалі» мадэлююць свой творчы

імідж. Ім сімпатычны чэхаўскі запавет адносна таго, што грамадзянскі абавязак літаратара – быць не лекарам, а болем грамадства. Таму так смела і няўрымсліва дэманструюць сваё «эстэцтва» яўнымі падробкамі пад еўрапейскую культурную прастору і ўслед за Р. Бартам і У. Эка сцвярджаюць: *Свет як тэкст*. І, трэба сказаць, самадастатковасць іхняя сімпатычная хутчэй не столькі добрым густам, колькі непадробнай падкупнай шчырасцю. Хіба напраўду можна сказаць, што *паэт-цыклоп* Зміцер Вішнёў лепшы ці горшы, чым «зорка» бардаўскіх фестываляў, каламбурыст Сяржук Мінскевіч? Праўдзіва будзе сказаць, што першы проста і н ш ы, чым другі. Бо калі другі шукае свой «тунэль» у тэкстасвет праз паліндромы і тэксты-касмапаліты, то «афрыканскі» паэт З. Вішнёў трызніць афрыканскімі тамтамамі і забаўляецца практыкаваннямі-іерогліфамі ў візуальнай паэзіі, напісанай нават крывёю. Аўтар тэорыі «афрыканізацыі» беларускай літаратуры насяліў свае «афрыкозы» бегемотамі, кракадзіламі, змеямі (апошнія – нават на ўзроўні архетыпу):

*Мой пазваночнік – мая гадзюка*
*Мой пазваночнік – мая гадзюка*
*Мой пазваночнік мая вялікая гадзюка*
*Яна вузорыстая ружовістая няроўністая*
*я яе люблю*
*бо няма жалю*
*гадзюка штодня старанна мяне кусае*
*і джаліць* [12, с. 31]

Разам з тым зусім разнародная гульнёвая паэтыка ў стваральніка транслагізму А.Туровіча (які агучвае свой Чорны аркуш праз маўчанне, і не толькі) і ў непераўзыдзенага версіфікатара В. Жыбуля (які сваімі тэкстамі-«патрыётамі», паліндромнымі паэмамі «Рогі гор», «Кацёл клёцак», «Палігон ног і лап» і інш. прапагандуе абсалютную свабоду творчасці). Тым часам выразна «ўварваліся» ў псіхадэлічныя практыкі самапаглыблення прапагандыст панкавай стылістыкі А. Бахарэвіч і даследчык «мастацтва паранаідальнай хвалі» І. Сін. Так, пачынальнікі панкавай плыні ў літаратуры А. Бахарэвіч і З. Вішнёў «паказыталі» гледачоў сваімі наіўнымі перфоменсамі («Спецбрыгада афрыканскіх братоў» З. Вішнёва, перфоменс «Ілля Сін памёр» І. Сіна), афарбаванымі чорным гумарам перфоменсамі «Янкабрыль» А. Бахарэвіча, «Нілгілевіч» У. Гарачкі і інш.

Светапоглядное крэда маладой авангарднай паэзіі – крэда *гордага і незалежнага вар'ята, які сам ужо па сабе не-вар'ят* (І. Сідарук). Маладзевы авангардны рух адметны страснай пошукавасцю: і шумныя скандальныя маніфесты, і прыўлашчаныя гульні са Смерцю, і візуальна-псіхіятрычныя эксперыменты ў стылі шызарэалізму *(«т а т а // а р а ў // т а т а // а ў а ў»* («Адзін вясновы дзень – год беражэ» С. Мінскевіча)), а таксама ваяўнічая антыэстэтыка (*«Я проста ха-ха»* (З. Вішнёў)).

Апраўданнем вышэйзгаданаму можа паслужыць хіба што добра запамятаваны запавет Г. Ахматавай *В стихах всё быть должно некстати*, або агучаная фраза з рамана «Сто гадоў адзіноты» Габрыэля Гарсія Маркеса: *Літаратура – самая лепшая забаўка, каб здзекавацца з людзей*. Аднак ці ёсць гэта апраўданнем «самасці» ў «літаратурных хуліганаў»?.. Відаць, таму так смела і няўрымсліва спяшаюцца прадстаўнікі новага «адраджанізму» (тэрмін даспадобы гродзенскаму паэту Ю. Гуменюку) праз кліпавы, вербальны, хаатычны лад мыслення «*паліць*», «*сплёўваць*», нарэшце – кажучы словамі З. Вішнёва – «*узарваць*» «*маленькую літаратурную бомбачку!*» [12, с. 47]. Адной такой *маленькай літаратурнай бомбачкай* сталася нават купалава спадчына, дзе культавае для беларускай літаратуры класічнае купалаўскае *А хто там ідзе?*, або інакш *Хто мы?* само сабой пераўтварылася ў *Вось мы!* (як трапна заўважыў С. Мінскевіч) [13, с. 319]. Гэтая сентэнцыя *Вось мы!* (чытай: творцы – толькі *мы*) запаланіла дзялянку «найноўшых», якія «загуляліся» дарэшты («Адвечным шляхам», «А хто гэта там ідзе...», «Хлопчык і копчык» А.Хадановіча, «А хто там ня йдзе?» І. Сідарука, «Янку Купалу», «Сны па-беларуску» Джэці і інш.)...

У прыватнасці, што прынеслі бумбамлітаўцы літаратуры чарговы раз? Як трапна акрэсліць у сваім аўтарскім жанры пятрогліфу непадробны П. Васючэнка, *слоўцы з мульцікаў і рэкламных ролікаў, парэшткі беларускай савецкай літаратуры, аскепкі патрушчаных статуй Глебкі або Броўкі, пілавінне друкарскага станка Скарыны, расчлянёны труп купалаўскага гімну «А хто там ідзе?» у інтэрпрэтацыі І. Сідарука...* [14, с. 122]. Што гэта: поза ці пазіцыя адносна інтэртэкстуальнасці класічнай спадчыны? І тут прадстаўнікоў т. зв. «апошняй генерацыі» аніяк не назавеш, па вызначэнні крытыка Г. Кісліцынай «малаазнанымі ў гісторыі ўласнай літаратуры» [15, с. 167]. Бо постмадэрнісцкі тэкст і ёсць своеасаблівы дыялог сучасніка з літаратурай мінулай, класічнай. Такі дыялог – калі ён граматны – змястоўны складнік літаратурнага працэсу. Іншая справа, што само паняцце «дыялагічнае мысленне» як след беларускім літаратуразнаўствам дастаткова не вывучана. Насамрэч, ці ўжо так і *ўратуюць свет*, ці запануе *здаровы лад жыцця*, калі, са слоў Джэці, *Далоў эстэтыкаў! Свабоду графаманам! / Яны адзіныя, хто духам шчэ ня спіць* [16, с. 6]. Ці будзе гэта сконам літаратурнага мастацтва? На спадзеўную думку ж дапытлівага даследчыка М.Тычыны, «скон літаратуры і мастацтва не адбудзецца датуль, пакуль у чалавеку жыве імкненне выказаць «на свет цэлы» свае пачуцці і думкі, мары і лятункі» [17, с. 354].

Новая хваля беларускай постмадэрновай плыні заявіла пра сябе сапраўды – пакуль што – скупымі, нешматлікімі сур’ёзнымі спробамі. Свет мыслення найноўшых – гэта *іхні* свет, свет вымушаных уцёкаў ад рэальнасці, імі ж смела непрынятай і адпрэчанай. У зганьбаванай краіне-Хлудзіі творцы запрашаюць у сваё каралеўства-ўтопію патэнцыяльных

чытачоў, слухачоў, гледачоў. Зусім як у купалавага героя – Здані Мужыка, дзе *страшней цябе* (магілы. – *А.С.*) *людзі і свет*. Містэрыяльнае драматычнае пачуванне эпохі памежжа стагоддзяў (заўважым – як на пачатку мінулага стагоддзя), што, па словах шаноўнага М.Тычыны, *кідае выклік, і на яго трэба адказваць* [18, с. 83]. І найноўшыя адказваюць – сваім пошукам-запрашэннем, пошукам-заклікам, пошукам-эксперыментам. Героі фантазійных вымыслаў блукаючых гіпертэкстаў – своеасаблівыя *знакі гарызантальнага часу*, дзе аўтар не ўвасабляецца ў сваім героі, а праз кліпавы, хаатычны тып мыслення імкнецца *зрабіць бум*. Гэта іх права, іх голас, іхняе аўтарскае «я», якое не прымушае, а падштурхоўвае да выбару, да акрэслення, да мыслення, да сваёй пазіцыі. Менавіта *сваёй*, якой заўсёды так не хапала беларусу. Каб чалавекам не толькі *«звацца»*, а насамрэч ім быць.

Такім чынам, новае пакаленне беларускіх творцаў (або «найноўшая хваля найноўшай паэзіі» (І. Шаўлякова)) паспрабавала стварыць новую — сваю — карціну светабудовы. Гэта адметны, працягам у два дзесяткі гадоў прарыў у сферы мыслення. Шкада, многае ў беларускай філасофіі постмадэрнізму як след навукова не ўзважана, што вымагае далейшага абгрунтаванага асэнсавання.

---


1. Т р э н а с, В. Беларускі постмадэрнізм? // Маладосць. – 2005. - № 6. - С. 118-119.
2. Т ы ч ы н а, М. Феномен пераходнага перыяду: праблемы тыпалогіі / Літаратура пераходнага перыяду: тэарэтычныя асновы гісторыка-літаратурнага працэсу / М.А.Тычына [і інш.]; навук. рэд. М.А.Тычына. – Мінск: Беларус. навука, 2007. – 363 с.
3. К а р а т к е в і ч, В. І. Постмадэрнізм у беларускай літаратуры другой паловы 80 – 90-х гадоў ХХ стагоддзя: Да праблемы нацыянальнай спецыфікі / В.І. Караткевіч // Веснік Магіл. дзярж. універсітэта імя А.А.Куляшова. – 2003. – № 2-3. – С. 146–152.
4. Ш ч у р, М. Росквіт і заняпад беларускага літаратурнага авангарду / М. Шчур // Анталёгія сучаснага беларускага мысьленьня. — СПб: Невский Простор, 2003. – С. 419–440.
5. Э к о, У. Имя розы: Детектив / У.Эко. – Москва: Книжная палата, 1989. - 466 с.
6. Н о в е й ш и й философский словарь. Постмодернизм / Гл. научн. ред. и сост. А.А. Грицанов. – Минск: Современный литератор, 2007. – 816 с.
7. М о н т е н ь, М. Опыты: Сб. эссе: в 3 кн. / М.Монтень // Пер. со старофранц. – Минск: ООО «Попурри», 2004. - Кн. 3. – 464 с.
8. А к у д о в і ч, В. Разбурыць Парыж / В. Акудовіч. – Мінск:

Логвінаў, 2004. – 298 с.
9. Х а д а н о в і ч, А. Эпоха Вялікай Рэтардацыі альбо Беларуская паэзія заўтра / А. Хадановіч // Анталёгія сучаснага беларускага мысьленьня. – СПб: Невский Простор, 2003. – С. 441–457.
10. П а ц ю п а, Ю. Постмадэрнізм, калыска мая / Ю. Пацюпа // ARCHE. – 2004. – № 3. – С. 249–274.
11. У с о в с к а я, Э.А. Постмодернизм в культуре XX века: учеб. пособие для студентов отд-ния культурологии Междунар. гуманит. ин-та / Э.А. Усовская. – Минск: БГУ, 2003. – 63 с.
12. В і ш н ё ў, З. Тамбурны маскіт / З. Вішнёў. – Санкт-Петербург: Невский простор, 2001. – 254 с.
13. Г о л е м, Г. Хаўтуры па Бум-Бам-Літу: Пасьляслоўе да адной вечарыны / Г.Голем // Дзеяслоў. – 2006. - №1. – С. 311-324.
14. В а с ю ч э н к а, П. Адлюстраванні першатвора: літаратура ў філалагемах і пятрогліфах / П. Васючэнка. – Мінск: Логвінаў, 2004. – 144 с.
15. К і с л і ц ы н а, Г.М. Постмадэрнізм і актуальныя праблемы нацыянальнай літаратуры // Літаратура пераходнага перыяду: тэарэтычныя асновы гісторыка-літаратурнага працэсу / М.А.Тычына [і інш.]; навук. рэд. М.А.Тычына. – Мінск: Беларус. навука, 2007. – 363 с.
16. Дж э ц і (Вера Бурлак). За здаровы лад жыцця: Вершы / Джэці (Вера Бурлак). – Мінск: І.П.Логвінаў, 2003. – 102 с.
17. Т ы ч ы н а, М. Феномен пераходнага перыяду: праблемы тыпалогіі / Літаратура пераходнага перыяду: тэарэтычныя асновы гісторыка-літаратурнага працэсу / М.А. Тычына [і інш.]; навук. рэд. М.А.Тычына. – Мінск: Беларус. навука, 2007. – 363 с.
18. Т ы ч ы н а, М. Прывід гіпэртэксту: Агляд літаратуры 2005 году “вачыма злодзея” / М.Тычына // ARCHE. – 2006. – № 3. – С. 78–81.

АЛА ПЕТРУШКЕВІЧ
Гродна

# Падаць у неба – гэта прыгожа
*Роздум над паэзіяй Анатоля Брусэвіча*

Кніга ўпала ў ваду. Чыстую, калі зблізу, і чорную, калі здалёк. Такая вада – штучная рака-возера ля санаторыя “Радон”, што на Гарадзеншчыне. Вада пакінула на згібе кнігі знак-малюнак жаўтаватага колеру з карычневай акаймоўкай. У той вадзе адбіваецца неба. Адбылося своеасаблівае прыцягненне, мажліва, справакаванае назвай кнігі.

Анатоль Брусэвіч – цікавы і, відавочна, апошні прадстаўнік той кагорты гарадзенскіх творцаў, што яскрава заявілі пра сябе на пачатку дзевяностых. Што эксперыментавалі ў паэзіі, стваралі творчыя суполкі (да прыкладу, верш-гурт “Дыяген”), але заўсёды аберагалі сваю асабістую прастору, шанавалі мастакоўскую волю, таму, зрэшты, і заставаліся на адзіноце ў найноўшым айчынным літаратурным працэсе.

У аснове паэзіі Анатоля Брусэвіча, па вызначэнні літаратуразнаўцы Ігара Васільевіча Жука, – дуэль двух эстэтык. Класічнай беларускай літаратуры нашаніўскай пары з яе пакланеннем красе, светласці, апалагетам якой Максім Багдановіч – “госць з высокага неба” (Аркадзь Смоліч), і дэкадансу, што выразна заяўлена яшчэ ў першай кнізе паэта “Дуэль”:

*Дуэль паміж жыцьцём і самагубствам*
*Хто выйграе – ня ведаю пакуль.*
*Два сэкунданты – розум мой і глупства.*
*Не ведаю, хто выйграе пакуль* [1, с. 86].

Тут выказана і эстэтычная, і жыццёвая пазіцыя аўтара. З аднаго боку, апалагетыка жыцця, дзе ўсё ўладкавана, дзе ўсё разумна і прыгожа. Недарэмна ж секундантам жыцця розум. З другога – распад, разлад, самагубства, тое, што пазбаўлена рацыянальнай асновы. Акрэсліваецца праблема выбару, калі выбар, на першы погляд, не залежыць ад волі асобы, адбываецца безадносна да яе жаданняў. Калі невядомы вынік, што падкрэсліваецца радковым паўторам. Але гэта толькі на першы погляд, бо секунданты, розум і глупства, аднолькава належаць асобе, гэта два бакі цэласнага і цэльнага.

У той час малады паэт (першая кніга выйшла, калі Анатоль Брусэвіч вучыўся ў школе), як адзначыў знаны даследчык літаратуры Гарадзеншчыны Аляксей Міхайлавіч Пяткевіч, “настойліва шукаў сябе ў слове.., давяраючы натуральнасці юнага светаадчування, якое нараджае

простыя і шчырыя, а часта надта арыгінальныя, паэтычна нечаканыя адбіткі жыцця” [2, с. 86].

Лірычны герой паўстае ў вобліку героя-вандроўніка, мэта шляху якога высокая – неба, таму і страты адпаведна вялікія – сяброўства, блізкіх людзей. Або назіральніка, які свядома выбірае пазіцыю збоку ці над схваткай, які проста чакае:

*Па дарозе на неба я ўбачыў палац,*
*Ля якога стаялі маленькія людзі.*
*Я туды не пайшоў, а застаўся чакаць,*
*Каб дазнацца нарэшце, што з гэтага будзе* [1, с. 7].

Наогул, матыў адстароненасці, калі герой староннi наглядальнік, што шмат страціў, сустракаем у многіх вершах першага зборніка: “Трыялет”, “Я шукаў чалавека…”, “Ціха крочу па белым парку…” і інш.

Адзін з асноўных матываў, што характэрны эстэтыцы дэкадансу, разгубленасці, няўпэўненасці і няпэўнасці ў варожым чалавеку свеце, у паэзіі Анатоля Брусэвіча амаль адсутнічае. Ягоны герой – асоба ўпэўненая ў сабе, варожае акружэнне па-за ім. Ён глядзіць на зямны свет з вяршыні, куды імкнецца, якую сам і стварыў. Адпрэчвае здрабнелае зямное існаванне, якому недасяжныя вяршыні, напоўненыя таямніцай нябеснай (размова не ідзе пра хрысціянскія матывы). Але адначасна застаецца цікавасць да жыцця ва ўсіх ягоных праявах, апроч мізэрнасці, герой непасрэдна далучаны да ўсіх жыццёвых вабнасцяў, асалодаў.

Пошук сябе, самаідэнтыфікацыя сябе ў сабе, саматоеснасць – на гэтым шляху ў паэта адбывалася адмаўленне традыцыі, што ўзнікла ў нашай літаратуры з часоў Максіма Гарэцкага, калі матыў раздваення душы стаў вызначальным у творчасці многіх аўтараў. Гэта адмаўленне ў паэзіі Анатоля Брусэвіча выказана даволі арыгінальна:

*Я сам сабе ня вораг і ня сябра.*
*Шкада мне адзінокую душу.*
*Я зневажаю сам сябе нахабна.*
*І доўга прабачэння не прашу.*

*Я сам з сабой, і разам нам – цудоўна…*
*Я – гэта я, а можа я – ня я?*
*Ня ведаю, хто з нас і ў нас галоўны…*
*Не раздваілася душа мая* [1, с. 8].

Уражанне лёгкасці, з якою аўтар гуляе словамі, толькі знешняе, бо размова ідзе пра сур’ёзныя, значныя рэчы.

І ўжо ў самой назве другой па ліку кнігі “Падаю ў неба” выразна прагучала сумяшчэнне і супрацьстаянне распаду і ўзвышэння. Насупраць звычнаму, прынятаму: узляцець у неба ці ўпасці з неба.

Многія вершы пабудаваны па гэтай схеме, калі спалучаюцца вобразы, матывы розных эстэтык. Да прыкладу, верш "Дзень нараджэння паэта" – яшчэ адна своеасаблівая разгадка загадкі Максіма Багдановіча гарадзенскім паэтам. Дэкадэнскія матывы: распад, змрочнасць, бруд, чарнеча, безнадзейнасць запаўняюць паэтычную прастору. Ні адной светлай ноты, ні светлай фарбы, ні светлага пачуцця:

*Мутнае вока зімовага неба*
*Плакала сьнегам.*

*Брудныя пальцы вуліцаў гораду*
*Стыглі ад холаду.*

*Дым з чорных комінаў знакам бясконцасьці*
*З жалем узносіўся.*

*Дрэвы стаялі, як духі ці прывіды,*
*Мёртвыя нібыта* [3, с. 24].

І як цуд, як светлы прамень, што прабіваецца з змрочнага зімовага неба, прышэсце Богам дадзенага Паэта ў змярцвелы свет, каб сваёй прысутнасцю аднавіць тут красу. Апошняя страфа, выдзеленая графічна, супрацьпастаўлена ўсім папярэднім. Рашучае "але" ў яе пачатку рэзка перакрэслівае безнадзейнасць, а эпітэт "цудоўная" падкрэслівае эстэтычна-ўзвышанае, што заключае ў сабе галоўная падзея гэтага дня: "Але ўсё роўна цудоўная дата – // сьнежня дзевятага".

Адзін з цэнтральных вершаў, таксама пабудаваных па прынцыпе су- і супрацьпастаўлення розных эстэтычных з'яваў, – "Маніфест дэкадансу". У ім аўтар заяўляе пра адметнасць сваіх мастацка-эстэтычных прынцыпаў. Сэнсава і інтанацыйна верш дзеліцца на дзве часткі: у першай апалагетыка адметнай, "некласічнай" красы, бо выяўляецца яна праз падзенне (але якое!), а не ўзвышэнне, у другой адмаўленне нізкага, бруднага, прымітыўнага. Супрацьпастаўленыя няспешны, размераны рытм першай, бо кожнае слова нясе высокі, вартасны сэнс (у першым радку наогул нельга вылучыць галоўнага слова, бо галоўныя – усе), і рэзкая, што абрываецца на кожным слове, інтанацыя другой:

*Падаць таксама трэба прыгожа,*
*Як падаюць цені, як падаюць промні,*
*Як падае ў неба касьцельная готыка,*
*Як позірк спадае ў бяздоньне.*
*Падаць трэба прыгожа.*
*Але не так, як плявок ці акурак,*
*Як вы, паэты-збачэнцы і блазны.*
*Падаць трэба, нібыта віхура,*
*Што змятае ўсё, апроч дэкадансу* [3, с. 29].

Анатоль Брусэвіч – гарадзенскі паэт. Маецца на ўвазе не месца нараджэння ці сталага жыхарства. Гэта іншае. Такіх адзінкі. Нават калі яны раптам з'язджаюць, усё роўна застаюцца гарадзенскімі паэтамі. Як Юрась Пацюпа. Гэта як наканаванне. Але высокае. Далучанасць да душы горада, адчуванне ягонага рытму, уменне ўзняцца на ягоныя наднёманскія кручы, каб адтуль многае ўбачыць, і сыйсці ў даўно знішчаную Швейцарскую даліну да змарнелай, але жывой Гараднічанкі. Гародню не выбіраюць, выбірае яна. І калі яна выбера кагосьці, то вяртацца сюды мусіш. Матыў вяртання ў Гародню – гэта вяртанне да сябе, да сваёй тоеснасці, пад надзейную ахову, а што можа быць больш прыемным. Пра тое ў адным з даўнейшых вершаў паэта "Гародня", што ўвайшоў у другую кнігу:

*Прыемна вярнуцца ізноў у Гародню*
*апошнім аўтобусам ноччу.*
*Над горадам месяц, нібыта паходня,*
*і зоры – Анёлавы вочы* [2, с. 4].

Не ведаю, адкуль у творы Анатоля Брусэвіча гэты прыгожы астральны вобраз: ці то ўплыў паэзіі Наталлі Арсенневай (згадаем: у яе раннім вершы "Вячорнаю парою": *Зоры – вочы малых засмучоных анёлаў* [4, с. 29]), ці адна і тая ж паэтычная хваля кранула ў розныя часы гэтых розных беларускіх паэтаў.

Але стасункі з Гародняй не бываюць роўнымі, гладкімі. Так, часцей, гэта пачуццё, што нагадвае каханне з першага позірку, але, як і ў сапраўдным каханні, перапады, узрывы адбываюцца нярэдка. Калі цемра засланяе святло, калі ледзяны холад, калі маркотная адзінота, пустэча пануюць у душы. На першы план у іншым, нядаўнім, вершы "Гародня" ізноў выступаюць дэкадэнскія матывы. І горад паўстае чужаніцай, але гэта родны горад, які адначасна выклікае ў душы і каханне, і нянавісць:

*Такімі хвілінамі можна*
*любіць і ў той час ненавідзець,*
*нібыта жанчыну, свой горад,*
*знаёмы і разам чужы* [3, с. 46].

Тут паўнапраўным гаспадаром, ці то ідалам, ці то Богам, які варты пакланення, магутны дух правінцыі, пра што з вуснаў гарадзенцаў гучыць з вялікім гонарам, бо правінцыйнасць тут адметнага складу. Як адзінага ў нашай краіне каралеўскага места. У яшчэ адным вершы-маніфесце "Мілы мой сябра…", ахвяраваным паэту Едрусю Мазько, сцверджана як дадзенасць звыш і адначасна знойдзенасць праз свой досвед асобы і творцы жыццёвая пазіцыя, у якой між іншага, прывіднага, зменнага (пыл, вецер) дамінуе гэты дух правінцыі:

*Згубная справа –*
*“лева” і “права”,*
*лепей па цэнтры*
*жыць і маліцца*
*духу правінцыі,*
*пылу і ветру* [2, с. 43].

Матыў гульні – адзін з скразных у паэзіі Анатоля Брусэвіча. Гульня, якую герой успрымае як жыццё, а жыццё ператварае ў гульню. Часам жыццёвыя скрушныя імгненні вытыркаюць, нібы дзіды, раняць, але гульня злагоджвае гэтыя раны. Лёгка мяняе месцамі творца жыццё і смерць, згодна з той жа гульнёй, без трагедыйнага надрыву, калі відавочныя праявы абсурду. Шукае і знаходзіць, калі паэту-актору можна даць веры, акавіту-асалоду, і:

*Яна, адзіная на сьвеце,*
*чытае думкі па вачах,*
*а потым скажа: “Сьпі, паэце”.*
*Ды толькі той памёр на днях* [3, с. 37].

Праўда, часам з’яўляюцца стома і расчараванне ад празмернасці гульні, ад разумення, што жыццё і тэатр розныя рэчы і не заўсёды дазваляецца беспакарана блытаць іх, перастаўляць месцамі, прапаноўваючы жыццю свае сюжэты. Аўтару ж заўжды няпроста, калі ягонае тварэнне адкінута:

*Іграць жыццём ня так складана,*
*як непрыемна і нязручна.*
*Я адыду, але балюча*
*за мой тэатар зруйнаваны* [3, с. 6].

З той жа гульні жыццёвымі рэаліямі перафарбоўка рэчаў у нязвычныя колеры, калі традыцыйны нічога не скажа і трэба ўбачыць у з’яве, прадмеце іншы змест менавіта праз іншы колер: жоўты верас, дымэдролавы туман, белыя краты.

Эратычныя матывы, якіх багата ў кнізе, – гэта таксама даніна дэкадансу і таксама для іх адлюстравання абрана гульня. Герой-каханак – тое ж дзіця, якое асвойвае свет і праз дотык, калі абавязкова крануць рукамі, паспрабаваць на смак, удыхнуць водар. І жаднай разбэшчанасці, бо эротыка такая легкавейная, светлая, калі цела жанчыны як музычны інструмент, крані які – і загучыць музыка, як чысты ліст паперы, дзе пішуцца радкі вершаў (“Сонца акурак датлее…”). Мяркуецца, што і тут Анатоль Брусэвіч ідзе ўслед за Максімам Багдановічам, які, як слушна адзначыла даследчыца класічнай беларускай літаратуры Ірына Багдановіч, “прыгожа “справіўся” з дэкадансам, стварыўшы некалькі натуралістычна-

эратычных вершаў… Яго эстэтызацыя эрасу была прыгожым беларускім эпізодам у еўрапейскім дэкадансе, які сведчыў, што нічога недаступнага для беларускай паэзіі на пачатку ХХ ст. ўжо не існавала” [5, с. 181].

Яна, гераіня, каханка, у вершах Анатоля Брусэвіча шматаблічная: цнатлівая ў сваёй мілай разбэшчанасці (“Брунэтка”), далёкая і блізкая, бо таксама творца, паэтка (“Схіляю голаў перад Вамі…”), часам узвышаная да сімвалу спрадвечнай зямной красы, калі жанчына і зямля – гэта адна і тая ж дасканалая песня:

*Мне ціхім голасам дзявочым*
*пяе спрадвечная зямля* [3, с. 38].

У апошняй па часе публікацыі нізцы “Віно твайго цела” ў беластоцкім часопісе “Тэрмапілы” матыў атаясамлення зямлі і жанчыны прагучаў асабліва выразна (верш “Жанчыне”). Паэт вылучае тое, што аб’ядноўвае: краса, прыцягальная моц, разнастайнасць, ад чаго нельга ўцячы, што здзіўляе і захапляе, зваблівае і зводзіць, дае жыццё і пазбаўляе яго. Жанчына і зямля – гэта першапачатак, куды заўсёды вяртаецца вечны вандроўнік мужчына:

*Ты – як Зямля.*
*Той, хто бяжыць ад цябе,*
*Бяжыць, каб зноўку вярнуцца*
*Туды, адкуль пачынаў уцёкі* [6, с. 115].

А яшчэ яна, гераіня, – гандлярка. Арыгінальна намаляваны матыў гандлярка і паэт у вершы Анатоля Брусэвіча “Балада”, абазначаны яшчэ ў нашаніўскай літаратуры Максімам Гарэцкім. Заяўляючы жанр, паэт выкарыстоўвае той жа элемент гульні, бо нічога баладнага ў вершы няма, апроч прадказальнага фіналу – развітання, у якім узнікае абавязковы вобраз злога лёсу-разлучніка. Калі адкінуць іранічны тон і значны падтэкст траты сябе, свайго жыцця на танныя прыгоды, то гэта хутчэй гарадскі раманс. Гумар, які, аднак, настоены на смутку, дамінуе ў творы. Жыццё і каханне як лёгкая прыгода, прыцягненне несумяшчальнага, што можа быць толькі часовым, нетрывалым, выпадковым:

*Ён быў паэт – слуга банальных словаў.*
*Яна – гандлярка цнотай і распустай.*
*Іх звёў ня лёс, а толькі выпадковасць,*
*Таму яны зыходзіліся ў густах* [3, с. 22].

Пяру Анатоля Брусэвіча падуладны мастацкія выкшталцонасці, паэт цікава і, падаецца, лёгка эксперыментуе з паэтычнай страфой. Стварае акравершы (“Стыне вечар…”), акратэлевершы (“Святлана”), і нават мультыакравершы (“Свабода”). Дарэчы, апошні верш увайшоў у зборнік

“Верш на Свабоду”, што стаўся вынікам цікавага творчага праекту, які засведчыў пра імкненне беларусаў убачыць сваю краіну “салодкай зямлёй свабоды” (С.Ф. Сміт). У гэтым творы, зробленым, падагнаным да канону формы, уражвае сапраўдная віртуознасць, нязмушанасць, калі словы лёгка выплываюць з аднаго гукавога цэнтру, каб гэтак жа лёгка аб’яднацца ў сэнсавы цэнтр-знак:

*Сон сплывае срэбнаю слотаю,*
*Выспы восеньскіх вокнаў вось-вось*
*Апякуць агнявымі агорткамі*
*Бесклапотную безліч бяроз.*
*Одум оргіяў, ордэны, ордэры,*
*Дагараючы джаламі дробнымі,*
*Адраджэння абвесцяць анонс* [7, с. 16].

Чытачу зразумелая алюзія на адзін з мітаў савецкага літаратуразнаўства, звязаных з імем Янкі Купалы, з ягоным быццам бы ратаваннем той асобай, хто непасрэдна прыспешваў знішчэнне вялікага паэта. Гісторыя гэтая і сапраўды ўяўляе сабой бяздумную оргію, на чым сёння нарэшце пастаўлены крыж.

Згадаем акратэлеверш “Гітара”, прысвечаны знакамітаму гарадзенскаму гітарысту Уладзіміру Захараву. Галоўны вобраз – стрыжань, цэнтр твора і адначасна – далікатны абрыс, што абрамляе паэтычную прастору, адбі-ваецца сам у сабе і гучыць. І праз гук, першапачатак якога эмоцыя, праступаюць спачатку далікатныя, няяркія колеры, затым гэткія ж абрысы, каб намаляваць карціну іншасвету, дзе пануе музыка, дзе няма ні пачатку, ні канца, дзе пасялілася вечнасць. Гэты верш – імпрэсіяністычны абразок, намаляваны адначасна словам, гукам, фарбай:

*Гукаў крыштальна-бурштынавы высціг*
*Іншы сусвет, іншыя выйсці*
*Тонкай журбы дыямант.*
*Але ж на сэрцы не шэрая фарба,*
*Рэзкіх кантрастаў суцішыўся варвар*
*Альфы, амэгі – няма* [3, с. 28].

Заяўленае ў назве апошняй кнігі спраўджваецца напоўніцу. Падаць у неба – гэта прыгожа. Бо гэта адрачэнне не ад жыцця з ягонымі разнастайнымі праявамі, а ад зямнога бруду. Бо гэта ачышчэнне праз далучанасць да высокага, нябеснага, праз адрачэнне ад усялякіх, створаных людзьмі, ідэалаў і правілаў. Гэта шлях апошніх рамантыкаў і адначасна дэкадэнтаў. Яго і прапануе гарадзенскі паэт Анатоль Брусэвіч:

*Людзі ня могуць пападаць у неба,*
*маючы крылы віны,*

*падаюць толькі нашчадкі Венэры,*
*праўнукі бога вайны* [3, с. 36].

1. *Брусэвіч, А.* Дуэль. Вершы / А. Брусэвіч. – Гродна: Гродз. аддзял. Бел. фонду культуры, 1992. – с. 48.
2. *Пяткевіч, А.* Літаратурная Гродзеншчына: Публіцыстыка / А. Пяткевіч. – Мінск: Выд. цэнтр "Бацькаўшчына", 1996. – 96 с.
3. *Брусэвіч, А.* Падаю ў неба. Лірыка / А. Брусевіч. – Гародня: Гарадзенскае гарадское аддзяленне Рэспубліканскага грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай школы", 2006. – 51 с.
4. *Арсеньнева, Н.* Між берагамі. Выбар паэзіі Натальлі Арсеньневай 1920–1970 / Н. Арсеньнева. – Нью-Ёрк–Таронта: БІНІМ. – 350 с.
5. *Багдановіч, І.Э.* Авангард і традыцыя: Беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэння / І.Э. Багдановіч. – Мінск: Бел. навука, 2001. – 387 с.
6. *Брусэвіч, А.* Віно твайго цела / А. Брусэвіч // Тэрмапілы. – 2009. – №13. – С. 113–116.
7. *Брусэвіч, А.* Свабода / Верш на свабоду. (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе). – Радыё Свабодная Еўропа / Радыё Свабода, 2002. – С. 16

КАЦЯРЫНА ІВАНЮК
*Беласток–Донкастэр*

# Васіль Быкаў на Захадзе
(уводзіны ў рэцэпцыю)

Пра Васіля Быкава – ягоную літаратурную творчасць і ўдзел у палітычным жыцці, пачынаючы ўжо ад паловы шасцідзесятых гадоў – многа гаварылася як пры жыцці, так і пасля яго смерці. На жаль, пісьменніка няма ўжо сярод жывых, але засталася памяць аб яго бурным жыцці і творы, якія прынеслі яму вядомасць не толькі ў межах Савецкага Саюза. Асаблівай рысай яго творчасці з'яўляецца пераважна прысутнасць экзістэнцыяльных крытычных момантаў, сітуацый без выйсця, што ставіць яго ў шэрагі найлепшых пісьменнікаў, якія пісалі пра другую сусветную вайну.

Гэты агляд абапіраецца на англамоўны крытычны і даследчыцкі матэрыял, а таксама прэсавыя інфармацыі і гістарычныя кнігі, дзе пісалася пра творы Васіля Быкава, дзе выступае яго прозвішча ў адносінах да падзей у Савецкім Саюзе ці сучаснай Беларусі. У большай ступені – гэта працы, якія з'явіліся ў Вялікабрытаніі, Злучаных Штатах Амерыкі і Канадзе, хоць таксама выкарыстоўваюцца англамоўныя тэксты, якія друкаваліся і ў іншых краінах.

Найперш кідаецца ў вочы, што на Захадзе часта называюць Быкава Салжэніцыным ці Сахаравым Беларусі. З увагі на тое, што ён ніколі не быў членам камуністычнай партыі, за бескампраміснасць слоў і паводзін у дачыненні да неасталінізму, задэманстраванага на XV-ым з'ездзе беларускіх пісьменнікаў у 1966 годзе, яго звалі сумленнем беларускага народа (conscience of Belorus)[1].

Быкаў – ґэта самы вядомы сучасны беларускі пісьменнік. Яго творы перакладзены на амаль 60 моў свету, у тым ліку і на англійскую. Ягоная вялікая творчасць дачакалася сур'ёзнай крытычнай літаратуры ў па-за славянскіх краінах Еўропы. Аднак толькі ў 2005 годзе пабачыла свет першая поўная англамоўная біяграфія Быкава – Зіны Гімпелевіч[2], выкладчыцы University of Waterloo ў Канадзе. Кніга гэта ў перакладзе на рускую мову, магчыма, пабачыць свет у 2010 годзе дзякуючы старанням маскоўскага выдавецтва «Новое литературное обозрение» (New Literary Observer Academic Press NLO).

Гімпелевіч паказвае ўмовы, у якіх жыў пісьменнік, пачынаючы з дзяцінства, затым – ваенныя выпрабаванні, далей – як складвалася

літаратурная і палітычная кар'ера і эміграцыйнаеа жыццё, а другім планам – падаецца літаратурная і палітычная гісторыя Беларусі з 1918 да 2003 году. Васіль Быкаў належыць да пакалення, біяграфія якога цесна звязана з вялікімі сацыяльнымі падзеямі мінулага стагоддзя ў Беларусі: калектывізацыяй, навальніцай другой сусветнай вайны, поствaенным таталітарызмам, чарнобыльскай трагедыяй, *перабудовай*, Курапатамі, развалам Савецкага Саюза, урэшце Лукашэнкам, якога, як сцвярджае даследчыца, «regime is the last remaining dictatorship in Europe»[3]. З. Гімпелевіч малюе партрэт чалавека, часткова заснаваны на асабістых размовах з пісьменнікам. Два з гэтых інтэрв'ю раней былі надрукаваны ў «Запісах» Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва ў Нью-Ёрку[4].

Гімпелевіч чуе ў Быкаве голас пакалення, якое аказалася амаль зусім вынішчаным[5]. Яна таксама звяртае ўвагу, што ў ангельскамоўнай прасторы толькі некалькі даследчыкаў працуе над тэмай Беларусі і прыпамінае, што беларуская літаратурная традыцыя старая, мае сваю даўнюю гісторыю, а жыццё Быкава ўяўляецца ёй скандэнсаванай трагічнай гісторыяй Беларусі ХХ стагоддзя. Таму яе кніга гучыць вельмі актуальна. Гэта магутны дадатак да нешматлікіх англамоўных прац пра Беларусь, а таксама добрыя ўводзіны да яе культурнай гісторыі. Манаграфія дае новы пункт бачання, а таксама ўносіць сутнасныя карэктывы ў англамоўныя стэрэатыпныя інтэрпрэтацыі беларускай літаратуры і культуры.

Творчая біяграфія Быкава – гэта пранікліві, добра напісаны і цікавы аналіз, які прадстаўляе веды і разуменне яго літаратурнага майстэрства і значэння для беларускай і славянскіх культур.

Гімпелевіч, канадская даследчыца (беларускага паходжання), як і ўсе, хто піша пра мастацкія адметнасці быкаўскай творчасці, робіць націск на тым, што ён адкінуў гераічнае, бескрытычнае ўслаўленне Чырвонай арміі, а паказаў няслаўную прыроду вайны. Яна бачыць у В. Быкаве сумленне цэлага народа, які клапаціўся пра развіццё беларускай мовы – як інтэлектуальны заснавальнік Беларускага Народнага Фронту, парламентарыст, які ўмацоўваў яе як афіцыйную дзяржаўную мову. Яго актыўная роля абаронцы беларускай мовы ў час русіфікацыі выклікала гнеў савецкіх урадаўцаў[6]. У сучасны, лукашэнкаўскі перыяд ён не раз скардзіўся, што беларускую культуру кантралююць «савецкія палкоўнікі з камуністычнай ментальнасцю»[7].

Трэба тут сказаць, што ў Італіі ў 2001 годзе выйшаў зборнік прамоў Уладзіміра Букоўскага, Васіля Быкава і Віктара Суворава, дзе яны даюць адказ на пытанне: ці надалей ёсць камуністычная ментальнасць – «La mentalita comunista»[8].

Гімпелевіч малюе вобраз пісьменніка-Быкава праз багатую галерэю яго персанажаў – пачынаючы ад першых і да апошніх твораў, уключна з літаратурнымі і газетнымі артыкуламі з дзевяностых гадоў. Быкаў,

сцвярджае яна, засяродзіўся на дробных падзеях і выпрабаваннях, каб паказаць вайну як жорсткую машыну, дзе «there is no glory in war»[9]. Яго героі – гэта малыя людзі (little people), якія знаходзяцца ў абставінах, дзе трэба рабіць выбар выключна паміж жыццём і смерцю, здрадай і лаяльнасцю. Маральныя праблемы ягоных “другарадных” герояў набліжаюць яго творы да французскіх экзістэнцыялістаў – Альберта Камю і Жана-Поля Сартра[10].

Праз прызму твораў В. Быкава даследчыца ставіць філасофскае пытанне пра палітычную падтрымку савецкай мадэлі камунізму на Беларусі:

> "Why do their native people support the Bolsheviks, who are so immoral in their evil thirst for power, instead of them, the defenders of Belaruś? Patriotic forces in Belaruś continue to ask this question even today. The answer can be found in the familiar negative features of Belarusan identity: conservatism, appeasement, and mistrust”[11].

Адказ яна знаходзіць у адмоўных, перастарэлых рысах беларускай нацыянальнай свядомасці: кансерватызме, супакаенні, падазронасці.

Іншая важкая выснова Гімпелевіч – гэта пытанне пра нацыянальную свядомасць, што часта паўтараецца ў быкаўскай прозе. Яна звяртае ўвагу, што беларускасць злучаецца ў беларусаў з нацыянальнай прыналежнасцю, якую чалавек атрымлівае з хвілінай нараджэння, і якую, як мяркуе, генетычна пераймае, і гэтага дастаткова для народнага ўсталявання. Аднак беларускасць з’яўляецца больш складанай справай у кантэксце постсавецкіх і постсацыялістычных перамен.

Манаграфія Гімпелевіч выклікала шырокі водгук у часопісах.

Andres Rudling (University of Alberta) у рэцэнзіі на гэту кнігу адзначае выкарыстанне лацінкі, лацінскай версіі беларускага пісьма замест больш выкарыстоўванай транслітарацыі, згоднай са стандартамі Library of Congress. Гімпелевіч, паводле яго слоў, дае чытачу адчуванне рознароднасці літаратурнай традыцыі (напрыклад: Lukashenka – Lukašenka, Vitebsk – Viciebsk, Belorus – Belaruś). Гэта, магчыма, прыдатна для абазначэння беларускіх тэрмінаў, аднак жа паўстаюць пытанні пры не-беларускіх, як Harbačoй (Gorbachov), Elcyn (Yeltsin), у тэксце, накіраваным да паўночнаамерыканскіх чытачоў[12].

Шкада пры тым, што рэцэнзент, здаецца, не зусім дакладна чытаў кнігу Гімпелевіч або не пацікавіўся больш тэмай дысертацыі. Асабліва цікава прачытаць: «Gimpelevich's biography of Bykau, the first one in English, traces the life of this extraordinary man from his childhood (...) and his years of exile in Finland, Germany, and Poland». Вось якая неспадзяванка: гаворыцца пра быкаўскае эміграцыйнае жыццё ў Польшчы, а няма ні слова пра Чэхію. А ніжэй – яшчэ большае здзіўленне: Быкаў памёр на эміграцыі.

Для Alexandra Preshai'a (University of Western Ontario) Быкаў усё сваё

жыццё і творчасць быў у палітычнай апазіцыі да ўлад[13]. Ён хваліць канадскую даследчыцу за аналіз літаратурнай спадчыны, падрабязны агляд галоўных тэм і канкрэтных мастакоўскіх прыкмет, перагляд англійска-, беларуска-, і рускамоўных крытычных апрацовак быкаўскіх твораў. Аднак рэцэнзент заўважае, што свае асабістыя меркаванні і заўвагі Гімпелевіч магла б выказаць менш складаным спосабам.

Рэцэнзаваў манаграфію Гімпелевіч таксама Арнольд Макмілін, які ўжо раней выказваўся пра беларускага пісьменніка[14].

У англамоўных тэкстах пра Быкава паўсюль робіцца націск на тое, што галоўны матыў быкаўскай прозы – гэта праблема маральнага выбару[15]. Быкаў ставіць сваіх герояў у сітуацыі, дзе трэба займаць бескампрамісную пазіцыю: выжыць коштам адрачэння ад сваіх перакананняў, або загінуць – і не толькі падчас вайны, але і паўсядзённа, што відаць у быкаўскіх прыпавесцях і творах пра калектывізацыю. І самае, мабыць, важнае тут тое, што Васіль Быкаў дае самому чытачу вырашыць, дзе дабро, а дзе зло.

Што з’явілася пра Быкава на Захадзе да Гімпелевіч? Так, Joseph Mozur (University of South Alabama) на старонках «World Literature Today» пісаў пра беларускага пісьменніка ў сувязі з адкрыццём факту расстрэлаў у Курапатах[16]. А затым яшчэ раз заняўся тэмай творчасці Быкава і ў тым самым часопісе надрукаваў пра яго артыкул[17], у якім называе яго сучасным майстрам. У даце яго смерці ён бачыць пэўную сімволіку. Таго ж дня, шэсцьдзесят два гады раней, гітлераўцы напалі на Савецкі Саюз, і праз наступныя чатыры дзесяцігоддзі тэма вайны стала галоўнай тэмай творчасці В. Быкава. На гэтую таямнічую збежнасць дат – пачатку вайны і смерці Быкава – звярнуў увагу раней Уладзімір Каткоўскі, беларус, які пісаў па-англійску[18], ды Sabrina Tavernise ў «The New York Times»[19].

Сама ж Гімпелевіч пісала і выступала з многімі матэрыяламі на тэму Быкава[20]. Між іншага яна пісала, што Быкаў раскрыў новыя магчымасці баталістычнага жанру, ён скіраваў увагу на канфлікт паміж звычайнымі салдатамі і афіцэрамі, на іх паводзіны ў крытычных абставінах. У яго творах прысутны ўтоены заклік адкінуць міфы і спадчыну сталінізму пасляваеннага часу. Быкаў быў чалавекам вялікай грамадзянскай мужнасці – і як малады лейтэнант на вайне, і як бескампрамісны пісьменнік, што не ўступіў у партыю і пісаў пра забароненае цэнзурай, пасляваеннае сталінскае людазабойства.

> «Several writers, including Ales’ Adamovich and world-renowed Vasil Bykau (Bykov), avoided joining the Communist Party at a time when said membership was a virtual prerequisite for Soviet writers. Bykau courageously resisted years of KGB harassment for his moral views, but (…) escaped a worse fate because the consequences of putting him away were greater than the price of keeping him around»[21].

Тлумачыцца тут гэтым феноменем, што партыя паблажліва ставілася да літаратурнай дзейнасці Быкава – бо цана яго выдалення з краіны была б значна большая, чым трымаць яго каля сябе.

Смерць В. Быкава пакінула свой след не толькі ў літаратурных часопісах, але таксама і ў сусветна вядомых газетах.

Першым адгукнуўся брытанскі *«The Independent»*, які надрукаваў некралог з біяграфіяй і кароткім аналізам твораў В. Быкава[22]. Трэба заўважыць, што тут з'яўляецца патраніміка – Uladzimiravich, і гэта версія ніяк не стасуецца з транслітарацыяй ні з рускай, ні з беларускай моў. Такая ж памылка маецца ў Encyclopaedia Britannica, а за ёй, відаць, паўтарае і французская Encyclopedie Universalis. Тут шмат гаворыцца пра сучаснае беларускае грамадства, якое знаходзіцца паміж савецкім аўтарытарным кіраўніцтвам прэзідэнта і малой, але "вострай" апазіцыяй. Журналіст выказвае думку, што ў такіх абставінах Быкаву было цяжка быць незалежным пісьменнікам. Акрамя рашучай крытыкі рэжыму, ён быў сябрам апазіцыі, сігнатарыем *Хартыя 97,* (заінспіраванай Чэхаславацкай *Хартыя 77),* якая заклікала змагацца за свабоду і правы чалавека.

Felix Corley сцвярджаў, што Быкаў – адзін з першых савецкіх пісьменнікаў – прадставіў штодзённыя, змрочныя аспекты вайны. Ён выдзяліў таксама маральныя канфлікты ў тых быкаўскіх творах, якія друкаваліся ў час хрушчоўскай адлігі і калі пачала падымацца зноў мёртвая рука сталінізму – «the dead hand of Stalinism began to be lifted»[23].

У той самы дзень брытанскі «*The Times*» з прычыны смерці Быкава змясціў кароткі тэкст, дзе – прыгадваючы яго найважнейшыя творы і актыўны ўдзел пісьменніка ў палітычным жыцці краіны (Беларускі Народны Фронт, Мартыралог, Бацькаўшчына, ПЭН-Клуб), урэшце апазіцыю да Лукашэнкаўскай улады і эміграцыі – напаміналася пра пераклады беларускага майстра. На жаль, былі яны зроблены з рускай, а не з мовы арыгінала. У многіх выпадках рускамоўныя версіі былі дапушчаны савецкімі літаратурнымі ўстановамі на аснове палітычнай кан'юнктуршчыны. Таму часта, дзякуючы такім перакладам з рускай мовы, імя пісьменніка даецца ў рускай форме – Vasily Bykov[24]. У адрозненне ад большай часткі савецкіх пісьменнікаў, што пісалі пра вайну, Быкаў не баяўся супаставіць стаіцызм і гераізм індывідуальнага жаўнера з жорсткасцю сталінскага рэжыму. Таму – хаця Быкава і ўзнагароджвалі – абвінавачвалі яго ў знеслаўленні савецкай сістэмы, а цэнзура часта патрабавала нават малых паправак, каб тэкст быў «палітычна адпаведным»[25]. Як «*The Times*», так і амерыканскі «*The New York Times*», звярталі ўвагу, што Быкаў ніколі не называў сябе палітычным эмігрантам, хто шукае палітычнага прытулку[26]. У апошнім прадстаўлялі пісьменніка, спасылаючыся на выказванні Алеся Пашкевіча і Рыгора Барадуліна.

У Паўночнай Амерыцы вестку пра смерць Быкава надрукаваў «*The Bos-*

*ton Globe*» (23 ліпеня), «*Los Angeles Times*», які прыгадаў класічную характарыстыку яго ваенных аповесцяў і таксама эміграцыйны час, калі пісьменнік напісаў свае алегарычныя прыпавесці аб будучыні Беларусі[27].

Яшчэ раз пра Быкава з прычыны ягонай смерці у брытанскім «*The Guardian*»[28] пісаў вядомы даследчык беларускай літаратуры Арнольд Макмілін. Падае ён, што першым, выдадзеным на Захадзе, быкаўскім творам у перакладзе на англійскую мову, быў «Сотнікаў»[29]. Трэба тут згадаць, аднак, што ўжо ў 1965 годзе на эміграцыі, у Мюнхене, быў надрукаваны твор «Мёртвым не баліць», хоць сам Быкаў даведаўся пра гэта толькі на пачатку 1990-х гадоў[30].

Вестка пра смерць Быкава абегла ці не ўвесь свет. Італьянская «Corriere della sera» ў кароткім артыкуле, прысвечаным памяці пісьменніка, называе яго Салжэніцыным Беларусі[31]. Гаворыцца, што большая частка ягонай творчасці прысвечана вайне, але адступіў ён ад панарамных апісанняў і засяродзіўся на малых, маральна напружаных унутраных канфліктах, што і прынесла яму вядомасць ды папулярнасць.

З ранніх рускамоўных ацэнзураваных перакладаў заходнія аглядальнікі выдзялялі быкаўскае стаўленне да беларускай нацыянальнай свядомасці. Рускамоўныя пераклады былі для яго дарогай да шматлікіх чытачоў, і таму Быкаў у многіх выпадках сам іх рабіў. Згадваецца, што кнігарні не маглі прадаць нават малой колькасці быкаўскіх твораў на беларускай мове. Але калі паяўляліся рускамоўныя пераклады, яны хутка сыходзілі з полак[32].

Пра н'юансы англамоўных перакладаў быкаўскіх твораў пісала падрабязна Зора Кіпель[33]. На аснове аналізу моўнай фактуры цытатаў і параўнанняў з арыгіналам і рускамоўным перакладам яна даказвала, напрыклад, што пераклад «Знаку бяды», выдадзены ў Мінску як «Portent of Disaster», был зроблены з беларускай мовы, а два англамоўныя пераклады «Sign of Misfortune», мінскі і нью-ёркскі, былі зроблены з рускага перакладу[34].

Трэба згадаць, што ў сувязі з выхадам у свет аповесці «Мёртвым не баліць», імя пісьменніка з'яўляецца ў шырокадаступных англамоўных газетах ужо ў 1966 годзе – як у амерыканскім «*The New York Times*»[35], так і брытанскім «*The Times*»[36]. Аповесць выступае тут пад загалоўкам «The Dead Feel No Pain», але ў літаратуры можна таксама знайсці назвы «The Dead Have No Pain», «The Dead Do Not Feel Pain» («The New York Times» з 13 ліпеня 2003, артыкул, які передрукавалі днём пазней у «*International Herald Tribune*»), «It Doesn't Pain the Dead»[37], а на інтэрнэт- сайце аўстралійскага ABC News можна знайсці назву «The Dead Do Not Hurt»[38].

Калі гаворым пра розныя варыянты назваў быкаўскіх твораў, хацелася б ўспомніць яшчэ раз пра «Знак бяды». Так, ёсць два афіцыяльныя пераклады, аб якіх успаміналася раней, аднак гэты твор можна знайсці ў літаратуры пад назваю «The Mark of Doom»[39] або «The Sign of Disaster»[40], а англамоўная версія інтэрнэт-сайта, прысвечанага Быкаву, падае назву

«Sign of Trouble»[41].

Імя Быкава можна знайсці не толькі ў крытычных працах аб рускай ці савецкай літаратуры. Яго ўспамінуюць таксама і ў кнігах, прысвечаных палітычным ці чыста гістарычным аспектам (дзе гаворыцца пра Савецкі Саюз[42], Сталіна[43], вайну[44] ці гарбачоўскі перыяд[45]) – як пра асобу, якая мела значны ўплыў на сучасны стан Беларусі ці Саюза. У Галандыі было сказана пра Быкава як пісьменніка з Белай Русі: «Vasil Bykov is a White Russian writer»[46]. Яго імя падаецца ў біяграфічным слоўніку дысідэнтаў Савецкага Саюза[47]. А «Воўчую зграю» ставяць у даведніку па дзіцячай літаратуры[48] і таксама залічваюць да найлепшых дзіцячых кніжак[49].

Цікавым падаецца ў працах такога кшалту фрагмент разважанняў аб вясковай прозе (rural prose), дзе ставяць Быкава побач з Васілём Шукшыным, Валянцінам Распуціным – як «галоўнага практыканта» гэтай плыні.

> Shukshin, Valen «Rural or village prose (derevenskaya proza) has received extensive scholarly attention because it lies in the mainstream of Russian and Soviet literature and it thus more highly regarded than historical, detective, or science fiction. Its main practitioners – Vasily tin Rasputin, Vasily Belov, Vasil Bykov, and a dozen others – were well-known in the West even before some of them become political icons.[50]

Шкада, што не даецца тут ніякіх прыкладаў тыповых быкаўскіх «вясковых» твораў. Быкаў жа вядомы свету найперш як пісьменнік ваеннай прозы, а яго «Знак бяды» ці «Аблава» – гэта творы «даспелай творчасці»[51], не асаджаныя цалкам у ваенным часе, лічацца творамі аб сацыяльным жыцці і калектывізацыі, дзе паказана маральнасць «новага савецкага чалавека»[52]. А ў «Сотнікаве» гаворыцца пра двух савецкіх партызанаў, пастаўленых перад выбарам паміж экзекуцыяй і калабарацыяй. Рускі партызан выбірае смерць, а беларускі – за цану жыцця – супрацоўніцтва. Некаторыя даследчыкі робяць высновы, што гэта прадстаўляе беларусаў пад нацысцкімі ўладамі[53].

Першая згадка пра Быкава паявілася ў 1964 годзе, у якой амерыканкія інфармацыйныя службы хвалілі яго за добрае апісанне вайны[54], але яшчэ годам раней імя пісьменніка з'явілася пры абмеркаванні сучаснай літаратуры[55]. Некалькі гадоў пасля пісалі пра яго як пра «underestimated»[56]. Імя Быкава можна знайсці ў наступныя гады ў англамоўных і не толькі апрацаваннях савецкай ці рускай літаратуры[57]. Згадваецца ён таксама, калі гаворка ідзе пра фільм Ларысы Шэпіцька на аснове быкаўскага «Сотнікава»[58]. Таксама цытуюць яго словы з інтэрв'ю для «Літаратурнай газеты» з 14 мая 1986 года аб абавязку пісьменніка казаць праўду: «To my way of thinking a writer has just one obligation, and that is to

tell the truth»[59].

Апошнім часам Паулсен заняўся праблемай месца Быкава ў гісторыі літаратуры, які, на яго думку, знаходзіцца паміж беларускай і савецка-рускай, і спрабуе паказаць, як яго чытаюць і памятаюць у сучаснай Беларусі і Расіі: ці гэта беларускі, ці рускі пісьменнік (а можа абодва) і як адказ на гэтае пытанне ўплывае на разуменне яго твораў[60].

На англійскай мове не толькі выдаюць кнігі В. Быкава ў перакладах[61], але і пішуць артыкулы[62], выступаюць з дакладамі.

У жніўні 2006 года на 27-ай сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі ў Нью-Ёрку быў адкрыты помнік славутаму сыну беларускай зямлі Васілю Быкаву. Помнік выкананы беларускім мастаком Алесем Шатэрнікам і знаходзіцца ён зараз у грамадскай зале сабора св. Кірылы Тураўскага ў Брукліне. Гэта стала магчымым дзякуючы супольным намаганням сяброў Беларускага маладзёжнага руху Амерыкі і беларускай дыяспары Амерыкі.

---

[1] Cook Bernard A., *Europa Since 1945: An Encyclopaedia,* Taylor and Francis 2001, p. 89

[2] Gimpelevich Zina J., *Vasil Bykaй: his life and works*, McGill-Queen's University Press, Montreal 2005

[3] Gimpelevich Zina J., *Vasil Bykaй…*, p. 9

[4] Gimpelevich Zina, *Two Interviews with Vasil Bykau* (1995 and 1998), "Zapisy" 1999, vol. 23, p. 66-93

[5] Gimpelevich Zina J., *Vasil Bykaй…*, p. 9, 87

[6] Joseph P. Mozur, *Hope in Despair: Vasil Bykau's Long Road Home*, "World Literature Today" 2006, vol. 80, no 1, p. 42

[7] "Soviet colonels with a Communist mentality" in: Corley Felix, *Vasil Bykov: nobel-nominated novelist,* "The Independent", 30 June 2003

[8] Bukovskij Vladimir, Bykov Vasil', Suvorov Victor, *La mentalitŕ comunista,* Spirali, Milano 2001; крытычны артыкул да гэтага зборніка: Caprara Massimo, *Tre voci nel deserto*, "Il Giornale", 24 marzo 2001

[9] Gimpelevich Zina J., *Vasil Bykaй* …p. 37

[10] Gimpelevich Zina J., *Vasil Bykaй* ..p. 182-193

[11] Gimpelevich Zina J., *Vasil Bykaй* …p. 161

[12] Rudling Andres, *Zina J. Gimpelevich: Vasil Bykau: His Live and Works,* "International Fictions review", vol. 34, 2007, p. 79

[13] Preshai Alexander, *Zina J. Gimpelevich: Vasil Bykau: His Live and Works,* "Canadian Slavonic Papers", September – December 2006, vol. 48, no 3-4, p. 395

[14] McMillin Arnold, *Belarusian Literature in the 1950s and 1960s: Release and Renewal,* Böhlau 1999, p. 212-218; McMillin Arnold, *Vasil Bykaй: His Live and Work,* "The Slavonic and East European Review", 1 July 2006, vol. 84, no 3, p. 548; Arnold McMillin, *Bykaй and Baradulin: A Creative Literary Friendship,* http://belbritain.blog.tut.by/2008/03/05/mcmillin-bykau_baradulin/#more-6

[15] Smith Henrick, *Publishing, Russian-Style,* "The New York Times, 22 July 1973, p. 240

[16] Joseph P. Mozur, *Vasil' Bykau: Exhuming the Byelorussian Past*, "World Literature Today" 1990, vol. 64, no 2, p. 251

[17] Joseph P. Mozur, *Hope in Despair: Vasil Bykau's Long Road Home*, "World Literature Today" 2006, vol. 80, no 1, p. 39

[18] http://www.pravapis.org/art_vasil_bykau.asp

[19] Tavernise Sabrina, *Vasil V. Bykov: Belorussian Novelist*, "The New York Times", 13 July 2003

[20] Gimpelevich Zina, Vasil Bykau's *Sciuzha* [The Chill]: A Chronicle of Belarusan Peasants' Sufferings, Henn-Memmesheimer Beate, David G. John, eds. *Cultural Link: Kanada-Deutschland. Festschrift zum dreißigjährigen Bestehen eines akademischen Austauschs.* St. Ingbert: Röhrig Universitätsverlag 2003, p. 161-175; Gimpelevich Zina, *Vasil Bykaŭ's Belorusian Pilgrimage*, "Canadian Slavic Papers" 2000, vol. 42, no 3, p. 343-362; Gimpelevich Zina, *Vasil Bykaŭ's The Wolves' Pit: Flora and Fauna are Not What They Used to Be in Belaruś*, "Albanthenica Rossica Polonica", Vicebsk 2006, p. 385-389; Gimpelevich Zina, *The Tradition of "Poor Folk" in Bykaŭ's Recent Short Stories*, „Zapisy" 1996, vol. 22, p. 59-67; удзел у канферэнцыі Брытанскага аб'яднання славістаў BASEES у Кэмбрыдж 28-30 сакавіка з докладам „The Image and Role of the Jew in V. Bykaŭ's Prose"

[21] Mihalisko Kathleen J., *Belarus: retreat to authoritarianism*, in: Dawisha Karen, Parrott Bruce, *Democratic changes and authoritarian reactions in Russia, Ukraine, Belarus and Moldova*, Cambridge University Press 1997, p. 236

[22] Corley Felix, *Vasil Bykov: nobel-nominated novelist*, "The Independent", 30 June 2003

[23] Corley Felix, Vasil...

[24] Трэба заўважыць, што ў англамоўнай літаратуры ў напісанні Васіль Быкаў маецца разнабой: Vasil, Vasil', Vasili, Vasilii, Vasilij, Vasily; Bykau, Bykaŭ, Bykov, Bykaw, Bykow.

[25] *Vasil Bykau*, "The Times", 30 June 2003

[26] Tavernise Sabrina, *Vasil V. Bykov: Belorussian Novelist*, "The New York Times", 13 July 2003

[27] *Vasil Bykov, 79: War Novels Irked Soviet Leaders*, "Los Angeles Times", 15 July 2003, p. B13

[28] McMillin Arnold, *Vasil Bykau*, "The Guardian", 25 July 2003, p. 25

[29] Гл. таксама: McMillin Arnold, *Belarusian Literature in the 1950s and 1960s: Release and Renewal*, Böhlau 1999, p. 215

[30] Навумчык Сяргей, *Быкаў на Свабодзе*, Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, Прага 2004, с. 502

[31] Fertilio Dario, *L'addio a Bykov, il Solenitsim della Bielorussia*, "Corrire della sera, 24 giugno 2003, p. 35

[32] Ioffe Grigory, *Understanding Belorus: Questions of Language*, Europe-Asia Studies 2003, vol. 57, no 7, p. 1029; Ioffe Grigory, *Understanding Belorus and How Western Foreign Policy Misses the Mark*, Rowman and Litlefield 2008, p. 21

[33] Kipel Zora, *Some Observations on English Translations of [Vasil'] Bykaŭ's Work*, "Zapisy", vol. 22, BINIM, New York, 1996, p. 68-72

[34] Гаворка тут пра два пераклады:

- Bykov Vasil, *Portent of Disaster: Byelorussian story*; translated from Byelorussian by Nigel Timothy Coey, Mastatskaya Litaratura Publishers, Minsk 1989

- Bykov Vasil, *Sign of Misfortune*; translated from the Russian by Alan Myers, Allerton Press, New York 1990

[35] Slonim Marc, *European Notebook: The Flood Notebook,* “The New York Times”, 26 June 1966, p. 236

[36] *Stalinists Attacked in Novels,* “The Times”, 18 March 1966

[37] Гл.: Roberts Nigel, *Belarus,* Bradt Travel Guides 2008, p. 28

[38] http://search.abc.net.au/search/click.cgi?url=http://www.abc.net.au/news/stories/2003/06/23/885932.htm&rank=1&collection=abcall

[39] Hosking Geoffrey, *The twentieth century: in search of new ways, 1953-80*; in: Moser Charles A., *The Cambridge History of Russian Literature*, Cambridge University Press, edition 2, 1992, p. 569; Sleeman Elizabeth, *The International Who’s Who,* Routledge 2004, p. 257

[40] Ellis Frank, *Georgii Vladimov’s ‘The General and His Army’: The Ghost of Andrei Vlasov*, “The Modern Language Review”, vol. 96, no 2, April 2001, p. 437; “The Salisbury Review”, vol. 21-22, 2002, p. 31

[41] http://www.bykau.org/menu-eng.html: “in 1986 was awarded Lenin's award for the "Sign of trouble"

[42] Ilukhina Ruzanna, Pavlova Tatiana, *Totalitarism and free thinking,* “Peace Magazine”, November-December 1995, p. 18-20

[43] Broekmeyer Marius, *Stalin, the Russians and Their War 1941-1945*, University of Wisconsin Press 2004, (translated by Rosalind Buck) p. 96, 164-166; арыгінал выдадзенны ў 1999 як «Stalin, de Russen en hun oorlog: 1941-1945» Mets & Schlit uitgevers, Amsterdam; Suny Ronald G., *The Twentieth Century,* Cambridge University Press 2006, p. 627

[44] Holger Klein, Erne John, *The Second World War in Fiction*, Macmillan 1984, p. 167; Merridale Catherine, *Culture, Ideology and Combat in the Red Army 1935-1945,* “Journal of Comptemporary History” 2006, vol. 41, no 2, p. 305-324; Merridale Catherine, *Ivan’s War: Life and Death in the Red Army 1935-1945*, Macmillan 2007, p. 135

[45] Segall Helen, *Russian Literature from the Thaw to Glasnost*, in: Barry Donald D., *Perestroika at the Crossroads*, M. E. Sharpe 1991, p. 52; “Economist”, The Economist Newspaper Ltd 1987, p. 51

[46] Broekmayer Marius, *Stalin, ...*, p. 165

[47] De Boer S., Driessen E., Vavhaar H., *Biographical Dictionary of Dissidents in the Soviet Union*, 1956-1975, Martinus Nijhoff Publishers, Universiteit van Amsterdam, Oost-Europa Instituut 1982, p. 79

[48] Whitehead Robert J., *A Guide to Selecting Books for Children*, Scarecrow Press 1984, p. 206

[49] Sutherland Zena, *The Best in Children’s Books: The University of Chicago Guide to Children’s Literature 1979-1984*, University of Chicago Press 1986, p. 73

[50] Stites Richard, *Russian Popular Culture: entertainment and society since 1900,* Cambridge University Press 1992, p. 150

[51] Shneidman N. N., *Russian Literature 1988-1994: The End of Era*, University of Toronto Press 1995. p. 73

[52] Etkind Efim, *Afterword: Russian literature in the 1*980s, in: Moser Charles A., *The Cambridge History of Russian Literature*, Cambridge University Press, edition 2, 1992, p. 611

[53] Cook Bernard A., *Europa Since 1945: An Encyclopaedia*, Taylor and Francis 2001, p. 89

[54] *Problems of Communism*, Documentary Studies Section, International Information Administration, vol. 13, 1964, p. 59

[55] "Bulletin", Institut zur Erforschung der UdSSR 1963, vol. 10, p. 6

[56] "Mizan", vol. 12-13 (1970-1971), Central Asian Research Centre (London) p.104

[57] *The language and literatures of the non-Russian people of the Soviet Union: papers and proceedings of the Tenth Annual Conference organized by Interdepartment Committee on Comunist and East European Affairs, Mc Master University, held at Hamilton, Ontario, on October 22 an 23, 1976*, published by Committee 1977, p. 198; Slonim Mark, Soviet Russian Literature: Writers and Problems 1917-1977, Oxford University Press 1977, p. 402; Shneidman N. N., S*oviet Literature in the 1970's: Artistic Diversity and Ideological Conformity*, University of Toronto Press 1979; Shneidman N. N., *Soviet Literature in the1980s: Decade of Transition*, University of Toronto Press 1989; Brown Deming, *The Last Years of Soviet Russian Literature: Prose Fiction 1975-1991*, Cambridge University Press, 1992, p. 66-68; Grossman Vasiliy, The Ge*nesis and Evolution of a Russian Heretic* ,trans. Frank Ellis, Berg 1994, p. 33; Shneidman N. N., *Russian Literature 1988-1994: The End of Era*, University of Toronto Press 1995, p.73-74

[58] Dunning Jennifer, *Movies: 2 Soviet Films Offer Treat for the Spirit :Symbolic Struggle*, "The New York Times", 22 December 1978; *The New York Times Films Review 1977-1979*, "The New York Times" 1979, p. 265; Youngblood Denise J., *A War Remembered: Soviet Films of the Great Patriotic War*, The American Historical Review, vol. 106, no 3, June 2001; Gillepispie David C., *Russian Cinema*, Pearson Educations 2003, p. 139

[59] Rywkin Michael, *Soviet Society Today*, M. E. Sharpe 1989, p. 186

[60] Paulsen Martin, *Whose Bykaw? On the Canonization (or lack thereof) of Vasi'l Bykaw in Belarus and Russia* - доклад на канферэнцыі Брытанскага аб'яднання славістаў BASEES (*British Association for Slavonic and East European Studies)* у Кэмбрыдж 28-30 сакавіка 2009

[61] Bykaw Vasil, *Sotnikaw*, Solum forlag, Oslo 2008, пераклад на нарвежскі Martin Paulsen

[62] На шведскай мове: Winiarski Michael, *En övertygande pessimist*, "Dagens Nyheter", 14/09/2000; на гішпанскай: Shablouskaya Iryna, Saukň Maria, *"ESCAPE" De la victoria o parodoja de Vasil Bykov*, "Mundo eslavo: revista de cultura y estudios eslavos" 2003, no 2, p. 159-177

# АНАТАЦЫІ

**Алена А н і ш э ў с к а я, Шчадруха,**
Беларускае літаратурнае аб'яднанне "Белавежа",
Беласток 2009, 160 сс.

Кніга "Шчадруха" А. Анішэўскай, падобна як і ранейшая "Смак жыцця", складаецца з апавяданняў і вершаў. Яны суладна падтрымліваюць адзін аднаго, і можна толькі шкадаваць, што гэты чысты ад прыроды талент прабіўся да чытачоў досыць позна. У новай кнізе апавяданні і вершы А. Анішэўскай хораша дапаўняюцца ўспамінамі, якія сваёй фактурай кладуцца паміж дакументам адлеглага часу і лірычна-рухомымі нататкамі заходнебеларускай, свядомай па нацыянальнасці, маладой дзяўчыны.

**Васіль П е т р у ч у к, Крышынкі,**
Беларускае літаратурнае аб'яднанне "Белавежа",
Беласток 2009, 170 сс.

У "Крышынках" В. Петручук прадаўжае асноўныя сюжэтныя лініі сваёй "Пожні", кнігі, якая ў свой час мела і ў Польшчы, і ў Беларусі значны чытацкі рэзананс. Вяртаючыся ва ўспамінах ў далёкія дзіцячыя гады, пісьменнік яшчэ раз і з мацнейшай сугестыўнай сілай сваёй праўды прадстаўляе ў новым ракурсе эпізоды сваёй сірочай долі.

**Włodzimierz S a w c z u k, Łatwo powiedzieć,**
Białystok 2009, 82 ss.

Гэта другі паэтычны зборнік "белавежца" на польскай мове. І на гэтым прыкладзе таксама выразна відаць, як усё-такі не свая, не родная мова беспардонна "спіхае" ўразлівага і шчырага паэта ў бок газетнай інфармацыі і публіцыстыкі. Вынесенае ў назву кнігі сцверджанне "Лёгка сказаць", успрымаецца як самаіранічная ацэнка, як унутраная палеміка аўтара з самім сабою. І гэта абнадзейвае!

**Ян Ч ы к в і н, Адно жыццё,**
Беларускае літаратурнае аб’яднанне “Белавежа”,
Беласток 2009, 304 сс.

“Адно жыццё” – гэта кніга выбранага Яна Чыквіна, паэта, аб якім апошнім часам з’явіліся цікавыя літаратуразнаўчыя даследаванні (гл.: “Literatury wschodniosłowiańskie. Z najnowszych badań”. Частка I). У кнігу ўвайшла значная частка лепшых твораў паэта. Усё ў іх, належных духоўнай прасторы асобы, жывое, вагомае, значнае. Адным з ключавых слоў гэтага паэтычнага свету з’яўляецца тое, што і стала назвай для выбранага – адно жыццё. Яно факусіруе ў сабе ўвесь тэматычна-праблемны і філасофска-эстэтычны змест лірычных твораў гэтага беларускага паэта.

**Дзмітры Ш а т ы л о в і ч, Подых хвілін,**
Беларускае літаратурнае аб’яднанне “Белавежа”,
Беласток 2009, 102 сс.

**Dymitr S z a t y ł o w i c z, Patos jesienny.**
Z białoruskiego przełożył autor,
Białoruskie Stowarzyszenie Literackie „Białowieża”,
Białystok 2010. 102 ss.

Паэт парадаваў сваіх чытачоў і прыхільнікаў такой – лозунгава-грамадзянскай, прыватна-патрыятычнай і злабадзённа-асабістай – паэзіі чарговымі кнігамі. У іх па-ранейшаму гучаць рэфлексіі над мінулым і задума над падзеямі бягучымі. Паэт, як чулы сейсмограф, улаўлівае ўсе струсы ў радыусе свайго кантролю – і тыя, што разбураюць гарады, і тыя непрыкметныя, пра якія можна было выказацца ў іншых жанрах.

**Białorutenistyka Białostocka. Tom I,**
Wydawnictwo Uniwersytetu w Białymstoku, Białystok 2009, 244 сс.

Выйшаў першы нумар беларусазнаўчага часопіса-гадавіка. Ініцыятарам выдання стала Кафедра беларускай філалогіі Універсітэта ў Беластоку. Грунтоўна прадстаўлена ў ім літаратуразнаўства. Р. Казлоўскі (Гродна), Т. Тарасава (Мінск) разглядаюць розныя аспекты творчасці Максіма Гарэцкага. Я. Чыквін выступае з артыкулам пра Н. Арсенневу. А. Петрушкевіч (Гродна) звярнулася да галоўных матываў аповесці Вінцука Адважнага “Кітай-Сібір-Масква”. Даследаванню сучаснай беларускай літаратуры

прысвечаны артыкулы В. Шынкарэнка (Гомель), Т. Вельга (Аполе), І. Хаванскай (Ольштын), А. Альштынюк (Беласток).

Мовазнаўства прадстаўлена артыкуламі В. Ляшчынскай (Гомель), С. Асобінай (Гродна), Л. Зайцавай (Гомель). У рубрыцы "Навуковыя дэбюты" выступаюць з сваімі матэрыяламі выпускніцы беларускай філалогіі Універсітэта ў Беластоку Д. Нікалаюк і С. Базылюк. Змешчаны рэцэнзіі Л. Зарэмбы, І. Хаванскай, З. Шведавай, В. Шынкарэнкі. Да 70-годдзя а. Рыгора Сасны прымеркавалі свой артыкул Ю. Лабынцаў і Л. Шчавінская (Масква).

**Юстына К а р о л ь к а, Кроплі літар**,
Беларускае літаратурнае аб'яднанне "Белавежа",
Беласток 2010, 42 сс.

"Лёт прагі і надзеі", "радасць, шчасце і боль" складаюць змест першай кнігі наймалодшай "белавяжанкі" Юстыны Каролька (дзявочае – Грыцюк), выпускніцы беларускай філалогіі Універсітэта ў Беластоку. Адкрыццё свету ў яго розных падрабязнасцях, пошук уласных дарогі і слова на раздарожжы яшчэ юнага, маладога свайго мінулага і будучыні, якую хочацца прыспешыць, увасабляецца ў эканомныя, лапідарныя радкі вершаў.

**Жэня М а р т ы н ю к, Ветразь успамінаў,**
Беларускае літаратурнае аб'яднанне "Белавежа",
Беласток 2010, 44 сс.

Лірычная гераіня трэцяй кнігі Ж. Мартынюк і надалей не спаборнічае, не гуляе ў хованкі з наканаваннем, а сумленна кладзе сцежку свайго жаночага лёсу скрозь радасць, боль і горыч. Яна верная роднаму, бацькам, дзецям, каханню. Невыпадкова ў зборніку шмат вершаў-прысвячэнняў. Выразна паглыбляецца матыў духоўных пошукаў асобы, стасункаў яе з часам.

**Галіна Т в а р а н о в і ч, Бурштынавы яблык,**
Беларускае літаратурнае аб'яднанне "Белавежа",
Беласток 2010, 192 сс.

"Бурштынавы яблык" – гэта кніга выбранага Галіны Тварановіч, паэткі , якая мае такія важкія для беларускай паэзіі зборнікі, як "Ускраек

тысячагоддзя”, “Верасы Дараганава”, “Чацвёртая стража”. Усе гэтыя кнігі нараджаліся і выходзілі арганічна, без натугі. Выспявалі з патрэбы душэўнай і духоўнай. Вершы “Бурштынавага яблыка” і формаю вольнага верша, і хрысціянска-жаночай вобразнасцю, і глыбінямі сэнсаў – гарманічна дапаўняюць адзін аднаго і гучаць чыстым голасам верніцы.

**Literatury wschodniosłowiańskie. Z najnowszych badań.**
***Księga dedykowana Profesorowi Janowi Czykwinowi***
***w siedemdziesięciolecie urodzin.***
Pod redakcją Haliny Twaranowicz,
Wydawnictwo Uniwersytetu w Białymstoku,
Białystok 2010, 420 ss.

Кніга складаецца з трох частак, якія ў значнай ступені адлюстроўваюць навуковыя і творчыя прыярытэты юбіляра.У першым раздзеле падаюцца артыкулы, прысвечаныя непасрэдна разгляду зробленага літаратуразнаўцам Я. Чыквіным і паэтам Я. Чыквіным. У другой частцы змешчаны ў асноўным даследаванні рускай літаратуры розных перыядаў. Заключная, найаб’ёмная, трэцяя частка кнігі, складаецца з тэматычна і праблемна разнастайных артыкулаў, звязаных з беларускай літаратурай.

Уражвае аўтарскі калектыў юбілейнай кнігі, прадстаўлены вядомымі, прызнанымі ўжо даследчыкамі, прафесарамі, дактарамі навук, а таксама і маладзейшымі калегамі, вучнямі юбіляра. Звяртае ўвагу так званая “геаграфія” навуковых цэнтраў, прадстаўленых у кнізе: Мінск, Гомель, Люблін, Віцебск, Калінінград, Брэст, Быдгашч, Аполе, Беласток, Ольштын, Кельцэ, Вроцлаў, Гродна, Масква, Лондан. Кніга мае інтэрдысцыплінарны характар і адрасавана філолагам-славістам

**Беларуская літаратура XVI—XX стст.**
**Працы кафедры беларускай філалогіі.**
Пад рэдакцыяй Галіны Тварановіч,
Wydawnictwo Uniwersytetu w Białymstoku,
Беласток 2010, 250 сс.

Кніга прадстаўляе важныя мастацка-эстэтычныя з’явы беларускай літаратуры розных перыядаў развіцця. У першай частцы разглядаецца своеасаблівасць беларускага Адраджэння (XVI ст.) і беларуская рэцэпцыя “Запісак янычара” Канстанціна Міхайловіча (Г. Тварановіч). Перыяд фарміравання новай мастацкай традыцыі (XIX ст.) прадстаўлены артыкуламі І. Васілюк аб творчасці Яна  Баршчэўскага, Уладзіслава

Сыракомлі, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча і Францішка Багушэвіча. Трэці раздзел прысвечаны беларускай літаратуры XX стагоддзя. Я. Чыквін асэнсоўвае вытокі ідэйна-эстэтычнага супрацьстаяння ў беларускай паэзіі 20—30-х гадоў. Асаблівую цікавасць уяўляе яго ж артыкул “Канцэпцыя беларускага нацыянальнага лёсу: аповесць “Яно” Янкі Юхнаўца”. Варта нагадаць, што гэты твор упершыню быў надрукаваны ў “Тэрмапілах” (№ 6, 2002; № 8, 2004). А. Альштынюк разважае аб своеасаблівасці аўтабіяграфізму ў лірычнай прозе Янкі Брыля. Творчасць “белавежцаў” разглядаецца ў артыкулах А. Саковіч.

# AD MEMORIAM

## Памяти Базылия Бялокозовича
## (1932 – 2010)

21 февраля 2010 г. ушел из жизни Базылий Бялокозович, один из виднейших современных польских исследователей русской и белорусской литератур, их связей с польской культурой. Доктор honoris causa университетов в Санкт-Петербурге (1981) и Нижнем Новгороде (1995), награжденный советским орденом «Знак Почета» (1984), золотой медалью А.С. Пушкина.

Базылий Бялокозович родился 2 января 1932 г. в деревне Видово Бялостокского воеводства. В 1956 г. окончил филологический и исторический факультеты Ленинградского университета (специальность: русская филология и история). Б. Бялокозович работал в Варшавском университете, в Институте славяноведения Польской Академии Наук (1973–1991), в Варминско-Мазурском университете (Ольштын). В 1978 г. получил звание профессора, в 1976-1986 гг. был вице-президентом Международной ассоциации преподавателей русского языка и литературы. В 80-е годы был заместителем академика-секретаря Отделения общественных наук Польской академии наук.

Б. Бялокозович дебютировал в науке статьей «Лев Толстой в Польше», опубликованной в 1956 г. в «Ученых записках» Горьковского университета. С той поры он опубликовал более шестисот исследований – книг, брошюр, статей, очерков, рецензий, обзоров, посвященных вопросам развития русской, белорусской, украинской и литовской литератур, их связям с польской культурой, а также проблемам теории сравнительного изучения литератур и методологии литературных исследований. Упомянем лишь некоторые из его научных трудов, которые вошли в золотой фонд польской славистики и получили международное признание: монографии «Связи Льва Толстого с Польшей» (1966), «Из истории взаимных польско-русских литературных связей в XIX веке» (1971), «Мариан Здзеховский и Лев Толстой» (1995), «Николай Янчук (1859–1921). Подлясский перекресток славянских традиций» (1996), «Между Востоком и Западом. Из истории формирования белорусского национального сознания» (1998), «Из польской страницы Льва Толстого. Новое и забытое о Толстом и его восприятии в Польше» (2003), такие проблемные исследования, как «Славянские литературы глазами И.

Бодуэна де Куртене» (1985), «Современное сравнительное литературоведение и изучение польско-русских и польско-советских литературных связей» (1986), «Польско-восточнославянское культурное пограничье как исследовательская проблема» (1994), «Юзеф Чапский и литературный триумвират: Д. Мережковский, З. Гиппиус, Д. Философов» (1995). Б. Бялокозович является также автором антологий «Звук разбиваемых оков. Польша в русской поэзии 1795–1917 гг.» (1977), «Как мне рассказать о тебе. Польша в советской поэзии» (1977), «Советская полонистика. Литературоведение» (1985).

На русском языке Б. Бялокозовичем издана книга «Родственность, преемственность, современность. О польско-русских и польско-советских литературных связях» (М., 1988) и опубликовано множество статей в научных изданиях Института славяноведения РАН, Института мировой литературы РАН, университетов в Москве и Нижнем Новгороде, в «Литературном наследстве», журналах «Вопросы литературы», «Славяноведение» и других. Труды Бялокозовича публиковались и в Чехии, Словакии, Болгарии, Венгрии, Югославии, Румынии, а также в Австрии, ФРГ, США и Финляндии.

Исследования Б. Бялокозовича отличают масштабность, прочная теоретико-методологическая база, стремление не ограничиваться регистрацией выявленных фактов культурного взаимодействия, а показать их генезис в широком историческом и социально-политическом контексте. Особенно много сделал Б. Бялокозович для изучения творчества Л. Толстого и его связей со славянскими культурами. Одна из его последних работ по этой проблеме – коллективный труд под редакцией Бялокозовича «Лев Толстой и славянские культуры» (2005).

Б. Бялокозович – основатель и главный редактор серии «Studia polono-slavica-orientalia. Acta litteraria" (в 1974–1992 гг. вышло 13 томов серии), в 1975–1991 гг. – главный редактор журнала «Slavia orientalis", основатель серийного издания «Acta polono-ruthenica" (выходит с 1996 г. в Ольштыне), член редсоветов и редколлегий многих других польских научных изданий.

Значительна роль ученого в подготовке польских русистов: под его руководством было защищено более тридцати кандидатских диссертаций.

На протяжении нескольких десятков лет Б. Бялокозович был в Польше послом русской литературы и культуры, неутомимым их исследователем и пропагандистом. Русские слависты скорбят о смерти умного, эрудированного, обаятельного человека, который сделал неоценимо много для воспитания польских русистов, для изучения и популяризации в Польше русской культуры. Созданные им труды будут востребованы еще не одним поколением славистов в Польше и за ее рубежами.

**Заслуженный деятель науки РФ, профессор В. А. Хорев**

# Памяці Базыля Белаказовіча

Здаецца, няма ўсходнеславянскага славістычнага асяродка, як у Польшчы, так і за яе межамі, дзе б вестка пра смерць прафесара Базыля Белаказовіча не была б ўспрынята як вялікая страта. Незагойнаю ранаю яго адыход у вечнасць стаўся для ўсёй беларускай грамады Беласточыны, дзе ў ваколіцах старадаўняга Бельска прыйшоў Базылі Белаказовіч на свет. Дзе распачаўся яго шлях у жыццё – з усёй ягонай шматстайнасцю, складанасцю, шчодрай асабліва для асоб неардынарных з іх нізкім балявым парогам. І, відаць, якраз нараджэнне ў своеасаблівай сэрцавіне надзвычай адметнага па сваіх геапалітычна-культурных параметрах рэгіёна абумовіла ў значнай ступені абсяг навуковых інтарэсаў Базыля Белаказовіча. Сярод іх значнае месца займалі руская і беларуская літаратуры, літаратурная кампаратывістыка, пагранічча культур, культурны цэнтр і яго перыферыя, рэгіяналізм і малыя айчыны, краіна нараджэння як культурны чыннік творчасці, праблема асіміляцыі і захавання ўласнай тоеснасці ў літаратурах пагранічча, ідэалы этнічнай ментальнасці. З поўным правам можна сказаць, што Базылі Белаказовіч, даследуючы культурна-гістарычныя варункі Падляшша XIX стагоддзя, сам з'яўляецца прадаўжальнікам справы, распачатай яго папярэднікамі-землякамі: М. Янчуком, І. Даніловічам, Я. Ярашэвічам, М. Баброўскім, А. і П. Сасноўскімі. І ўжо далучаны да іх шэрагаў у вечнасці.

Свайго зацікаўленага, добразычлівага даследчыка, гісторыка страціла і беларуская літаратура Польшчы. Базылі Белаказовіч не аднойчы праводзіў сустрэчы з "белавежцамі" ў Славянскай кнігарні Я. Заброцкага ў Варшаве, выступаў з дакладамі аб творчасці "белавежцаў" на навуковых канферэнцыях, пісаў прадмовы да кніг, рэцэнзіі. У 1998 годзе ў бібліятэцы БЛА "Белавежа" пабачыла свет яго кніга "Między Wschodem a Zachodem. Z dziejów formowania się białoruskiej świadomości narodowej". Сербская рэцэнзентка кнігі М.М. Косанавіч напрыканцы свайго разгляду ў бялградскай "Славістыцы" настойліва раіла калегам пазнаёміцца з гэтым выданнем, *бо яно ўтрымлівае цікавыя факты з беларускай гісторыі, дадзеныя аб выбітных асобах беларускай літаратуры, аб беларускіх патрыётах, людзях, чыёй жыццёваю задачаю было абуджэнне беларускай нацыянальнай свядомасці ў сваіх земляках, што жылі ў шматэтнічным і шматканфесійным асяроддзі.* Асабліва займальным і нават сенсацыйным для сербскага чытача, на думку М.М. Косанавіч, бачыцца раздзел пра Адама Міцкеевіча, у якім Базылі Белаказовіч пераканаўча даводзіць, што геній Адама Міцкевіча належыць не толькі польскай, але і беларускай культуры, чым даследчык актыўна садзейнічае ўсталяванню навуковай справядлівасці. Увогуле Адам Міцкевіч з'яўляецца адной з тых слынных

асоб, жыццёвы і творчы шлях якіх здаўна быў для Базыля Белаказовіча гуманістычным крытэрыем пры асэнсаванні найскладаных перыядаў у развіцці славянства.

Напрыканцы мінулага стагоддзя французскія вучоныя П. Брунэль, К. Пішуа, А.-М. Русо прыйшлі да  высновы, што канкрэтныя ўвасабленні параўнальнага літаратуразнаўства вызначаюцца традыцыямі, патрэбамі кожнай нацыі. Досыць рэдка, аднак, сустракаецца тып універсальнага кампаратывіста, якому дадзена вычуваць праблемы сукупнасці народаў, некалькіх рэгіёнаў. Базылі Белаказовіч усёй сваёй навуковай спадчынай належыў і будзе належыць да іх ліку.

***Белавежцы***

# ТЭРМАПІЛЫ

выдае

*Беларускае літаратурнае аб'яднанне „БЕЛАВЕЖА”*

**Zrealizowano dzięki dotacji Ministra
Spraw Wewnętrznych i Administracji**

Да ведама аўтараў

Рэдакцыя прымае да разгляду празаічныя творы аб'ёмам не болей 5 друкаваных аркушаў (прыблізна 120 стр. машынапісу), паэтычныя да 200 радкоў, артыкулы да 2 друкаваных аркушаў.
Рукапісы не вяртаюцца.

Аўтары нясуць адказнасць за свае матэрыялы ў адпаведнасці з законам аб друку Польшчы.

Апублікаваныя матэрыялы неабавязкова адлюстроўваюць пункт погляду рэдакцыі часопіса.

Адрас: 15-420 Białystok, Pl. Uniwersytecki 1

Skład: „Prymat” Mariusz Śliwowski, Białystok, ul. Zwycięstwa 26C lok. 7
Druk: Offset-Print, Białystok, ul. Broniewskiego 14




Ян Чыквін з кнігай „Literatury wschodniosłowiańskie. Z najnowszych badań”, выдадзенай да ягонага сямідзесяцігоддзя. Беласток, 20. 05. 2010 г.




“Белавежцы” віншуюць юбіляра. Актавая зала Філалагічнага факультэта, Беласток, 20. 05. 2010 г.